# ЗМЕСТ Крыніца

# ТЫ | Уладзімір ДАМАШЭВІЧ



*Калі пісаць крывёю сэрца,*
*калі пісаць пра самыя*
*балючыя і надзённыя*
*праблемы нашага жыцця,*
*калі пісаць пра гэта*
*таленавіта і цікава,*
*дык ёсць надзея,*
*што напісанае застанецца –*
*на вякі, на стагоддзі.*
*Яшчэ, не менш важна:*
*любіць сваю Бацькаўшчыну*
*і быць гатовымі аддаць за*
*яе нават жыццё*
*Каб яна жыла вечна,*
*наша Маці Беларусь!*

**З Уладзімірам ДАМАШЭВІЧАМ**
**гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**ГУТАРКА З БЛУДНЫМ СЫНАМ**







*З Табой:*

# З Уладзімірам ДАМАШЭВІЧАМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Л. Галубовіч.** Уладзімір Максімавіч, неяк у прыватнай гутарцы вы сказалі, што з'ехалі са сталіцы ў правінцыйны Клецк як бы не па сваёй волі... а па волі жыццёвых абставін... без жадання ўвогуле. . А мне здавалася, пісьменніку на пенсіі, даў Бог, са здароўем яшчэ, дзе, як не ў ціхай правінцыі, на прыродзе знайсці лепшае месца для творчай працы.. *Выгнаў гусей на сажалку* – дый пішы сабе пра вечнае, маракуй пра людскі свет, пра які ўжо так многа ведаеш, дзякуючы свайму жыццёваму і чалавечаму вопыту ..

Ці ўсё не зусім так?

**У. Дамашэвіч.** У кожнага жыццё ідзе па-свойму, нават можа і не ў той бок, куды хацеў бы. Я апынуўся ў Клецку выпадкова. Мая жонка Галіна атрымала ў спадчыну ад маткі старую хату, соткі, сад і агарод. гатовае лецішча. Тут мы і аселі, не ведаю, як надоўга.

Тут, у Клецку, лепш, чым у вялікім Мінску, лягчэй жыць і дыхаць, ёсць умовы для фізічнай працы, якую я любіў і люблю. Аднак у мяне застаўся сум па маім мінскім кабінеце, дзе мне працавалася лепш, чым тут. Проста я да яго прывык. А раней мог пісаць у бібліятэцы, потым пісаў дома – на швейнай машыне, стала яшчэ не меў Пазней ужо быў пісьмовы стол, кабінет, можна сказаць – ідэальныя ўмовы Але не заўсёды душа была на месцы, не заўсёды можна было сказаць: мне добра, я спакойны, я магу сесці за стол і пісаць тое, што я задумаў .

Калі душа не на месцы – не пішацца.

Хоць матэрыялу ў Клецку шмат – сюжэтаў, чалавечых лёсаў, усякіх гісторыяў. Калі пашэнціць, яшчэ буду пісаць...

**Л. Г.** Наколькі змянілася беларуская правінцыя ў параўнанні з бальшавіцкім часам? Пamаладзела, пастарэла, памудрэла?.. Сам правінцыйны чалавек стаў адносна незалежным, больш нацыянальным ці так і застаўся "панам сахі і касы"?

**У. Д.** Як я пераканаўся, правінцыя не вельмі хутка мяняецца. Яна кансерватыўная, да новых пераменаў адносіцца насцярожана, з недаверам. Хай лепш будзе так, як ёсць, каб толькі не горш. Зрушыць яе з месца вельмі цяжка.

Успомніш толькі, як цяжка наша вёска, наша правінцыя ў Заходняй Беларусі ішла ў калгасы. З вялікім рыпам, з аглядкаю і недаверам. Заставалася, хоць і няшмат,

# БЕЛАРУС

**Пра тое, што мы з Дамашэвічам землякі, я даведаўся ўжо тады, як стаў сябрам СП БССР. Ён не быў маім "апекуном" ні да прыёму ў Саюз, ні на прыёме, ні пасля...**

**А зямляцкія сувязі ў гэтай арганізацыі напрацаваныя – о-го-го...**

**Так сталася, можа, таму, што ён нарадзіўся побач з чыгункай Баранавічы – Слуцк, а я – з "варшаўскім шляхам", шашой Брэст – Масква. Вось чаму мы размінуліся напачатку – каб сустрэцца пасля...**

**Шляхі зносін для беларусаў немалаважныя.**

**Гадоў шэсць таму адна з дарог прывяла мяне і ў яго сённяшнюю клецкую хату... Я еў там мочаныя яблыкі, *выцягнутыя "нагара" з падполля...* Кіслыя, але смагу наталяючыя...**

**Каб зразумець, *чаму Беларусь яшчэ жывая,* трэба ведаць Дамашэвіча ці хоць бы герояў і прататыпаў яго літаратурных твораў... Сам жа Дамашэвіч абсалютна нічым не вылучаецца сярод люду беларускага, апроч некалькіх прыкмет, па якіх на мінскім вакзале яго можна палічыць за вяскоўца, а ў**

аднаасобнікаў, якія цярпелі невераемныя пакуты, а ў калгас такі не хацелі. Ды і тыя, што пайшлі – хутчэй пад прымусам, чым па добрай волі, – доўга яшчэ ў душы не прымалі новы лад, не ладзілі з ім, бо ён быў для іх чужы, нязвыклы, невядомы. Ніхто не быў упэўнены ў заўтрашнім дні, усе нечага чакалі. Чакалі, што калгасы недаўгавечныя, што іх распусцяць – калі не свае начальнікі, савецкія, дык нейкія іншыя, мо тыя амерыканцы, пра якіх гаварылі адразу пасля вайны, – і чакалі перамены.

Ды і калгасы пасля вайны былі бедныя, ледзь маглі пракарміць калгасніка, даводзілася хітраваць, нават красці, рызыкаваць галавою. Але паступова людзі прывыклі да новых парадкаў, прыстасаваліся. Калгас патроху багацеў, ужо можна было нешта зарабіць, нешта купіць, паставіць новую хату, пасляць на вучобу дзяцей, каб яны ішлі ў свет, у людзі, каб не вярталіся ў гэты калгас, дзе гразь, гной, ватоўка і гумовыя боты ў святы і ў будзень. Лепей, дзеткі, прыязджайце ў госці да бацькоў, мы тут пакуль што без вас абыдземся...

Вось так ці прыблізна так разважала тады вёска, разважала правінцыя.

Калі параўнаць тое з сённяшнім днём, дык зрух не надта вялікі. І зрух той мо не ў лепшы бок. Вёска катастрафічна старэе, моладзі мала, дзяцей яшчэ менш. Як цяпер кажуць, вёска паціху вымірае.

А што ці хто выратуе вёску? Чым і як прывязаць чалавека да зямлі, каб ён не ўцякаў ад яе ў горад? Відаць, толькі смелыя людзі – фермеры – могуць паправіць сітуацыю, але іх надта мала, ім усё яшчэ не даюць разгарнуцца, дзяржава ўсё яшчэ не лічыць іх сваімі збаўцамі, не верыць, што яны змогуць замяніць калгасы і даць гораду хлеб і да хлеба. Дзяржава яшчэ верыць у калгасы.

Безумоўна, каб фермеры ўзялі зямлю, патрэбен час. Але ўсё ідзе да таго, што селянін зноў стане гаспадаром свае зямлі, інакш хлебная праблема ў нас ніколі не знікне. Аднак жа тыя калгаснікі, у бо́льшасці сваёй ужо старыя людзі, баяцца страціць тое, што было, што яшчэ ёсць, – баяцца страціць калгас. Яны ўжо да яго прырасл, прывыклі, яны ўжо не ўяўляюць іншага жыцця. Урэшце, яны баяцца не за калгас – яны баяцца за сябе. Каб яны былі ўпэўнены, што з развалам калгасаў будзе не горш, чым было, яны галасавалі б за развал абедзвюма рукамі. Такі вось наш практыцызм...

Наконт абуджэння нацыянальнай свядомасці цяжка гаварыць. Вярхі на чале з "бацькам" гавораць па-расейску, дык чаму і ўсім астатнім не рабіць тое самае? Хоць, каб прыклад быў іншы, дык і ўхіл быў бы іншы, і людзі смела гаварылі б, што калі ты беларус, дык і будзь ім, не саромейся гаварыць на роднай мове, не пазычай у суседа, бо свая ёсць. Дарэчы, шмат хто гэта разумее не горш за інтэлектуалаў і ў душы, ды і на словах, абураецца: што гэта за беларускі ўрад, што гэта за беларускі прэзідэнт, які не ведае матчынай мовы? Ды за тры з гакам гады можна ўжо было кітайскую вывучыць, а не тое што родную. Але што ім мовы? Ім і адной на іх век хопіць.

**Л. Г.** Што вы хацелі сказаць у літаратуры і што, у рэшце рэшт, сказалі?

Ці вартая, на ваш погляд, аўчынка вырабу?

**У. Д.** Сказаць хацелася шмат, а вось што атрымалася, дык гэта яшчэ пытанне.

Калі коратка, дык так: будзь смелы, нікога не бойся, абараняй праўду і справядлівасць, абараняй слабага ад нападу ўсякіх нахабнікаў і прайдзісветаў. Май чалавечы гонар і годнасць – і абараняй іх, як бы табе цяжка не было. Мне вельмі да душы крэда каўказцаў: чалавечая годнасць вышэй за жыццё! Нам да гэтага разумення яшчэ трэба расці. Мы, каб выжыць, гатовы прадаць усіх і ўсё. Што нам нейкая там годнасць, гордасць – чалавечая ці нацыянальная? Галоўнае – абы жыць.

Я ўсё жыццё пратэставаў супраць няпраўды і несправядлівасці, гэтую рысу я перадаваў і героям сваіх апавяданняў і аповесцяў. Мо гэта часам патанала ў нагрувашчванні бытавых рэаліяў, дэталяў другога плана, але ў аснове ў мяне – пошукі дарогі да праўды, асуджэнне гвалту над чалавекам, супраціўленне гэтаму гвалту, асуджэнне яго як ганебнае з'явы чалавечага жыцця. А калі браць шырэй, то задача літаратуры – абуджаць у чалавеку ўсе лепшыя пачуцці, ачышчаць яго душу ад бруду, ад усіх цяжкіх грахоў і хваробаў, якімі хварэе і доўга будзе хварэць чалавек.

Некаторыя кажуць, што літаратура нічога не павінна, але я з гэтым не згодзен. Раз ты стаў пісьменнікам, дык не патраць свой дар на глупства, на дрындушкі, на падманкі, а рабі тое, што сёння патрэбна людзям. А ім патрэбна разумнае, мудрае слова, якое памагала б ім жыць, працаваць, бачыць далей і глыбей.

Перш за ўсё літаратура павінна абуджаць патрыятызм, любоў да свайго краю і народа. Пэўна ж, не будзем ставіць знак роўнасці паміж літаратурай і школай, але і тая і другая разам уваходзяць у шырокае паняцце "культура".

**Л. Г.** Ці апраўдвала і апраўдвае беларуская літаратура сваю духоўную місію? Ці народ – сам па сабе, а пісьменства толькі збоку прыпёку – для вузкага кола нацыянал-прыхільнікаў? Як паказвае практыка – прарокі ў нашу Айчыну прыходзяць з іншага боку ..

**У. Д.** Духоўная місія беларускае літаратуры цяпер, я лічу, вельмі вялікая і важная, але гэта не таму, што мы, пісьменнікі, гэтага дамагліся сваімі мастацкімі творамі. Наша місія ўзрасла таму, што мову нашу зацiраюць, топчуць, не прызнаюць, а мы, пісьменнікі, як ні дзіўна, ад яе ўсё роўна не адракаемся, не кідаем яе, не адхрышчваемся, а паранейшаму пішам на роднай мове. Хоць выдаваць напісанае цяпер цяжка, нас проста не хочуць выдаваць. І не таму, што мы не прыносім прыбытку, а таму, што пішам пабеларуску, і гэта не падабаецца тым, хто наверсе. Яны хацелі б, каб і беларускія пісьменнікі перайшлі на "великий и могучий".

А калі падумаць, дык так было на працягу апошняга ледзь не стагоддзя: таптал мову, тапталі літаратуру, тапталі яе носьбітаў і творцаў.

Ну, а народ наш ад нас заўсёды аддзялялі, дапускалі да народа толькі некалькі "народных", а хто не ішоў у нагу з партыяй, таго менш выдавалі, таго крытыкавалі і "кляймілі ганьбай". Успомнім Аляксея Кулакоўскага, якога за аповесць "Дабрасельцы" звольнілі з пасады галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць", успомнім Уладзіміра Караткевіча, амаль кожны твор якога выклікаў рэзкую рэакцыю вярхоў, а некалькі вялікіх рэчаў не маглі выйсці да чытача гадамі. Успомнім Васіля Быкава, якому давялося нямала выцерпець ад нападак афіцыйнай крытыкі, ад пэўных колаў нашага грамадства, якому не падабалася голая праўда вайны.

Тым жа самым колам сёння не падабаецца кожная новая аповесць Святланы Алексіевіч, якая развейвае старыя савецкія міфы пра "савецкі патрыятызм", пра "інтэрнацыянальны абавязак" і "новую советскую общность"

---

**вясковым двары – за гараджаніна.**

**Ён – не барацьбіт, не змагар. Ён – я не ведаю, як тое пэўна вызначыць, – *абаронца,* бо заўжды адстойвае сваё – не ўласнае, а – *наша...***

**Яшчэ з паловы шасцідзесятых ён палымяна – з усіх даступных яму трыбунаў – гаварыў пра *захаванне* – во, во, тое слова і азначэнне – *захавальнік* нашай нацыянальнай мовы і культуры. Было тое задоўга да перабудовы, калі яго голас яшчэ не заглушаўся тымі, хто *адмоўчваўся* тады, як *гаварыў* ён...**

**Я чытаю тыя яго, даўнія ўжо, выступленні *(прамовы пра мову!)* і зайздросна дзіўлюся яго мужнасці, адвазе і вытрымцы... Ці дастаткова гэтага для літаратуры – іншая рэч...**

**Ведаю адно: каб нам на той час столькі *дамашэвічаў,* колькі цяпер самаабвешчаных незалежнікаў, то перабудова і дэмакратыя ўжо спраўлялі б свае непахісныя 30-я ўгодкі...**

**Але, дзякуючы яму і падобным да яго, гэта ўсё адно павінна было адбыцца...**

**Дбаць пра Беларусь – азначае быць беларусам. І гэта так проста – як *жыць чалавекам...***

**Жыць так, як Дамашэвіч, каб хоць спадзеў мець памерці *вольным у вольнай Айчыне...* Хіба за гэта трэба казаць "дзякуй"? За гэта трэба *жыць...***

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**





# РЭДАКТАР

**"А ты хочаш, каб ён (аўтар. – А.Ф.) з табою сварыўся за кожнае слова? Гэта ідэальны аўтар. Ён дае канву, касцяк, рэдактар даводзіць да кандыцыі – і ўсё. *Чао!* Аўтар атрымае грошы, падзякуе рэдактару, можа нават паставіць паўкварты – і возьмецца за новую кнігу. А што ты фактычна сааўтар, а не рэдактар, дык пра гэта ніхто не ведае, апроч вас дваіх. Але ты будзеш маўчаць, ды і яму таксама не вельмі захочацца пра гэта ўспамінаць". (У.Дамашэвіч, "Камень з гары", с.28.)**

**"Прысуду гэтага чалавека, вядомага празаіка, Мікола Пятровіч чакаў з асаблівым хваляваннем. Ён лічыў яго жывым класікам, не проста зайздросціў, а захапляўся яго творамі, верыў кожнаму яго слову..." (А. Федарэнка, "Такое кароткае лета", ч-с "Крыніца", № 14, с. 62.)**

*

**Калі пішу гэтую нататку, у "ЛіМе" ў поўным разгары "дыскусія", распачатая С. Дубаўцом, падхопленая В. Акудовічам і іншымі (ніжэй будзе зразумела, чаму пачынаю з гэтага і якая сувязь тут з У. Дамашэвічам). Скланяецца і маё імя, згадваецца мой даўні артыкул "Новыя" і "старыя" – згадваецца, само сабою, у перакручаным выглядзе. Мне прыпісваюцца страшныя грахі і розная лухта, якая вышукваецца між радкоў. На самай справе той артыкул бяскрыўдны. Калі хто не чытаў ці не помніць,**

У лік ненадзейных сёння можа трапіць кожны, хто не згодзен на ўсе сто працэнтаў з палітыкай прэзідэнта і мае сваю думку на тую ці іншую праблему.

З жалем і болем трэба прызнаць, што сваіх пракокаў у нас не любяць, а вось усякім прызваным, *засланцам* (ад слова "засланць") – тут у нас прастора для дзеяння, тут іх любяць і паважаюць, з імі раяцца, з імі на іх мове гавораць. А ўжо такой знявагі, якую нам сёння нанеслі нашы родныя ўлады, мы яшчэ не ведалі і не чулі. Дом літаратара, штаб нашай беларускай літаратуры, адабралі ў нас як у якіх чужакоў, якія тут атабарыліся і робяць невядома што, мо рыхтуюць якую правакацыю ці змову супраць рэжыму. Дык трэба іх выгнаць на вуліцу, бліжэй да народа, ад імя якога яны любяць пісаць!

Не, такога "прызнання ў любові", як гэтае, беларускія літаратары даўно не ведалі, мо недзе з 37-га года, калі пісьменнікаў дзесяткамі залічвалі ў "ворагі народа". Сёння да гэтага яшчэ не дайшло, мо Бог дасць – і не дойдзе. Але выстаўляць пісьменнікаў з іх уласнага дому, які ім пабудавала ўлада на чале з Пятром Машэравым, на якога цяперашняе кіраўніцтва хоча раўняцца, робіць гэты ўчынак не тое што нялюдскім, але і антыграмадскім, абскуранцкім.

Няўжо гэтага не разумеў той, хто забіраў у пісьменнікаў Дом літаратара? А суд, наш самы гуманны суд у свеце, як сказаў адзін герой фільма, садраў, прабачце за слова, яшчэ восемдзесят мільёнаў рублёў судовых выдаткаў з бедных літаратараў, а дома не вярнуў – не асмеліўся стаць на бок праўды і справядлівасці.

Дык ці можна назваць такую палітыку нашай улады нацыянальнай? Не, гэта антынацыянальная, антыбеларуская палітыка, якая можа прывесці да вельмі кепскага канца – як для ўлады, так і для нас, пісьменнікаў, так і для ўсіх беларусаў, якія хочуць застацца беларусамі, захаваць сваю мову, культуру, гісторыю – не перарobленымі на чужы капыл, а сваімі ўласнымі, як гэта і належыць быць у кожнай суверэннай дзяржаве, што жыве па сваіх законах.

**Л. Г.** Вы доўгі час загадвалі ў часопісе "Маладосць" аддзелам прозы. Праз вашы рукі і душу прайшло цэлае пакаленне сучасных маладых пісьменнікаў...

Што ўразіла і хто ўражвае? Ці поўнымі і саспелымі паўстануць новыя *каласы пад сярпом* адвечнага часу?

**У. Д.** За пятнаццаць гадоў працы ў "Маладосці" ў аддзеле прозы я сустрэў шмат таленавітай моладзі, якая цяпер ужо заняла трывалае месца на старонках прэсы, перыёдыкі, у выдавецкіх планах, на кніжных паліцах. Шкада толькі, што ўмовы сённяшняга часу не спрыяюць выхаду да чытача, а пісьменнік, які рэдка друкуецца, слаба расце, талент яго можа ўвогуле заглухнуць.

На наша шчасце, таленты ў нас не пераводзяцца, іх нават усё большае – колькасна і якасна. На маіх вачах друкавалі свае першыя творы такія ўжо сёння вядомыя пісьменнікі, як Генрых Далідовіч, Васіль Гігевіч, Яўген Лецка, Уладзімір Арлоў, Аляксей Дудараў (ён пачынаў з апавядання), Уладзімір Ягоўдзік, Ірына Жарнасек, Хрысціна Лялько, Уладзімір Саламаха, Юрка Станкевіч, Віктар Супрунчук, Анатоль Жалязоўскі, Алесь Кажадуб, Алесь Наварыч, Андрэй Федарэнка, Вітаўт Чаропка, Ігар Валасевіч, Віктар Праўдзін... І няхай мне даруюць тыя, каго я не назваў. Спіс быў бы ў два разы даўжэйшы.

---

**дазволю сабе кораценька нагадаць яго сэнс. Аўтар прыносіць у рэдакцыю твор. Твор слабенькі і непісьменны, а аўтар – нахабны і, выбачайце, недалёкі. – "Ваш твор слабы, – так і кажа рэдактар, – ён не можа з'яўляцца здабыткам літаратуры". – "Не, мой твор геніяльны, – адказвае аўтар, – таму, што ён новы, нетрадыцыйны!" Тады рэдактар зачытвае першы сказ: "Учора я здавал іспыту па фізікі" і пытае: "У чым навізна? У гэтых убогіх непісьменных словах?" – "Так, – адказвае аўтар, – акурат у гэтых самых словах. Я пішу так, як лічу патрэбным, мне пляваць на вашыя правілы – у гэтым мая навізна, і калі ты, рэдактар, гэтага не разумееш, тым горш для цябе!"**

**Якія крытэрыі існуюць для вызначэння мастацкасці? – вось асноўны сэнс артыкула (а зусім не тая лухта, што на мяне навешваецца. Дарэчы, "вайна", ці "змаганне", ці "спаборніцтва" ў літаратуры вяліся да майго артыкула і будуць весціся пасля – мімаходзь я гэта** канстатаваў, **не больш).**

**Нельга гуляць, напрыклад, у футбол ці ў шахматы, не абумовіўшы папярэдне правілаў (у літаратуры – крытэрыяў мастацкасці). Гэтыя правілы можна змяняць у дэталях і пільнавацца іх ужо змененых, – але ў любым выпадку пільнавацца іх трэба** абавязкова, **інакш гульня проста страчвае сэнс. Інакш на справядлівую заўвагу "конь так не ходзіць" заўсёды будзе адказ: "У мяне свае правілы, таму мой конь ходзіць, як хоча!"**

**Тое ж у літаратуры. Рэдактар для аўтара – гэта рэферы, арбітр, які натуральна патрабуе, каб правілы хоць збольшага выконваліся. Каго ж можна і трэба выбіраць у "рэферы"? Якому рэдактару аўтар**





Зусім нядаўна даваў рэкамендацыі для паступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Уладзіміру Міхно, Лідзіі Адамовіч, Івану Сычыну, вельмі цікавым празаікам, якія ўжо маюць па адной кніжцы прозы і маюць у запасе шмат напісанага, але неапублікаванага, бо зноў жа ўсё ўпіраецца ў выдавецкія планы, у фінансы.

Фінансы – мо самы вялікі камень на дарозе нашай культуры наогул і літаратуры ў прыватнасці, які не дае нам выйсці на шырокія прасторы і губіць нашы сілы, асабліва маладыя. Ствараецца ўражанне, што гэты камень на нашай дарозе паклалі знарок. Але дзяржава, якая мае грошы на міліцыю, а на культуру не мае, не мае ўрэшце і будучыні.

Тое, што належыць рабіць пісьменнікам, яны робяць сумленна – яны пішуць, яны хочуць выдаваць свае творы, яны, будзем шчырыя, абуджаюць нашу нацыю ад доўгага летаргічнага сну, якім мы спалі больш як два стагоддзі пад ціскам царскай Расіі, што хацела ператварыць Беларусь у безназоўны "Северо-Западный край". Але народ наш выстаяў, яго нешматлікая маладая інтэлігенцыя, гэтыя мазгі нацыі, не прадавалася за багатыя абяцанні вялікаму ўсходняму суседу, а рабіла ўсё, каб абудзіць свой народ, данесці да яго свядомасці думку, што ён не належыць нікому, а толькі самому сабе, што на сваёй зямлі ён, а не хто іншы, павінен быць гаспадаром.

Тое ж самае робяць сёння нашы маладыя літаратары, можа, толькі не так напорыста і эфектыўна, як нам хацелася б.

**Л. Г.** У вашай аповесці "Камень з гары" ёсць герой – прататыпам якога з'яўляецца У. Караткевіч... Ці ёсць падобныя героі ў нашым сённяшнім – неадназначным і складаным – жыцці?

**У. Д.** Уладзіміра Караткевіча я лічыў і лічу нашым нацыянальным геніем, і так лічу не адзін я. Такіх людзей надта мала – не толькі ў нас, а ў кожнай нацыі. Але шчасце, што яны ёсць. Яны пракладваюць дарогу для цэлага пакалення. Нам лёгка ісці, таму што ўперадзе прайшоў такі "бульдозер", як Караткевіч. Але не будзем забываць, што адным мінулым не пражывеш. Трэба шукаць сярод нас такога дужага і смелага, такога таленавітага, як Караткевіч. Думаю, што калі ён не аб'явіцца ў адной асобе, дык у некалькіх, якія, дапаўняючы адзін аднаго, будуць гаварыць нашаму народу тое, што патрэбна яму сёння, хоць тое, сказанае Караткевічам, для нас ніколі не састарэе, яно заўсёды будзе свежым, патрэбным і надзённым, як творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа. Класіка ніколі не састарэе! Яна жывая і маладая.

Давайце пільней углядацца ў творчасць сваіх сучаснікаў, у іх духоўны набытак – і мы ўбачым, што Караткевіч як бы раствaрыўся шмат у кім з нашых калегаў, што ён робіць, ужо рукамі іншых, тую справу, якую рабіў ён сам.

**Л. Г.** Што нам рабіць, апроч як пісаць, каб быць і застацца?

**У. Д.** Пытанне, мне здаецца, з падтэкстам, на яго цяжка адказаць адназначна, тым больш, што адказ схаваны ў самім пытанні. каб быць і застацца, трэба пісаць. Як сказаў У. Караткевіч: быў, ёсць, буду. Але найважней тое, як пісаць. Калі пісаць крывёю сэрца, калі пісаць пра самыя балючыя і надзённыя праблемы нашага жыцця, калі пісаць пра гэта таленавіта і цікава, дык ёсць надзея, што напісанае застанецца – на вякі, на стагоддзі. Яшчэ, не менш важна: любіць сваю Бацькаўшчыну і быць гатовымі аддаць за яе нават жыццё. Каб яна жыла вечна, наша Маці Беларусь!

---

**смела можа верыць? Адказ адзін: такому рэдактару, які прызнаецца большасцю бясспрэчным аўтарытэтам у сваім жанры, г.зн., які сам стварыў штосьці значнае і даказаў, што валодае літаратурным густам. Усе іншыя разважанні абсурдныя, бо не можа навучыць плаваць "інструктар", які сам не плавае.**

**"На кансіліум завуць доктара, на юрыдычную кансультацыю – юрыста, чыгуначны мост ацэньваюць інжынеры, дом – архітэктары, а вось мастацкасць – усялякі, хто хоча, людзі, часта зусім супрацьлеглыя па натуры мастацкасці". (І.Бунін, "Акаянныя дні", с. 62.)**

*

**Даўно не працуе рэдактарам Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч, з нядаўняга часу – Іван Мікалаевіч Пташнікаў... Ідэальныя рэдактары, людзі, якія ў вышэйшай ступені надзелены літаратурным густам, рэдкім дарам беспамылкова вызначаць мастацкасць у творы. Літаратурная рэдактура драбнее, "рэдактарская школа" (выраз А. Наварыча) не развіваецца, г.зн., не відаць пакуль на літгарызонце вартаснай змены, крытэрыі мастацкасці настолькі палярныя, што нядзіўна, калі "іспыта па фізікі" выдаецца за новае і арыгінальнае. Гэта нядзіўна. Дзівіць іншае: адхіляючы наяўнасць праблемы з гэтымі самымі крытэрыямі мастацкасці (адпаведна, адхіляючы і каласальную ролю аўтарытэтнага рэдактара пры ацэнцы якасцяў твора), не вызначыўшы правілаў гульні, мы яшчэ аб нечым спрачаемся, дыскусіруем, што лепш, што горш, разважаем пра "геніяльнасць" і "бяздарнасць"... Пры такой сітуацыі – усе лепшыя, усё геніяльнае.**

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

# ГУТАРКА З БЛУДНЫМ СЫНАМ

## Выступленне на пленуме СП БССР у кастрычніку 1968 года

Стала ўжо агульнапрызнаным, што ў камунізм мы прыйдзем праз росквіт нацыянальных культур. Гэтай ісціны ніхто не стане аспрэчваць, аднак яе моўчкі абыходзяць, лічачы, што можна прыйсці і зусім іншым шляхам, значна карацейшым, не праз якія там дзесяцігоддзі, а, скажам, праз пяць – дзесяць гадоў. Трэба толькі смялей ліквідоўваць нацыянальныя перагародкі, расхістваць нацыянальныя традыцыі, смялей уводзіць рускую мову, якая, на іх думку, будзе мовай камуністычнага будучага. А што калі яна будзе не рускай, а, дапусцім, англійскай ці кітайскай? Ды навошта гадаць? Яна будзе такой, якой захочуць людзі, што будуць тады жыць.

Давайце лепш будзем думаць за сябе, за свой час. Канстытуцыя дае нам права карыстацца роднай мовай як дзяржаўнай. Анахранізмам і недарэчнасцю гучыць у наш час патрабаванне роднай мовы. Аднак факт застаецца фактам.

Я хачу, каб мае дзеці вучыліся на роднай мове. Я жыву ў сталіцы Беларусі. А ў сталіцы Беларусі няма ніводнай беларускай школы.

Я жахнуўся, зрабіўшы для сябе такое "адкрыццё": да рэвалюцыі ў Мінску не было ніводнай беларускай школы. Прайшло пяцьдзесят год пасля рэвалюцыі – і ў сталіцы Беларусі няма ніводнай беларускай школы.

Я хачу, каб мае дзеці засталіся беларусамі. Мне скажуць: а хто ім не дае? А я адкажу: усё не дае: яслі, сад, двор, школа, газета, радыё, кіно, любая наша ўстанова.

Яшчэ горш тое, што патрабаванне роднай мовы стала крамольным актам і некаторымі расцэньваецца як нацыяналістычнае, як праяўленне нацыяналізму. А калі і дзе патрабаванне элементарных нацыянальных свабод лічылася нацыяналізмам? Навошта забіраць у народа апошняе, што яго адрознівае ад іншых народаў, навошта штучна насаджваць тое, што прыйдзе само, пастунова? Беларусы яшчэ не нацешыліся са свае мовы, яна не стала ім горкай, не абрыдла. Па крайняй меры, не для ўсіх. Таму не трэба рашаць і думаць за ўсіх.

Трэба прыслухоўвацца да голасу ісціны, трэба ўрэшце ўмець бачыць, што можна паскараць, а чаго нельга. Нельга сілай выдзіраць кураня з яйка, яно вылупіцца і само, дайце толькі час. Нельга таксама механічна паскараць працэс распускання кветкі ці выспявання плода.

Думаю, што вытрымка з Леніна, якую я хачу прывесці, не састарэла і для нашага часу і хоць у нейкай меры дае адказ на закранутае пытанне. Вось што гаворыць Уладзімір Ільіч рускім лібералам, якія "ратавалі" за паскораны працэс пераходу на рускую мову:

"Русский язык – велик и могуч, говорят наши либералы. Так неужели же вы не хотите, чтобы каждый, кто живет на любой окраине России, знал этот великий и могучий язык? Неужели вы не видите, что русский язык обогатит литературу инородцев, даст им возможность приобщиться к великим культурным ценностям и т.д.?

Все это верно, господа либералы, отвечаем мы им. Мы лучше вас знаем, что язык Тургенева, Толстого, Добролюбова, Чернышевского – велик и могуч. Мы больше вас хотим, чтобы между угнетенными классами всех без различия наций, населяющих Россию, установилось возможно более тесное общение и братское единство. И мы, разумеется, стоим за то, чтобы каждый житель России имел возможность научиться великому русскому языку.

Мы не хотим только одного: элемента **принудительности.** Мы не хотим загонять в рай дубиной. Ибо, сколько красивых фраз о "культуре" вы ни сказали бы, **обязательный** государственный язык сопряжен с принуждением, вколачиванием. Мы думаем, что великий и могучий русский язык не нуждается в том, чтобы кто бы то ни было должен был изучать его **из-под палки...** Те, кто по условиям своей жизни и работы нуждаются в знании русского языка, научатся ему и без палки. А принудительность (палка) приведет только к одному: она затруднит великому и могучему русскому языку доступ в другие национальные группы, а главное – обострит вражду, создаст миллион новых трений, усилит раздражение, взаимонепонимание и т.д.

Кому это нужно? Русскому народу, русской демократии – этого не нужно. Он не признает никакого национального угнетения хотя бы и "в интересах русской культуры и государственности" (Ленин. Нужен ли обязательный государственный язык? Соч., т.20, IV, стр. 55).

Могуць запярэчыць, што Ленін мае на ўвазе рускі царызм, а цяпер не тыя часы. Але

---

# АДЗІНАБОРАЦ З ПЛЫННЮ

**Знешне творчасць Уладзіміра Дамашэвіча адкрытая: традыцыйная манера пісьма, звычайны, без экстравагантных захадаў, сюжэт, нетаропка акрэсленыя характары і псіхалогія герояў. Але ў прозе пісьменніка шмат падводных, нябачных на першы погляд рэчаў: тут часта хаваюцца адзінота, туга па страчаных магчымасцях, няўдалыя спробы паразумення з іншымі і г.д. Прачытайце ўважліва яго ў многім аўтабіяграфічны раман "Камень з гары", некаторыя характэрныя аповесці і апавяданні. Сартраўскае "пекла – гэта іншыя" нябачным рэфрэнам праходзіць праз творчасць Уладзіміра Дамашэвіча, пакідае адбітак на дзеяннях і ўчынках персанажаў. Героі У. Дамашэвіча часта ўступаюць у канфлікт з тымі "іншымі", здараецца, цярпяць паразу, а калі і застаюцца пераможцамі, то звычайна "не атрымліваюць нічога".**

**Неяк, у пачатку дзевяностых, мы ішлі з ім пасля мітынгу і прайшлі ўвесь праспект Скарыны, размаўляючы пра Салжаніцына і Бродскага, пра шляхі нацыянальнага руху і літаратуры. Цяпер, праз нейкі ўжо час, думаецца, што Дамашэвіч хацеў тады верыць у лепшае, але ўжо нешта неасэнсаванае, на ўзроўні падсвядомасці (а яна ніколі не падманвае) трывожыла яго і не давала падставаў для залішняга аптымізму. Урэшце, ён меў ужо свой асабісты вопыт жыцця, ведання людзей і вопыт "бодания с дубом", якія папярэджвалі яго і змушалі з пэўным недаверам узірацца ў калейдаскоп імкліва набягаючых падзей. Той вопыт каштаваў яму многага: не выданых у свой тэрмін кніг, здароўя, неабходных матэрыяльных выгод. Упэўнены, што Уладзімір Дамашэвіч глыбока нацыянальны пісьменнік. А час, у які ён напаткаў пік сваёй творчасці, быў нецярпімы да ўсяго, хоць на кроплю нацыянальнага. Адсюль і афронт у выдавецтвах і пазбаўленне работы і дыскрымінацыя па палітычных матывацыях – па сутнасці, адбіралі кавалак хлеба, каб пісьменнік мог неяк пракарміць сябе і сям'ю. Сістэма ўступіла ў няроўную барацьбу з тым, хто, па сутнасці, прагнуў яе палепшыць. На першы погляд, парадаксальная сітуацыя. А хіба не так? Хіба не хоча гэтага і цяпер кожны свядомы нацыянал? "Зрабіць магутнай, шчаслівай краіну нашу і наш народ" – хіба тут крыецца якая загана?**

**Але.**

**Кароткая перабудовачная перадышка: калі пачало набіраць моц адраджэнне – і зноў шалі хіснуліся ў адваротны бок. Ды толькі для творцы і самая кароткая адліга бывае часам**

шавінізм застаецца шавінізмам, як бы яго ні паднаўлялі, у якую вопратку яго б ні адзявалі. Стары ці падноўлены – ён усё роўна шкодны.

Відаць, у нас уся бяда ў тым, што ёсць пэўная катэгорыя людзей, якія не толькі "ідуць" у нагу з сучаснасцю, але і, як бы сказаць, "апярэджваюць" яе. Яны гатовы спешным маршам ісці ў камунізм і, безумоўна, гавораць па-руску. Бо што ты за камуніст, калі ты гаворыш на нейкай другой мове? Аднойчы, выступаючы, здаецца, у Берліне, Хрушчоў сказаў, што трэба быць спярша камуністам, а пасля немцам, спярша камуністам, а пасля чэхам, спярша.. І тут ён збіўся – і якраз так, як свядома збіваліся калісьці рускія лібералы. Ён сказаў: спярша трэба быць рускім, а пасля палякам.

Мне здаецца, што адно і другое вельмі добра можна спалучыць: быць адначасова рускім і камуністам, палякам і камуністам, беларусам і камуністам. Больш таго, нацыянальная адзнака, як паказаў час, застаецца трывалейшай: кітайцы не перасталі быць кітайцамі, аднак яшчэ невядома, ці яны камуністы.

Не сакрэт, што ў нас хутка не будзе беларускага чытача. Возьмем школы. Усяго ў Беларусі прыблізна 11,5 тысячы школ.

Рускіх школ у рэспубліцы 1200 з нечым. Здаецца не так многа на 11 тысяч. Але возьмем сярэднія школы. Сярэдніх усяго 1800 з нечым. З іх вясковых 1200, гарадскіх – 630. Як правіла, пачатковыя школы ў вёсках усе беларускія. Затое ўсе гарадскія сярэднія школы – рускія плюс палавіна рускіх сярэдніх школ у вёсках. (Прыклад: у Браслаўскім раёне 13 школ, з іх 2 беларускія.)

Тыражы нашых кніг з кожным годам меншаюць, нават некаторыя літаратары-беларусы пачынаюць пісаць па-руску, таму што гэта ўрэшце выгадней і матэрыяльна і маральна. Студэнцкая моладзь уся гаворыць па-руску і кнігі таксама чытае на рускай мове. Тое ж самае можна сказаць пра тэхнічную інтэлігенцыю, пра медыкаў, настаўнікаў. Ствараецца ўражанне, што гэта заканамерны працэс, што так і трэба, і ўмешвацца ў яго бескарысна: сам народ адмаўляецца ад свае мовы!

Толькі ці сам? Усё зроблена так, каб ён пераконваўся, што родная мова яму не патрэбная, а нават шкодная.

(Лінія: сям'я – яслі – сад – школа – вышэйшая ўстанова – праца штучна разрываецца.)

Мова без ужытку асуджана на заняпад. У даным выпадку проста неэтычна выкарыстоўваць нацыянальную несвядомасць супраць саміх несвядомых. Наадварот, трэба зрабіць усё, каб яны сталі свядомымі – нацыянальна і палітычна.

Адзінае, што радуе, – гэта што палова беларусаў жыве ў вёсцы, што там жыве яшчэ беларуская мова і будзе жыць стагоддзі, як яна жыла стагоддзі дагэтуль, хоць ёй і тады прарочылі пагібель.

**вызначальнай. За мінулыя гады У. Дамашэвіч, незвычайна для сябе тэмпава, стварыў некалькі выдатных аповесцяў, якія безумоўна ўвойдуць у залаты фонд беларускай літаратуры. "Пісьменнік можа зрабіць толькі адно: сумленна назіраць праўду жыцця і таленавіта выяўляць яе; усё іншае дарэмныя намаганні". Гэта запісаў калісьці Гі дэ Мапасан. Словы французскага пісьменніка можна аднесці з поўнай рацыяй да У. Дамашэвіча: загірніце ўважліва ў яго "Міфічную аповесць", "Амплітуду жаданняў" і г.д. У гэтым плане я неяк параўнаў яго з рускім пісьменнікам Канстанцінам Вараб'ёвым. Праўда, Вараб'ёў, нават у час панавання сістэмы, здолеў знайсці сабе прытулак, сховішча, дзе мог не толькі больш-менш свабодна тварыць, але і "ісці ў рожкі" з той жа сістэмай. Гэтым, лічы, палітычным прытулкам была для яго... Вільня. І зноў парадокс, бо для беларускага творцы нават гістарычная радзіма не магла стаць такім жыццёва важным творчым аазісам: уступаў у дзеянне фактар мовы. Літва нават у часы "класавай барацьбы" была апірышчам не толькі свайго, нацыянальнага, але і астраўком супрацьву для рускамоўных. Такая была рэальнасць.**

**У японцаў ёсць цікавы выраз: "творца – гэта адзінаборца з плынню: як толькі ён перастае веславаць, яго адносіць назад". Думаецца, словы тыя якраз ва ўнісон з жыццём і творчасцю Уладзіміра Дамашэвіча.**

**Юры СТАНКЕВІЧ**





Але няўжо мы павінны будзем урэшце дзякаваць вясковай адсталасці, што яна захавала нам самы дарагі скарб, за які нас паважаюць іншыя народы, няўжо мы і пальцам не паварушым, каб зрабіць нешта, каб стрымаць гэты штучны, скараспелы і шкодны для ўсяе справы савецкіх народаў працэс асіміляцыі?

Няўжо гісторыя нашага народа скончыцца на нас? Праўда, у нас не хапае пачуцця ўласнай годнасці, нацыянальнай гордасці, бо гэтыя пачуцці ў нас мала хто развіваў. Больш таго, у апошні час гэтыя якасці сталі кваліфікавацца як адсталасць або яшчэ што горшае. З беларускага слова ў трамваі ці ў магазіне смяюцца, адсылаюць "навучыцца гаварыць па-чалавечы", з пагардай ставяцца нават некаторыя беларусы.

Думаю, што не будзе нам вялікага гонару, калі мы скажам сабе: навошта нам ведаць дзве мовы? Хопіць нам адной. Не, у наш век вялікіх і цесных зносін паміж народамі прапагандаваць такую лінію – гэта значыць прапагандаваць адсталасць.

У наш час чалавек павінен ведаць мінімум дзве мовы – родную і рускую, інакш ён не мае права лічыць сябе культурным чалавекам. Не шкодзіла б ведаць і замежныя мовы, і мовы сваіх блізкіх суседзяў. Акадэмік А. Берг аднойчы сказаў, што няведанне замежных моў і п'янства – нашы дзве нацыянальныя трагедыі.

І зусім не сорамна было б сказаць рускім таварышам, якія па дзесяць – пятнаццаць гадоў жывуць сярод іншых народаў, каб і яны не палічылі ганьбай для сябе і вывучалі мову таго народа, на зямлі якога яны жывуць. Дарэчы, усе культурныя людзі рускай нацыянальнасці так і робяць, і нават не адмаўляюцца ад таго, каб у школе іх дзеці вывучалі чужую мову.

А што грэх таіць, якраз у Беларусі пытанні вывучэння беларускай мовы пераглядаюцца не ў той бок таму, што вялікі ціск аказваюць на наша Міністэрства асветы прадстаўнікі арміі, ці дэмабілізаваныя, пераважна людзі рускай нацыянальнасці. Сярод іх, мне здаецца, ёсць і такія, якія не паважаюць людзей, сярод якіх яны жывуць, не паважаюць яго мовы. Паўстае пытанне: ці не лягчэй было б 1 млн. рускіх навучыць гаварыць па-беларуску, чым 8 млн. беларусаў – па-руску?

Аднак некультурнасць нідзе і ніколі, ні ў аднаго народа, не ставілася на п'едэстал, тым больш не павінна ставіцца і ў нас, у грамадстве, якое будуе камунізм Мы, беларусы, любім і паважаем рускіх за іх шчырую душу, за іх інтэрнацыяналізм, за іх братэрскія адносіны да іншых народаў, але мы, я думаю, не захацелі б бачыць у рускім чалавеку шавініста старога чарнасоценнага складу, які сканаў разам з царызмам.

Я не тэарэтык у пытаннях нацыянальнай справы, я толькі мяркую на падставе таго, што паказвае жыццё.

Мне здаецца, што нацыяналізм і вялікадзяржаўны шавінізм – гэта два бакі аднаго

# ЧАЛАВЕК

**Першы чалавек, які гаварыў са мной па-беларуску, быў сусед Лявон, якога занесла пасля рэвалюцыі недзе з-пад Наваградка ажно за Прыпяць. Лявон асеў у нашых мясцінах, ажаніўся, але да мясцовай гаворкі так і не звык. Разумець – разумеў усё, ды ніводнае слоўка з мясцовага дыялекту да яго не прыляпілася. Гаварыў толькі так, як яго калісьці навучылі бацька з маткай. І гаварыў на добрай, амаль правільнай літаратурнай мове, быццам то быў дыктар рэспубліканскага радыё.**

**Па характару – флегматычны, добры, акуратны. Ведаў яго і ў гневе – крыўды і несправядлівасці трываць не мог. Дакладней – цярпеў да пэўнага моманту. Але і без гневу Лявон заўсёды быў шчыры, не прымаў фальшу і рэзаў праўду-матку ў вочы: "Не, то не чалавек!" Вышэйшай адзнакай годнасці і павагі да іншага былі словы: "О! Гэта чалавек!"**

**Потым беларускую гаворку чуў з вуснаў першай настаўніцы Ніны Дзмітраўны Жылінскай. Ці варта расказваць, што першая настаўніца вучыць не толькі чытаць, пісаць і лічыць? Пры ўсіх іншых патрабаваннях яна па становішчы мусіць быць самой дабрынёй, увасаблен-**

і таго ж медаля. І мне здаецца, што нацыяналізм памрэ толькі тады, калі памрэ яго сабрат шавінізм.

Калі нацыяналізм неаднаразова карчавалі, то вялікадзяржаўны шавінізм у пэўныя перыяды гісторыі быў ледзь не дзяржаўнай палітыкай, шавініст меў магчымасць сумленнаму чалавеку прыклеіць ярлык так званага нацыяналіста, каб знішчыць яго. За прыкладам далёка хадзіць не трэба.

Вялікія народы ніколі не павінны крыўдзіць малых – тады не будзе ніякіх рэцыдываў.

Яшчэ раз прашу – не заносіць у разрад нацыяналізму самых элементарных свабод, гарантаваных нам канстытуцыяй – суверэннасці і звязаных з ёю паняццяў: родная мова – дзяржаўная мова, школа на роднай мове, выкладанне ў вышэйшай школе, справаводства на роднай мове. Мне могуць запярэчыць: у нас дзве дзяржаўныя мовы – руская і беларуская. Гэта на паперы. А на практыцы – толькі адна, руская На беларускай мове мы маўчым. А некаторыя яшчэ кажуць: у нас дзве родныя мовы. Гэта проста смешна, бо ніколі ў чалавека не можа быць дзвюх родных матак: другая маці, якая ў народзе называецца мачаха, прыходзіць толькі пасля смерці роднай маці.

У заключэнне скажу, што калі і далей адносіны нашых кіраўнікоў да беларускай мовы застануцца такімі ж, як і былі, то нам пагражае небяспека памерці як нацыі, бо калі памерла мова, то памерла і нацыя.

Хочацца верыць, што будзе зроблена ўсё, каб мы не памерлі.

Савецкая ўлада дала нам мову. Але ніколі не паверу, што Савецкая ўлада яе і адбірае. Яе адбіраюць несвядомыя ці занадта свядомыя “рацівыя начальнікі”.

## Выступленне на 9-м з‘ездзе СП БССР 24.04.1986 г. (Было паслана разам з лістом М.С. Гарбачову ў перакладзе на рус. м.)

Калі збіраюцца хлебаробы, каб падвесці вынікі года, пра што яны звычайна гавораць? Відаць, не толькі пра цэнтнеры. Яны будуць гаварыць пра насенне, пра глебу, пра трактары, пры ўгнаенне, пра надвор‘е і клімат увогуле, пра формы і метады гаспадарання, – гэта значыць, пра ўсе дазвання фактары, якія спрыяюць і не спрыяюць ураджайнасці.

---

**нем шчырасці і мудрасці для сваіх гадаванцаў. Ніна Дзмітраўна такой і была.**

**Так здарылася, што маім першым настаўнікам у літаратуры стаў таксама добры, шчыры і спагадлівы чалавек – Уладзімір Дамашэвіч. Урэшце – гэта быў і першы літаратар, які гаварыў толькі па-беларуску. Дагэтуль здавалася, што па-беларуску гаварылі толькі Якуб Колас ды Янка Купала.**

**І тады заўважылася падазроная акалічнасць – тыя людзі, якія гавораць па-беларуску, заўсёды добрыя і шчырыя. Прынамсі, у адносінах да мяне. Што гэта такое? Няўжо ёсць сувязь мовы з характарам, у рэшце рэшт, з менталітэтам, духоўнасцю чалавека?**

**Часам маўклівы, часам няпросты, але заўсёды – спагадлівы, зноў-такі – добры, Уладзімір Максімавіч вучыў беражліваму абыходжанню са словам, паказваў крыніцу, адкуль можна ўзяць самае трапнае і пэўнае, з-пад сэрца, слова. Крыніца гэтая выцякае адтуль, ад першаснага, ад тых людзей, якія стварылі цябе, ад той зямелькі, якая цябе нарадзіла.**

**Прыходзіў да Уладзіміра Максімавіча вясной, прыходзіў да яго зімой, прыходзіў летам. Побач з ім дыхалася лягчэй. Перажыванні адхлыналі. Верылася – усё будзе добра, калі ёсць такія людзі, калі ёсць такі чалавек, які табе далёка не бацька, але ставіцца больш чым па-бацькоўску.**

**Больш за ўсё гаварылі, што можа быць прадметам літаратуры, а што не. З гэтых гутарак шмат што ўзяў. Думаецца, Уладзіміру Максімавічу ўласцівы такі правільны лад мыслення, што пасля кожнай су-**





А пра што гаворым мы, пісьменнікі, сабраўшыся на свой форум? Натуральна, пра свае дасягненні, здабыткі і г.д. Гэты напісаў раман пра горад – хвала яму, гэты пра вёску – і яму слава, а гэты пра вайну – таксама добра. Дасягненні нашы вялікія, гэта факт, але яны маглі б быць значна большыя, каб мы былі трохі іншыя, чым мы ёсць. Мы не хочам бачыць, не хочам лічыць ненапісаных твораў, хоць яны павінны былі б быць – як тыя дзеці, што не нарадзіліся, бо іх бацькі загінулі на апошняй вайне яшчэ маладымі і нежанатымі.

Мы не гаворым пра глебу, якая нас жывіць. А яе ўсё менш і менш, сухія вятры эпохі робяць сваю разбуральную справу: пачынаецца эрозія, засыхаюць нашы карані, заплываюць, перастаюць бруіцца крыніцы, якія нас жывілі. Па волі нейкіх міфічных меліяратараў мяняецца наш творчы клімат, наша атмасфера. А мы гаворым пра вобраз сучасніка ў беларускай літаратуры, пра ваенную тэму і інш. Мы гаворым пра што хочаце, толькі не пра набалелыя праблемы. Нават дзелім лаўры, спрачаемся за прэміі. Смех дый годзе! Як кажа наша прымаўка, не да парасят, калі свінню смаляць.

Нам трэба гаварыць пра нашу мову, культуру, школу. Трэба гаварыць пра тое, на якой мове размаўляе цяпер наш сучаснік – дома, на вуліцы, на рабоце; на якой мове ён піша свае дзелавыя паперы, свае лісты да маці.

Перавялі беларускія школы ў гарадах на рускую мову – ну і няхай сабе, мо калі знойдзецца нехта смелы і адверне назад, але навошта нам спрачацца з тым жа Міністэрствам асветы? Мы не заўважылі, як страцілі сваю школу, мы не ведаем, хто і калі нам яе верне. Мы трацім апошняга настаўніка, які ведае родную мову і хоча, каб вучань палюбіў яе назаўсёды, як родную маці.

Мы не заўважылі, як аддаліся на волю чыноўніка, а ён пераводзіць усё на грошы, ён і нацыянальную культуру і асвету вымярае грашыма: гэта не дае прыбытку, гэта дае. Будзе тое, што дае. Міністр культуры СССР Дземічаў на 27-м з‘ездзе гаварыў: “Странно, но факт, что плановые и финансовые органы до последнего времени рассматривали культурное строительство как некую нерентабельную нагрузку на экономику, как чисто затратные расходы...” У нас нявыгадна пошту афармляць па-беларуску – штампы, штэмпелі – усё гэта на рускай мове, хоць у нашых суседзяў, украінцаў – на дзвюх мовах. У нас не прымаюць тэлеграму па-беларуску, сувязісткі спасылаюцца на тое, што ў іх няма беларускага шрыфта ці яны не ведаюць мовы. Нядаўна “Роднае слова” паведаміла, што ў Міністэрстве сувязі ёсць пастанова, згодна з якой паштовыя адпраўленні дазваляецца афармляць на дзвюх мовах. Думаю, пра гэтую пастанову мала хто ведаў дагэтуль нават з работнікаў сувязі.

А возьмем Міністэрства шляхоў зносін. Мала таго, што яно ад Уладзівастока да Брэста гаворыць на адной мове, дык яно залазіць нават пад зямлю. Наша мінскае

---

**стрэчы з ім адчуваў, як раблюся таясамнейшы самому сабе. Рабілася гэта, мабыць, з прыхаванай, ледзь не маніякальнай, схільнасці Уладзіміра Максімавіча да парадку, бо з беспарадку і неахайнасці ў рукапісах – фальш і імітацыя пачуццяў і вобразаў, з хаосу і раздрызганасці ў жыцці – людскія беды і гора.**

**Як заўсёды – жыве чалавек, стараецца, горы варочае. Ну і варочае. І раптам даведаўся, што Уладзімір Дамашэвіч даўно жыве не ў Мінску. Натура ўзяла сваё – выпіў кубак гарадскога жыцця да дна, і паехаў “да родных ніў, да роднай хаты”...**

**Эх, мілы Вы мой чалавек! Удзячны лёсу, што звёў мяне з Вамі. Вы – лепшы прадстаўнік свайго пакалення, таго сама таямнічага пакалення Заходняй Беларусі, якое па сталасці, па сфарміраванасці як асобаў ужо не магло паверыць камуністычнай хлусні, але трэба было жыць, неяк прыстасоўвацца, хаваць свае сапраўдныя думкі, пачуцці...**

**Няпроста такому чалавеку ў жыцці. Ён – нібыта падводная лодка. Падыме перыскоп і зноў апускаецца на глыбіню сваёй таямнічасці. У асобе Дамашэвіча – персаніфікаваны народ. Народ-маўчун, што перанёс усе гістарычныя навалы і застаўся самім сабой. Таямнічы народ-сфінкс цэнтральнай Беларусі, без уплыву памежных напластаванняў. Уладзімір Максімавіч, як прадстаўнік гэтага народа, генетычна ўзяў ад тых продкаў, што сядзелі на Ляхавіцкіх лядах, упартасць і напорыстасць, сваю здольнасць паўтарацца ў наступных пакаленнях.**

метро – вотчына Міністэрства шляхоў зносін, нібы яно будавалася за яго грошы, а не за кроўныя нашы, беларускія. Чыноўнік пад выглядам уніфікацыі і стандартызацыі робіць абсалютную асіміляцыю, не думаючы пра канчатковыя вынікі.

Урэшце, хай бы чыноўнікі з розных міністэрстваў для палёгкі карысталіся адною мовай – рускай. Яны ўжо даўно забыліся, што за гэта ў свой час іх ушчуваў Ленін – за тую ж уніфікацыю і стандартызацыю, якая абарочваецца звычайнай русіфікацыяй.

Дык не, чыноўнікі лезуць у нашу душу, яны хочуць забраць у нас тое, што стагоддзямі ляжала ў душах нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў бясцэнным дарам, – яны пасягаюць на нашу мову. І мы пускаем іх у сваю душу, разменьваем бацькоўскі бясцэнны дар на дробную манету тымчасовай, хуткай выгады.

Шмат якія нашы нават высокаадукаваныя беларусы схільны думаць, што наша мова адамрэ, што яна непатрэбна ўжо сёння, бо ў наш рэактыўна-актыўны век для зносін у межах нашай вялікай дзяржавы хопіць і адной мовы – рускай. Яны проста забываюць, што ў нас няма адзінай дзяржаўнай мовы, што руская мова служыць толькі мовай міжнацыянальных зносін. Яны лічаць, што любая другая мова будзе толькі замінаць: вось бачыце, як дзеці ў школе пакутуюць, блытаюць рускія і беларускія словы. Лепш проста вызваляць іх ад роднай беларускай мовы. Вось што піша на радыё наш зямляк, беларус, з Віцебшчыны:

“А, действительно, зачем нам белорусский язык? Зачем нам два одинаковых языка? Русский похож на белорусский, белорусский на русский. Никто, ни в городе, ни в селе, не пишет и не читает на белорусском языке. И, разумеется, читать не будет. Человек выбирает то, что удобней, приятней и т.д.

Тысячи преподавателей белорусского языка, который никому не нужен и никто им не пользуется. Миллионы печатных книг на белорусском языке, которые никто не читает. Люди затрачивают огромный труд, который никому не нужен... Школьники перегружены, а мы их заставляем изучать белорусский язык, который им не понадобится в жизни”. (Валковіч, бухгалтар).

Царскі чыноўнік з міністэрства сувязі ўсклікнуў бы, прачытаўшы такое: наша справа не прапала, урэшце мы дабіліся свайго – беларусы самі адракаюцца ад свае мовы.

А цяперашні наш чыноўнік з таго ж міністэрства мог бы падумаць: ясна, што чалавек у нацыянальнай палітыцы нічога не кумекае, але бог з ім: нам менш марокі з гэтымі перакладамі, з гэтымі мовамі. І лішні рубель будзе з'эканомлены. Што і трэба даказаць.

А што скажа на гэта свядомы камуніст-ленінец? Перш за ўсё ён скажа, мне здаецца, што нацыянальнае пытанне ў Беларусі страшэнна запушчанае і закінутае, што патрыятычнае выхаванне тут не на належнай вышыні. Як можна так разважаць пра сваю родную мову? Ды гэта ж адкрытае рэнегацтва, адкрыты заклік адракацца ад свайго

**Ды і знешне гэта шмат у чым праяўляецца: ці ведаеце, ці заўважалі, як Уладзімір Максімавіч апранае, скажам, верхнюю вопратку? Абгортвае шалік вакол шыі, прыціскае яго падбароддзем да грудзей, высока ўскідвае паліто, укладае руку ў рукаво, выцягваючы руку высока ўгору. Гэтак робяць мужчыны ў лесе, на высечцы, дзе ляжаць крыж-накрыж паваленыя вольхі, калі пад нагамі свежыя, толькі што з-пад сякеры трэскі, ці на вычарабленай ад драбналесся лядзе...**

**У адрозненне ад яго тадышні галоўны рэдактар “Маладосці”, нябожчык Анатоль Грачанікаў, апранаў верхнюю вопратку, так бы мовіць, не ў крыўду ягонай светлай памяці, “па-партыйнаму” – паліто “уздзяваў” так, быццам яму ззаду хто дапамагаў, потым – агладжваў і ахарошваў шалік такім чынам, каб бакавыя краі шаліка былі строга паралельнымі адваротам паліто. Гэтак апранаюцца гарадскія, рукі якіх не звыклі да сякеры, да ручак плуга...**

**Мне здаецца, што Уладзімір Дамашэвіч з яго прыхаванай да пары да часу пасіянарнасцю – тыповы, хоць і вельмі рэдкі ўзор беларуса. Хоць ты абвяшчай дзеля такіх людзей на Беларусі запаведнік, унось падобны людскі тып, тып класічнага беларуса, у Чырвоную кнігу.**

**Упэўнены, што каб быў жывы мой сусед Лявон, то ён абавязкова сказаў бы пра Уладзіміра Максімавіча Дамашэвіча:**

**– О! Гэта чалавек!**

**Алесь НАВАРЫЧ**





роднага, самага дарагога. Гэта тое самае, што заклікаць адракацца ад роднае маткі, ад роднага бацькі. І калі такія погляды не адзінкавыя, то і праўда, што трэба задумацца: а што за прычыны? Чаму людзі так лічаць, чаму так думаюць?

Сказаць, што народ на ўсё глядзіць практычна, будзе вялікім перабольшаннем. Лепш сказаць, што многія людзі на ўсё глядзяць практычна. І яны часта робяць пагоду Выгадна мне – я “за”, нявыгадна – я “супроць”. Так глядзіць на сённяшняе жыццё наш бухгалтар з Віцебшчыны. Навошта яму беларуская мова? Уся бухгалтэрыя вядзецца па-руску. І больш яму нічога не трэба. Так спакайней.

А возьмем чытача. Не так даўно часопіс “Маладосць” меў тыраж 20 тыс. экземпляраў, а цяпер стаў амаль напалову меншы. Аднак яго яшчэ чытаюць, яшчэ выпісваюць. А ці выпісваюць яго нашы школы, бібліятэкі? Вельмі і вельмі рэдка. Чытаецца літаратура на рускай мове, кніжкі нашых пісьменнікаў у школьных бібліятэках чытаюцца па-руску, бо ў іх вялікія тыражы, на беларускай мове кніга ў школьную бібліятэку не трапляе. Тут наш бухгалтар кажа горкую праўду. Перавёўшы ўсе гарадскія школы на рускую мову, мы страцілі самага масавага чытача – школьніка, студэнта, навучэнца ПТВ, але дойдзе і да пенсіянера.

Мы самі, пісьменнікі, не заўсёды выпісваем свой родны часопіс – для сябе, для сваіх дзяцей. І з тымі ж дзецьмі ў сям'і часта гаворым па-руску Мы нават чуем ад некаторых маладых і пачынаючых пагардлівае стаўленне да нашай мовы, і мы, як ні дзіўна, прымаем іх у Саюз пісьменнікаў Беларусі. Дык чаго мы хочам ад іншых? Мы любім усё рабіць як людзі. Мы – людзі практычныя...

Мне здаецца, мы страшэнна сябе захвалілі, і мы робім гэта мо падсвядома, каб нас не мучыла сумленне, што на нашых вачах, нашымі рукамі робяцца справы, за якія нас нашы нашчадкі, груба кажучы, праклянуць. Праклянуць за тое, што мы за сваё асабістае прадаём і аддаём агульнанацыянальнае, а рабіць такое мы не маем ніякага маральнага права. Мы сячом сук, на якім сядзім. Мы сваімі рукамі робім пустыню – нацыянальную пустыню там, дзе тысячы гадоў жылі і квітнелі беларускія травы і кветкі, лясы і сады. Сёння мы, “ничтоже сумняшеся”, аддаём тое багацце, якое нашы продкі па крупінцы, па каліўцу, па маленькай макулінцы збіралі стагоддзямі, аберагалі ад чужынцаў, за якое паміралі сотнямі і тысячамі, за якое ішлі на катаргу і на шыбеніцу. Мы самае вялікае сваё багацце, якое не мае нават цаны, палічылі не вартым выедзенага яйка.

Вось як можна ачмурыць чалавека – іначай і не скажаш, калі акурваць на працягу стагоддзяў шавіністычным чадам. Чалавек паступова ўжо робіцца іншы: ён не пазнае свайго мінулага, свайго сённяшняга, а ў заўтра глядзіць чужымі вачыма. Там ужо ён не знаходзіць месца сабе, свайму народу, яго мове: гэта нешта такое, як бялізна – скінуў, памяняў на новую. Як сказаў паэт Францішак Багушэвіч, мова – гэта адзежа душы. Што

# ЧАЛАВЕК ЯК ТВОР

**Вельмі шчыра радуюся, што, хоць і пасля юбілею, у “Крыніцы” з'явіцца адбітак твару – спадзяюся, адэкватны – аднаго з нашых самых сапраўдных беларусаў, выключна душэўна прыгожага і духоўна багатага пісьменніка, які ўсім сваім жыццём заслужыў нашу ўсеагульную любоў і ўдзячнасць.**

**Удзячны і рэдакцыі, што адна яна не дае мне зусім душэўна знемагчыся і, магчыма, маё невялічкае выступленне на старонках майго сапраўды любімага часопіса пасля такога доўгага спустошанага маўчання стане маім адраджэннем у літаратуры, у якой я, нягледзячы на ўсе незайздросныя варункі майго жыцця, усё-такі нешта зрабіў на працягу трыццаці гадоў, а на гэтую няпростую работу мяне разам з незабыўным Рыгорам Васільевічам Шкрабам благаславіў менавіта Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч.**

**Не збіраюся ствараць чарговы “распавед” тыпу: “Шупенька і...” Але ж і зрабіць нейкі грунтоўны і доказны аналіз на некалькіх старонках таксама ж немажліва. І ўсё ж не сказаць колькі ўдзячных слоў свайму хроснаму бацьку, адному з самых дарагіх на гэтым нялёгкім для мяне свеце людзей таксама не магу...**

**Пра Уладзіміра Дамашэвіча няблага пісалі Сцяпан Александровіч і Серафім Андраюк, Уладзімір Гніламёдаў і Іван Кудраўцаў, Сцяпан Лаўшук і Валерый Ліпневіч, Алег Лойка і Алесь Марціновіч, Міхась Тычына і Іван**

ён меў на ўвазе, так гаворачы? А тое, што адзежа з душы не здымаецца так проста, як з цела. Адзежа з душы здымаецца разам з душою – вось у чым сакрэт. Калі не будзе беларускай мовы, не будзе і нас, беларусаў, не будзе нашага народа. “Вымер язык в устах народа – вымер и народ”, – сурова сказаў вялікі рускі педагог Ушынскі.

Балгарскі вучоны Джуджаў развівае гэтую думку далей: “Са знікненнем мовы знікае і этнічная культура, для якой мова з'яўляецца крыніцай і апорай, а разам з адміраннем этнічнай культуры гіне і нацыянальная свядомасць. Страта мовы – гэта самая вялікая катастрофа для народа”.

І ў другім месцы: “Асіміляцыя адной мовы другою азначае паміранне асімляванай мовы і нацыянальнай свядомасці народа, які на гэтай мове гаварыў… Асіміляцыя азначае поўнае разбурэнне сацыяльнага арганізма – народа, нацыі, расы, плямені і яго інтэграцыю ў другі сацыяльны арганізм” (С. Джуджаў, прафесар. “Мир науки”, 1980).

У наш час, калі кожная кветка і мошка на ўліку, калі кожная птушка і звер лічыцца вялікай каштоўнасцю прыроды, аберагаюцца і заносяцца ў Чырвоную кнігу, калі яму пагражае пагібель, вынішчэнне, сёння мы, нацыя ў 10 млн. чалавек, самі сваім ходам ідзём у Чырвоную кнігу. Няўжо не знойдзецца смелай і дужай рукі, каб стрымаць нас, каб не дапусціць да таго, што мы загінем як народ? Думаю і спадзяюся, што знойдзецца!

А што так мы ставімся апошнім часам да роднай мовы, да ўласнае гісторыі, да будучыні свайго народа, мне здаецца, вінаваты перш за ўсё наша асвета, наша школа, друк і радыё, тэлебачанне, якія не вядуць шырокай і зацікаўленай прапаганды патрыятызму ў нашых дзецях і ў нас саміх, вінаваты нашы школьныя падручнікі, якія часта напісаны сухою казённаю моваю, на нізкім навуковым і педагагічным узроўні. Яны не абуджаюць нацыянальных, патрыятычных пачуццяў. Да пытанняў патрыятычнага і гістарычнага выхавання мы адносімся прадузята, з нейкаю аглядкаю і недаверам, лічым іх ледзь не шкоднымі. І гэта не выпадкова. Чорная старонка нашай гісторыі, 37-мы год, рабіўся не без задняй думкі: вынішчыць і запалохаць нацыянальныя кадры савецкіх рэспублік, знізіць нацыянальную свядомасць да ўзроўню, калі людзі ўспрымаюць усякае праяўленне нацыянальнай культуры і дзейнасці як крамолу, як варожую Савецкай уладзе з'яву, калі гутарка на роднай мове, не па-руску, трактуецца ні менш ні больш як нацыяналізм, падлягае выкараненню.

Як ні горка гаварыць, рэцыдыў гэтай чорнай хваробы праявіўся ў нядзелю на Траецкім прадмесці ва ўсёй сваёй агіднасці, калі банда п'яных хуліганаў у чорных пальчатках збівала школьнікаў адзінай у Мінску беларускай школы*.

* Тут памылка. Вучні былі са школы-інтэрната *(аўтар)*.

**Чыгрын. Сказаў сёе-тое, можа, нават часам і залішне патрабавальнае ў вуснах “хроснага сына” і я.**

**Але ўсё сваё свядомае жыццё ў літаратуры не перастаю дзівіцца, чаму ўсё-такі так пакуль што мала намі сказана пра гэтага выключнага ў нашым асяроддзі чалавечнага чалавека, сапраўднага празаіка і вельмі мужнага грамадзяніна, сапраўды адданага сына свайго народа, якога і ў гады грамадскіх адліг улады баяліся, бадай, больш, чым Васіля Быкава. Ці так ужо шмат кніг у 70 – 80 гады чакалі выйсця ў свет ажно… дваццаць гадоў, як гэта было з раманам “Камень з гары”, які быў напісаны ў 1969 годзе, а ў свет выйшаў… у 1990 годзе. На наступны год дайшла, у рэшце рэшт, да свайго чытача аповесць “Кожны чацвёрты”. А калі ж ён дачакаецца рамана “Не прасі сваю долю”, які з 1994 года ў нашым тэматычным плане не пераносіцца кожны раз… на наступны год. Хоць і не ад цябе гэта залежыць, а на сэрцы – і самотна, і сорамна…**

**Думаю, што і многім іншым таксама проста няёмка пра гэта даведвацца.**

**Столькі гадоў працаваў ён у розных рэдакцыях і не стамляўся ў нашых беларускіх “спецыфічных” умовах рабіць, бадай, самае святое для нашай культуры, для нашай будучыні – выпускаў у свет многіх творцаў. Хай не ўсе яны сталі Творцамі. Але калі і не так ужо многа вырасла ў сапраўдных, ён мае права ганарыцца…**

**З якім здзіўленнем, шкадаваннем і горыччу слухаў я на нашым нядаўнім “мікраз'ездзе” пісьменнікаў аднаго – што тут казаць, сапраўднага – пісьменніка, якога “трывожыць непамерны рост нашай арганізацыі”, да чаго, зрэшты, шмат апошніх гадоў маю самае блізкае дачы-**





Думаю, што з'езд асудзіць гэты ганебны ўчынак, а нашы кіраўнікі рэспублікі зробяць усё, каб такое не паўтарылася.

Уладзімір Ільіч Ленін адкрыта і ясна патрабаваў нацыянальнага раўнапраўя і яго палажэнні сфармуляваў у трох пунктах:

1) Забеспячэнне роўных умоў развіцця ўсіх нацый, роўнага права карыстацца роднай мовай, мець нацыянальныя школы і г.д.

2) Забеспячэнне такога дэмакратычнага ладу, пры якім не ўцiскаліся б у правах нацыянальныя меншасці.

3) Свабоднае развіццё палітычнага жыцця, эканомікі і культуры ўсіх нацый і народнасцей.

Праз збліжэнне нацый – да іх росквіту, праз росквіт – да збліжэння. Збліжэнне нацый – працэс працяглы, і яны захаваюцца яшчэ доўга. Ленін назваў “недарэчнай марай” думку пра знішчэнне нацыянальных адрозненняў у перыяд перамогі сацыялізму ў адной краіне. З перамогай сацыялізму колькасць моў не зменшыцца, а, наадварот, яны свабодна развіваюцца на базе ўласнай пісьменнасці і літаратуры…

Сёння, калі мы вяртаемся да ленінскіх нормаў ва ўсіх сферах нашага жыцця, думаю, што і ў нацыянальным пытанні мы вернемся да ленінскіх палажэнняў аб роўнасці нацый і аб спыненні ўсякага ўшчамлення адной нацыі другою.

Як сказаў рускі празаік Анатоль Злобін, “Мы старались решать проблемы по старой схеме – методом замалчивания. Загоняли проблему внутрь – а вдруг рассосется? Нет, не рассосется, самим придется решать, не перекладывая на плечи внуков”.

Нашы беларускія пісьменнікі на чале з незабыўным Уладзімірам Караткевічам ужо шмат гадоў штурмуюць цвярдыню нашай цікавай і багатай гісторыі. Яны ідуць, можна сказаць, па цаліку, яны самі сабе пракладваюць дарогу ў невядомае. А нашы гісторыкі, як ужо нешта зроблена, выходзяць і глядзяць у бінокль, дзе скрыўлена, дзе не туды пайшло. І шмат што знаходзяць.

Таварышы беларускія гісторыкі! Дзе ваш сапраўды новы, з новых, навуковых пазіцый напісаны падручнік па гісторыі Беларусі для нашых школ, без якога мы не можам скрануцца з месца, як першакласнік без буквара? Няўжо вы лічыце, што падручнік Абэцэдарскага, які састарэў маральна і навукова яшчэ да свайго першага выдання, – гэта і ёсць тое, што павінны чытаць нашы дзеці? Ці мо вы лічыце яго апошнім словам у беларускай навуцы? Ды яго немагчыма чытаць без абурэння! Там усё або спрошчана, або замоўчана, або сфальсіфікавана і не адпавядае гістарычнай праўдзе. Там сапраўднай навукай і не пахне. Дык ці можа такі падручнік выхаваць у вучня добрыя патрыятычныя пачуцці да свае гісторыі, да свайго краю і народа? Хіба абудзіць ён нацыянальную гордасць, якая ёсць ва ўсіх народаў, толькі ў нас яна засталася

**ненне і я як член Прыёмнай камісіі.**

**Божа ты наш, Божа! Нам бы радавацца, што, нягледзячы ні на што, у нас яшчэ ёсць ахвярнікі на такую неспрыяльную ў наш час дзейнасць на карысць Радзімы! Чым больш іх будзе, тым больш мы зможам спадзявацца і “на гуманны лад у жыцці” і “беларускасць як у боскіх святынях, так і ў дзяржаўных структурах”.**

**Колькі ж нас, розных па сіле таленту, па колькасці і якасці зробленага ўдзячны такім людзям, як Уладзімір Максімавіч…**

**Давайце ж і цяпер старацца быць такімі, якімі былі яны. Радавацца таму, што з'яўляецца чалавек хоць з кропелькай таленту. Хіба ж не лягчэй нам будзе ратавацца, змагацца, адраджацца, выжываць?..**

**Тут я не змагу зрабіць нейкі грунтоўны і доказны аналіз плённае творчае працы Уладзіміра Дамашэвіча.**

**Не буду і адмаўляцца ад тых, відаць, не надта прыемных слоў, якімі “аддзячыў” яму праз сем гадоў за тую першую сваю публікацыю артыкула “Прага сінтэзу”.**

**Але ж!.. Хіба ж няпраўда, што ў любым творы ( у рамане, у навеле, у дакументальнай аповесці, у аповесці-хроніцы) самае галоўнае – “гэта аўтар, яго голас, той эмацыянальны тон апавядання, які ўсё счапляе ў творы ў адзінае цэлае, стварае сваю, непаўторную атмасферу твора. Устанавіць душэўны кантакт з чытачом, захапіць яго, настроіць на сваю хвалю, павесці за сабою – галоўны клопат пісьменніка. Думаецца, дарэмна У. Дамашэвіч узяў за аснову апавядання бясстрасна-аб'ектыўны тон хранікёра. Гэты тон расказчыка-інфарматара расхалоджвае чытача, робіць яго сузіральнікам, аддаленым ад падзей, хоць падзеі гэтыя пададзены праўдзіва…”**

неразбуджанай? Наадварот, такі падручнік можа толькі адштурхнуць ад прадмета. Да таго ж ён выдаецца – вось ужо хутка дваццаць год – па-руску. На беларускай мове – для вёскі – 17 тыс. экз. І наша Міністэрства асветы лічыць гэта нармальным: гісторыю Беларусі беларускія дзеці ў горадзе чытаюць нават не на роднай мове. Вось адкуль пачынаецца наш патрыятызм наадварот, вось адкуль у нас ідзе пагарда да свайго ўласнага. да гісторыі, да радзімы, да свайго народа і мовы.

Рускі мастак Віктар Васняцоў аднойчы сказаў, што "Плох тот народ, который не помнит, не ценит и не любит своей истории"

Нам трэба з усёй сур'ёзнасцю перагледзець сістэму нашага выхавання, сістэму асветы і адукацыі, каб мы змаглі выхоўваць свядомых членаў нашага грамадства, каб яны ведалі, чые яны сыны і дочкі, каб яны паважалі і любілі сваю гісторыю, свой народ і яго мову. Ад гэтага наша Савецкая дзяржава толькі выйграе, яна будзе яшчэ мацнейшай. Бо моцная толькі свядомая, шчырая, адкрытая дружба.

Культура народа можа развівацца толькі на яго роднай мове, інакш усё ператвараецца ў сваю процілегласць. Вось толькі два прыклады. Дастаеўскі выйшаў з беларусаў, а стаў вялікім рускім пісьменнікам. Адам Міцкевіч стаў нацыянальным геніем Польшчы. І яшчэ адзін прыклад – у нашу карысць: яўрэй Самуіл Плаўнік стаў беларускім пісьменнікам Змітраком Бядулем. Такімі іх зрабіла мова, а не нацыянальная прыналежнасць.

Аб гэтым лёгка гаварыць, але калі ўдумацца, якія вялікія страты мы мелі праз цэлыя стагоддзі, то яшчэ дзіўна, як мы дагэтуль жывём – і не бяднеем, а ўсё багацеем. І мы будзем мець яшчэ больш, калі нашы міністэрствы асветы і культуры будуць гаварыць са сваім народам на яго роднай мове. Інакш яны мала і вельмі мала зробяць для свае нацыі.

Ад нас з вамі залежыць, каб мы не згубіліся, не растварыліся, не асіміляваліся, а каб, як алмаз са сваімі яму аднаму ўласцівымі гранямі, засталіся са сваёй мовай, культурай, непаўторнай душой.

Літаратура – гэта памяць народа, памяць аб самім сабе, аб сваіх продках, звычаях і памкненнях самога народа, запісаная яго моваю.

Культура – твар народа, яго душа. Як на твары чалавека відно самае нязначнае адхіленне ад нормы – нейкая сказінка, дробны прышч, – так на культуры народа відны ўсе яго радзімыя плямы, усе зігзагі гісторыі, цяжкія і шчаслівыя часы.

За нявыхаванасць дзяцей нясуць адказнасць бацькі, за некультурнасць народа адказвае ўрад, дзяржава, перш за ўсё Міністэрства асветы і Міністэрства культуры.

Культура, літаратура не могуць даваць чыстага фінансавага прыбытку, як не дае яго сонца, аднак жа без яго нішто не мае ніякай цаны.



# Выступленне на Пленуме СП БССР у красавіку 1987 г.

Пытанне самае першае па важнасці – пра нашу мову, пра яе лёс. А фактычна і пра наш з вамі лёс. Будзе мова – будзем мы Пытанне стаіць толькі так, і не трэба дарэмна змяншаць яго вастрыню, бо мы так змяншалі і не заўважалі яго сорак гадоў, што вось урэшце ўбачылі: мы дайшлі да абрыву, за якім – небыццё, немата.

І калі наша грамадскасць, у першую чаргу творчая інтэлігенцыя, узняла голас за абарону канстытуцыйных правоў свайго народа і яго мовы, калі штотыднёвік "ЛіМ" разгарнуў шырокую зацікаўленую гаворку вакол праблемы мовы, калі шмат хто з дасведчаных вучоных, грамадскіх і культурных дзеячаў выступілі з пераканаўчымі доказамі, што нашай мове пагражае канчатковая асіміляцыя, нашы дзяржаўныя органы, ад якіх залежаў і залежыць далейшы лёс нашай мовы, захоўвалі і захоўваюць алімпійскі спакой. Міністэрства асветы выступіла два разы з адпіскамі, інакш нельга і назваць агульныя, цьмяныя тлумачэнні Круглея і трохі пазней яшчэ аднаго прадстаўніка Міністэрства асветы. Па ўсім іх тоне адчуваецца, што яны не лічаць сябе вінаватымі ў такой сітуацыі, больш таго, яны лічаць, што яна нармальная. Тады дазвольце спытаць: а што тады лічыць ненармальным? Мо тое, што пры Леніне кожная рэспубліка мела сваю дзяржаўную мову, што кожны народ гаварыў і карыстаўся роднай мовай як і належыць карыстацца паўнапраўнай рэспубліцы, роўнай сярод роўных? Што ўрад кожнай рэспублікі гаварыў са сваім народам на яго роднай мове, як гэта і належыць быць у суверэннай дзяржаве?

Нам кажуць што народ сам адракаецца ад свае роднае мовы. А хто яго такім зрабіў, хто зацямніў яго светлы розум, што ён ужо самую сваю вялікую каштоўнасць не лічыць за каштоўнасць? Гэта зрабілі нашы псеўдаасветнікі і псеўдавучоныя, якія паўтаралі словы з чужога голасу і спакойна нажывалі палітычны капітал.

Вось чаму гэтыя псеўдаасветнікі і псеўдавучоныя так ненавідзелі Уладзіміра Караткевіча, бо ён гаварыў ім у вочы пра іх псеўдавучонасць, пра іх грамадзянскую беспрынцыпнасць – пра тое, што яны фальсіфікуюць і падрабляюць гісторыю нашага народа, паказваюць яго няздольным пастаяць за сябе, цёмным і забітым.

Я лічу, што пакуль мы не пазбавімся ад такіх гора-вучоных, асветнікаў, то пра ніякую перабудову не можа быць і гутаркі. У іх свой стэрэатып думкі, і яны яго на новы не пераменяць.

Нам кажуць, што ўсё рабілася на аснове "волеизъявления" народа. Але ці быў у нас рэферэндум па гэтым важным пытанні, як гэта запісана ў Канстытуцыі БССР?

---

**Але ж любая самая праўдзівая падзея, гісторыя павінна стаць адкрыццём новага арыгінальнага мастацкага характару...**

**Іншая рэч, што, хоць і называў ён сам сябе "бытавіком-эмпірыкам", у самай глыбіні душы ён – рамантык і паэт.**

**І якая проза нараджалася!.. Якое майстэрства слова, якая мелодыка, якая яркая жыццёвая дакладнасць.**

**І праз дваццаць гадоў не магу забыць проста выдатны па сваёй пластыцы, музыцы, псіхалагічнай праўдзе эпізод – Глеб Клімёнак аб'язджае свайго каня:**

**"Варта было на секунду аслабіць повад, як конь ужо адчуў гэта... Ён нібы танцаваў са звязанымі заднімі і пярэднімі нагамі: то пярэднія ногі дакраналіся зямлі, то задція, галава то ўзлятала ўгору, то амаль што дакраналася да зямлі. Але Клімёнак, сабраўшы ўсе свае сілы і ўменне, трымаўся. Раззлаваны няўдачаю, жарабец зусім азвярэў. Ён свечкай узвіўся ўгору, стаў на заднія ногі, і Клімёнак адчуў, што яшчэ секунда – і яны разам заваляцца за спіну, грымнуцца на зямлю. Мароз прабег у яго па скуры. Ён на момант скінуў павады і абхапіў каня за потную гарачую шыю. Густая грыва засланіла яму вочы, і ён зажмурыўся, ужо гатовы да самага горшага. "Мне канцы" – прамільгнула ў яго галаве, і ад шалёнай роспачы ўдарыў каню па храпе. Той перастаў завальвацца назад, патанцаваў яшчэ на задніх нагах і стаў, як бы не ведаючы, што ж далей рабіць, нібы расстраціўшы ўвесь запас сваіх фокусаў".**

**Пабольш бы нам такое прозы!..**

**"Просты і шчыры ў кожным слове", – сказаў пра яго на самым пачатку творчасці Уладзімір Караткевіч. Гэтую фразу я паставіў загалоўкам да свайго артыкула да 50-гадовага юбілею Уладзіміра Максімавіча. "Просты і шчыры" – так назваў праз сем гадоў свой артыкул Алег Лойка. Сапраўды такой прастаты і шчырасці не так ужо і шмат сярод нашага брата. Але толькі гэтага яшчэ мала для высокага мастацтва прозы.**

**У лепшых яго творах, на многіх і многіх старонках ёсць і вялікія думкі, і маштабнасць аўтарскага мыслення. Ну і вядома ж – усё тое ж вельмі добрае сэрца, спагадлівая, далікатная і мяккая душа...**

**І што найбольш у ім уражвае і ўзвышае, дык гэта яго нічым нязломная святая вера ў свой народ.**

**Прыгадваецца яго выступленне на X з'ездзе нашага СП 18 мая 1990 года – "Ці маем мы будучыню?"**

**Колькі тут невыноснага болю і аднначаснай нязломнай веры ў свой народ: "Чарнобыль нанёс нам, беларусам, такі ўдар, якога мы не атрымалі нават у мінулую вайну".**

**І колькі яшчэ такіх страшных праяў нашага жыцця!..**

**Але заканчваў ён сваё выступленне вось як: "Але гэта ўжо дробязі ў параўнанні з тым значным якасным зрухам, які адбыўся ў свядомасці беларускага народа, нашага грамадства – што наданне беларускай мове статуса дзяржаўнасці верне яе да жыцця, верне будучыню беларускага народа".**

**А што ж сказаць сёння?..**

**І на нядаўнім з'ездзе Уладзімір Дамашэвіч выказвае спадзяванне на тое, што мова, культура Беларусі ўсё роўна адродзяцца – як адраджаецца трава там, дзе з зямлі прыбіраюць каменную пліту.**

**Яшчэ раз паўтараю: "Хай бы больш было сярод нас такіх "наіўных", самаахвярных, высакародных людзей!..**

**Генадзь ШУПЕНЬКА**

Ніколі не было. Мы ўсе гэта ведаем. Напрыклад, у 44-м годзе я пайшоў вучыцца ў Клецкую сярэднюю школу. Яна была руская. Праз некалькі год адкрылася яшчэ адна сярэдняя школа – таксама руская. Хто спытаўся ў мяне, у маіх бацькоў, у нас усіх, жыхароў раёна, на якой мове адкрываць школу? Ніхто не пытаўся.

Хто спытаўся ў народа, у народнай інтэлігенцыі, калі пачаўся пагалоўны перавод беларускіх школ на рускія ў гарадах рэспублікі? Ніхто, ніколі. Рабілася гэта ціха, без ніякага афішыравання.

I як цяпер высвятляецца, праводзіла гэтую антыдзяржаўную акцыю не Міністэрства асветы, а раённыя саветы дэпутатаў працоўных, якія па закону на тое і выбраны, каб ахоўваць нашы канстытуцыйныя правы ад усякіх скрыўленняў. Як гэта зразумець? I чаму Міністэрства асветы маўчала, бачачы такое ўмяшанне ў яго сферу дзейнасці? Чаму яно не біла трывогі? Значыць, было згодна?

Нам гавораць, што народ сам адракаецца ад свае мовы. А чаму, напрыклад, старшыня калгаса Бядуля ці той жа Старавойтаў гаворыць са сваімі людзьмі па-руску? Бо яны бачаць, што першы сакратар ЦК, Старшыня Савета Міністраў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР гавораць толькі па-руску. Значыць, так трэба, значыць, рабі так, як яны. Вось у чым увесь невялікі сакрэт.

Простыя людзі так і кажуць: а чаму нашы кіраўнікі гавораць з намі па-руску? Навошта тады мне мая родная мова, калі яна нідзе не патрэбна? Яна ж не ўжываецца нават ні ў адной мізэрнай канцылярыі.

Слоўнікі, энцыклапедыі, якімі апелююць цяпер як доказамі нашага культурнага прагрэсу, – гэта макулатура, іх будуць чытаць мышы і пацукі, а нашы сучаснікі – моладзь – будзе ўжо чытаць "Советскую Белоруссию" па-руску. Але не будзем забываць, што Савецкая Беларусь па-руску – гэта ўжо не Савецкая Беларусь, гэта ўжо нават не Беларусь увогуле, гэта ўжо Северо-Западный край. Савецкая Беларусь без роднае мовы – фармальнае, нежывое ўтварэнне. I ўдыхнуць жыццё ў гэтае ўтварэнне можа толькі родная мова. Бо ёсць мова – ёсць і народ. Няма мовы – няма народа.

Мала людзьмі звацца, трэба быць людзьмі.

Многія нашы работнікі культурнага фронту ўжо не ведаюць свае роднае мовы, і яна ім непатрэбна, яны зрабілі сабе кар'еру і без яе.

Дык хіба згодзяцца яны цяпер, на старасці год, вывучаць родную мову? Ды яны знойдуць сто параграфаў і дакажуць, што не трэба ніякага вывучэння, што добра так, як ёсць, а іначай і быць не можа.

Навошта ім лішні клопат з перабудовай?

Вось чаму так упарта маўчаць нашы адказныя асобы, ад якіх мы чакаем рашучай перабудовы.

# ГОДНАСЦЬ

Некалі ў 1964 г. аўтабіяграфію "Кавалак нялёгкай дарогі" У. Дамашэвіч пачаў такімі вось словамі: "Я ўжо ў такім узросце, калі не шкодзіць азірнуцца назад, падумаць, куды ідзеш, што зрабіў, ці так жыў, як трэба. Мне ўжо хутка 37 год. Добры кавалак дарогі адмераў я, і дарогі нялёгкай, а вось зрабіў карыснага мала і дакараю сябе за гэта кожны раз, як толькі азірнуся назад. Трэба спяшацца!" Тады словы "я ўжо ў такім узросце" недзе выклікалі ўсмешку. Тым больш, што Дамашэвіч і ў тыя гады, і ў пазнейшыя сваёй творчасцю, сваімі паводзінамі ў жыцці літаратурным успрымаўся некалькі маладзейшым за свой рэальны ўзрост.

Але...

Прайшлі гады. Гады немалыя. Зусім нядаўна Уладзімір Дамашэвіч адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе. I вось менавіта гэтая юбілейная дата прымушае аднесціся да колішніх ягоных слоў без усялякай усмешкі, аднесціся вельмі сур'ёзна і з вялікай павагай. Ды не сама па сабе юбілейная дата. А яго літаратурны набытак, прыдбаны за мінулыя гады, прынцыповасць, сумленнасць ягонай грамадзянска-літаратурнай і твор-





Наша газета "Звязда" нават не закранула пытання па праблеме роднай мовы, а рэдактар яе т. Макаловіч на з'ездзе журналістаў крытыкаваў "ЛіМ" за яго справядлівы голас у абарону законных правоў беларускага народа на сваю мову.

Затое "Звязда" змясціла вялікі артыкул мовазнаўцы Бірылы пад гучнай назвай "Роўная сярод роўных" – пра нашу мову. Але ўся бяда ў тым, што вучоны так і не змог даказаць свайго тэзіса, бо даказаць яго ў цяперашні час немагчыма: няма доказаў.

Што значыць мове быць роўнай сярод роўных? Гэта значыць, што наша мова павінна быць у нас дзяржаўнай, што на ёй павінна весціся справаводства, што школа – сярэдняя і вышэйшая – таксама павінна быць беларускай, урэшце – што ўрад рэспублікі павінен гаварыць на беларускай мове. А ў нас гэтага нічога няма.

Дык якая ж гэта роўнасць, калі параўнаць нашу так званую роўнасць з роўнасцю Расіі, Украіны, Грузіі, Літвы, Латвіі і г.д., дзе ўсё гэта ёсць? Роўнасці ў нас няма.

Ёсць у нас грамадская думка ці не? I хто яе робіць? Каму верыць? Ці народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву, які кажа, што калі справа з мовай не зменіцца ў лепшы бок, то хутка мы не будзем мець не толькі чытачоў, але і пісьменнікаў, і нават сваіх мовазнаўцаў – ім не будзе чаго рабіць – мовы не будзе; ці прафесару Халмагораву, які ў "Коммунисте Белоруссии" галаслоўна сцвярджае, што праблемы з беларускай мовай няма.

Ці верыць Васілю Быкаву, які піша на роднай мове, думае на ёй, не сумняваюся, любіць яе і перажывае за яе будучыню, ці прафесару, які яе не ведае, які на ёй не гаворыць і, натуральна, абыякавы да яе лёсу?

У словы пра былы і цяперашні росквіт беларускай мовы я паверу толькі тады, калі "Коммунист Белоруссии" будзе звяртацца да нас па-беларуску, калі ён стане падручнікам, па якім беларускія камуністы будуць вывучаць сваю родную мову.

Быў нядаўна сведкам цікавага эпізоду ў скверы Янкі Купалы, ля помніка Купалу. Там, ля падножжа помніка, стаяла група экскурсантаў, нашых беларускіх дзяўчат з раёна, і ім расказваў пра Янку Купалу малады экскурсавод. На якой жа мове? – і мяне пацягнула бліжэй. Я яшчэ сумняваўся – ён гаварыў ім па-руску.

Большай абразы нацыянальных пачуццяў беларуса нельга і прыдумаць. Але горш за ўсё тое, што яны, і экскурсавод, і дзяўчаты, гэтага зусім не адчувалі, ім здавалася ўсё натуральным: у горадзе з імі гавораць па-гарадскому.

Вось якое мы выхавалі пакаленне – і не адно, вось як мы яго адукавалі – што яно ўжо сябе поўнасцю страціла. Нехта можа сказаць: дык гэта ж тое, да чаго мы імкнуліся ўсе сорак год пасля вайны.

Не, мы не імкнуліся, нас вялі да гэтага, вялі пад рознымі лозунгамі, далёкімі ад інтэрнацыянальных.

чай пазіцыі, што так ярка выявіліся ў гады перабудовы і асабліва напярэдадні яе, нарэшце, ягоная вялікая душэўнасць і сапраўдны высокі прафесіяналізм у выхаванні маладых літаратараў. Сёння, напэўна, можна сцвярджаць, што Дамашэвіч грамадзянін і чалавек зацямняе ў нечым пісьменніка. Асабліва ва ўспрыманні творчай моладзі. Але гэта ні ў якой ступені не павінна зніжаць каштоўнасць зробленага ім у прозе. Проста здарылася так, што ў складаныя для краіны гады ягоныя літаратурна-грамадскія паводзіны аказаліся вельмі блізкія народнаму нацыянальнаму светаадчуванню, адэкватныя нейкім глыбінным тэктанічным зрухам у духоўнай сферы нашай зямлі, зрухам, небяспечным для яе самабытнага існавання. Дамашэвіч шчыра, адкрыта, на ўвесь голас, сказаў пра свае адчуванні, пра сваё разуменне сітуацыі, якая склалася з бытаваннем беларускай мовы, наогул у існаванні нацыі. I не было тут ніякай кан'юнктуры, ніякай гульні ў палітыку. Бо гаварылася пра самае істотнае, самае глыбіннае і асноватворнае. Таму зусім зразумела, што *такі* голас, што прамаўляў пра *такія* рэчы і ў *такі* час, не мог быць не пачуты. I ён быў пачуты адразу. Пачуты і ўспрыняты надоўга. Найперш і галоўным чынам моладдзю. I ўжо сёння, калі зноў вярнуліся далёка не лепшыя часы для беларушчыны, для існавання (а не проста функцыяніравання, ужытку) беларускай мовы, развіцця нацыянальнай беларускай культуры, гаворанае не так ужо і даўно Дама-

Беларусы добра ведаюць рускую мову, гэтаму сапраўды трэба радавацца. Але трэба каб і тыя, што жывуць у Беларусі, гэтак жа добра ведалі беларускую. Толькі на такой аснове можа быць дружба. Не трэба даводзіць толькі справу да абсурду, каб, захапіўшыся рускаю мовай, мы не забыліся на сваю, родную, інакш мы не народ, не нацыя, а насельніцтва.

Мы маем голас у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дык чаму мы трацім яго дома, на роднай зямлі?

З гэтым немагчыма змірыцца, бо мы станем злачынцамі – мы адбіраем голас – мову – у сваіх дзяцей, унукаў. Будучыня нам гэтага не даруе.

На хвалі перабудовы мы павінны павярнуцца тварам да свае мовы, да культуры, гісторыі, каб у камунізм мы прыйшлі не жабракамі, разгубіўшы па дарозе ўсе свае нацыянальныя скарбы, і першы сярод іх – нашу мову.

Эпоха валюнтарызму з імперскімі замашкамі прайшла, мы вяртаемся да ленінскіх нормаў ва ўсіх сферах нашага жыцця. Будзем жа будаваць нашу дружбу між рэспублікамі на прынцыпах праўды і справядлівасці. Толькі тады яна будзе моцная І толькі тады мы будзем застрахаваны ад такіх недарэчных перагібаў, якія мы назіраем сёння ў Беларусі ў пытаннях нацыянальнай культуры.

Даруйце, я нагаварыў шмат агульных фраз. Я не хаваўся за цытаты, іх няцяжка сабраць, але яны, мне здаецца, нікога не ратуюць, нічога не мяняюць. Мы да іх пачынаем прывыкаць.

У мяне ёсць тры канкрэтныя прапановы. Але, перш чым да іх перайсці, дазвольце маленькае адступленне.

Нядаўна ў Саюз пісьменнікаў мы прынялі ціхага і сціплага чалавека. Ён не шмат напісаў, нідзе ніколі не выступаў, не выказваў сваіх думак і поглядаў. Але мы, пісьменнікі, журналісты, мастакі не раз адчувалі на сабе яго жорсткую і цвёрдую руку: або яна выкрэслівала чыё-небудзь прозвішча з выдавецкага плана ці са спісаў на ўзнагароду, выкідала з паездкі за мяжу, падпісвала вымову або загад на звальненне з работы, давала згоду на забарону якога-небудзь імені ў беларускай літаратуры ці падпісвала загад на знос гістарычнага помніка або на закрыццё апошняй беларускай школы.

Не раз яго жалезны голас і крык даводзіў да інфаркту нават некаторых народных нашых пісьменнікаў, не кажучы ўжо пра ніжэйшых рангам.

Вось такі строгі і верны быў памочнік з нашых беларускіх валюнтарыстаў, якія трымалі цвёрды курс на адрачэнне ад роднай мовы. На сваёй пасадзе застаецца ён і цяпер. Яму мы абавязаны тым, што наша моладзь не ведае, хто яна і дзе яе карані. . Мо ён лічыць, што ён ужо перабудаваўся і гатоў праводзіць новую лінію –

---

**шэвічам і ўспрынятае душою ўсіх тых, хто яго слухаў і чуў, не дае памерці надзеі, мацуе веру: Беларусь жыве, Беларусь будзе жыць.**

**Веданне і разуменне такога Дамашэвіча – незалежна ад нашага жадання – абавязкова ў нейкай ступені ўплывае на наша ўспрыманне і нашу ацэнку ягонай творчасці. Логіка тут простая: шчодрай душы чалавек, выдатны працаўнік, бескампрамісны змагар за родную мову, за нацыянальную культуру, – ён ніяк не можа быць дрэнным, нават проста слабым пісьменнікам. Чытач, звычайны чытач, сёння чытае творы Дамашэвіча, ужо да гэтага добра ведаючы яго як грамадзяніна і як чалавека. Хочам мы таго ці не, але твор ужо чытаецца не сам па сабе, але абавязкова суадносіцца са створаным грамадскай думкай вобразам аўтара. Больш таго, дзесьці неўсвядомлена да яго падцягваецца. Зразумела, гэта – як тэндэнцыя. Бо, урэшце, творчасць любога пісьменніка заўсёды ацэньвае і канкрэтны чытач, і час. Прычым яшчэ невядома, чый голас у большай ступені з'яўляецца вырашальным. А тым больш, калі ў гэтым часе непасрэдна прысутнічае сам аўтар.**

**Уладзімір Дамашэвіч піша і друкуецца даўно: першае апавяданне было надрукавана ў 1958 г. У пазнейшыя гады былі напісаны новыя апавяданні, нарысы, рэцэнзіі, аповесці, раманы. Выходзілі кнігі прозы, даволі часта з нейкімі выдавецкімі ўскладненнямі, з затрымкамі, бывала, на многа гадоў. Але ж выходзілі...**

**Творчасць пісьменніка не**





уваскрашаць забітае і забытае? Я ў гэта не веру. Я лічу, што калі ён і далей застанецца на сваёй пасадзе, то пра ніякую перабудову ў лепшы бок у пытаннях культуры не можа быць і гутаркі.

І вось мая першая і канкрэтная прапанова. Наш пленум – дэлегаты пленума – павінен звярнуцца ў дырэктыўныя органы з настойліваю просьбай зняць з цяперашняй пасады загадчыка аддзела культуры* Савелія Паўлава.

Калі б сёння быў не канец 20-га стагоддзя, а канец 19-га, кажу шчыра, што я выклікаў бы вас, Савелій Паўлаў, на дуэль за вашу "дзейнасць" на ніве беларускай культуры, але павінен задавальняцца толькі крытыкай знізу Вы зверху можаце яшчэ зняць мяне з работы, але, думаю, што і вас таксама здымуць.

Прапанова другая.

Усе мы ведаем і любім нашага народнага пісьменніка Якуба Коласа. Усе мы ведаем, што ў апошні дзень свайго жыцця ён хадзіў на прыём у ЦК з лістом па пытаннях культуры і мовы. Яго, народнага пісьменніка Беларусі, не мог прыняць па гэтым пытанні сакратар ЦК, у яго былі, бачыце, больш важныя клопаты. Якуб Колас цярпліва чакаў некалькі гадзін і так і не дачакаўся прыёму. А прыйшоўшы дадому, ён у той жа дзень памёр. Думаю, што ў наш час Гарбунова можна было б судзіць за забойства народнага пісьменніка Якуба Коласа, але тады ніхто і не падумаў яго вінаваціць. З таго часу прайшло шмат гадоў. Ліст Якуба Коласа ляжыць недзе ў архівах ЦК ці яшчэ дзе. Думаю, што настаў час апублікаваць гэты ліст у нашым "ЛіМе", думаю, што ён якраз будзе дарэчы, там выказаны той жа клопат пра нашу мову, пра літаратуру, пра наша будучае, – пра ўсё тое, што турбуе цяпер нас. І мы ўбачым, які Якуб Колас быў прарок і як яму не давалі сказаць праўды беларускія валюнтарысты-шавіністы

Я прапаную, каб наш пленум звярнуўся ў дырэктыўныя органы з просьбай – знайсці ліст і надрукаваць яго ў бліжэйшы час. Справядлівасць гэтага патрабуе. І адкладваць далей немагчыма – гэта будзе азначаць, што мы не хочам перабудовы і мы да яе не гатовы.

Прапанова трэцяя.

Не ведаю нават, з чаго пачаць. А мо трэба проста браць быка за рогі? Хай так і будзе. Можа я скажу і рэзка, але даруйце.

Урад, які не гаворыць са сваім народам на яго роднай мове, успрымаецца як нешта штучнае, нетутэйшае, прывезенае здалёк: такі ўрад чужы народу, ён не можа выражаць волю і памкненні народа, у сілу свае моўнае адарванасці ад народа не можа спрыяць развіццю нацыянальнай культуры, а наадварот – тармозіць гэтае развіццё, як гэта мы бачылі і бачым у нас, у Беларусі.

---

* Тут памылка. Аддзела агітацыі і прапаганды *(аўтар)*.

---

**была абдзелена ні ўвагай чытача, ні крытыкі. Многія творы, у прыватнасці, апавяданні "Сівы конік", "Першая група крыві", "Паядынак сярод жыта", аповесці "Між двух агнёў", "Німфа", "Кожны чацвёрты", раман "Камень з гары", былі сустрэты зноў жа і чытачом, і крытыкай даволі прыхільна і ацэнены досыць высока. Прыхільныя адносіны і высокія станоўчыя ацэнкі захаваліся і па сённяшні дзень; лепшыя творы занялі сваё трывалае месца ў набытку нашай літаратуры.**

**У Дамашэвіча, у ягонай творчасці, у адрозненне ад многіх іншых пісьменнікаў, мы не ўбачым пастаяннай геаграфічнай прымацаванасці да аднаго і таго ж кутка зямлі, прывязанасці да толькі адной жыццёвай сферы, распрацоўкі якогасьці вузкага кола тэмаў і засяроджанасці на праблемах аднаго глыбіннага зместу, не ўбачым засяроджанасці на распрацоўцы блізкіх сваёй глыбіннай сутнасцю характараў. Ва ўсіх гэтых момантах творчасці пісьменнік якраз багаты і разнастайны.**

**І ўсё ж пры ўсёй разнастайнасці жыццёвага матэрыялу заўважаецца нейкая ўнутрана больш глыбокая асабістая аўтарава далучанасць да жыццёвых гісторый, фактаў і падзей, звязаных з мінулай вайной. Я лічу, што менавіта ў мастацкім спасціжэнні неабдымнай для літаратуры тэмы вайны ў творчасці Дамашэвіча відаць найбольш значныя дасягненні. Гэта невыпадкова. Бо менавіта матэрыял вайны (канфлікты, сітуацыі, учынкі, падзеі, узаемаадносіны) у найбольшай ступені дазваляе**

Цяпер такія словы каму-небудзь здадуцца крамольнымі, нацыяналістычнымі, але гэта таму, што мы забыліся – з ласкі нашых псеўдагісторыкаў – пра ленінскі перыяд у жыцці Савецкіх рэспублік, калі ўсе яны мелі сваю дзяржаўную мову – родную, а іх урады гаварылі са сваім народам на іх роднай мове. Гэта быў сапраўдны росквіт нацыянальнай культуры, але ён працягваўся не так доўга. 37-мы год усё гэта разбурыў, перайначыў, нацыянальныя кадры рэспублік былі знішчаны, была знішчана ленінская гвардыя. Гісторыю сталі перапісваць на вялікадзяржаўны лад. Мы не заўважылі нават, як страцілі самую вялікую заваёву рэвалюцыі – права на родную дзяржаўную мову. Наш урад стаў гаварыць са сваім народам па-руску, усе дзяржаўныя ўстановы, вучэбныя ўстановы за апошнія дзесяцігоддзі перайшлі на рускую мову. Беларуская мова стала лішняй.

Мая прапанова: наш пленум звяртаецца ў Вярхоўны Савет, у Савет Нацыянальнасцей, з просьбай, каб у нашай рэспубліцы былі адноўлены ленінскія нормы грамадскага жыцця: каб беларуская мова зноў стала дзяржаўнай, як і была, а каб наш беларускі ўрад гаварыў са сваім народам на яго роднай мове.

Нацыі ў нас роўныя, рэспублікі роўныя і павінны карыстацца роўнымі правамі – усе да адной, без выключэння. Савецкая Беларусь – суверэнная дзяржава, яна павінна мець усе атрыбуты дзяржаўнасці не толькі на паперы, але і ў жыцці, не толькі юрыдычна, але і фактычна. Інакш гэта будзе фікцыя, як было дагэтуль. Давайце будзем пачынаць перабудову з галоўнага.

## Выступленне на X з‘ездзе СП Беларусі 25.04.1990 г.

Ці маем мы будучыню? Над такім пытаннем задумваецца сёння кожны свядомы чалавек. Мы ўсе ўжо бачым, што нам пагражае экалагічная катастрофа. Вялікія гарады, перагружаныя прадпрыемствамі, што выплаўляюць метал, робяць машыны, прадукты нафтахіміі, якія патрабуюць шмат энергіі і вялікай масы чыстай вады і паветра, – гэтыя гарады пачынаюць сёння задыхацца: загазаванасць перавышае ўсякія магчымыя нормы!

Не застаецца абыякавай да экалагічных пераменаў і ўся жывая прырода: жывёлы, птушкі, насякомыя. Яны першыя становяцца ахвярамі нездаровых зрухаў. Кіты, дэльфіны, цюлені першыя падалі нам сігнал трывогі, нават бяды. Кіты сталі

**раскрыцца пісьменніку, адпавядае характару яго таленту.**

**У пераважнай большасці твораў У. Дамашэвіча можна заўважыць дзве выразна акрэсленыя асаблівасці ягоных мастакоўскіх адносін да рэчаіснасці: моцны давер да жыццёвай першаасновы і катэгарычнасць маральных ацэнак. І там, дзе ў творах узнаўляліся, адлюстроўваліся жыццёвыя гісторыі, багатыя на падзеі, прытым падзеі, у якіх характар мог раскрыцца ў сваёй сутнасці, там аўтарская катэгарычнасць, ягоны этычны максімалізм знаходзілі сваё рэальнае абгрунтаванне, не выклікалі пярэчання. Вельмі істотнае значэнне ў стварэнні мастацкай праўды мае ўзаемаадпаведнасць пазіцыі аўтара і рэальнай асновы. Для таго, каб пры такім мастацкім падыходзе да рэчаіснасці пазбегнуць схематызацыі сюжэту, спрашчэння характараў, паводзіны герояў, іхнія ўчынкі павінны мець рэальнае моцнае напаўненне, жыццёвае псіхалагічнае абгрунтаванне. Паўтоны, тонкія пераходы ў псіхалогіі персанажаў пісьменніку не дужа падуладныя. Тут пачынае адчувацца супярэчнасць з катэгарычнасцю маральных высноў.**

**Этычная пэўнасць і акрэсленасць дзеянняў і ўчынкаў персанажаў, выразнасць іхняга псіхалагічнага стану, выяўленага знешне, – вось гэта ў найбольшай ступені падуладна таленту У. Дамашэвіча. Тут ён па-сапраўднаму свабодны і моцны. Найбольш яркі прыклад – аповесць "Кожны чацвёрты".**

**Твор гэты – прынцыпова важная з‘ява ў беларускай лі-**





чародамі выкідвацца на бераг. Пра што гэта гаворыць? Што яны не могуць жыць у сваім асяроддзі – яно атручана. Ва ўсякім разе, яны нам выразна "сказалі", што пагроза забруджвання вісіць над сусветным акіянам. Пра гэта першы сігналіў планктон, але ён памірае моўчкі.

Які можа быць баланс, калі чалавек бярэ ў прыроды ўсё чыстае, а вяртае ёй усё забруджанае? Калі рэкі ператварыліся ў сцёкавыя канавы, то Сусветны акіян міжволі ператвараецца ў вялікі адстойнік нечыстот чалавечай дзейнасці. Прырода не паспявае самаачышчацца, яна задыхаецца таксама, як і чалавек.

Тэхнічны прагрэс на нашых вачах павароччваецца да нас сваім жорсткім бокам, робіцца згубным як для прыроды, так і для чалавека.

Што ж рабіць? Чалавецтва ў трывозе, грамадскасць абурана: няма чыстага паветра, не хапае звычайнае чыстае вады, расце колькасць захворванняў, звязаных з забруджваннем, з загазаванасцю навакольнага асяроддзя. Але што можа зрабіць грамадскасць? Яна можа толькі выйсці на вуліцы і плошчы і заявіць свой пратэст. Але вырашыць праблему можа толькі ўлада, якая мае сродкі і рэальныя магчымасці. Улада, дзяржава, тая самая, якая і спарадзіла гэтую самую вялікую праблему нашага часу – забруджванне. Гэта яна ў мэтах самаабароны ці нападу набудавала гіганцкія заводаў, якія вырабляюць самую сучасную тэхніку. Хіба ўсё гэта можна зрабіць без дыму і агню? Не, такога не бывае.

Падзел чалавецтва на дзве сістэмы ў 1917 годзе выклікаў небывалую па сваіх маштабах гонку ўзбраення. А ўсім вядома, што назапашаная зброя, боепрыпасы – небяспечны выбуховы матэрыял. Так узнікла другая сусветная вайна, якая за шэсць гадоў прынесла чалавецтву велізарныя страты: гінулі людзі, гінула прырода, гінулі гарады і вёскі.

Пасля надышоў доўгі перыяд "халоднай вайны", якая ў любы момант магла перарасці ў "гарачую". Яна патрабавала з абодвух бакоў каласальных сродкаў: на канвеер выходзілі ракеты з атамнымі боегалоўкамі, атамныя падводныя лодкі, стратэгічныя бамбавозы.

Захад быў шмат багацейшы за нас, ён мог смела адрэзаць ад свайго цывільнага пірага вялікі акраец на ваенныя патрэбы. Мы, каб не адстаць ад Захаду, эканомілі на хлебе надзённым. Пра здароўе чалавека, пра навакольнае асяроддзе не было часу і думаць.

Гонка ўзбраення з абодвух бакоў выклікала патрэбу ў рэсурсах, вымушала развіваць цяжкую індустрыю. Са страшэннай хуткасцю разрасталіся і без таго вялікія гарады, яшчэ больш заблытваючы клубок эканамічна-экалагічных праблемаў.

Нас цяпер хочуць пераканаць, што атамная энергія – наш добры сябра. Яна нам

**таратуры, вышэйшае, на сённяшні дзень, дасягненне ў творчасці пісьменніка. Так смела, сумленна, праўдзіва ўсю складанасць і супярэчлівасць партызанскай вайны як вайны, па сутнасці, грамадзянскай да Дамашэвіча (аповесць напісана ў 1977–1978 гг., асобнай кнігай выйшла ў 1991 г.) не паказваў ніхто. Стварыць такія псіхалагічна насычаныя, праўдзівыя характары, здолець перадаць проста фізічна адчувальна атмасферу часу, даць сціплыя, але такія выключна выразныя, яркія апісанні прыроды, здолець канкрэтнай гісторыі, прыватным падзеям і фактам надаць такі глыбокі абагульняючы сэнс Дамашэвічу не ўдавалася дасягнуць ні ў адным папярэднім творы. Відаць, у адносінах да гэтай аповесці можна гаварыць пра тое, што ў ёй найбольш арганічна выявілася прырода таленту пісьменніка, які адчуў унутраную патрэбу самой літаратуры падысці па-новаму да мастацкага асэнсавання трагічнага вопыту мінулай вайны.**

**Увогуле ж у асобе Дамашэвіча мы бачым шчаслівае паяднанне чалавечага і творчага лёсу, рэдкую духоўную цэласнасць. Творчасць ягоная, яе ідэі пацверджаны жыццём. Любоў да Радзімы, да людзей, сумленнасць, прынцыповасць, шчырасць заўсёды цаніліся і цэняцца высока і ў жыцці, і ў літаратуры.**

**Серафім АНДРАЮК**

патрэбна як паветра, толькі яна адна можа выратаваць нас ад энергетычнага голаду. Ці так гэта? Здаецца, што не. Бо атамная энергія была выклікана патрэбай гонкі ўзбраення, патрэбна была як важкі аргумент у спрэчцы дзвюх сістэм. Хіба выпрабаванні атамнай зброі выкліканы мірнымі патрэбамі? Колькі ўжо ўзарвана зарадаў з 45-га года? Ужо даўно больш за тысячу. Што яны далі чалавецтву, каб зменшыць яго штодзённыя патрэбы? Што яны прынеслі прыродзе, акрамя шкоды?

Так, цяпер атамныя выпрабаванні вядуцца пераважна пад зямлёй. Мы супакойваем самі сябе, што верагоднасць заражэння асяроддзя пры гэтым мінімальная. Але ўсё гэта ілюзіі, таму што радыяцыю мы захопліваем у сябе ў двары, каля калодзежа, з якога бяром ваду. Грунтавыя і падземныя воды вымыюць радыяцыю і прынясуць яе нашым унукам і праўнукам. Што скажуць тады пра нас нашы нашчадкі? Хіба мы не падобны на тых, што гавораць· пасля нас – хоць патоп?

Можа нават не праўнукам, а сабе мы рыхтуем нечаканы фінал. Больш як тысяча атамных зарадаў узарвана на зямлі! Хіба гэтага мала, каб атруціць усё жывое? А калі дадаць сюды Чарнобыль, сотні аварый на атамных станцыях, тысячы інцыдэнтаў з атамнай зброяй у паветры, на зямлі і на вадзе? Каля сотні ядзерных боегаловак і некалькі атамных рэактараў ляжаць на дне Сусветнага акіяна як міны замаруджанага дзеяння – пісала “Правда” за 13.06.89 г.

Вось хто такі наш сябра атамная энергія. Яна прыйшла ў наша жыццё як вынік безразважнай гонкі ўзбраення між дзвюма сістэмамі.

І калі гонка ўзбраення сканае, то ад яе распаду выдзеліцца такая маса энергіі, што яе хопіць чалавецтву на шмат мільёнаў гадоў мірнага жыцця.

Галоўны вораг чалавецтва і ўсяго жывога на зямлі – менавіта гонка ўзбраення. І калі яе не спыніць у бліжэйшы час, то новае стагоддзе стане апошнім у жыцці чалавецтва, стане заходам зямной цывілізацыі.

Калі экалагічны ці энергетычны крызіс у большай ці меншай меры характэрны для ўсёй чалавечай супольнасці, то ў нас, жыхароў Савецкага Саюза, ёсць яшчэ свае спецыфічныя праблемы, якія таксама патрабуюць свайго неадкладнага вырашэння.

Хто мы такія? Імперыя зла? Камуністычная імперыя? Ці мы ўсё ж Саюз суверэнных рэспублік, аб'яднаных пад адным сцягам, агульнаю ідэяй?

Пытанні таксама не новыя, і адказы на іх мы чулі самыя розныя. Былы прэзідэнт ЗША Рэйган адмовіўся ад сваіх слоў, што Савецкі Саюз – імперыя зла. Бо тады, калі ён так гаварыў, ва ўладзе быў яшчэ Брэжнеў, на яго клаўся цень Сталіна, і словы Рэйгана, якія выклікалі ў нас абурэнне, былі ў многім праўдзівыя.

Але апошнія пяць год перабудовы змянілі наш воблік, нашых людзей непазнавальна – хоць бы ў тым сэнсе, што мы перасталі сябе баяцца, перасталі сябе хваліць, сталі самакрытычныя, перасталі бязбожна лаяць капіталізм.

Мы на ўвесь голас загаварылі пра свае вялікія і малыя праблемы, не баючыся, што пра гэта скажуць за мяжой, не баючыся, што неба ад гэтага ўпадзе на зямлю. Мы робімся аб'ектыўнымі ў сваіх ацэнках, а гэта аснова для выздараўлення.

А што мы камуністычная імперыя, то тут таксама было шмат праўды. Пры Сталіне гэта была праўда на ўсе сто працэнтаў. Рэспублікі, якія пры Леніне мелі свой суверэнітэт, праз некалькі гадоў пасля смерці Леніна страцілі ўсе свае рэальныя правы, яны засталіся толькі на паперы. Былі бязлітасна знішчаны нацыянальныя кадры, рэспублікамі кіравалі прывазныя сакратары Дзяржаўная мова ў рэспубліках была заменена на рускую, а хто спрабаваў пратэставаць супраць гэтага, той аб'яўляўся нацыяналістам і ворагам народа.

Цяжкі і цярністы шлях прайшлі нашы рэспублікі – ад кароткага росквіту нацыянальных культур да заняпаду, да страты роднай мовы і іншых нацыянальных каштоўнасцей.

Цяпер распачаўся адваротны працэс: мы зноў ідзём на пад'ём. Мы яшчэ не набылі суверэннасці, самастойнасці. За гэта ідзе цяпер калі не барацьба, то пошук ісціны.





Моцны цэнтр не адразу аддасць свае правы слабым рэспублікам. Цэнтралізацыя і гігантаманія – вось дзве галоўныя апоры, на якія цэнтр апіраўся. Але гэтыя апоры не вечныя, яны з цягам часу ператвараюцца ў сваю процілегласць – як і тэхнічны прагрэс. Цэнтр нібы сапраўды баіцца, каб рэспублікі не сталі моцныя. Мо тады ў іх больш стане набываць сілу тэндэнцыя да раз'яднання, да аддзялення? Але навошта трымаць сілаю? Зрабіце так, каб кожная рэспубліка магла дыхаць вольна ў саюзных абдымках.

Возьмем Беларусь. З дваццаці сямі міністэрстваў у рэспубліцы дваццаць адно ў саюзна-рэспубліканскім падпарадкаванні, гэта значыць, яго тулава тут, а галава – у Маскве. І толькі шэсць, самых мізэрных, міністэрстваў, як мясцовай, тарфяной прамысловасці, камунальнай гаспадаркі, маюць рэспубліканскі статус.

А што мае для сябе рэспубліка з таго, што яна вырабляе, што гадуе? "Не той гаспадар, што вырабляе, а той, хто размяркоўвае", – справядліва сказаў першы сакратар Сакалоў. Мы пакуль што маем для сябе зусім мізэрныя выгоды, хоць мы і перайшлі на рэгіянальны гасразлік.

Ці аслабне цэнтр, калі ён аддасць рэспублікам частку іх крэўных правоў быць у сябе дома гаспадарамі? Ці аслабне цэнтр, калі дазволіць рэспублікам вырашаць свае ўласныя нацыянальныя і ўсякія іншыя праблемы?

Калі ён захоча застацца старым цэнтрам, ён пабаіцца ўсё гэта аддаць рэспублікам Калі наш Саюз распадзецца, гэта будзе доказам таго, што ён трымаўся на несправядлівасці і ўціску. Тое, што будуецца на праўдзе і справядлівасці, будзе стаяць моцна.

У Канстытуцыі СССР у артыкуле 72-м запісана, што за кожнай рэспублікай захоўваецца права свабоднага выхаду з СССР. Запісана права кожнага народа, кожнай нацыі на самавызначэнне. Здаецца, навошта быў гэты артыкул, калі дагэтуль ні адна рэспубліка ім не пакарысталася? Тады гэты артыкул быў толькі для чужаземцаў. Цяпер – ён для нас, народаў, што насяляюць рэспублікі. Кожная рэспубліка можа выкарыстаць гэтыя раней наглуха забітыя дзверы, каб выйсці з дому, у якім ёй пагражае знікненне, растварэнне, асіміляцыя.

Чаму менавіта малыя па колькасці насельніцтва рэспублікі – Малдавія, Эстонія, Латвія, Літва – першыя паставілі пытанне пра суверэнітэт, нават пра выхад з Саюза? Ды таму, што яны першыя ўбачылі, адчулі, што іх асяродак жыцця робіцца для іх чужы, што іх усё роднае, нацыянальнае раствараецца ў моры прынесенага і прывезенага. Патрабаванне аб выхадзе з Саюза – гэта крык аб ратунку, калі нацыя гіне этнічна, калі яна раствараецца, асімілюецца, робіцца меншасцю на сваёй роднай зямлі, калі яна губляе сябе і ўсё сваё, а найперш – родную мову.

Ну і што, запярэчаць мне, вось Літва захацела выйсці з Саюза – і што ж у выніку атрымалася? Эканамічная блакада. Прэзідэнт Гарбачоў гаворыць, што Літва парушыла Канстытуцыю СССР

А мне здаецца, што парушэнне Канстытуцыі было з боку СССР, бо дзесяцігоддзямі ствараліся ненармальныя ўмовы для жыцця карэннай нацыі – літоўцаў. І яны, карыстаючыся правам Канстытуцыі СССР на выхад, ажыццявілі яго, не чакаючы, пакуль будуць тлумачэнні, як гэта рабіць.

Хто можа асудзіць народ, які імкнецца жыць так, як ён сам хоча? А нас, беларусаў, яшчэ хочуць сёння пасварыць з літоўцамі з-за аддадзеных літоўцам у 40-м годзе беларускіх земляў. Хіба хто спытаўся ў 40-м годзе згоды беларусаў, як аддавалі Вільню літоўцам? Ніхто не спытаўся. То не варта і сёння апеляваць да “грамадскай думкі” беларусаў – яе ў нас не робяць. Ураду можна па-ранейшаму абысціся без народа і не ўцягваць яго ў нячыстую палітычную гульню. Думаю, што некалі народы-суседзі самі разбяруцца ў гэтым штучна створаным канфлікце.

Адна з галоўных прычын размывання нацыі – міграцыя. Ніхто ў моцным цэнтры яшчэ, здаецца, не асудзіў гэтага з'явішча, народжанага ў сталінскія часы, калі яна

была надзейным рычагом разбурэння цэласнасці кожнай рэспублікі. Перамяшаць, перасяліць, зрушыць з абжытага месца, пазбавіць пачуцця гаспадара, адарваць ад каранёў і пусціць па ветры эпохі – вось што дазваляла міграцыя. І яна моцна папрацавала яшчэ ў перыяд застою, паказала сябе на цаліне, на БАМе, на “вялікіх будоўлях камунізму”. “Мой адрас – не дом і не вуліца, мой адрас – Савецкі Саюз”, – у гэтых словах з песні лепш за ўсё выказана сутнасць міграцыі. Міграцыю апраўдвалі недахопам рабочай сілы, кадраў, але гэта не была сапраўдная прычына перамяшчэння масы людзей. Яна мела палітычныя мэты, аднак жа эфект яе быў мізэрны, хутчэй, адмоўны. Яна спарадзіла шмат новых вострых праблем, абвастрыла нацыянальныя трэнні і канфлікты, якія цяпер маюць выбуховы характар. Нехта нават пажартаваў, што мігрант – гэта слуп, які, як глыбока ні закопвай, не пусціць каранёў. І гэтым ён розніцца ад карэннага жыхара – той з каранямі. Сёння мігранты крыўдуюць, што іх абражаюць, – яны самі не вінаваты, што паехалі шукаць свайго шчасця ў далёкія мясціны, калі дома яго не было. Верылася, што яно недзе далёка ад роднага дому.

Сёння рэха міграцыі адгукаецца ва ўсіх рэспубліках – ад Прыбалтыкі і Малдавіі да Узбекістана і Таджыкістана. Міграцыя выклікана недаверам да нацыянальных кадраў, да кожнай нацыі ўвогуле.

Пры ленінскай нацыянальнай палітыцы яна ўвогуле не мела б ніякай патрэбы

І апошняе: ці маем будучыню мы, беларусы?

Трэба шчыра сказаць, што беларусы, трэцяя па колькасці насельніцтва нацыя ўсходніх славян, апынулася пад пагрозай фізічнага і этнічнага вымірання.

Чарнобыль і асіміляцыя – вось дзве страшныя хваробы, якія сёння нам пагражаюць. І як бы нас ні супакойвалі, як бы ні згладжвалі вострыя рагі, кожнаму непрадузятаму чалавеку відаць, што Чарнобыль нанёс нам, беларусам, такі ўдар, якога мы не атрымалі нават у мінулую вайну Пад пагрозу пастаўлена будучыня нацыі – і гэта не гіпербала. Ужо сёння смяротнасць у рэспубліцы катастрафічна расце, хварэюць і паміраюць ад рака маленькія дзеці, школьнікі і нават моладзь. Адыходзяць, асыпаюцца як лісце пасля замаразку, старэйшыя людзі. Не выключана, што парушыўся генакод ва ўсіх, хто трапіў пад згубныя апалкі Чарнобыля, і мы не ведаем, якія трагедыі нас чакаюць у бліжэйшы час. Ужо цяпер шмат дзяцей нараджаецца з вялікімі адхіленнямі ад нормы. Тое ж самае назіраецца і ў жывёл, нават у раслін. Гэта палохае людзей і спараджае трывожныя думкі.

Калі ў поглядах на чарнобыльскую трагедыю ў нас у рэспубліцы нарэшце, праз чатыры гады, склалася цвёрдая думка, што становішча ў нас катастрафічнае, што трэба зараз жа адсяляць з месцаў заражэння больш як сто тысяч людзей, як бы гэта дорага ні каштавала, то па іншых прынцыповых пытаннях адной думкі ў грамадскасці і ў рэспубліканскага кіраўніцтва няма. Гэта зноў жа – экалагічная праблема, якая ў нас у рэспубліцы больш вострая, чым у іншых рэспубліках Саюза. Такія гарады, як Наваполацк, Мазыр, Магілёў, Гродна, Салігорск, звязаныя з нафтаперапрацоўкай, з хіміяй, з соллю – пастаўлены на грань катастрофы. Пяройдзены ўсякія нормы загазаванасці ў сталіцы Беларусі – Мінску. Калі грамадскасць рэспублікі ўстрывожана такім становішчам, дык кіраўніцтва рэспублікі застаецца надзіва спакойным.

Тое ж самае можна сказаць пра асушэнне балотаў, выраўноўванне рэчак, пра высечку апошніх лясоў. Беларусь, якая раней была краем лясоў і балот, багатых водных рэсурсаў, катастрафічна траціць запасы вады, якія трымаліся раней у балотах. Цяпер нават грунтавыя воды “ўцяклі” ад людзей у вёсках, апусцелі калодзежы, а на асушаных тарфяніках гуляюць чорныя, а то ўжо і пясчаныя буры. Замест жывога зялёнага мора ўтвараецца пясчаная голая пустыня.

Але меліярацыя ўсё роўна не спыняецца.

Як у прыродзе ідзе эрозія глебы, так у свядомасці нашых людзей ішло разбурэнне паняццяў роднай мовы, традыцый, нацыянальнай гордасці, чалавечай годнасці ўвогуле. Ішоў гэты працэс больш як пяцьдзесят апошніх гадоў, калі пад рэпрэсіі





траплялі не толькі людзі, але і іх родная мова. У выніку гэта прывяло да таго, што беларуская мова выпала са сферы дзяржаўнага ўжытку, стала ці засталася толькі моваю вёскі і невялікай колькасці інтэлігенцыі. Усё ішло да таго, што наша мова памірала, засыхала, як галіна жывога дрэва, а разам з моваю паміраў і народ, бо мова і народ – адно цэлае.

Цяпер у нас ідзе працэс абуджэння нацыянальнай свядомасці, працэс вяртання да нацыянальных каранёў. Урэшце прыняты закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Дзіўна толькі, што закон не ўступіў у сілу з моманту яго надрукавання, а пачне дзейнічаць толькі з першага верасня. Больш як паўгода мы трацім толькі таму, што так захацелася начальству. Яно, відаць, псіхалагічна павінна сябе падрыхтаваць да таго, што беларуская мова стане дзяржаўнай. Страшэнна расцягнуты і тэрміны пераходу асобных устаноў і структур на беларускую мову. Магчыма, нас чакаюць яшчэ забастоўкі, як гэта было ў Прыбалтыцы, у Малдавіі, дзе рускамоўнае насельніцтва было супраць надання статуса дзяржаўнасці мовам рэспублік. Крыўдна яшчэ і тое, што нават некаторыя беларусы не хочуць пасылаць сваіх дзяцей у першыя беларускія класы. Мо яны проста не вераць, што беларуская мова адродзіцца і зойме тое месца, якое ёй належыць па праву на сваёй зямлі і сярод свайго народа?

Але гэта ўжо дробязі ў параўнанні з тым значным якасным зрухам, які адбыўся ў свядомасці беларускага народа, нашага грамадства – што наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай верне яе да жыцця, верне будучыню беларускаму народу

Падводзячы вынікі, можна сказаць, што калі народы, а асабліва ўрады ўсіх краін будуць кіравацца розумам і здаровым сэнсам, а не вузкімі карыслівымі мэтамі і амбіцыямі, то чалавецтва знойдзе дарогу з таго тупіка, у якім яно апынулася па віне тых жа сваіх уласных урадаў, што ўсе самыя складаныя праблемы можна вырашыць, калі зацікаўлена думаць аб заўтрашнім мірным дні, аб шчасці сваіх дзяцей і унукаў, аб шчасці ўсяго чалавецтва, калі памятаць пра тыя вялікія ахвяры, якія яно панесла ў імя будучыні.

На заканчэнне хацелася б выказаць свае адносіны да нашага Саюза пісьменнікаў. Мне здаецца, што Саюз нам патрэбен. Справа не ў форме, а ў сутнасці. Пры ўсіх яго недахопах усё ж ён памагае маладым пісьменнікам стаць на ногі (хоць потым можа і памагчы збіць з ног). Пажадана, каб наш Саюз быў больш малады, больш незалежны, больш актыўны ў абароне асобы пісьменніка, больш рашучы ў абароне нацыянальных традыцый.

Адным словам, хай будзе Саюз, бо каго мы тады ўрэшце будзем крытыкаваць? Саміх сябе неяк няёмка...

Варта сказаць пра адну цікавую падзею, якая адбылася ўчора: у Доме літаратара пад старшынствам Яўгена Лецкі адбылося заснаванне новага таварыства – Міжнароднай асацыяцыі Беларусаў (назва ўмоўная), выбраны арганізацыйны камітэт Задача згуртавання – завязаць кантакты з беларусамі ці ўраджэнцамі Беларусі, якія сёння раскіданы па ўсім свеце і хочуць мець сувязі з бацькоўскаю зямлёю Думаю, што наша грамадскасць такое згуртаванне падтрымае. Пажадаем яму поспехаў!

# Віктар ЯРАЦ



*Здалося ў сне маім: то крыгай*
*дрогкай, крохкай,*
*якой праз ноч плыву,*
*праз боль людскі,*
*Айчыны светлы зруб*
*яшчэ без даху, крокваў*
*нясе пад ветрам плынь.*
*У акіян які?*

# НА КРОХКАЙ КРЫЗЕ

*Паэма*





***

**На крызе, што расколецца на часткі,**
**на крохкай крызе з доўгай ночы ў дзень**
**мой сон між берагоў, якім рассыпле краскі**
**май-светлаграй, кружыўся на вадзе.**

**Глядзеў:**
**яшчэ імгненне — і бывайце,**
**сады на строме, лугавы хмызняк,**
**нябёсы і святло ў надрэчнай хаце,**
**дзе нехта ў поўнач не засне ніяк.**

**Аднак,**
**якою нетутэйшай сілай**
**трымаўся лёд? Павольны трэшчын ход**
**нібы замёр — і неба асвятліла**
**мільярдам зор глыбіні змрочных вод.**

**Нібы з варот,**
**расчыненых на волю,**
**з прадонняў ночы голас далятаў**
**у холад ночы, поўны скрушным болем**
**над нематой і чаратоў, і траў.**

**Гарачых пераправў**
**агнём дыхнула —**
**і вочы вояў, поўныя святла,**
**казалі мне:**
**— Мяне дагнала куля...**
**— Мяне спаткала чорная страла...**

**...Тут шчодраю даніна дну была.**

## *ГАЛАСЫ ДЗЯДОЎ*

**Кругляла крыга — і сівелі скроні.**
**Кругляла крыга — і нідзе людзей.**
**Крычы ці не крычы — вось-вось патоне**
**тваё жыццё (міраж ці скарб надзей?).**
**Кругляла крыга, быццам птах падбіты,**
**плыла Дняпром ля стромы, на якой**
**крыжы кладоў пыталіся нібыта**
**пра тых, вартуюць чый зямны спакой.**

А цела качанела. І нядоўга
яму б сцюдзёнай плынню вандраваць,
калі б не продкаў цёплая падмога –
іх галасы, што ўмеюць ратаваць.
І грэлі словы ў ледзяной стылечы
дзядоў (адзін – каваль, другі – ратай).
Так грэе чарано цаглянай печы,
агонь кастра. І я сказаў: "Трывай!"
Трывай –
пакуль планетай кружыць крыга,
трывай – пакуль дыханне зор ідзе
з вышынь (там недзе спяць анёлы ціха.
Іх сон ці чутны крыгам і вадзе?).
– Трывай! – з настылых берагоў сцяжыны,
дзе вецер помніць прашчураў сляды,
казалі мне.
А добрыя дзяды
стаміліся –
змаўкалі ў цемры-стыні...

## *КРЫГАХОД ДЗЯЦІНСТВА*

...і прыгадаўся даўні крыгаход.

Мацней за страх было вясной жаданне –
на крыгах пакатацца хлапчукам.
Не раз дзеля таго з урокаў нават
збягалі, бы нявольнікі з турмы.

Ламаўся лёд, ад берагоў адходзіў.
Рака гудзела. Гул цяжкі ішоў
далёка, абуджаючы прасторы,
алешнік голы і зарэчны бор.

І кожнаму карцела пераскочыць
з разбегу лоўка, быццам з лодкі ў лодку,
на крыгу з крыгі, што ішлі ўпрыцірку,
пакуль было ім цесна ў берагах.

Адзін перад адным гарачы спрыт свой
дэманстравалі, нібы цыркачы,
са смехам, весялосцю нестрыманай
лічылі – колькі крыг хто абхітрыў.

О, як трымцела ўсё-ткі сэрца ў міг той,
калі пад хлапчуковымі нагамі





вада свінцовым позіркам сачыла
на рызыкоўны, дзёрзкі той палёт!

І вось – сарваўся з крыгі,
скаўзануўся,
вадой-магнітам злоўлены іду
ў палон абдымкаў, ад якіх дранцвее
душа і стыне кроў...
На шчасце, дно
пачулі ногі – блізка бераг быў.

Дамоў прыйшоў. На печ загнала маці
сушыцца, каб, крый Божа, не схапіў
цяжкой хваробы – запалення лёгкіх.
Сышло ўсё добра. Абмінула хворасць.

...А ўлетку, у самлелы надвячорак,
пад рукі маму ад ракі вялі –
малодшы брат не выбраўся на бераг...

## *НЕМАТА*

Між берагоў славяншчыны начных
мой сон на крызе плынь ракі гайдала.
І вечнасць перажоўвала памалу,
з'ядала моўчкі кожны міг і ўздых.
Стагоддзяў колькі тут, дзе продак твой
упершыню зірнуў з гары надрэчнай,
Дняпро пад сонцам і пад Шляхам Млечным
спрадвечны сказ для ўсіх вядзе вадой?
І колькі губ да плыні ў спёкі час
з няўтольнай смагай прагна прыпадала!
Змывалі кроў з павязак тут не раз –
стралы і кулі лютавала джала...
Сплылі вянкі купальскія ў вякі.
Чаўны струхлелі. Змоўклі параходы.
Гармоні сціхлі. Зніклі ветракі.
Блукае песня – не знаходзіць броду.
Ціш. Глухата. Ні гульбішчаў-забаў,
ні вогнішчаў, раскладзеных на кручы.
На сконе веку нібы дух сканаў
людскі. І як сцвярджаць: – Ён неўміручы!?
Дзе ж гнёзды мовы роднай, на якой
тут гаманілі і дзяды, і ўнукі,
бабулі, што чароўнаю рукой
снавалі ніць, а сэрцам – песень гукі?
Гукнеш – пачуеш толькі немату.

Гукнеш – не адзавецца бераг родны.
А зорка на сцюдзёную ваду
кідае позірк з вышыні халодны.
Ад курганоў – надрэчная туга,
нібы дакор:
– Чаму канае-гіне
дуброва-мова?
Ціш на берагах.
І ціха ў небе, дзе багі й багіні.
І месяц, поўны гаркаты, гарыць
над светам пажаўцела-вінавата.
...Пустой бутэлькай нехта на гары
махае па-вар'яцку з хрыплым *матам.*

## *НЕ АБМІНУЎ*

А крыгу плынь сваёй дарогай гоніць,
якую мірны атам Той вясной
не абмінуў, як вербы ля ваколіц,
як сцежкі ў полі і пчаліны рой.

(Тут не жадаюць гаварыць багата
пра вецер той
з паўднёвай стараны.
Патрэбна жыць. Вось і жывуць яны –
кляні ці не кляні прыблудны атам –
зямляне-землякі, спазнаўшы страты.

Гаркотны пыл – і хто ў тым вінаваты? –
які ўжо год не абмінае сны.
Пра вецер той
з паўднёвай стараны
тут не жадаюць гаварыць багата...)

## *ПРАЗ НОЧ НЯВЕР'Я*

Здалося ў сне маім: то крыгай
дрогкай, крохкай,
якой праз ноч плыву, праз боль людскі,
Айчыны светлы зруб
яшчэ без даху, кроквяў
нясе пад ветрам плынь.
У акіян які?





Здалося ў сне маім:
то крыгаю Зямля ўся
плыве ў сусвеце-космасе
без меж-граніц.
На мове на сваёй і я ў любові кляўся
ёй – хлебнай – у палях,
ёй – рыбнай – ля крыніц.

Здалося ў сне маім: то крыгай
крохкай, дрогкай
плыву праз ноч нявер'я
ў свет ранішні святла,
дзе чырвань неба шчодрай
густых праменняў гронкай
ахрысціць чалавека,
хмурыны зняўшы зла.

***

Нібы з варот,
расчыненых на волю,
з прадонняў ночы голас далятаў
да слыху да майго.
З любові й болю
той голас быў, які ад сну вяртаў
у досвітак; яго над крыгаходам,
над крыгай, вандраваў якой у сне,
вялі з трывогай гучнаю чароды,
прызнанні давяраючы вясне.
І сэрцу адгукнулася здалёку
дыханне акрыялае зямлі,
дыханне грушы-дзічкі каля вокан
той хаты, дзе маленства сны цвілі.
І вочы родных, блізкіх то дакорам
свяцілі, то журбой – цішэй, чым дым.
А журавы над поймаю і борам
ішлі сваім маршрутам векавым.

І лёд апошні раставаў, і недзе
знікала крыга, на якой начны
кружыў мой крохкі сон у золкім свеце,
дзе рэчка рэжа строму даўніны...

У НАС

# Галіна БАГДАНАВА



*Я палонніца сваёй Мары...*

# ГОД НА ВОСТРАВЕ СНОЎ

*Аповесць-мроя*





Хтосьці марыць пра катэдж ці новую машыну. Хтосьці пра тое, каб знайсці на дарозе дыпламат з доларамі. Алена Глінская мроіла падарожжамі. І лёс наталяў гэтую яе непераадольную, неспатольную не тое што прагу, – смагу. Вандравала яна шмат. І кожны горад, кожная краіна набывалі ў яе памяці непаўторнае чалавечае аблічча.

Масква бачылася ёй кучараваю, кідка нафарбаванаю паўнагрудаю новарускаю дамай у чарнабурцы. У Санкт-Пецярбурга, строгага, падцягнутага, было нешта ад дзекабрыстаў, так-так, не столькі ад цароў, імператараў, колькі ад тых, хто выйшаў супраць іх на Сенацкую плошчу... Элегантная пані Варшава. Вытанчаная, захінутая ў вэлюм карункаў Прага. Суровы, балесны Бялград. А яшчэ вясёлыя, як дзеці, бестурботныя Злучаныя Штаты, халаднаватая Англія, разняволеная Францыя... У Парыжы яна была гэтым летам, у чэрвені Прывезла адтуль бутэльку корсткага чырвонага віна і салодкую, мяккую парфуму. Цяпер лета канчалася. Наперадзе заставаліся апошнія летнія выхадныя. І Алена купіла аўтобусны білет у свой родны, атулены ляснымі пагоркамі гарадок. Гарадок свайго маленства. Хто ж ведаў, што гэта будзе самая доўгая і самая незвычайная з усіх яе вандровак...

За акном мільгалі белыя, чорна-белыя клавішы бяроз і сонечныя, залатыя струны сосен. Не, гэтыя стромкія, гонкія хвоі хутчэй нагадвалі не струны, а велічныя арганныя трубы... І музыка, музыка гучала глыбокая, моцная... Алена глядзела ў акно і думала пра тое, што пэўна ж невыпадкова Мара – самае светлае чалавечае парыванне – раней лічылася дэманам смерці ў жаночым абліччы. У індусаў "мара" ўвогуле абазначае смерць. Ёсць, ёсць ва ўсім гэтым вельмі глыбокі сэнс. Ідэал наяве выглядае зусім не так прывабна, як у нашым уяўленні... І яшчэ Алене хацелася менавіта сёння, гэтаю дарогай дадумаць новую сваю тэорыю, паводле якой чалавечае жыццё – гэта ўсяго толькі каляндарны год. Дакладней, кожны год можа ўвабраць у сябе цалкам усё чалавечае жыццё. Яе, Аленіны, студзеньскія ўражанні, студзеньскія ўражанні за ўсе пражытыя гады, выдатна кладуцца на музыку яе маленства. Яна нарадзілася ў студзені. І першыя пяць гадоў – гэта, калі задумацца, імглістая, мігатлівая снежная беласць. Тая самая непераадольная, амаль стэрыльная беласць ахутвала яе марознымі ранкамі, калі яна спяшалася ў школу ці ва універсітэт, і блакітнымі вечарамі, калі мерзла ў тэлефонах-аўтаматах, званіла і ніяк не магла дазваніцца да каханага... Потым яшчэ пяць гадоў дзяцінства... Лютаўская сцюжа, хваробы, шмат розных кніг і глыбокае, глыбіннае задуменне... Нарэшце – прадвесне. Гэта гадоў дзесяць – пятнаццаць. Першая закаханасць, ці не самае вострае, балючае пачуццё. Восьмае сакавіка, якое заўжды ўспрымалася як нейкі знак, ды не, не знак – бясконцы тунель, які хацелася прайсці разам з... Але ж быў трывожны, хвалюючы красавік. І да дваццаці гадоў, і пасля колькі цудоўных, нязбытных светлых сноў дарыў і дасюль яшчэ дорыць ёй гэты месяц... Травень, чэрвень, ліпень... Цяпер яна, здаецца, ужо пераступіла жніўеньскую мяжу. Цяпер лік мусіць пайсці на дзесяцігоддзі, хоць, калі лёс будзе не надта шчодры да яе, то і на гады. Як складзецца.

Але пакуль што жнівень... Шчодры, паўнагучна зялёны... Восеньскую сівізну можна яшчэ не заўважаць. А ранішні золкі туман, як і раптоўныя навальніцы, ужо не раздражняюць. Яна навучылася ўспрымаць іх як розныя па гучанню акорды непаўторнай жыццёвай сімфоніі... І ўсё адно, як жа хочацца хоць на імгненне вярнуцца назад, у трапяткі, свежы чэрвень... Язмінавае мроіва чысціні, лёгкі дотык вечнасці...

Алена не заўважыла, як у аўтобусе нікога не засталося. Толькі яна і шафёр. Аўтобус стаяў. І вадзіцель чакаў, пакуль яна, Алена, выйдзе. І Алена, нават не зірнуўшы ў акно, падхапіла сумку і выйшла, саскочыла з прыступак. Ляснулі дзверы, аўтобус развярнуўся і ад'ехаў. А яна толькі цяпер зразумела, што ён завёз як зусім не ў яе родны гарадок. Вакол ні душы. Незнаёмае, голае поле. Шуміць, гамоніць пра нешта бярэзнік, хвоі напружана ловяць апошнія сонечныя промні... За полем, да самага далягляду, – луг, потым, здаецца, ізноў поле... І ніводнага слупа. Аўтобус жа, здаецца, ехаў па шашы, па асфальце, але цяпер ураз, як усё адно нехта злізаў яго, ці згарнуў, як дывановую дарожку. А можа гэта аўтобус звёз з сабою шашу?.. Алена зірнула на гадзіннік. Была ўжо поўнач. Але сонца яшчэ не

села, ды яно, падобна, і не збіралася садзіцца... Лёгкая хмарка ценем легла на поле і адплыла... І поле, толькі што залатое, шэра-жоўтае поле, зноў стала зялёным, зарунела... І ў бярэзніку не засталося ніводнага жоўтага лісточка. Нехта нябачны сцёр з дрэваў усю жаўцізну. Усё навокал памаладзела, пасвяжэла... Дзе ж гэта яна? І колькі ў рэшце рэшт часу? Ні душы...

### 1. БАГІНЯ ГЛЕЯ

Але што гэта паблісквае там, за ўзгоркам? Рэчка? Сонца не садзілася, а зноў узыходзіць. І робіцца не проста цёпла, горача...

Распранулся, скінуць з сябе важкую джынсавую сукенку, басаножкі... Усё, усё скінуць з сябе. І ў ваду. Рэчка вузкая і зусім неглыбокая. Па калена. Не вада, глей па калена. І яна, Алена, стаіць з распушчанымі валасамі, уся залітая сонцам, і сцюдзёная, крынічная вада лашчыць ейныя стомленыя ногі... Варта толькі ўзняць рукі – і цень, рухомы, увесь затканы імклівымі хвалістымі сонечнымі блікамі цень, плаўна ляжа на ваду, да самага таго берага... І ейная яшчэ зусім юная, гнуткая постаць набудзе закончанасць грэчаскай амфары... Хто сказаў, што хадзіць аголеным сорамна? Сорамна хлусіць, браць тое, што не зарабіў, сорамна чапляцца да чужога мужа... А вось так, даверліва, мякка аддавацца вадзе і сонцу, і гэтым вясёлкавым пырскам, плюшчыць вочы і раставаць у расе... Гэта проста прыгожа. Гэта гармонія, якой не выказаць словамі. Хіба што праспяваць. Песня без слоў. Светлы, пяшчотны птушыны пошчак. А ўнізе пячкурыкі, гуляючы, ныркаюць ля ног, якія ўсё глыбей і глыбей патанаюць у глеі. І не хочацца іх выцягваць, каб не замуціць ваду. Празрыстую, імклівую крынічную ваду, якая жывіць гэтую гнуткую, лагодную рэчку...

Алена не выйшла, ступіла на бераг. Крок за крокам, па мяккай траве, па лёгкіх, засыпаных росным брыльянтавым пылам павуцінках, што як аблачынкі завіслі па ўсім лузе... Павуцінкі не рвуцца, яны толькі ўгінаюцца ад ейных нячутных крокаў.

Яна ўсё ішла і ішла... Можа дзень, можа два, можа цэлую вечнасць. Ад голаду, ад смагі яна стала такою лёгкаю, што, здавалася, магла ўзляцець, сама магла ўзляцець у неба, як сапраўдная аблачынка... Аблокі плылі ўслед за ёю, ценем клаліся пад ногі. А жытняе поле, да якога яна ішла і ішла, аддалялася, аддалялася, аддалялася...

Алена зразумела, што да жыта ёй не дайсці. Кладзіся і памірай. Раптам з-за кустоў выйшла белая карова, добра ўкормленая белая карова з чорнымі, абведзенымі ружовым вачыма і крутымі шэрымі рагамі... Яна прыўзняла галаву, выцягнула шыю і рыкнула нешта ёй, Алене, проста ў твар... Можа, просіць, каб яе падаілі?.. Вымя зусім тугое, але ж у што, у што ж падаіць?

Алене заставалася адно – легчы і, як цяляці, прыпасці да смачка... Сырадой быў густым і цёплым, адным глытком можна было наталіць і голад, і смагу... А Алена ўсё смактала і смактала, і белая карова, усцешаная тым, што яе зразумелі, старанна адганяла хвастом аваднёў і рыкала, рыкала пра нешта сваё...

"Карова мусіць прывесці мяне да людзей", – падумала Алена і, абцёршы далонню вусны, паспрабавала ўзлезці, і, як не дзіўна, узлезла на белую карову, якая зноў ускінула галаву, рыкнула, і... "Му-ууу!" – густым рэхам азвалася ўсё наваколле, і яны паскакалі, яны паляцелі, па траве, па росных павуцінках скрозь кусты, дрэвы, скрозь бярозавы, хваёвы водар, скрозь калючыя, засыпаныя шышкамі шаты, скрозь асляпляльную, росную пену аблокаў. Усё вышэй і вышэй. І вось ужо не раса, снежны, зорны дождж засыпае колкімі, імглістымі бліскаўкамі зусім не белую – блакітную аксамітную спіну чароўнай каровы. І Алена, узмакрэлая ад напружання, ад хвалявання, думае толькі пра адно, як бы ўтрымацца, не ўпасці, не сарвацца ў чорную бездань.

### 2. ВОБЛАКА, ВОЗЕРА, ХРАМ...

У беспрытульнага вандроўніка Уладзіміра Набокава ёсць цудоўнае апавяданне "Воблака, возера, вежа..." Змучаны калектыўнаю вандроўкай, "адпачынкам" на чале з важаком, спевамі хорам і прымітыўнымі гульнямі, герой гатовы кінуць усё дзеля таго, каб назаўжды пасяліцца на пастаялым двары, у пакоі, з акна якога відаць воблака, возера, вежа – прывід абсалютнай гармоніі, прывід шчасця... Алена паднялася па скручаных у спіраль рыпучых дубовых прыступках і ў расчыненым напята акне ўбачыла воблака, возера, у якім патанаў ягоны адбітак, і храм, касцёл, які люстраваўся не толькі ў возеры, але і ў разгорнутай, як кніга, шыбіне. Мястэчка засталося далёка ўнізе. Мястэчка? А можа гэта і быў ейны родны гарадок, той самы гарадок, у які яна ніяк не магла даехаць? Толькі адсюль, зверху, ёй цяжка пазнаць яго... Цяжка пазнаць гэтае возера, воблака і нават храм...

"Такіх, вядома, краявідаў у сярэдняй Еўропе колькі заўгодна, але менавіта, менавіта гэты, па невыказнай і непаўторнай дапасаванасці ягоных трох частак, па ўсмешцы ягонай, па нейкай таямнічай цнатлівасці, – каханне маё! паслухмяная мая! – было нечым такім адзіным, і родным, і даўно абяцаным, так разумеў таго, хто глядзеў..." – набокаўскія словы рэхам запаўнялі пустую майстэрню... На карціне, што стаяла ля сцяны, было тое самае расчыненае акно з адбіткам касцёла ў шыбіне, былі возера, воблака, храм. . Алена прыўзняла сваю важкую аксамітную сукенку (вішнёвы аксаміт у колер яе прагных да пацалункаў вуснаў), – асцярожна падышла да мальберта. Там пакуль што яшчэ зусім белае, як першы снег, як неруш белае палатно. Рыжабароды Фаўн паставіў яго і пайшоў мыць пэндзлі. Які ён быў дзіўны, гэты Фаўн. Як стары валун мохам, з ног да галавы парос рудым валоссем. Ды яна ўжо ведала, яно, гэтае валоссе зусім не шорсткае, і, калі яны разам, так прыемна, мякка казыча цела... Хто яна тут, у гэтай сядзібе, у гэтым недабудаваным замку? Гаспадыня ці можа палонніца? Фаўн купляе ёй кальё і дыядэмы з жэмчугам, смарагдамі, рубінамі, апранае ў аксаміт, шэра-блакітнае, чорна-бурае футра, ён лашчыць яе, нават паглядам так лашчыць яе, што ўсё ўсярэдзіне замірае, і рубіны на ейных пальцах ператвараюцца ў вішнёвае жэле...

Але пайшоў дождж. І Алена ў тым самым сваім вішнёвым аксаміце і залатых саф'янавых туфліках выбегла на двор, на вуліцу, а потым зноў, каторы ўжо раз, зайшла ў выкладзеную з камянёў, са звычайных рознакаляровых валуноў браму... У дождж чорныя, шэрыя, ружовыя, жаўтлявыя камяні пачыналі гучаць кожны сваім колерам... Гэта былі ўжо не прыдарожныя валуны, а самацветы... А калі прыгледзецца – у кожнага быў нават свой твар, сваё непаўторнае аблічча... Хто ведае, можа сярод гэтых камянёў ёсць старыя паганскія ідалы...

А пасярод двара, на смарагдавай бліскучай траве сядзеў элегантны чорны сабака. І ён таксама быў высечаны з каменю. Раптам Алена адчула, што ёй хочацца піць, нясцерпна хочацца піць. Але ж студня, акуратна абкладзеная камянямі, з моцнаю дубоваю аканіцаю студня, зачынена на замок. І каб адчыніць яе, трэба вяртацца ў замак, падымацца па лесвіцы і выпрошваць у рыжабародага Фаўна ключ.

Алена разявіла рот, паспрабавала лавіць дажджавыя кроплі, але яны высыхалі на вуснах, у роце, яны выпараліся, знікалі, быццам і іх загаварыў, зачараваў рыжабароды Фаўн.

І тут сабака, каменны чорны сабака міргнуў сваім бліскучым вокам, пацягнуўся, завурчэў і кінуўся, прыпаў да ейных ног...

– Ка́раль, Ка́раль, я прашу цябе, прынясі мне ключ ад студні, я вельмі, вельмі прашу цябе, – шапнула яна сабаку на вуха, і той, здаецца, зразумеў, гаўкнуў і вялікімі прыгожымі скачкамі пабег да замка. Яна засталася чакаць у двары, пад дажджом, які не наталяў смагі... Кроплі ападалі на траву, на растрэсканую ад сухмені зямлю. Але зямля, дзіўна, зямля заставалася сухою, і кветкі, засыпаныя брыльянтамі дажджынак мядовыя настуркі і аксаміткі, вялі на вачах...

– Ка́раль, Ка́раль, дзе ты? – паклікала яна, але словы перасядалі ў перасохлым ад смагі горле... І раптам, як усё адно нехта штурхануў яе... А як жа дзеці, іх з Фаўнам дзеці. А што калі раптам і яны паміраюць ад смагі? І прыўзняўшы сукенку, яна пабегла да другога ўвахода, яна нават не ўзбегла, узляцела па скручаных у спіраль дубовых прыступках і расчыніла дзверы ў дзіцячую спальню. .

Дзеткі ціхамірна спалі ў сваіх чысценькіх пасцельках. Дзве дзяўчынкі і два хлопчыкі. Шэсць гадоў іх з Фаўнам шчаслівага жыцця... Яна памятала пра кожнага з іх, яна памятала ўсё да драбніц... Памятала, як Вінцэсь любіў гуляцца з яе грудзьмі, называючы адну куркай, а

другую пеўнікам... Памятала, як Хрысціна, калі яшчэ ляжала ў калысцы, пачуўшы, як яна, Алена, іграе на раялі "Месячную санату" Бетховена, раптам пачала падпяваць ёй... Яна перастала іграць, а дзяўчынка ўсё спявала і спявала... Ціхенька, ледзь чутна, але зусім дакладна... Цяпер Вінцэсь ужо чытае тоўстыя кніжкі, а Хрысцінка сама іграе на раялі... А Казімір, не, гэты ніколі не гуляе з яе грудзьмі, саромеецца і ўцякае, калі застане яе нават у напаўпразрыстай начной сарочцы... А Каміла, самая меншая, яна так любіць маляваць... Крэйдаю, алоўкамі, фарбамі... Фаўн дазваляе ёй маляваць нават на сценах... І любіць, сапраўды, Камілу ён любіць болей за ўсіх...

І раптам Алена зразумела, нават не зразумела, адчула, адкуль у яе гэтая смага і чаму баіцца яна ісці да Фаўна па ключ... Яна зноў цяжарная. А тут, у дзіцячым пакоі, няма больш дзе ставіць ложкі... Значыць, яна ўсё ж зацяжарала ў той светлы, пяшчотны, сонечны дзень, у тую мяккую, аксамітную, месяцовую ноч, калі яны з Фаўнам разам, у адно адзінае імгненне, адчулі бяздонную слодыч вечнасці... Значыць, цяпер яна носіць у сабе і той пяшчотны дзень, і тую аксамітную ноч, і самую вечнасць... І калі гэтае, іх пятае з Фаўнам, дзіця з'явіцца на свет, яно прынясе з сабою ў жыццё і той сонечны дзень, і тую ноч, гармонію вечнасці, і ў іхняй сям'і назаўжды ўсталюецца лад і гармонія. І хто ведае, можа, паступова, гэтыя лад і гармонія расцякуцца, нябачнымі промнямі, хвалямі разыдуцца па ўсім свеце...

Але не, Алена ведала гэта, адчувала, Фаўн не захоча болей дзяцей. І гэтых вось адсяліў у самае дальняе крыло замка... Каб не замінаді яму працаваць і адпачываць... Хіба што Каміла пакуль што яшчэ можа бегаць да яго, калі захоча, лашчыцца, цягаць за вусы, бараду і нават ездзіць на шыі... Ён так любіць яе. І гэта таму, што даўно вырашыў, што яна будзе апошняй... Апошняй...

Сабака, Караль, лашчыўся ля ейных ног, заглядаў у вочы, працягваў заціснуты ў зубах, залаты ключык ад студні... Але ёй ужо расхацелася піць. Ёй зусім расхацелася піць, бо там, усярэдзіне, сцялася ў прадчуванні немінучай смерці яшчэ ненароджанае дзіця, якое мусіла прынесці ў гэты свет столькі радасці, пяшчоты, якое мусіла прынесці гармонію, лад, самую вечнасць...

А за акном, з якога ў ясныя дні таксама відаць і воблака, і возера, і храм, ішоў дождж, а зямля ніяк не магла наталіць сваёй смагі, і вялі, сцякаючы мядовым водарам, кветкі. Сонечныя настуркі і аксамітки...

– Алена!

Фаўн без сарочкі і майкі, у адных кароткіх шортах, стаяў у глыбіні калідора.

Яна прычыніла дзверы, узяла з зубоў у сабакі залаты ключык і, прыўзняўшы сукенку, пайшла яму насустрач. Залатыя саф'янавыя туфлікі так намоклі ад дажджу, што расклеіліся, разваліліся проста на нагах...

– Алена, ты, здаецца, хацела піць, – ціха сказаў Фаўн, і яна толькі цяпер, калі падышла, разгледзела ў паўзмроку, што ён трымае ў руках празрысты шкляны збан з вадою і шклянку...

– Не трэба, пайшлі да цябе, – зусім нечакана, лёгка вымавіла Алена. – Сёння я буду кахаць цябе, усю ноч, да раніцы... Ты мусіш надаць мне сілы, каб забіць нашае дзіця...

### 3. ШЭРЫЯ ЗДАНІ

Нейкім цудам Алена ўсё ж дабралася да свайго гарадка... А можа проста спусцілася з той вежы, з той вежы, адкуль былі відаць воблака, возера, храм. Яна ішла па знаёмай, з маленства да драбніц знаёмай, вуліцы і не пазнавала яе. Гэтаю парою звычайна за кожным плотам ганарліва прыхарошваліся, пацягваліся, засыпаныя бліскучымі, сакавітымі ягадамі, кучаравыя вішні. Цешыліся, нагледзецца не маглі на свае адшліфаваныя гранатавыя, рубінавыя каралі, дыядэмы, завушніцы, пярсцёнкі, у якія так любіла зазіраць сонца... Ды не, не каменне, жывыя, салодкія кроў і плоць ягад утваралі гэтыя цудоўныя гірлянды. У кожнай вішаньцы – костачка. Колькі костачак – столькі можа вырасці новых дрэўцаў, маладзенькіх вішанек, якія па вясне забелапеняцца квеценню, а потым, высмоктваючы з зямлі нябесную вільгаць, прагна ўбіраючы ў сябе сонечнае святло, выгадуюць новыя, сакавітыя, бліскучыя, сапраўды падобныя на каштоўныя камяні, жывыя ягады... Так было амаль штогод. А тут, раптам, Алена не верыла сваім вачам... У садах замест вішань стаялі голыя, шэрыя здані. Шкілеты, без лісця і ягад... І людзі за платамі, суседзі, якіх яна таксама не пазнавала, былі шэрыя і непрыветныя... Ды і яна, Алена, сама ішла па вуліцы ў нейкім брудным лінялым халаце і стаптаных хатніх пантофлях. Галава, цела часаліся. І зноў нясцерпна хацелася есці і піць...

Але што яна, што яе голад і смага, калі побач, услед за ёю, ішлі ейныя дзеці, усе чацвёра, у заношанай, дзіравай адзежы, босыя і галодныя... Чаму, як яны ўсе, без Фаўна, апынуліся ў гэтым гарадку? І дзе цяпер Фаўн? І хто такі ўвогуле быў Фаўн?

Яна адчыніла знаёмыя блакітныя веснічкі, і насустрач ім кінуўся сабака. Але ж не іхні, не бацькоў яе сабака, не Жук... Жук быў чорны, Жук быў разумны, а гэты руды і брэша, кідаецца на яе і на дзяцей... Выганяе? Дзверы хаты расчыніліся, і адтуль выйшаў, ледзь ступаючы, хісткай, п'янай хадою пасунуўся да іх непрыгожы азызлы мужчына з вузенькімі чырвонымі вочкамі і шызым носам.

– Што нада?! – крыкнуў ён на яе...

І Алена зразумела, што цяпер не ейныя бацькі, не яна, а ён тут гаспадар. І ёй з дзецьмі болей няма куды пайсці, няма дзе падзецца...

І яна павяла дзяцей да рэчкі. Бераг быў засыпаны белым гусіным пухам. Гусі важна хадзілі ўздоўж вады, плавалі і не звярталі на іх ніякае ўвагі. І людзі, што былі занятыя кожны сваёю справай – кабета паласкала ў рэчцы бялізну, хлопчык вудзіў рыбу, і гэты сівы мужчына на лодцы, – яны як бы і не заўважалі іх. Можа і яна, Алена, і дзеці, сталі нябачнымі? Трэба паспрабаваць гукнуць, папрасіць прытулку. А яна, Алена, не ведае, як пачаць, ці то даць ім "дзень добры!", ці то сказаць: "здравствуйте!", і да каго першага звярнуцца?.. Да кабеты, што, папаласкаўшы, ужо збіралася несці кош з бялізнаю дамоў, ці да сівога мужчыны, які вылазіў з лодкі на бераг?

Вінцэсь, старэйшы яе сын, зарыентаваўся раней за яе. Разам з Казімірам яны падбеглі да кабеты і ўзяліся паднесці ёй кош. Тая, здзіўленая, моўчкі кіўнула.

Потым Алена бачыла, як прасілі, малілі яны кабету даць ім хоць што-небудзь. А тая не пусціла іх нават на двор.

Панурыя, яны ўсё адно засталіся чакаць. Кабета вярнулася і перакінула ім праз плот дзве пустыя палатняныя торбачкі – жабраваць...

І ўжо з гэтымі торбачкамі цераз плячо, з працягнутымі, выцягнутымі ручкамі, хлопчыкі падышлі да сівога мужчыны, які прывязваў лодку. Той, непрыветна, сурова агледзеўшы іх, дастаў з пакета і паклаў кожнаму на далонь па кавалачку хлеба, потым, падумаўшы, яшчэ, проста з вядзерца, па жывой рыбінцы. Рыбінкі біліся, не ўтрымаць, і Казімір такі выпусціў сваю. Яна з усяе сілы бухнула хвастом па гусіным пуху і саслізнула з берага...

Схаваўшыся ад людзей, яны сяк-так пачысцілі і падзялілі на ўсіх рабінку. Так і з'елі яе, сырую, з чэрствым хлебам, запіваючы са жменек рачною вадой. Каміла давілася, і яны з Хрысцінкаю па чарзе жавалі ёй, укладвалі ў рот, змочаную слінай рыбна-хлебную кашу... Так было. І ніхто не мог ім дапамагчы, бо ў яе родным гарадку ніхто яе не пазнаваў. І яна нікога не магла пазнаць. І замест такіх шчодрых на ягады вішань, за платамі стаялі шэрыя здані... Жабруючы, яны выпадкова дазналіся, што цяпер усім тут кіруе новы гарадскі Галава, што Фаўна арыштавалі. А іхнюю сядзібу, іхні замак хацелі зруйнаваць, як зруйнавалі храм, што стаяў на тым беразе возера. Але не паспелі. У той вечар, калі па загаду новага гарадскога Галавы пачалі руйнаваць храмы – касцёл і царкву, усчалася страшная навальніца, і возера паднялося, заліло ўсё наўкола, а потым літаральна за дзень ураз перасохла. І рыбу можна было не тое што лавіць, цягаць рукамі. Людзі прыходзілі з кашамі, вёдрамі, бочкамі, цягалі, вазілі, хто колькі можа. І потым цэлы месяц, а хто і два елі адну толькі рыбу...

Тут былі возера, воблака, храм... Але з таго ледзь улоўнага, светлага вобраза гармоніі цяпер засталося толькі воблака. І яно сплыло, растала, не, хутчэй за ўсё, вылілася дажджом...

І ад вішань засталіся толькі шэрыя здані. Адны казалі, што вінаваты замаразкі, другія – сухмень, трэція – радыяцыя. Некаторыя паспяшаліся ссекчы бясплодныя дрэвы. Але раптам пад канец лета не на ўсіх, толькі на некаторых галінках, на самых кончыках,

але ўсё ж пачалі, як пальчыкі на далоньках, пачалі разгортвацца, распускацца пругкія зялёныя лісточкі. А ў садзе Аленіных бацькоў, дакладней, цяпер ужо былым іхнім садзе, дзве вішанькі нават заквітнелі... І якраз у той дзень на ўскраіне гарадка памерла бабулька і людзі самі прапанавалі Алене з дзецьмі пасяліцца ў ейнай хаце. Усё ж такі печ, грубка, двайныя вокны, шафа, стол з лавамі і нават ложкі, два шырокія ложкі...

У шафе было поўна адзежы. І Алена нават узяла, хацела прымераць прыгожы мяккі махеравы шалік... Расцягнула яго, а ён... Ён увесь быў з'едзены моллю... Там, у шафе, белыя з чорнымі спінкамі чарвякі на вачах даядалі дзіцячыя шкарпэткі, штонікі, шапачкі... Але самым брыдкім у новай хаце было павуцінне, якім былі затканыя ўсе куты, і пацукі ці мышы, якія па начах бессаромна бегалі па хаце, прагрызалі нават цэлафанавыя пакеты, абкусвалі хлеб, выпівалі малако, рассыпалі крупы... І яшчэ ні Алена, ні дзеці ніяк не маглі прызвычаіцца да таго, што ў сценах, у століі, падлозе, і нават у рамках абразоў, што віселі на покуці, і ўдзень, і ўночы хрумстаў ненажэрны шашаль. Жывы гадзіннік. Цікаў і цікаў, адмерваў хвіліны, гадзіны, дні, тыдні іх бядотнага існавання.

За вокнамі вые вецер, у хаце хрумкае шашаль, па падлозе туды-сюды бессаромна тупаюць мышы... Восень, зіма наперадзе...

#### 4. ТАЯМНІЦА ВІНАГРАДНАЕ ГРОНКІ

Але выбліснула сонца. І суседзі далі ім кожны па вядру бульбы. А яблыкаў, антонавак у старым садзе было не пераносіць... Нешта нават прадалі. Алена ўладкавалася ў школу выкладаць музыку. Дзеці вучыліся... І ў адзін з ясных сонечных восеньскіх дзён, калі яна толькі што вярнулася са школы, да веснічак падышоў сівабароды стары ў заношаным касцюме з парэпаным карычневым чамаданчыкам, чамаданчыкам, поўным самых розных зярнятак. Дзеці кінуліся разглядаць намаляваныя на пакеціках заморскія кветкі, гародніну, тузалі яе, прасілі купіць і таго, і таго... А стары працягнуў ёй адзін-адзіны пакецік, у якім было ўсяго некалькі зярнятак.

– Гэта вінаград...

– Ён у нас не вырасце. Халодна... – адмоўна закруціла галавою Алена.

А стары толькі ўсміхнуўся... На ўвесь свой бяззубы рот.

– Гэты вырасце. Толькі тут, у вас вырасце гэты вінаград.

І не ўзяў з іх ні рубля. Толькі папрасіў папіць... І Вінцэсь вынес яму кружку вады...

Як навучыў іх дзядок, так яны і зрабілі. Да першых замаразкаў пасадзілі зярняткі ў зямлю. І Алена не верыла, баялася, што прападуць яны, а дзеці пераконвалі яе, што налета восенню будуць есці свой вінаград... Калі сышоў снег і яны з дзецьмі выйшлі капаць гарод, на той градзе, куды ўкінула яна вінаградныя костачкі, ужо з'явіліся парасткі. І пад сонцам не па днях – гадзінах мацнела, распускалася, убіралася ў сілу буйное вінаграднае лісце. Алена не верыла сваім вачам і штодня з матыкаю стаяла ракам ля гэтай грады, вырывала пустазелле, палівала і ўжо разам з дзецьмі таксама чакала...

Вінаграду патрэбныя былі вада і сонца. І яшчэ шмат увагі і любові. З нейкага іншага, не свайго, жыцця Алена памятала, як цяжка пад бязлітасным, гарачым сонцам рыхліць непадатную, цвёрдую глебу... Гэта было ў гарах каля Ялты ці можа Сараева... А тут, у яе родным гарадку, зямля была мяккаю, лёгкаю. Ішлі дажджы, але яна паспявала вызваляць парасткі ад пустазелля. І што вінаградніку макрыца ды лебяда, калі там, у гарах яго душылі моцныя, вострыя, як лёска, пякучыя травы, якія, яна гэта добра памятала, было не вырваць. І рукі потым было не адмыць, іх пякла, раз'ядала атрута...

Вінаграднік рос, як у казцы. Толькі паспявай падвязваць. І да восені, дзеці мелі рацыю, на ўсіх кустах пачалі налівацца прыгожыя, сонечныя гронкі...

Гэта была самая шчаслівая восень. Самая шчаслівая за ўсё яе жыццё. Яна па-ранейшаму выкладала музыку. І купіла сабе белую сукенку і чорныя лакавыя туфлікі, такія самыя, пра якія, здавалася, марыла ўсё жыццё. Дзеці вучыліся. Ужо і Каміла пайшла ў першы клас...

Суседзі прыходзілі да яе хто з бульбаю, хто з салам, хто з гуркамі. А яна частавала ўсіх водарным, сонечным вінаградам...

Па вечарах, калі дзеці засыналі, яна правярала сшыткі, а потым сядзела і смакавала той самы сонечны вінаград...





І кожная ягада была вострым, непераадольным успамінам яе, іх з Фаўнам, жыцця... Вось яна ў сваёй любімай вішнёвай аксамітнай сукенцы ўзбягае па лесвіцы і, расчыніўшы дзверы, залятае ў ягоную майстэрню... А ён адрываецца ад сваіх карцін, падхоплівае яе на рукі і кружыць, кружыць... І сонца раптам прабіваецца скрозь хмары і залівае іх сваім пяшчотным святлом... У нас будзе дзіця, у нас будзе дзіця... У нас будзе сын... Так, як ты хацеў... У нас будзе сын...

У нас будзе два сыны і дзве дачушкі... Так, як мы хацелі... Але ж за што, за што арыштавалі яго цяпер?

За тое, што не дагадзіў гарадскому Галаве?.. Але ж яны, здаецца, ніколі не бачыліся... Гарадскі Галава ўвесь час ездзіў у чорным "мерседэсе" з цёмнымі вокнамі, а калі выходзіў з машыны, то яго нельга было разгледзець з-за натоўпу цікаўных гараджан і ягоных ахоўнікаў, якія дубінкамі пракладалі яму дарогу сярод расчуленых ягоных прыхільнікаў... Паклоннікаў, якія складвалі на грудзях рукі і ўсё кланяліся, кланяліся яму... Яны з Фаўнам не бачыліся, але ж Галава не мог не ведаць іхняга замка, іхняе вежы з высакародным сцяжком і гербам... Іхні замак і іхняя вежа ўзвышаліся над усім горадам, і над катэджам Галавы таксама... Можа, якраз гэтага і не мог дараваць ім Галава? Можа, зараз ён жыве ў іхнім замку, спіць у іхняй пасцелі, есць за іхнім сталом?..

Калі той шэры, беспрытульны п'яніца так лёгка заняў хату ейных бацькоў, яе, Аленіну хату, то чаму Галава не можа заняць сядзібу Фаўна, іх з Фаўнам сядзібу .. І што цяпер там робіць бедны Кáраль?.. Пэўна, скамянеў назаўжды .

Спачатку вінаград быў проста салодкім, потым корсткім, потым ад яго пачало патыхаць віном... І гэты дзіўны, даўно забыты хмель падказваў ёй усё новыя і новыя падрабязнасці іх з Фаўнам жыцця... І было балюча, было нясцерпна, а потым... Потым стала хораша. І яна заснула...

Налета ва ўсіх было поўна вішань, але ніхто іх не абіраў. Усе даглядалі свае вінаграднікі... Хтосьці купіў страшнага сабаку-людаеда (каб суседскія дзеці не абабралі раней часу чароўных ягад), хтосьці працягнуў над плотам калючы дрот, хтосьці нават правёў па дроце электрычны ток... Нават той беспрытульны п'яніца, што жыў у бацькоўскай хаце, і той даглядаў, ахоўваў свой вінаграднік. .

А калі ягады саспелі, усе дзеці кінуліся да сваёй настаўніцы, да Алены. Каб хоць пакаштаваць таго вінаграду. Бацькі не давалі ім ніводнае гронкі – увесь вінаград, да ягадкі, мусіў пайсці на віно.

Калісьці па восені тутэйшыя гаспадыні шукалі слоікі і крышкі – ставіць кампоты і гуркі, цяпер попытам карысталіся толькі добрыя вінныя бочкі. Мясцовы бондар за адзін месяц стаў самым багатым (вядома, пасля Галавы), але, усё роўна, самым багатым у гарадку чалавекам.

Вінаградны водар незаўважна ператварыўся ў вінны перагар. Віно навучыліся рабіць усе, ды так, быццам займаліся гэтым ад самага свайго нараджэння.

Хтосьці нават павёз прадаваць сваё віно ў сталіцу. Потым і за мяжу... Адкрылі вінны завод.

Дзецям не давалі есці вінаград, але віно піць дазвалялі. Пі, колькі хочаш... Маладое, сонечнае віно, смак якога год назад, а можа і не год, можа, гэта ўчора было, смак якога яшчэ нядаўна ведала адна Алена... Цяпер яна адна не рабіла з сонечных ягад віна, хоць яе вінаграднік быў самым шчодрым, самым багатым у горадзе.

І зноў усё навокал стала шарэць... Шарэлі дамы, вуліцы, співаліся, шарэлі людзі... Сваркі, крык, кроў і брыдкі вінны перагар панавалі паўсюль, нават у школе... І яе, Аленіны, дзеці разам са сваімі аднакласнікамі пачалі піць маладое віно, нават самая меншая, Каміла. . Алена трымалася да апошняга. Але зноў павуціна зацягвала куты, сшарэлі на вокнах фіранкі, сшарэлі сукенкі, моль накінулася на самыя лепшыя ейныя і дзяўчат сукенкі...

Вінаград, які яшчэ нядаўна так любілі есці дзеці, псаваўся і сам па сабе набываў гаркавы, хмельны прысмак віна .. А наперадзе зноў восень, зіма. Фаўн у турме Дзеці не слухаюцца. Вакол усе співаюцца і звяраюць. Трэба шукаць паратунку. Але не тут, не ў гэтым горадзе. Не ў гэтай краіне.

#### 5. ПРАЖСКАЯ РАПСОДЫЯ

Дзіркі на адзежы можна зацыраваць карункамі. І шэрае павуцінне пад месячным святлом наліваецца срэбрам...

твор... Можа і каханне таксама – адзін-адзіны твор, адна-адзіная мелодыя. Адны здольныя ствараць і слухаць яе, іншыя – не... Я не ведаю, што б адбылося, каб сустрэліся двое, мужчына і жанчына, юнак і дзяўчына, двое, адораных талентам кахаць.. Звычайна адзін кахае, а другі спрабуе ці не спрабуе, ці робіць выгляд, што спрабуе яго зразумець... Але гэта немагчыма зразумець, гэта трэба адчуваць...

Яны ішлі і, быццам сонечныя промні, сціралі снег .. Ён раставаў, і па асфальце беглі ручаінкі, і трава зноў цешылася веснавым цяплом і свабодай... І птушкі весела спявалі на свежых, памаладзелых, зялёных ліпах і каштанах...

Алена разумела, што гэта яшчэ нічога не значыць... Яны яшчэ нічога адно аднаму не сказалі... Але яе сэрца разрывалася ад незвычайнага жывога трапятання, калі слёзы засцілаюць вочы, а табе радасна і хмельна, і наперадзе салодкае бяссонне, і птушыны ранак, чаканне тэлефоннага званка, ягоных крокаў, ягонага пагляду, дотыку, чаканне вечнасці... Яна думала, што ўжо ніколі не адчуе ўсяго гэтага, яна думала, што ўсё адышло, і хто ведае, можа нават прыйдзе час, калі яна будзе нядобра зайздросціць усім юным закаханым сэрцам... Але ж не, Хрысціна кажа праўду, кахаць можна бясконца, і калі нават сам ужо выпадаеш з гульні, застаюцца твае дзеці... І праз іх ты зноў перажываеш, нанова перажываеш сваю вясну... Значыць, колькі дзяцей, столькі і будзе ў яе вёснаў, столькі і будзе ў яе бяссонных, хмельных вёснаў, птушыных ранкаў... Сэрца замірае, яно вось-вось разарвецца... Хрысціна, яе Хрысціна, спынілася ля пад'езда, і гэты незнаёмы юнак працягвае ёй сваю руку, яна аддае сваю, яна аддаецца ў чаканні першага дотыку ягоных вуснаў... А ён не цалуе, толькі сціскае ейную халодную ад хвалявання руку... І ёй самой, Хрысціне, трэба нешта зрабіць, стаць на дыбачкі, дацягнуцца да ягонай шчакі, ягоных вуснаў, абхапіць яго за шыю... А яна стаіць і ўсё мацней і мацней прыціскае да грудзей бяскроўныя канваліі...

**Эпілог**

І зноў Алена скідае адзежу, і распускае валасы і заходзіць у сцюдзёную плыткую рэчку, і ейныя ногі патанаюць у глеі, яна ўскідвае рукі, і ейны цень кладзецца, ломіцца на другім беразе... Але ж гэта зусім не яна, не Алена, гэта яе Каміла, ужо зусім дарослая, рыжавалосая, як Фаўн, з такімі, як у яе, Алены, глыбокімі, блакітнымі вачыма... Зараз яна акунецца ў халодную, сцюдзёную ваду... І там, на беразе, яе ўжо чакае чароўная белая карова... І дзесьці паблізу стаіць замак, у якім яе Мужчына, а можа ўжо і дзеці...

Як шкада, што гэта ўжо апошняя яе, Аленіна, вясна... У іх з Фаўнам болей няма дзяцей... Значыць, усё... Цяпер трэба чакаць унукаў ці адлятаць, ад'язджаць, сыходзіць упрочкі... без вясны, без кахання не жыць...

...Рэзкі аўтобусны гудок вырваў яе з небыцця. Шафёр саскочыў з прыступак, удыхнуў на поўныя грудзі паветра і вінавата ўсміхнуўся:

– Даруйце, я завёз Вас у іншы бок... Мяне тут чакалі, і я не мог, не меў часу везці Вас па маршруту... Але Вы, я бачу, не сумавалі.

Алена агледзелася. Тыя самыя залатыя хвоі, сонца садзіцца. І нават джынсоўка на ёй тая самая.

– Дзе Вашая сумка? Паехалі. Вас, пэўна, ужо зачакаліся...

– Даруйце, а колькі Вас не было? Колькі часу Вы ездзілі па сваіх справах?

– Я не глядзеў на гадзіннік. Можа, пару гадзін...

– Мне здаецца, Вас не было цэлы год... А можа, нават цэлую вечнасць... – Алена ў адчаі не магла скрануцца з месца...

– Ну гэта ўжо занадта... Хіба ж Вы маглі мяне цэлы год, цэлую вечнасць чакаць на адным месцы?

Колькі скепсісу ў ягоных словах!

– Магла б... Каб кахала Вас, то магла б... – прашаптала Алена і заплакала...

А можа гэта проста пайшоў дождж... Дождж, які ўсё сцякае і сцякае па запацелым аўтобусным акне... Куды завязе ён яе гэтым разам?



# Іван КАСЯК

НАШ


І. КАСЯК

З ГІСТОРЫІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

НЬЮ-ЁРК 1956 АМЭРЫКА

*Палякі пастаянна імкнуліся да апанаваньня Вялікага Княства Літоўскага, што яны спадзяваліся асягнуць пры поўным яго зьліцьці з Польшчай.*

## *Пра Івана КАСЯКА*

**Малая радзіма Івана Касяка – вёска Горы пад Вілейкай, дзе ён прыйшоў на свет у 1909 годзе.**

**Гадаванец Віленскай беларускай гімназіі, а потым студэнт нашай найстарэйшай альма-матэр, дзе атрымаў адукацыю інжынера-архітэктара, Касяк належаў да Беларускага студэнцкага саюза і Таварыства беларускай школы – акалічнасць, якая абумовіла сур'ёзныя непрыемнасці ў дачыненнях з польскай адміністрацыяй Заходняй Беларусі.**

**У гады нямецкай акупацыі падчас другой сусветнай вайны ён уваходзіць у кіраўніцтва "Беларускай народнай самапомачы", актыўна ўдзельнічае ў аднаўленні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, з'яўляецца дэлегатам ІІ Усебеларускага кангрэса.**

**Развітаўшыся ў 1944 годзе з Бацькаўшчынай, Іван Касяк пакідае заўважны след у гісторыі беларускай эміграцыі. У 1946-м ён удзельнічае ў двух з'ездах праваслаўных беларусаў у**

# З ГІСТОРЫІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

### І. ПАРА ЎДЗЕЛЬНЫХ КНЯСТВАЎ

Беларускія плямёны: Крывічы, Дрыгавічы, Радзімічы, Северане, Вяцічы, Дзераўляне, да якіх дайшлі і Яцьвягі, сфармаваліся ў дагістарычную пару і ад самага пачатку гістарычных часоў ужо мелі сваю сталую дзяржаўную форму княстваў. Выдатнейшымі з княстваў у X стагодзьдзі былі: Полацкае, Смаленскае і Тураўскае. Княствы дзяліліся ў розныя часы на драбнейшыя княствы, а часамі аб'ядноўваліся ў адну моцную дзяржаву Тады на Беларусі існавала шмат гарадоў. У абсягу Полацкага цэнтру існавалі гарады: Полацк, Віцебск, Менск, Лукомль, Заслаўе, Друцк, Капыль, Барысаў, Гарадзец і інш. Смаленск аб'ядноўваў гарады: Дарагабуж, Тарапец, Мажайск, Клін, Вязьму і інш. У абсягу Турава былі гарады: Пінск, Мазыр, Слуцк, Рэчыца, Рагачоў і інш.

У дагістарычную пару беларусы былі паганамі; іншыя веравызнаньні былі імі талераваныя. Хрысьціянства прышло на Беларусь з Канстантынопалю праз Кіеў. Кіеўскае княства прыняло хрысьціянства ў 988 г. за афіцыйную рэлігію, а па некаторым часе жыхарства ўсіх беларускіх княстваў было ахрышчана ў хрысьціянскую веру ўсходняга абраду. Першымі хрысьціянскімі місыянэрамі, сьвятарамі ды япіскапамі на Беларусі былі грэкі і баўгары. Баўгарскія духаўнікі паслугоўваліся славянскай мовай, зблізканай да беларускай.

Хрысьціянства прынясло на Беларусь новую культуру, новую мараль, якія пашыраліся шляхам духоўнай дзейнасьці і рэлігійнай асьветы. Удзельныя князі прымалі актыўны ўдзел у пашыраньні хрысьціянства, будавалі ў сваіх гарадох цэрквы, манастыры і засноўвалі школы. Настаўнікамі былі духоўныя асобы, а ўся асьвета мела рэлігійны характар. Па манастырох перапісваліся кнігі, як багаслужбовага, так і рэлігійна-маральнага ўзгадаваўчага характару. Манастыры былі культурна-асьветнымі цэнтрамі і мелі вялікае значаньне для краю. Беларускае духавенства і культурна-рэлігійныя дзеячы тых часоў былі вялікімі патрыётамі свайго краю; яны ганарыліся велічай сваей зямлі, хуткім пашырэньнем хрысьціянства і асьветы, у чым дасьцерагалі, паводле прэданьняў, асаблівую Божую ласку.

На Беларусі адразу было заснавана царкоўна-адміністрацыйнае кіраўніцтва. У 992 г. была заснаваная япіскапская кафэдра ў горадзе Полацку, а першым япіскапам там быў Міна, аб якім успамінаецца ў летапісе ў 1105 г. У Тураве ўжо ў 1114 г. існавала япіскапская кафэдра, а ў Смаленску – у 1137 г. Беларускія япіскапы ўваходзілі ў склад Кіеўскай мітраполіі, якая падпарадкавалася Канстантынопальскім патрыярхам.

Канстантынопальская патрыярхія лічыла Кіеўскую мітраполію за адну з грэцкіх мітраполіяў, высьвячала грэкаў на Кіеўскіх мітрапалітаў, але па-за тым не ўваходзіла ў нутраныя справы гэтай мітраполіі.

Кіеўская мітраполія імкнулася да самастойнага ўстанаўляньня мітрапалітаў. У 1051 г., па загаду князя Яраслава, сабор мясцовых япіскапаў, без паразумленьня з патрыярхам, выбраў за мітрапаліта Іларыёна, сьвятара з Берастова пад Кіевам. Другі выпадак быў у 1147 г., калі быў устаноўлены за мітрапаліта беларус, Клім Смаляціч, праз вялікага князя Ізяслава Мсьціслававіча, без папярэдняга паразумленьня з патрыярхам; пазьней мітрапаліт Клім быў зацьверджаны саборам мясцовых япіскапаў, пры ўдзеле яп. Полацкага, Тураўскага і іншых, і благаслаўлёны мясцовай рэліквіяй – галавой сьвятога Клімэнта. Супроць гэтага пратэставалі япіскапы Ноўгарадзкі – Ніфонт і Смаленскі – Мануіл, аднак без памыснасьці.

Праваслаўная царква на Беларусі ў гэту пару была нацыянальнай беларускай царквой. Яна здабыла сабе вялікую пашану ў народзе за сваю рэлігійную дзейнасьць, а таксама – высокае палажэньне ў грамадзкім і палітычным жыцьці.

Падзел хрысьціянства на ўсходняе – праваслаўнае і заходняе – каталіцкае, які адбываўся на пераломе першага і другога тысячагодзьдзя і закончыўся ў 1054 г., не адбіўся на Беларусі, бо тут існавала адзіная ўсходняя праваслаўная царква.

Буйна разьвілося ў гэты пэрыод рэлігійнае пісьменства на Беларусі. Асабліва выдатным быў япіскап Кірыла Тураўскі (ад 1169 г.), які пакінуў шмат твораў. Каля 1182 г. ён адмовіўся ад япіскапскай кафэдры ды адыйшоў у адзіноцтва, гдзе і памёр. За сваю дзейнасьць ён быў залічаны да ліку сьвятых. Ён паходзіў з тураўскіх мяшчанаў, быў адукаваным чалавекам, ведаў бізантыйскую літаратуру, пісаў павучэньні, пропаведзі, малітвы і прамовы. Ня толькі пісьменства, але і таленавітае красамоўства яп. Кірылы былі ведамы і ў іншых краёх, а пісаныя яго творы пашыраліся ў Баўгарыі і Сэрбіі.

У Полацку дзеіла князёўна Эўфрасіньня (нарадз. у 1102 г.), засноўваючы манастыры, а пры іх школы. Яна сама любіла чытаць і перапісваць кнігі, заахвочваючы да гэтага іншых манахаў. З ейнага манастыра кнігі разыходзіліся па ўсім краю. Пад старасьць яна, з сваей сястрой і братам Давідам, паехала праз Канстантынопаль у Ерусалім. У Ерусаліме яна захварэла і пасьля 24 дзён памёрла 23 траўня 1173 г. Цела яе было перавезена ў Кіеў, а ў 1910 г. – у Полацк. За вялікія заслугі на рэлігійнай і культурнай ніве царква залічыла Эўфрасіньню да ліку сьвятых.

У Смаленску дзеіў шэраг выдатных рэлігійна-культурных дзеячоў. Асабліва ўславіўся там Клім Смаляціч, які ад 1147 г. да 1154 г. быў Кіеўскім мітрапалітам. Ён быў высака адукаваным чалавекам і філёзафам; шмат пісаў, перакладаў з іншых моваў і меў вялікую бібліятэку духоўных і сьвецкіх грэцкіх кнігаў. У Смаленску працаваў Аўраам Смаленскі (памёр у 1221 г.), які вучыў чытаць і разумець Сьвятое Пісаньне, а таксама апісваў падарожжы.

Смаленскія князі Расьціслаў і Раман зьбіралі кнігі, выпісвалі вучоных з іншых краёў і арганізавалі школы. У 1130 г. кн. Расьціслаў заснаваў у Смаленску акадэмію.

Буйна разьвілося царкоўнае будаўніцтва. У Смаленску і ваколіцы заіснавалі манастыры, як манастыр у Отрачы, ігумэн якога, Міхаіл, разам са Смаленскім япіскапам Ігнатам, прыяжджаў паслом ад Смаленскага князя Мсьціслава да вялікага князя Ўсевалада ў 1206 г.

На Сьмядзіне быў заснаваны Барысаглебскі манастыр, у якім у 1177 г., паводля даўных вестак, здарылася цуда. Князі Мсьціслаў і Яраполк Расьціслававічы, асьлепленыя ўва Ўладзімеры на Клязьме (пазьнейшая Маскоўшчына), пасьля ўваходу ў сьмядзінскую Барысаглебскую царкву ізноў пачалі бачыць.

У Селішчы, 5 км. ад Смаленску, існаваў манастыр Прэсьвятой Багародзіцы. У Смаленску быў манастыр сьвятога Крыжа ды архангела Міхаіла. Недалёка ад Смаленска стаяў манастыр у чэсьць пакладзеных рызаў Прэсьвятой Багародзіцы. Дадзеныя аб пералічаных вышэй манастырох захаваліся ў апісанні жыцьця прэпадобнага Авраамія Смаленскага.

У апісаньні жыцьця прэпадобнай Эўфрасіньні Полацкай захаваліся весткі аб некаторых полацкіх манастырох; там успамінаецца жаноцкі манастыр у Сяльцы імя Ўсяміласьціваага Спаса і мужчынскі манастыр імя Прэсьвятой Багародзіцы.

---

**заходненямецкім горадзе Рэгенсбургу, дзе са снежня апошняга ваеннага года разгарнула сваю працу Беларуская гімназія імя Янкі Купалы.**

**Пераехаўшы ў ЗША, Касяк застаецца прыкметнай постаццю рэлігійнага і грамадска-палітычнага жыцця дыяспары, у прыватнасці, узначальвае Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі. Зямны шлях нашага суайчынніка завяршаецца ў 1989 годзе ў Чыкага.**

**У 1956-м у Нью-Ёрку выйшла кніга І. Касяка "З гісторыі Праваслаўнай царквы Беларускага народу". Лёс праваслаўя на беларускіх землях разглядаецца ў ёй, пачынаючы з прыходу хрысціянства і да сярэдзіны 50-х гадоў XX стагоддзя. Рэзкай рэцэнзіяй адгукаецца на публікацыю кнігі беларускі грэка-каталіцкі архімандрыт Леў Гарошка (часопіс "Божым Шляхам". Парыж, 1956. № 70—75). Канфесійны патрыятызм сапраўды часам змушае Івана Касяка досыць вольна трактаваць гістарычныя факты.**

**Зрэшты, бальшыня крытычных закідаў айца Л. Гарошкі адносіцца да перыяду існавання Уніі. Мы ж знаёмім чытачоў з двума першымі раздзеламі кнігі.**

**Застаецца дадаць, што ў 1993 годзе ў Мінску была перавыдадзеная напісаная І. Касяком (разам з Я. Найдзюком) кніга "Беларусь учора і сяньня".**

**Уладзімір АРЛОЎ**

У гэты першы гістарычны пэрыод усходніх славянаў акрэсьліліся тры асобныя іх цэнтры: беларускі – княствы Полацкае, Смаленскае, Тураўскае ды інш.; украінскі – княства Кіеўскае ды інш.; расейскі – Уладзімер на Клязьме ды інш. Сваяцтва паміж князямі, супольная мітраполія, супольныя вонкавыя ворагі (хвалі азыяцкіх намадаў), "аб'яднаўчая" палітыка шляхам спадкаў ці захопніцкіх войнаў, – не паўстрымалі працэсу разьвіцьця асобных народаў. Гэта разьвіцьцё знайшло сваё адбіцьцё ў барацьбе за сваю самастойную царкоўную адміністрацыю, ці – за апанаваньне ўсёй царкоўнай адміністрацыяй. У 1240 г. сядзіба Кіеўскіх мітрапалітаў – горад Кіеў, быў зьнішчаны татарамі. Кіеўскі мітрапаліт Кірыла 2-гі і мітрапаліт Максім перанесьлі сядзібу кіеўскіх мітрапалітаў ува Ўладзімер на Клязьме, а пазьней у Маскву, гдзе пачаў тварыцца цэнтр маскоўскай дзяржаўнасьці. Гэта выклікала вялікае незадаваленьне на паўдні – у Кіеве і Галічы, а таксама і на Беларусі і хутка прывяло да стварэньня асобнай мітраполіі для Беларусі і Ўкраіны.

## II. ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ДА ЛЮБЛІНСКАЙ ВУНІІ (1569 Г.)

Наступ татараў з паўдзённага ўсходу, наступ немцаў з Прусаў, драбленьне княстваў і барацьба князёў за ўдзелы, – прывялі да заняпаду княжых цэнтраў: Полацкага, Смаленскага і Тураўскага і да ўтварэньня новага беларускага цэнтру ў форме Вялікага Княства Літоўскага. Князь з Кернава, Рынгаўд (1204—1239), які паводля некаторых вестак Васкрасенскага летапісу, паходзіў з полацкіх князёў, што перасяліліся ў Жамойць, арганізаваў адміністрацыйны цэнтр у Наваградку, навакол якога аб'яднаў значныя беларускія абшары. З іншых наваградзкіх князёў належыць успомніць Вайшэлка, які падчас свайго панаваньня ў 1264—1265 г. збройна ўсьцішаў Аўкштоту і Жамойць; пасьля ён дабраахвотна зрокся вялікакняскага пасаду на карысьць свайго шваґра Шварна, а сам, будучы рэлігійным, уступіў у Лаўрышаўскі праваслаўны манастыр, які сам заснаваў над Нёмнам у Наваградчыне.

Больш выдатнымі князямі, аб'ядноўваючымі далейшыя часткі Беларусі, былі Міндоўг і Гэдымін. Паводля Пагодзінскага збору летапісаў, Гэдымін паходзіў з роду полацкіх князёў. Ён перанёс сталіцу Вялікага Княства Літоўскага з Наваградку ў Вільню. Сын Гэдыміна, Альгерд, павялічыў значна абшар Вялікага Княства Літоўскага, аб'яднаўшы ўсе абшары Беларусі, Жамойць, Аўкштоту і частку Ўкраіны. У межах Вялікага Княства Літоўскага жыло некалькі народаў, але дамінуючым быў беларускі дзейнік, аб чым сьведчуць: а) мяшаная беларуска-літоўская дынастыя пануючых вялікіх князёў; б) Беларусь займала цэнтральнае палажэньне ў Вялікім Княстве Літоўскім, а вялічынёй сваіх абшараў далёка перавышала абшары іншых народаў у яговых межах; в) кіруючыя грамадзкія пласты ў Вялікім Княстве Літоўскім складаліся пераважна з беларускіх князёў і баяраў; г) дзяржаўнай мовай у Вялікім Княстве Літоўскім была беларуская мова; д) праваддаўства і культура Вялікага Княства Літоўскага былі вытварам перадусім беларусоў і панавалі на абшары ўсяе дзяржавы.

Вялікія князі, пануючыя ў Наваградку, імкнуліся стварыць у межах сваей дзяржавы самастойную праваслаўную мітраполію. Ужо за панаваньня Віценя была заснаваная асобная Літоўская мітраполія. У 1291 г. Канстантынопальскі Патрыярх прызначыў Феафіла мітрапалітам Наваградзкім і ўсяе Русі, а імпэратар Візантыі, Андронік Старэйшы, зацьвердзіў Наваградзкую Праваслаўную Мітраполію і прызнаў ей 82-е месца ў Патрыяршай Радзе на агульную колькасьць 100. Маскоўскія князі імкнуліся да таго, каб мітрапаліты Кіеўскія і ўсяе Русі былі ў іх і такім чынам хацелі падпарадкаваць сабе праваслаўную царкву Вялікага Княства Літоўскага. Так пачалося змаганьне між Масквой і Беларусяй на царкоўным грунце. Да гэтай пары быў адзін мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі, якому былі падпарадкаваны ўсе япіскапы Беларусі, Украіны і Маскоўшчыны.

Цяжка давалася Вялікаму Княству Літоўскаму тварэньне сваей праваслаўнай мітраполіі, Кастантынопальскія ўлады ня былі прыхільны падзелу да тае пары аднае мітраполіі. Аднак, вялікія князі літоўскія напорыста рабілі свае захады. З мэтай утрыманьня асобнай праваслаўнай мітраполіі Вялікага Княства Літоўскага князь Альгерд паслаў да Канстантынопальскага Патрыярха свайго кандыдата. Гэта быў брат ягонае жонкі, Марыі Яраслаўны, князёўны Віцебскай, князь Раман, мітрапаліт Наваградзкі. Альгерд дамагаўся, каб мітр. Раман быў устаноўлены мітрапалітам усяе Русі з падпарадкаваньнем яму мітраполіі Наваградзкай, Галіцкай, Кіеўскай і япіскапстваў Маскоўшчыны. Масква змагалася супроць гэтага і дамагалася ад Канстантынопальскага Патрыярха, каб ейны кандыдат,





Аляксей, быў узьведзены на мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі, з сядзібай ува Ўладзімеры на Клязьме. Канстантынопальскі Патрыярх, атрымаўшы багатыя дарункі ад абоіх старон, у 1354 г. узьвёў на мітрапалітаў Кіеўскіх і ўсяе Русі абоіх кандыдатаў. З гэтым фактам узмоцнілася змаганьне на царкоўным грунце між Беларусяй і Маскоўшчынай.

Заіснаваўшая Беларуская Аўтакефальная Мітраполія мела вялікае значэньне як для Беларусі, так для грэцкай царквы. Сядзібай мітрапалітаў быў Наваградак. Наваградзкія мітрапаліты прымалі ўдзел у канстантынопальскіх сынодах у 1317 г., 1327 г. і 1329 г. У 1356 г. мітрапаліт Раман паўторна быў у Канстантынопалі, гдзе былі размежаваныя тэрыторыі Літоўскага мітрапаліта Рамана і Маскоўскага мітрапаліта Аляксея. Мітрапаліту Раману былі падпарадкаваныя епархіі з гарадамі: Полацкам, Туравам, Наваградкам, епархіі Валыні, а пазьней і Бранская епархія.

У 1360 г. мітр. Раман наведаў, з мэтай царкоўнай апекі, горад Цьвер, які не хацеў падпарадкавацца Маскве.

Пасьля сьмерці мітрапаліта Рамана ў 1361 г. Канстантынопальскі Патрыярх адмовіў высьвяціць асобнага мітрапаліта для Вялікага Княства Літоўскага, хочучы ўнікнуць барацьбы між мітрапалітамі. Альгерд пратэставаў супроць гэтага і зьвярнуўся да Канстантынопальскага Патрыярха з прозьбай устанавіць асобнага ад Масквы мітрапаліта для абшараў з гарадамі: Кіеў, Смаленск, Цьвер, для малой Русі, Навасільля і Ноўгараду. У 1376 г., па захадах Альгерда, Канстантынопальскі Патрыярх узьвёў грэка Кіпрыяна ў сан мітрапаліта Кіеўскага і Літоўскага, асобнага ад мітрапаліта Маскоўскага, аднак з тым, што па сьмерці Маскоўскага мітрапаліта Аляксея мітр. Кіпрыян меў быць агульным мітрапалітам і для Масквы.

Вялікі князь Альгерд быў праваслаўным, аднак адзначаўся нясталасьцяй у веры. Спачатку ён прыняў праваслаўе дзеля сваей жонкі Марыі, князёўны Віцебскай, і дазволіў пабудаваць у Віцебску дзьве праваслаўныя цэрквы: Благавешчаньня і Сьв. Духа. Але, стаўшы вялікім князем, ён ізноў стаў паганам і нават прасьледваў хрысьціянаў. За яго панаваньня, у 1347 г., за праваслаўную веру былі закатаваныя Кумец, Няжыла і Круглец, у хрышчэньні: Іоан, Антоні ды Еўстафі, залічаныя пазьней да ліку сьвятых і агульна пачытаныя на Беларусі, як тры Віленскія мучанікі.

На працягу 32-гадовага панаваньня Альгерда, пасьля некаторых цяжкасьцяў, праваслаўная рэлігія разьвівалася, а самастойная царква давала найлепшыя ўмовы для гэтага.

Па сьмерці Альгерда ягоны сын Ягайла стаў вялікім князем літоўскім, асягнуўшы гэты пасад шляхам барацьбы з братамі і дзядзькам. У 1385 г. Ягайла заключыў з Польшчай вунію ў Крэве, на моцы якой Вялікае Княства Літоўскае і Польшча тварылі палітычнае злучэньне, будучы аб'яднанымі супольнай асобай пануючага. Каралём польскім і адначасна вялікім князем літоўскім стаў Ягайла, ажэнены з польскай каралеўнай Ядзьвігай. На аснове гэтай вуніі Ягайла перайшоў у каталіцтва і забабязаўся навярнуць на каталіцтва ўсіх ліцьвіноў, якія да тэй пары былі паганамі.

Па ўзьвядзеньні на польскі каралеўскі пасад, Ягайла вярнуўся з Кракава і распачаў прымусовае наварачваньне на каталіцтва паганаў Жмудзі ды Аўкштоты; наварачвалі ня толькі паганаў, але і праваслаўных жмудзінаў. Гэту акцыю праводзіла польскае каталіцкае духавенства, якое побач з пашыраньнем каталіцтва насаджвала полёнізацыю. У 1387 г. Ягайла заснаваў у Вільні каталіцкае біскупства з духавенства прыбыўшага з Польшчы. Ад гэтай пары пануючай рэлігіей у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага становіцца каталіцтва, спаўняючае адначасна ролю магутнага полёнізацыйнага дзейніка.

Магнаты і баяры Беларусі, Жмудзі і Аўкштоты былі незадаволены з такой палітыкі Ягайлы. Яны арганізавалі паўстаньне, аддзяліліся ад Польшчы ды ўзьвялі на пасад Вялікага Княства Літоўскага асобнага вялікага князя Вітаўта (1392—1430). Так была спынена важнасьць Крэўскай вуніі для Вялікага Княства Літоўскага. Каб ня мець перашкодаў з боку Ватыкану, ды атрымаць падтрымку з боку Тэўтонскага ордэну ў барацьбе за Вялікае Княства Літоўскае – Вітаўт прыняў каталіцтва. Таму каталіцтва надалей заставалася пануючым у сталіцы Вільні.

Урад Вітаўта імкнуўся ўнезалежніцца ад маскоўскіх уплываў праз мітрапалічы праваслаўны цэнтр у Маскве, ды распачаў захады для арганізацыі самастойнай мітраполіі. З гэтай мэтай Вітаўт зьвярнуўся да Канстантынопальскага Патрыярха, просячы высьвяціць япіскапа Полацкага Хвядоса ў мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага. Аднак гэта просьба ня была задаволена. Пасьля таго ў 1414 г. Вітаўт склікаў нараду беларускіх князёў, на якой

было адмоўлена маскоўскаму мітрапаліту Фоцію ў кіраўніцтве праваслаўнымі епархіямі Вялікага Княства Літоўскага і выслана пасольства ў Канстантынопаль для высьвячэньня асобнага мітрапаліта, Грыгора Цамблака, для ўсей Літвы і Кіева. Гэтыя захады таксама засталіся бяз посьпеху. Тады Вітаўт зьвярнуўся да духавенства ўсяго краю, запрашаючы на нараду. На зьезд прыбылі япіскапы: полацкі Хвядос, чарнігаўскі Ісаак, луцкі Дзяніс, уладзімерскі Герасім, Холмскі Харытон і тураўскі Яўхім. Вітаўт прадставіў бясскуткоўнасьць сваіх захадаў у Канстантынопалі, скардзіўся на візантыйскага імпэратара і канстантынопальскага патрыярха за тое, што яны ўстанаўляюць мітрапалітаў, якія вывозяць казну ў Грэцыю*; мясцовая царква ў занепадзе, а маскоўскі мітрапаліт Фоці таксама рабуе яе. Вітаўт дадаў: "Я не хацеў-бы, каб пра мяне гаварылі: вось гаспадар чужой веры, таму і царква занепала". Япіскапы зрабілі скаргу на маскоўскага мітрапаліта Фоцыя, што ён не клапоціцца аб сваім духоўным стадзе ў межах Вялікага Княства Літоўскага, толькі зьбірае царкоўныя даходы і прыбыткі і пераносіць каштоўныя рэчы з кіеўскай саборнай царквы ў Маскву. Адначасна япіскапы заявілі, што яны самі саборам могуць паставіць сабе мітрапаліта, як гэта ўжо было пры вялікім князі Ізяславе. Аднак, паводля агульнай згоды было пастаноўлена зьвярнуцца яшчэ раз у Канстантынопаль да імпэратара і патрыярха з паведамленьнем, што, калі яны не дадуць Вялікаму Княству Літоўскаму асобнага мітрапаліта, то мясцовыя іерархі самі яго сабе паставяць.

У сакавіку 1415 г. былі высланыя паслы ў Канстантынопаль. Тым часам, маскоўскі мітрапаліт Фоці, даведаўшыся аб гэтым, паехаў на Беларусь, зьбіраючы па дарозе падатак ад духавенства. Пакінуўшы свае скарбы ў Смаленску, мітрапаліт Фоці паехаў да Вітаўта ў Горадню. Вялікі князь ня прыняў мітрапаліта Фоцыя, пасьля чаго мітрапаліт паехаў назад у Маскву. За Смаленскам ад мітрапаліта Фоцыя была адабраная казна, па загаду Вітаўта.

У тым-жа часе па загаду Вітаўта быў зроблены перапіс усіх гарадоў і вёсак, належучых да праваслаўнай царквы Вялікага Княства Літоўскага, з іх былі выгнаныя намесьнікі Фоцыя, а гэтыя маемасьці былі раздадзены мясцовым панам.

Паслы Вітаўта па ягонаму загаду павінны былі чакаць адказу ў Канстантынопалі не пазьней 20 ліпеня, а потым – 15 жніўня, а ўрэшце, на прозьбу паслоў імпэратара і патрыярха, праяжджаўшых у гэты час праз Беларусь з Масквы, – да лістапада. Калі тэрмін мінуў, то Вітаўт ізноў склікаў япіскапаў Вялікага Княства Літоўскага і запрапанаваў ім паставіць на мітрапаліта Грыгора Цамблака, сэрба па паходжаньню. Дня 15 лістапада 1416 г. у горадзе Наваградку і быў пастаўлены мітрапалітам Кіеўскім і Літоўскім Грыгор Цамблак. У склад мітраполіі ў гэту пару ўваходзіла сем епархіяў, галовы якіх падпісаліся пад саборным актам: полацкая, чарнігаўская луцкая, уладзімерская, смаленская, холмская і тураўская. Япіскапы галіцкай і чэрвенскай (перамышльскай) епархіяў не прымалі ўдзелу ў гэтым акце і не ўвайшлі ў склад Літоўскай мітраполіі, бо знаходзіліся ў межах Польшчы.

У сваей саборнай грамаце япіскапы гавораць аб сваім глыбокім жалю, бачучы недбаласьць Фоцыя аб Кіеўскай царкве і клопаты яго толькі аб зьбіраньні царкоўных падаткаў. Далей гаворыцца аб выгнаньні Фоцыя Вітаўтам і аб яго прозьбе да грэцкага імпэратара і патрыярха даць Ліцьве асобнага мітрапаліта. Аднак імпэратар Мануіл дзеля матар'яльных матываў не захацеў выканаць гэтага пажаданьня. Тады Вітаўт склікаў ня толькі япіскапаў, але і архімандрытаў, ігумэнаў, пабожных манахаў і сьвятароў, а таксама літоўскіх князёў, магнатаў і баяраў. "І паводля рады ўсіх гэтых асобаў, мы, сабраўшыся ў Новым-горадзе літоўскім, у сьв. царкве прачыстай Багародзіцы, па благадаці, дадзенай нам ад Сьв. Духа, паставілі мітрапалітам сьв. нашай Царквы кіеўскай і ўсяе Русі Грыгора, паводля прэданьня сьв. апосталаў, якія ў сваіх правілах пішуць: "Два ці тры япіскапы рукапалагаюць мітрапаліта". Перад намі так паступілі япіскапы пры вялікім князі кіеўскім Ізяславе, паставіўшы мітрапаліта згодна з правіламі. Таксама паступілі і сваяцкія нам Баўгары, прыняўшыя хрышчэньне перад намі, і Сэрбы, пастаўляючы сабе першасьвяціцеля сваімі япіскапамі, хаця сэрбская зямля шмат меншая за рускую, знаходзячуюся ў валаданьні вялікага князя Вітаўта. Але пашто гаварыць аб Баўгарах і Сэрбах? Так установлена ад сьв. апосталаў. Благадаць Сьв. Духа аднолькава дзеіць ува ўсіх япіскапах праваслаўных: пастаўленыя ад самога Госпада, апосталы пастаўлялі іншых, тыя іншых, і такім чынам благадаць Сьв. Духа дайшла і да нас сьмірэнных. І мы, як апостальскія вучні,

* Кастантынопаль ставіў мітрапалітамі Кіеўскімі і ўсяе Русі пераважна грэкаў.





маем уладу, пасьля шматлікіх дасьведчаньняў, саборам пастаўляць годнага пастыра сваей бацькаўшчыне... Хай не падумае хто небудзь, нібы мы адыходзім ад веры, пастаўляючы самі мітрапаліта: не, мы не адыходзім. Наадварот, перададзенае сьв. апосталамі і сьв. бацькамі мы трымаем і набожна вызнаём; мы праклінаем усякую ерась, не маючую апостальскага і бацькаўскага прэданьня, аддаём анафэме і сымонію, прадаючую дары Сьв. Духа за серабро і золата. Сьвяцейшага патрыярха царгародзкага мы прызнаём патрыярхам і бацькам, а іншых патрыярхаў ды іх мітрапалітаў і япіскапаў – бацькамі і братамі ў Сьв. Духу, і згодна з імі ўтрымліваем вызнаваньне веры, таму самаму вучым, так сама мудрствуем. Але ня можам без агіды зносіць гвалту, якога дазнае Царква Божая ад цара (грэцкага). Сьв. усяленскі патрыярх і сьвяшчэнны канстантынопальскі сабор ня могуць самі сабой паставіць мітрапаліта згодна правілам, але пастаўляюць, каго загадае цар, і адтаго дар Сьв. Духа купляецца і прадаецца. Так паступіў у дачыненьні да кіеўскай Царквы ў нашыя дні бацька пануючага імпэратара (Мануіла – Іоанн) з мітрапалітамі – Кіпрыянам, Пімэнам, Дзянісам і многімі іншымі, клапоцячыся не аб павазе царкоўнай, але аб серабры і золаце. Дзеля гэтага паўставалі цяжкія даўгі, многія ўтраты, ухілы, закалоты, забойствы і, што прыкрэй за ўсё, непашана Царквы кіеўскай і ўсяе Русі. Таму мы разважылі, што не належыць нам трымаць такіх мітрапалітаў, якія пастаўляюцца куплей ад цара – сьвецкай асобы, а не па волі патрыярха і яго сабору. І мы, сабраўшыся, па благадаці, дадзенай нам ад Сьв. Духа, паставілі дастойнага мітрапаліта рускай Царквы".

Вітаўт са свайго боку выдаў абежны акт, у якім высьвятліў увесь прабег справы і яе падставы. Ён абвінавачваў маскоўскіх мітрапалітаў у тым, што тыя не будавалі царкву ў Вялікім Княстве Літоўскім, а зьбіралі даходы і выносілі іх адгэтуль. Далей Вітаўт рабіў закід мэтаду пастаўляньня мітрапалітаў у Канстантынопалі шляхам "накупу", г.зн. той атрымліваў мітраполію, хто меў быць у паслухмянасьці ў іх і хто меў рабаваць і апаражняць тут для вынашэньня ўсяго да іх. Цяперашні мітрапаліт пастаўлены саборам не для ўпадку веры і цэркваў, а для большай павагі рускай на сваей зямлі.

Япіскапы праваслаўнай царквы Вялікага Княства Літоўскага выслалі адмысловае пасланьне да маскоўскага мітрапаліта Фоція, як да былога кіеўскага мітрапаліта, у якім заяўлялі, што не прызнаюць яго япіскапам (мітрапалітам) згодна правілаў.

Грыгор Самвлак быў адукаванай асобай і моцна трымаўся праваслаўнай веры. Ён быў прысутным на царкоўным саборы ў Канстанцы, гдзе праводзілася справа вуніі праваслаўнай царквы з каталіцкай. Праваслаўная дэлегацыя з Вялікага Княства Літоўскага цьвёрда заявіла, што яны прыбылі на сабор па загаду Вітаўта, але ня хочуць падпарадкавацца папе рымскаму. Мітрапаліт Самвлак памёр у 1419 г.

У 1400 г. Ягайла пазбавіў праваслаўных грамадзян права гэрбаў, шляхоцтва і ўрадавай службы, даючы права на гэта толькі каталіком. Праз два гады ён пацьвердзіў гэты свой закон. Непасрэдна гэта датычыла толькі Галіцкіх абшараў, належучых да Польшчы. Аднак гэты кірунак палітыкі меў свой пасрэдны ўплыў і на Беларусь, а быў афармлены ўмовай вуніі ў Гародле ў 1413 г. Ягайла, як кароль Польшчы, і Вітаўт, як вялікі князь Літоўскі, гэтым актам замацоўвалі правы і прывілеі ў Вялікім Княстве Літоўскім за каталіцкім духавенствам і каталіцкай шляхтай, якая атрымала польскія шляхоцкія гэрбы. Па прыкладу Польшчы ў Вялікім Княстве Літоўскім былі ўведзеныя ўрады ваяводаў і каштэлянаў, аднак гэтыя ўрады маглі атрымаць толькі каталікі, але не праваслаўныя. Гэта спрыяла таму, што шмат магнатаў пачало пакідаць праваслаўе і пераходзіць на каталіцтва.

Па сьмерці Вітаўта ў 1430 г. на пасад Вялікага Княства Літоўскага быў узьведзены беларускімі баярамі брат Ягайлы – Сьвідрыгайла. Раней у Кракаве ён быў перахрышчаны з праваслаўя ў каталіцтва. Але будучы прыхільнікам праваслаўя ён адмовіўся ад каталіцтва. Неадкладна пасьля заняцьця вялікакняжага пасаду Сьвідрыгайла пачаў вайну супроць Ягайлы і барацьбу супроць каталіцтва. Тады Ягайла дапамог узьвесьці на пасад Вялікага Княства Літоўскага Жыгімонта, брата Вітаўта, вялікага прыхільніка каталіцтва.

Сьвідрыгайла дбаў аб самастойнай беларускай мітраполіі. Па яго захадах у Канстантынопалі быў прызначаны мітрапалітам усяе Русі япіскап смаленскі Гэрасім. Дзейнасьць мітрапаліта ахоплівала толькі абшары Вялікага Княства Літоўскага, бо маскоўскія князі не хацелі падпарадкаваць сваей царквы мітрапалітам, пражываючым у Вялікім Княстве Літоўскім. Мітрапаліт Гэрасім згінуў у 1435 г. ад помсты Сьвідрыгайлы.

Наступ туркаў на Візантыю ў XV ст. спрычыніў захады аб рэлігійнай вуніі праваслаўнай грэцкай царквы з каталіцкай рымскай царквой, у надзеі атрыманьня дапамогі ад каталіцкай Заходняй Эўропы для барацьбы супроць турэцкага наступу. Астаточна вунія

была заключана на саборы ў Флёрэнцыі ў 1439 г. Мітрапаліт Маскоўскі Ізыдар, прызначаны ў Канстантынопалі для "ўсяе Русі", г.зн. для Беларусі, Украіны і Маскоўшчыны, падпарадкаваўся вуніяцкаму патрыярху. Аднак, пасьля гэтага ён ня мог утрымацца ў Маскве і ратаваўся адтуль уцечкай. У 1442 г. ён прыязджаў у Навагрудак да вялікага князя Літоўскага Казіміра, спадзяючыся разгарнуць вуніяцкую дзейнасьць на Беларусі. Аднак Казімір выступіў прыхільнікам Базэльскага сабору, а не Флёрэнтынскага. Таму Ізыдар не атрымаў магчымасьці застацца ў Вялікім Княстве Літоўскім для вуніяцкай дзейнасьці і мусіў выехаць у Рым.

Пачынаючы ад 1458 г. мітрапаліты Кіеўскія і ўсяе Русі выбіраліся зусім незалежна ад маскоўскай царквы і беларуска-украінская мітраполія ня мела нічога супольнага з маскоўскай мітраполіей. У гэту пару ў склад мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі ўваходзілі 9 епархіяў: бранская, смаленская, тураўская, полацкая, перамышльская, луцкая, уладзімерская, холмская і галіцкая. Сядзібай мітрапалітаў быў Навагрудак беларускі. Першым мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі, незалежным ад маскоўскай царквы, быў Грыгор Баўгарын, прызначаны ў Рыме ў 1458 г., праз Канстантынопальскага патрыярха прызнаўшага вунію. Аднак пасьля 10 год сваей дзейнасьці ў Вялікім Княстве Літоўскім, карыстаючы з садзейнічаньня каталіка вялікага князя Казіміра, мітрапаліт вуніят не асягнуў посьпеху. Япіскапы і частка духавенства падпарадкаваліся яму, але супраціў праваслаўнага насельніцтва быў вельмі вялікі. Таму ў 1469 г. мітрапаліт Грыгор зьвярнуўся і атрымаў ад праваслаўнага патрыярха ў Канстантынопалі для сябе благаславеньне і пацьверджаньне. Такім чынам барацьба Казіміра за ўвядзеньне вуніі на Беларусі, за пастаўляньне мітрапалітаў у Рыме, была ім прайгранай. Ад 1481 г. пачынаецца пэрыяд пастаўляньня Літоўскіх праваслаўных мітрапалітаў праз Канстантынопальскіх патрыярхаў, асобна ад Маскоўскіх.

Казімір не адмовіўся ад умацоўваньня каталіцтва на Беларусі і распачаў уціск праваслаўных у нябывалых памерах. Аб гэтым уціску праваслаўных праз каталіцтва сьведчыць грамата мітрапаліта Місаіла да папы Сікста IV з 14 сакавіка 1476 г., у якой мітрапаліт паведамляў аб няроўным трактаваньні праваслаўных і каталікоў у Вялікім Княстве Літоўскім і прасіў папу зраўнаць і прымірыць каталікоў з праваслаўнымі.

У 1484 г. Казімір, будучы каралём Польшчы, выдаў загад, забараняючы праваслаўным будаваць новыя і напраўляць існуючыя цэрквы.

Аб уціску праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім гаворыць грамата беларускіх князёў да Канстантынопальскага патрыярха з прозьбай аб высьвячэньні Іоны на мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага, з 1492 г.

Рэлігійны ўціск праваслаўных праз каталікоў быў цесна зьвязаны з польскім нацыянальным наступам на Беларусь і Украіну, з польскай колёніяльнай палітыкай адносна гэтых краінаў. Экспансыя Ватыкану ў рэлігійнай шаце падала руку супрацоўніцтва польскай нацыянальна-колёнізатарскай экспансыі на ўсход, праводзячы палітыку падвойнага ўціску Беларусі. Фактычнымі прыгнятальнікамі праваслаўя, як беларускай рэлігіі, былі польскія каталіцкія прэлаты, ксяндзы, паны і шляхта. Сам кароль Казімір выдаў некалькі грамат на карысьць праваслаўнага мітрапаліта і япіскапаў – аб недатыкальнасьці іх уладычых правоў, суду, царкоўнай маемасьці і даходаў. Кароль загадаў свайму смаленскаму намесьніку не мяшацца ў духоўныя справы мясцовага праваслаўнага япіскапа. Кароль даў слова жыхаром Смаленску і віцебскай зямлі ня "рушыць хрысьціянскага іх грэцкага закону, не ўступаць у іх царкоўныя дамы".

Пачынаючы з другой палавіны XV ст. у жыцьці Беларусі адбываюцца вялікія перамены. Да гэтага часу вялікія князі Літоўскія, асобныя ад польскіх каралёў, баранілі незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага, перашкаджалі польскаму наплыву на Беларусь і ахоўвалі старыя парадкі. Ад гэтай пары вялікія князі Літоўскія сумысьля выбіраюцца палякамі за адначасных польскіх каралёў і ператвараюцца ў прыладзьдзе польскай палітыкі на Беларусі. Яны зьяўляюцца праваднікамі ў беларускае дзяржаўнае, грамадзкае і царкоўнае жыцьцё польска-каталіцкіх асноў, абвешчаных яшчэ Ягайлам на Крэўскай вуніі. Даўны беларускі парадак жыцьця паступова замяняецца польскім, што выражаецца ў наступным: а) узмацняецца пашыраньне каталіцтва на Беларусі, адбываецца поўнае апалячаньне гэтага каталіцтва, якое на пачатку мела тут часткова беларускі характар; б) бязьмерна павялічваюцца правы шляхты, атрымаўшай польскія гэрбы, коштам найвышэйшай улады і коштам іншых станаў і клясаў насельніцтва, шляхта звальняецца ад цяжараў дзяржаўных павіннасьцяў, прыніжаюцца і аддаюцца ў няволю шляхце масы працоўнага беларускага





народу. Аднак гэты чужы польскі лад яшчэ выклікаў супроцьдзеяньне з боку былых удзельных і ўрадуючых беларускіх князёў, для якіх ня было на карысьць узвышэньне шляхты, а таксама – з боку бальшыні беларускага працоўнага народу, уціскanага непамерным разьвіцьцём шляхоцтва з яго прывілеямі ды абмежаваньнямі вызнаванай народам праваслаўнай веры. Таму, адначасна з прасяканьнем польскіх элемэнтаў у беларускае жыцьцё, тут адбываецца актыўная барацьба супроць польскасьці. Яна выявілася: у павялічэньні колькасьці праваслаўных сьвятыняў, будаваных у маемасьцях магнатаў – недаступных для каралеўскай забароны; у захадах аб добрым уладжаньні царкоўнай арганізацыі; у павышэньні духоўнай асьветы і царкоўна-грамадзкай дабрадзейнасці; а таксама – у спробах аддзяленьня ад Польшчы ды ўтрыманьня самастойнай беларуска-літоўскай дзяржавы.

Панаваньне вялікага князя Аляксандра характэрна нясталасьцяй яго ў дачыненьні да праваслаўя: некаторыя яго акты выказваюць прыхільнасьць, а іншыя – сьведчуць аб адваротным. Так, у 1492 г. ён пацьвердзіў усе правы, дадзеныя яго продкамі духавенству, князям, баярам і ўсей шляхце літоўскага, рускага і жамойцкага народу без ніякай розьніцы ў веры. Аднак, у 1494 г. ён пасяліў у Горадні каталіцкіх польскіх манахаў Бэрнардынаў, падараваўшы ім пляц, на якім раней быў замак вялікіх князёў літоўскіх. Адным з важнейшых актаў, дадзеных Аляксандрам у 1499 г., было пацьверджаньне і забясьпячэньне для праваслаўнай царквы правоў судовых, маемасных, усяго праваслаўнага духавенства – аб недатыкальнасьці духоўнага суду і царкоўнай маемасьці. Аднак гэты акт быў дадзены на прозьбу мітрапаліта Язэпа ў той час, калі гэты апошні пераконваў праваслаўных падпарадкавацца рымскаму папе.

У той-жа час каталіцкія магнаты на Беларусі націскалі на сваіх падначальных праваслаўных для прыняцьця імі каталіцтва.

Праваслаўе на Беларусі ў гэту пару ўжо ня толькі ня было пануючай рэлігіей, але толькі талераванай. Але, належыць адцеміць яшчэ вялікую сілу беларускіх кіруючых колаў ды іх імкненьне да аддзяленьня ад Польшчы. Калі вялікі князь літоўскі Аляксандар быў выбраны палякамі на свайго караля, то палякі апрацавалі ў 1501 г. праект вуніі Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай; аднак гэта вунія на працягу ўсяго панаваньня Аляксандра ня была падпісана вышэйшымі дзяржаўнымі ўрадоўцамі Вялікага Княства Літоўскага.

У 1509 г. у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага – Вільні, адбыўся сабор праваслаўнай царквы з мэтай устанаўленьня царкоўнага парадку і забясьпячэньня духавенства ад уплываў сьвецкіх уладаў. На саборы былі прысутнымі: мітрапаліт Язэп Солтан, 7 япіскапаў, 7 архімандрытаў, 6 ігумэнаў і 7 асобаў з белага духавенства.

За панаваньня Аляксандра маскоўскія князі пачалі стала выкарыстоўваць праваслаўе для сваей палітыкі заваяваньня Беларусі. Масква выстаўляла сябе за абаронцу праваслаўных беларусоў, уціснаных каталіцкімі дзейнікамі ў Вялікім Княстве Літоўскім, гэтым старалася здабыць сабе сымпатыі ў часткі праваслаўных беларусоў і стварала прэцэдэнт для ўмешваньня ў нутраныя справы Вялікага Княства Літоўскага.

За панаваньня Жыгімонта Старога (1506—1548), пры сваім агульным паніжэньні, праваслаўная царква мела супакой. Што праўда, кароль быў змушаны пацьвярджаць аж чатыры разы антыбеларускую Гарадэльскую вунію: у 1522 г., 1529 г., 1537 г. і 1547 г., аднак ён сам не хацеў трымацца ейных абмяжаваньняў. Ён дапушчаў праваслаўных да самых высокіх дзяржаўных становішчаў.

Каталіцкія прэлаты займалі першыя месцы ў дзяржаўным сэнаце, а праваслаўных там зусім ня было. Аднак праваслаўнае духавенства на жаданьне караля прыбывала на соймы, мела доступ да караля і часамі знаходзіла справядлівае вырашэньне спраў спорных з каталіцкімі біскупамі. Мітрапаліт Іона зьвярнуўся да караля, каб па прыкладу каталіцкіх біскупаў і праваслаўныя япіскапы атрымалі месца і голас у каралеўскім сэнаце; аднак на гэта быў адказ, што яго каралеўская міласьць адкладае гэту справу да іншых часоў.

Палякі прыбывалі на Беларусь ужо за часоў Ягайлы і асядалі тут. Але ўзмоцненае перасяленьне палякоў на Беларусь пачалося пры Жыгімонце Старым. Вялізныя абшары пінскіх князёў Жыгімонт аддаў сваей жонцы Боне, якая, як каталічка, будавала там касьцёлы і ўмацоўвала каталіцкія і польскія ўплывы. На берасьцейскім сойме беларусы і ліцьвіны скардзіліся каралю, што ў Ліцьве і Беларусі "ўрады і цівунствы раздадзены ляхам", аб чым скардзіліся таксама і на другім берасьцейскім сойме ў 1544 г.

Каталіцкае духавенства на Беларусі ў гэту пару ў вялікай меры складалася з палякоў,

якія стараліся ўтрымаць за сабой кіраўніцтва над беларускім і літоўскім духавенствам, імкнучыся яго апалячыць. Бэрнардынскія манастыры на Беларусі знаходзіліся пад кіраўніцтвам польскага правінцыяла, праводзіўшага полёнізацыю і не дапушчаўшага да духоўных урадаў і службаў манахаў не палякаў. Тыя пратэставалі, абвінавачвалі польскіх кіраўнікоў у расьцягваньні маемасьці і жадалі асобнага правінцыяла для сваіх манастыроў. Аднак, кароль, яго рада і магнаты падтрымлівалі палякаў.

Паводля сьведчаньня праваслаўнага, Юрага Тышкевіча, пасла ў Маскву, да 1553 г. большая частка магнатаў Вялікага Княства Літоўскага была праваслаўнай і пераход у каталіцтва быў рэдкім зьявішчам.

Стан праваслаўнай царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім у гэту пару ня быў на належнай вышыні. Гэта залежыла ў першую чаргу ад шкоднага мэтаду раздаваньня каралём сьвецкім людзям царкоўных пасадаў. Самаволя гэтай раздачы давяла склад праваслаўнай іерархіі да зусім неадпаведнага стану. Сьвецкія асобы, атрымаўшы япіскапства ад караля, часамі доўга ня высьвячаліся, клапаціліся толькі аб сьвецкіх і асабістых справах, прыкрываючы іх "духоўнымі хлябамі". Калі да Беларусі дакацілася з Заходняй Эўропы хваля рэфармацыі, то праваслаўная царква была зусім не ў стане змагацца з новым рэлігійным супраціўнікам.

За панаваньня Жыгімонта Старога быў запачаткаваны беларускі друк. Доктар Францішак Скарына з Полацку выдрукаваў па-беларуску ў Празе Чэскай у 1517 г. Псалтыр, а пасьля – 22 кнігі Старога Запавету Бібліі. Пазьней Скарына пераехаў у Вільню і тут у 1525 г. выдрукаваў Апостала і "Малую падарожную кніжыцу". Дзейнасць Скарыны была народжана духам пануючага тады ў Заходняй Эўропе гуманізму; аднак, усе выданьні яго мелі праваслаўны характар і прызначаліся для праваслаўных беларусаў.

Узыходзячы на пасад Вялікага Княства Літоўскага Жыгімонт Аўгуст у 1529 г. зацьвердзіў Статут Вялікага Княства Літоўскага. Сваёй беларускай мовай гэты статут сьведчыць аб беларускасьці Вялікага Княства, а як агульны кадэкс законаў для ўсяго Княства ён сьцьвярджаў яго адзінства і бараніў незалежнасьць. Статут трактуе Польшчу як чужаземную дзяржаву, а палякоў, як чужынцоў, не маючых права на ўрады, публічныя пасады, без права набываць зямлю на собскасьць у Вялікім Княстве Літоўскім. Далейшай праявай самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага, побач іншых, быў факт,што яно біла свае собскія грошы, мела сваю адміністрацыю, войска, вялікага князя, сойм.

За панаваньне Жыгімонта Аўгуста на Беларусь прыбыла з Захаду рэфармацыя, якая зрабіла вялікія шкоды праваслаўнай царкве, але мела дадатняе значаньне для культурнага ўзросту Беларусі. З рэфармацыйных кірункаў тут наймацнейшым стала кальвінства, пашыранае ўплывовым магнатам Мікалаем Радзівілам Чорным. Шмат праваслаўных і каталікоў з вышэйшых станаў пераходзіла ў кальвінства. Напрыклад, толькі ў Наваградзкім ваяводзтве было да 600 шляхоцкіх дамоў, і каля 1566 г. толькі 16 не перайшлі на кальвінства. У Наваградзкім ваяводзтве каля 650 касьцёлаў і цэркваў былі абернуты ў кальвінскія зборы.

Пераважаючае значаньне цяпер мелі ў Вялікім Княстве Літоўскім не каталікі, а пратэстанты і таму на Віленскім сойме ў 1563 г. Жыгімонт Аўгуст сваім выясьненьнем уневажніў гарадэльскую пастанову, абмяжоўваючую правы праваслаўных, пратэстантаў і інш. не каталікоў. У складзе каралеўскай рады, судзячы па подпісах пад каралеўскай граматай, былі наступныя пратэстанты: абодва Радзівілы – ваявода Віленскі і ваявода Троцкі – гэтман літоўскі; Еўстафі Валовіч – падскарбі Вялікага Княства Літоўскага, Ян Хадкевіч – стольнік Вялікага Княства Літоўскага ды інш.; з праваслаўных былі: князь К.К. Астроскі, ваявода Наваградзкі Павал Сапега, гэтман дворны Грыгор Хадкевіч, брат яго стараста Бельскі Юры Хадкевіч і інш. Прысутныя каталікі павінны былі мірыцца з пераважаючымі сіламі некаталікоў.

Палякі пастаянна імкнуліся да апанаваньня Вялікага Княства Літоўскага, што яны спадзяваліся асягнуць пры поўным зьліцьці Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. Будучы бязьдзетным і хочучы ўтрымаць адну вялікую дзяржаву, Жыгімонт Аўгуст таксама схіліўся да ўмацненьня вуніі Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. У 1563 г. ён зраўняў у правах шляхту Вялікага Княства Літоўскага з польскай. У тым самым годзе ён адмовіўся ад свайго спадчыннага права на Вялікае Княства Літоўскае і перадаў яго Польшчы. У 1564 г. палякам было дазволена купляць зямлю на собскасьць у Вялікім Княстве Літоўскім.



# Шарль БАДЛЕР





*Мой верш – табе! Калі майго*
*натхнення плён*
*У будучых часах чытацьме*
*хтось натхнёна,*
*Калі маё імя падыме на рамёны*
*І ў далеч панясе магутны аквілон;*

*Хай памяць пра цябе, нібыта*
*перазвоны,*
*Чаруе чытача, бярэ яго ў палон...*

*Пра Яго*

**З кнігі "КРАСКІ ЗЛА"**

*Вайна цытатаў*

**З кнігі "МАЛЕНЬКІЯ ПАЭМЫ ПРОЗАЙ"**

НЕКАЛЬКІ СЛОЎ У ГОНАР сп. БАДЛЕРА
ГЭТАЕ ЗАБАРОНЕНАЕ ІМЯ – БАДЛЕР
BAUDELAIRE ET HORACE, альбо ОДА ДА ЖАННЫ ДЗЮВАЛЬ

## *Пра Яго*

***1821*** *– У Парыжы нарадзіўся Шарль Бадлер.*

***1827*** *– Смерць бацькі (якога ён абагаўляў), таленавітага мастака і звышадукаванага чалавека. Хлопчык жыве разам з маці (з імі жыве яшчэ пакаёўка Марыэта, якой Бадлер пасля прысвеціць верш). Перыяд* ***абсалютнага шчасця,*** *які ён заўсёды будзе згадваць з замілаваннем. Але маці зноў бярэ шлюб, з маладым афіцэрам Апікам, тады яшчэ маёрам. Яму было трыццаць восем гадоў (бацьку паэта, калі ён памёр, – было шэсцьдзесят восем; маці – трыццаць тры).*

***1839*** *– Бадлер выключаны з калежа Люі-Вялікага. "Шалапутнае" жыццё ў Парыжы, дзе ён знаёміцца з Бальзакам і Нервалем.*

***1841*** *– Генерал Апік адпраўляе пасынка ў падарожжа ў Індыю.*

***1842*** *– Вярнуўшыся ў Парыж, Бадлер уступае ў сувязь з Жаннай Дзюваль, мулаткай, якая іграла ў эпізодных ролях у маленькіх тэатрах. Знаёміцца з Сэнт-Бёвам і Тэафілем Гацье. Піша шмат артыкулаў і вершаў, а таксама "Фанфарлё", навелу, што была надрукавана ў 1847 годзе.*

***1844*** *– Над Бадлерам устаноўленая юрыдычная апека. Натарыус сп. Ансэль выплачвае Бадлеру 200 франкаў штомесяц.*

***1845*** *– Паэт складае шмат вершаў, але не публікуе нічога; затое ўбачыў свет "Салон 1845 года", бліскучы водгук на жывапісную выставу. Спроба самагубства. Сярод іншага піша "Парады літаратарам-пачаткоўцам" (надрукаваныя ў 1846). Кароткі раман з Мары Дабрэн, камедыйнай акторкай.* ***Знаёміцца з творчасцю Эдгара Алана По,*** *перакладаннем якога займаецца з 1848 да 1865. Доўгія гады Бадлер застаецца для сваіх сучаснікаў эсэістам, перакладчыкам, мастацкім крытыкам, але не паэтам.*

***1848*** *– Захоплены рэвалюцыяй і супрацоўнічае ў рэвалюцыйнай газеце "Salut public".*

***1849*** *– Знаёмства з друкаром Пулэ-Маласі, будучым рэдактарам "Красак Зла".*

***1852*** *– Даследаванне пра Эдгара По, апублікаванае дзякуючы Тэафілю Гацье разам з другім томам перакладаў амерыканскага паэта. Праца над "Феерверкамі" (прыватным дзённікам, які быў выдадзены толькі пасля смерці). Пачынаецца ягоная пасія да Апалёніі Сабацье, гаспадыні "салона", дзе збіраліся маладыя пісьмен-*

# З кнігі "Краскі Зла"

### *Альбатрос*

**Каб падмануць тугу, матросы ловяць часам**
**Тых альбатросаў, тых марскіх правадыроў,**
**Што ў моры з караблём страчаюцца сам-насам**
**І ў горкай бездані заўжды ля лаштыроў.**

**Калісьці вольны птах, крылаты падарожны,**
**Ён жалю вартым стаў, бядак на караблі:**
**Так сарамяжліва і так бездапаможна**
**Ён цягне пару крыл, як вёслы па зямлі.**

**Блакіту валадар свой небны трон пакінуў,**
**Бясслаўна трапіўшы ў ганебны пераплёт:**
**У дзюбу дым яму пускаюць, дзеля кпінаў**
**Кульгаюць побач з тым, хто памятае лёт!**

**Вось так паэты: ім утульна толькі ў небе**
**І навальнічны нат не страшны небасхіл;**
**Выгнаннікам з нябёс, па кпінах, як па глебе,**
**Ім замінае йсці моц волатавых крыл!**

### *Адпаведнікі*

**Прырода – гэта храм, дзе шмат таемных слоў**
**Часамі льга пачуць ад кожнае калоны;**
**Ты йдзеш праз сімвалаў гушчар адушаўлёны,**
**Што сочаць за табой з увагаю сяброў.**

**Як быццам далячынь злівае рэхі ў еднасць,**
**Адзінства цёмнае, бы крумкача крыло,**
**І велічэзнае, як цемра і святло, –**
**Так водар, колер, гук ствараюць адпаведнасць.**

**Ёсць водары: адзін зялёны, быццам луг,**
**Салодкі, як габой, як плоць дзіцяці, свежы, –**
**Другі, разбэшчаны, раскошай вабіць дух**

**І неабсяжнага нам пашырае межы:**
**Так мускус, ладан, нард смак надаюць жыццю,**
**Шаленствы – розуму, парывы – пачуццю.**

### *Вораг*

**Маё юнацтва йшло: хвілінамі ў прамені**
**І ў цемры навальніц бясконцыя гады;**
**Дождж з перунамі нёс такія спусташэнні,**
**Што ў маім садзе ўсе пагінулі плады.**

**Тым часам надышла здзяйсненняў восень. Трэба**
**З рыдлёўкай працаваць, наколькі хопіць сіл,**
**Каб зноў прынесла плён затопленая глеба,**
**Што ў ямінах цяпер – нібыта для магіл.**

**А краскі новыя, маіх трызненняў шэраг,**
**Ці знойдуць у зямлі размытай, быццам бераг,**
**Пажытак казачны, што сілы надае?**

**О смутак, о журба! А вораг невядомы,**
**Што сэрца нам грызе, кроў прагавіта п'е,**
**Мацнее і расце, не ведаючы стомы!**

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ У ГОНАР сп. БАДЛЕРА

**Агульным месцам у тэарэтычных пабудовах даследчыкаў стала думка пра тое, што сусветная культура ў сваім развіцці падобная да спіралі. Мастацкія з'явы розных стагоддзяў нечакана нагадваюць адна адну, няхай і на розных роўнях-вітках. Сярод наступкаў гэтае дыялектыкі культуры самым цікавым ёсць тое, што ў розныя часы, у залежнасці ад вартасцяў, якія дамінуюць у светаўспрыманні патэнцыяльнага чытача, амаль з матэматычнай перыядычнасцю абуджаецца і зноў знікае цікавасць да таго ці іншага аўтара, пакалення, мастацкае сістэмы. Тое, што яшчэ ўчора непакоіла думку, раптам аказваецца чужым, нудным. Цікавае і істотнае яно толькі для абмежаванага кола спецыялістаў. Пасля, праз паўстагоддзя – стагоддзе, зноў высвятліцца незвычайная вартасць і неабходнасць гэтых тэкстаў. І наадварот – тое, што ўчора ўспрымалася толькі як факт, сёння літаральна цыркулюе ў артэрыях культуры і блізкае кожнаму чытачу. Але ёсць аўтары, без творчасці якіх уявіць сабе сусветную літаратуру проста немагчыма ва ўсе часы без выключэнняў. Прысутнасць гэтых асобаў у любой культуры, наяўнасць перакладаў іхніх твораў сведчыць не толькі пра ўзровень апрацаванасці літаратурнае мовы, але і пра сталасць канкрэтнае культуры ўвогуле. Французскі паэта Шарль Бадлер – безумоўна, з ліку апошніх.**

**Тым крыўднейшым ёсць той факт, што Бадлер і беларускі чытач на ніве айчыннае традыцыі пакуль сустракаліся толькі выпадкова[1]. Калі Шэкспір – Джамалунгма еўрапейскае літаратуры (вялікі дзякуй Уладзіміру Дубоўку за поўны пераклад санетаў!), то Бадлер – Манблан паэзіі французскай. Цікавы заўсёды, ён асабліва сугучны сённяшняму адчуванню загубленасці ў гэтым свеце, якое ўласцівае не адно рафінаваным эстэтам. Як можа ўспрымацца першы носьбіт свядомасці "канца свету" (fin du siécle) напрыканцы тысячагоддзя? Як трэба ставіцца да аўтара "Падліны", "Пакутніцы" і "Макабрычных скокаў" тым, хто яшчэ памятае, як гэтыя "скокі" ператвараліся ў сапраўдныя "danse macabre" (дастаткова ўспомніць пра Мілаша і Келермана)? Як мы бачым таго, хто раней за іншых усвядоміў, што першапрычына пакутнага разладу паміж чалавекам і жорсткім, антыпаэтычным навакольным светам знаходзіцца не дзесьці звонку, а ўнутры кожнага з нас (магчыма, менавіта ў гэтым ёсць разгадка таямнічага санета "Вораг")? Кім ёсць бацька ўсіх "выклятых паэтаў" для літаратараў, якія раз і назаўсёды згубілі свой былы статус пракрокаў у спажывецкім грамадстве? "Архетыпам паэта" (для Т.С. Эліята), "Капернікам паэзіі", якая да яго**

*нікі. Ён ананімна пачынае з ёй “аднабаковае ліставанне”, дасылаючы прысвечаныя ёй вершы, якія пасля будуць складаць асобны цыкл у кнізе.*

***1857*** *– На працягу года публікуе пераклад рамана “Прыгоды Артура Гордана Піма” Э. По (у лютым), кнігу апавяданняў “Незвычайныя гісторыі”, што таксама складалася з перакладаў з По (у сакавіку), і нарэшце – сваю адзіную кнігу вершаў “Краскі Зла” (чэрвень). Суд над кнігай. Аўтар асуджаны на 300 франкаў грашовага пакарання; 6 вершаў былі выключаныя з кнігі як амаральныя. (Прысуд скасаваны толькі 31 траўня 1949 г.)*

***1859*** *– Публікацыя “Салона 1859 года”.*

***1860*** *– Першы цэрэбральны крызіс (бяспечны). Уладкаванне ў Нэйі разам з Жаннай Дзюваль (хворай на паралюш).*

***1861*** *– Другое выданне “Красак Зла” (трыццаць пяць новых вершаў). Артыкул пра Вагнера. Балатуецца (пісьмова) у Французскую Акадэмію. Артыкул пра Э. Манэ (верасень 1862). Пачаў працаваць над дзённікам “Маё аголенае сэрца”, які быў скончаны ў 1864 і надрукаваны пасмяротна ў 1887.*

***1863*** *– Прадае рэдактару Этсэлю правы на будучую кнігу “Парыжскі сплін”, зборнік вершаў прозай; бярэ аванс і нічога не дае Этсэлю. Кніга з’явілася толькі праз два гады пасля смерці аўтара, пад іншай назвай – “Маленькія паэмы прозай”, дзякуючы Банвілю і Асэліно. Публікацыя чарговага перакладу з По, а таксама эсэ “Мастак сучаснага жыцця”, які стаў ягоным уласным “Art poétique”*

***1864*** *– Едзе ў Брусель з цыклам лекцый. Працуе над кнігай “Бедная Бельгія”.*

***1865*** *– Публікацыя ў Парыжы новага тома перакладаў з Э. По “Гратэскавыя і сур’ёзныя гісторыі”.*

***1866*** *– Вострая неўралгія, лекаванне наркотыкамі. У Намюры, куды ён запрошаны сваім будучым ілюстратарам Фэлісьенам Ропам, яго раптоўна разбівае паралюш. Афазія – да самай смерці ён не зможа размаўляць. Яго наведвае маці. Вяртанне разам з ёю ў Парыж.*

***1867*** *– У канцы жніўня, маючы сорак шэсць гадоў, Бадлер памірае.*

***1868*** *– Публікацыя “Эстэтычных каштоўнасцяў” і “Рамантычнага мастацтва” (эсэ ці крытычныя артыкулы пра літаратуру, жывапіс і музыку).*

***1869*** *– Публікацыя “Маленькіх паэмаў прозай”.*

## *Чалавек і мора*

**Вечна мора кахацьмеш! Так, дзеля таго,**
**Што яно тваё люстра: заўжды яго хвалі**
**Тваёй, вольнік, душы непакой адбівалі,**
**Бо твой дух чамярнейшы за бездань яго!**

**Абымаеш сваё падабенства вачыма,**
**Нібы йдзеш у глыбіні, на самае дно;**
**Нібы ў стогнах стыхіі на мгненне адно**
**На душэўныя скаргі забыцца магчыма.**

**У абодвух нязведныя спраты свае:**
**Чалавек, хто спазнаў тваёй восені фарбы?**
**Мора, хто падлічыў твае тайныя скарбы?**
**Ваша схоўнасць нічога адкрыць не дае!**

**Але ж бой вы крывавы спрадвеку вядзеце,**
**Праз гады не стамляючыся ў барацьбе,**
**Не шкадуючы ворага, ані сябе –**
**Вы, адзінага бацькі няўмольныя дзеці!**

## *Дон Жуан у пекле*

**Ледзь толькі Дон Жуан спусціўся да геены,**
**Трымаючы абол Харону за шчакой,**
**Як гордзівы жабраль з вачыма Антыстэна**
**Ўзяў вёслы моцнаю і помслівай рукой.**

**З абвіслымі грудзьмі, у зношаным адзенні,**
**Звіваліся жанкі – і іх працяглы роў**
**За лодкаю ляцеў, пад небнае скляпенне,**
**Нібыта чараду вялі да алтароў.**

**Смяяўся Сганарэль і кленчыў сваю дажу,**
**А Дон Люіс казаў істотам, што адны**
**Ўздоўж берага ракі блукалі без паклажы,**
**Пра дзёрзкага, што кпіў з ягонай сівізны.**

**Эльвіра, цнотная ў сваёй карынцы* доння,**
**Вачыма паплыла з падступным сужанцом,**
**Каб падзяліўся з ёй усмешкаю з бяздоння,**
**Святлейшаю за ўсе зарокі пад вянцом.**

**Суровы камандор, закуты ўвесь у панцыр,**
**Каменнаю рукой трымаўся за кармень...**
**Спакойны дон Жуан рабіў апошні шпацыр**
**І позіркам не ўчціў ніводны ён спакмень!**

## *Танец змяі*

**Глядзеў бы на любае цела**
**Нязвычнай красы,**
**Каб скура твая зіхацела,**
**Твае валасы!**

**Ты водарам іх вышуканым**
**І корсткім, як дым,**
**У моры бадзяжным, духмяным,**
**Блакітным, рудым,**

**Як вецер, што ранняй парою**
**Хвалюе лаштыр,**
**Душу маю клічаш па мрою –**
**У небную шыр.**

**Ні слодычы, ані гаркоты**

* Карынка – жаночы жалобны галаўны ўбор.

**была “вытанчана пталамееўскай” (паводле Альбэрта Савінія), творцам, які першы пераадолеў наіўнасць у паэзіі (як сведчыць пра гэта Жан Както). Шэраг цытатаў можна працягваць, несумнеўным ёсць адно: паэзія Бадлера неабходная сучаснаму інтэлектуалу, як паветра!**

**Шарль Бадлер... Істота, сатканая з парадоксаў і супярэчнасцяў. Неўтаймоўная рэлігійнасць – і багаборніцтва ( а калі зірнуць больш пільна, цвёрдасць рэлігійных перакананняў – і хісткасць уласнае веры). Удзел у барыкадных баях сорак восьмага года, рэдагаванне рэвалюцыйнае газеты – і нянавісць да ўсялякага гатунку сацыялістаў плюс відавочная рэакцыйнасць у поглядах на большасць актуальных для чалавека праблемаў[2]. (Дарэчы, цяжка ўстрымацца ад спакусы і не сказаць, што ў век татальнае веры ў прагрэс і абсалютнай пазітыўнасці мыслення гістарычны песімізм Бадлера выглядае як пазіцыя таго, хто бачыць далей і мысліць значна глыбей.) Нянавісць да жанчын – і пякучая патрэба ў каханні, няспыннае імкненне да гарманічнае любові – і пакутлівая смерць ад наступкаў пранцаў. Вечныя спробы дасягнуць Ідэалу – і штодзённы цяжкі Сплін. Усведамленне боскага праклёну, які абцяжарвае кожнага чалавека і распаўсюджваецца найперш на лёс паэтаў, а асабліва невыносны ўласна яму, Бадлеру, – і, адначасова, упэўненасць у тым, што імя паэта блаславёнае і ён носіць на чале не толькі таўро праклёну, але ж і знак сваёй вялікай місіі, цудоўнага прызначэння, богаабранасці.**

**Сын і спадчыннік таленавітага мастака і рафінаванага аматара прыгажосці, Бадлер усё жыццё перабываў у меркантыльным свеце III-е імперыі, варожым любой красе, калі яна не мела утылітарнага сэнсу. Задыхаючыся ў беспаветранай прасторы меркантылізму, ён усё ж такі не стаў паганскім святаром багавіцы Карысці. (Бунтаваў супраць меркантыльна-маралізатарскага падыходу да мастацтва не толькі ён адзін. Дастаткова нагадаць, што Тэафіль Гацье, палемізуючы з апалагетамі карыснага мастацтва, заўважыў: “Найкарыснейшае месца ў хаце – гэта прыбіральня!” “Усялякае мастацтва абсалютна бескарыснае”, – скажа крыху пазней Оскар Уайлд.)**

**Розніца ва ўзросце бацькі і маці паэта была вялікая, і Шарль рана страціў бацьку. Айчым, сумленны вояка і педантычны службовец, не здолеў зразумець пасынка. Прывязанасць да маці, якую мы з постфрэйдаўскай бессаромнасцю называем “эдыпавым комплексам”, прадвызначыла немагчымасць добрых стасункаў паміж кандыдатам у выхавальнікі і ўпартым сынам спадарыні Апік. Сучаснікі ўспаміналі пасля, што ў сорак восьмым Бадлер крычаў: “Іду змагацца з генералам Апікам!”**

**Атрымаўшы з паўналеццем вялікую спадчыну, малады паэт вядзе багемны лад жыцця, і колькасць грошай хутка памяншаецца. Урэшце над Бадлерам усталявалі апеку, абразлівасць якой ён балюча адчуваў усё астатняе жыццё. Гэта таксама не дадало светлых фарбаў ягонаму светаўспрыманню.**

**З’яўленне на свет галоўнай справы жыцця Бадлера – кнігі вершаў “Краскі Зла” (“Les Fleurs du Mal”; першае выданне – 1857 г., пасля было яшчэ адно, а трэцяе сталася пасмярот-**

## Вайна цытатаў

**Абычайнасць:**

"Ягоны прынцып, ягоная тэорыя – усё апісваць, усё агаляць; ён поркаецца ў чалавечай прыродзе і пераходзіць усе межы агіды".

*Пінар*
*(галоўны абвінаваўца на працэсе ў справе Бадлера 1857 г.)*

"Ён паказвае вам заганы, але ж ён паказвае вам іхнюю гідкасць; ён малюе іх брыдкімі фарбамі, таму што пагарджае імі і хоча, каб вы імі пагарджалі".

*Шэ д'Эстанж*
*(абароннік Бадлера)*

**Натуральнасць:**

"Паэт Бадлер, вельмі разбэшчаны, наўмысна і вытанчана цягам гадоў з кожнага сюжэта, з кожнае краскі выдзяляў іхнюю атрутную сутнасць"

*Сэнт-Бёў (1865)*

"Там, дзе крытыцы хацелася бачыць працу, вымогу, гранічнае напружанне і заўзятасць, было адно вольнае і лёгкае красаванне асабовасці".

*Тэафіль Гацье*
*(прадмова да пасмяротнага выдання "Красак Зла", 1868)*

**Арыгінальнасць:**

"Ён пакінуў па сабе адно агульныя месцы"

*Ф. Брунэсьер (1887)*

**Ў вачэй глыбіні,.**
**Адно серабро й пазалота**
**Ў халоднай гульні.**

**Рытмічныя звівы такія**
**І постаць твая**
**Чаруюць, нібыта ля кія**
**Танцуе змяя.**

**У рухах – пагойдванне колаў,**
**Пустынь шырыня;**
**Лянотна ківаецца голаў,**
**Нібы сланяня...**

**Ты бездань, што ў буры звярэе**
**І б'е ў карабель,**
**У глыб панураючы рэі,**
**Нібыта ў купель.**

**Ад хваляў няма паратунку**
**Ў лядовую таль:**
**Цячэ плынь твайго пацалунка,**
**Шляхетны крышталь,**

**Нібы пераможны і горкі**
**Багемскі напой,**
**Што ў сэрцы запальвае зоркі**
**Й завецца табой!**

### *Здань*

1. Цемра

**У роспачы нязмернай – сутарэнні,**
**Дзе я ўначы канаю праз мой Лёс,**

ным) – выклікала сапраўдны скандал, вынікам чаго было судовае абвінавачванне ў амаральнасці, гвалтоўнае выключэнне шасці вершаў з корпуса кнігі і грашовае пакаранне. Цікава, што гэтая падзея супала з яшчэ адной судовай справай па раману Гюстава Флабэра "Спадарыня Бавары" (таксама 1857 г.). Увогуле, рэпрэсіі супраць паэтаў і празаікаў з боку дзяржавы і грамадства ў XIX стагоддзі паступова сталі звычайнымі атрыбутамі літаратурнага працэсу, таму няма чаго здзіўляцца, калі амерыканцы у XX ст. садзяць у клетку свайго найлепшага паэта Эзру Паўнда, а колькасць ахвяраў рэпрэсіяў сярод творцаў у былым СССР не падлягае падліку.

Але Бадлер быў чужы і незразумелы не толькі для антыпаэтычнага буржуазнага грамадства з адпаведнай сістэмаю вартасцяў. Ён заставаўся "белай варонаю" і сярод калегаў па пяру. Рэч у тым, што Бадлер – не столькі апошні рамантык, колькі першы паэт, які пайшоў значна далей за тое, што культывавалася ў рамках канонаў пануючага рамантызму. Таму нават для тых, хто відавочна яму сімпатызаваў, як, напрыклад, Сент-Бёў, ён быў у найлепшым выпадку "літаратурнай Камчаткаю"[3]. Адкрываюць Бадлера для сябе ўжо наступныя пакаленні паэтаў – Малармэ, Верлен, Рэмбо і сімвалісты, што прыйшлі пазней. Пасля смерці Бадлер нават быў абвешчаны бацькам сімвалізму, але гэта ўсё ўжо не мела ніякага дачынення да ягонай творчасці.

Пры жыцці ён усведамляў, якая бездань існуе паміж ім і нават падрыхтаваным чытачом, чаму сведчаннем верш "Альбатрос". Гэты прасякнуты горкай іроніяй твор пабудава-





**Куды ніколі не дамкне з нябёс**
**Ружовае й вясёлае праменне;**

**Мастак, якога кплівасць Спадара**
**Прымусіла пісаць у поўнай ночы, –**
**Гатую сэрца ўласнае і вочы**
**З хаўтурным апетытам кухара.**

**На вокамгненне мне заззяе штосьці**
**У мройнай і задумлівай хадзе,**
**Як прывід хараства і прыгажосці,**

**Які нібы люструецца ў вадзе.**
**Я пазнаю ў прыгожай візітэрцы**
**Яе, гаркоту й слодыч майго сэрца!**

II. Водар

**Чытачу, ты ўдыхаў, зачараваны,**
**Часамі водар ладану ў царкве,**
**Ці адчуваў раптоўна, як плыве**
**Пах мускусу з падушачкі духмянай?**

**Растаўшы ў невыразным хараства,**
**Сарвеш на целе некалі каханай**
**Па памяці пялёстак вышуканы –**
**Мінулае ў сучасным ажыве!**

**Вось цяжкіх валасоў перапляценне –**
**Драпежны пах, кадзіла і алькоў,**
**Духмяныя падушкі; і адзенне –**

**Сустрэча аксаміту і шаўкоў,**
**Прасякнутая водарам юнацтва**
**І футраў, і мілоснага вар'яцтва.**

"Вы выклікалі да жыцця новае трымценне".

*Гюго*
*(ліст да Бадлера, 1860)*

**Сучаснасць:**

"Дарэмна мы год за годам учытваемся ў гэтыя старонкі... Чароўнасць пакінула іх; пекнае дрэва занядбанае".

*Барэ*

"Глыбокая арыгінальнасць Шарля Бадлера, на маю думку, у тым, што ён магутна і сутнасна выявіў сучаснага чалавека".

*Верлен*
*("Выклятыя паэты", 1884)*

**Творчая сістэма:**

"Сп. Бадлер знайшоў спосаб збудаваць сабе альтанку па-за межамі сучаснага яму рамантызму; альтанку вельмі аздобленую і вельмі вычварную. Ён звяртае нашу ўвагу на краень *рамантычнай* Камчаткі".

*Сэнт-Бёў*

"*Класік* – гэта пісьменнік, які носіць у сабе крытыка; выразна відаць, што Бадлер шукаў таго, чаго не рабіў Віктор Гюго: ён устрымліваўся ад усялякіх эфектаў".

*Валеры*
*("Становішча Бадлера, 1924)*

**Мастацкая якасць:**

""Краскі Зла", вельмі пасрэд-

ны на празрыстай алегорыі: гордая птушка ў палоне ў матросаў – паэт па-за сваёй творчасцю, нікім не зразумелы і не прыстасаваны да штодзённага жыцця. Гэты тэкст ужо стаў хрэстаматыйным і належыць да ліку тых Бадлеравых твораў, што перакладаліся і перакладаюцца часцей за ўсе астатнія. Сярод шматлікіх расійскамоўных версіяў удалым можна лічыць пераклад Вільгельма Левіка, а найлепшы польскі пераклад выканала Віслава Шымборска.

Аднак не алегорыя, а іншы мастацкі прыём вызначыў наватарства аўтара "Красак Зла". Бадлер стварыў спецыфічны сімвалічны вобраз з сваёй уласнай структураю і "паводзінамі" ў рамках вершаванага тэксту.

Усё пачалося з хісткасці паэтавай веры пры жаданні з пэўнасцю, дакладна ведаць пасмяротны лёс чалавека. Але ж мы не маем досведу тагасветнага існавання. Для выйсця з гэтага тупіка вельмі прыдатнай аказалася тэорыя "сусветнай аналогіі" (ці проста "тэорыя адпаведнасці"), якая ўзыходзіць яшчэ да Платона, была нядрэнна распрацаваная Сведэнборгам і нямецкімі рамантыкамі. Але да Бадлера яна ні ў кога не вызначала паэтыкі. У папярэднікаў гэта ў найлепшым выпадку падстава для разважанняў, якая так ці інакш ілюструецца вобразамі. У Бадлера "сусветная аналогія" прадвызначае сам "механізм" утварэння паэтычнага вобраза.

Сутнасць гэтай тэорыі зводзіцца, па-першае, да таго, што ўсе з'явы навакольнага свету знаходзяцца ва ўзаемнай сувязі-падабенстве, а, па-другое, што само гэтае падабенства тлумачыцца існаваннем наўме-

ная кніга... дзе ёсць некалькі іскраў паэзіі”.

*Праспер Мерымэ (1860)*

“Вось галоўная кніга нашай паэзіі”.

*Іў Банфуа*
*(прадмова да “Красак Зла”, 1955)*

**Паводле найлепшых**

Розум ягоны, абмінаючы словы й формы, бачыў рэчы з свайго асаблівага пункту гледжання, які змяняў іхнія абрысы, гэтак змяняюцца абрысы прадметаў, на якія глядзяць з птушынага лёту альбо знізу; ён улоўліваў стасункі, якія тояцца ад іншых і бянтэжаць іх сваёй алагічнай дзіўнасцю...

Яго зачароўвалі нябёсы, на якіх ззяюць сузор‘і, невядомыя ў Еўропе; цудоўныя волатавыя расліны з усёпранікальным водарам, прыгожыя вычварныя пагады, смуглявыя фігуры, агорнутыя белай тканінаю, – уся гэтая экзатычная паўднёвая прырода, магутная і яркая; у сваіх вершах ён часцяком зноў і зноў вяртаўся ад туманаў і слоты Парыжа да гэтых краінаў блакіту, святла і водараў. У ягоных найзмрачнейшых творах быццам адчыняецца акно, праз якое, замест чорных комінаў і задымленых дахаў, на вас глядзіць сіняе мора Індыі ці які іншы залаты бераг, дзе лёгкай хадою ідзе зграбная, напаўаголеная малабарка і нясе на галаве гліняны збан...

Паэт “Красак Зла” любіў тое, што

III. Рама

**Без добрых рамаў не стае паставы**
**Нат працам мастакоў найлепшых школ,**
**Бо рамы ўсё, што існуе вакол,**
**Нібыта аддзяляюць ад выявы.**

**Вось так і *ёй* кілімы, мэбля, стравы**
**Служылі, быццам маючы дазвол**
**Ня ўтойваць характва, нібы чахол,**
**А выяўляць яго, нібы аправа.**

**Яна пра тое, што павінны ўсе**
**Пяяць хвалу адно яе красе,**
**Заўсёды мела пэўныя паняткі,**

**Хаваючы жаноцкасць у атлас.**
**А ў кожным руху, быццам напаказ, –**
**Дзіцячая прыгожасць малпяняткі.**

IV. Партрэт

**Хвароба й Смерць калісьці немінуча**
**Пакінуць ад кахання прах і слізь.**
**Дзе погляд твой, пяшчотны і пякучы;**
**Дзе вусны, у якіх тануў калісь;**

**Дзе твой непераможны пацалунак;**
**Дзе твой парыў, жвавейшы за прамень?**
**Што застанецца мне? Адно малюнак**
**На тры алоўкі – любасці спакмень,**

**Што, як і я, самотна паміраe,**
**А крыўднік-Час, хаўруснік Небыцця,**
**Штодзень сваім крылом яго сцірае...**

**нальнага свету, люстраваннем якога ёсць усё ў нашым бачным воку фенаменальным свеце. “Гэты дзіўны, гэты неўміручы інстынкт прыгажосці, – піша Бадлер, – прымушае нас бачыць у зямлі і яе відовішчах адно намёк, люстраванне адпаведнікаў нябеснага. Неспатольная прага ўсяго, што з таго боку, што схаванае за жыццём, – найяскравы доказ нашае несмяротнасці. Красу і веліч, схаваныя за труною, душа прадбачвае ў паэзіі й праз паэзію, у музыцы й праз музыку”.**

**Найбольш вядомая паэтычная дэкларацыя гэтае тэорыі – знакаміты санет “Адпаведнікі”. Паводле аўтара, усе ў свеце колеры, гукі і водары знаходзяццà ў таямнічым падабенстве. І гэта не проста факт суб’ектыўнасці нашага светаўспрымання, не банальная сінестэзія, ад якой лечаць псіхіятры. Гэта аб’ектыўны прынцып існавання “вялікай Прыроды”, гэтага таямнічага “храма”, дзе ўсё ўзаемазвязанае, дзе ўсё пасылае нам загадкавыя сігналы, якія мы мусім расшыфраваць.**

**Мастацкі тэкст Бадлер будуе паводле аналогіі свайго разумення свету. (Істотнай дапамогаю ў гэтым яму служыла творчасць і эстэтыка Э.А. По.) Вершаваны твор павінен уплываць на чытача сугестыўна. Архітэктоніка твора мусіць дыктаваць тое, чаго не ў стане выразіць словы.**

**Калі разглядаць бадлераўскі вобраз як просты знак, які мае двухбаковую структуру – план выяўлення і план зместу, – растлумачыць спецыфіку ягонага сімвалу будзе немагчыма. Сімвалічны вобраз у Бадлера мае не двух-, а трохкампанентавую структуру. Першым кампанентам ёсць**





**Не, чорны кат Мастацтва і Жыцця!**
**Не вырвеш з памяці рукой крывавай**
**Былую асалоду з пройшлай славай!**

***

**Мой верш – табе! Калі майго натхнення плён**
**У будучых часах чытацьме хтось натхнёна,**
**Калі маё імя падыме на рамёны**
**І ў далеч панясе магутны аквілон;**

**Хай памяць пра цябе, нібыта перазвоны,**
**Чаруе чытача, бярэ яго ў палон –**
**Ля вершаў гордзівых, нібыта ля калон,**
**Братэрскіх ланцугоў яе трымаюць звёны!**

**Праклятая, каму ад пекла да нябёс**
**Адпавядаў адно мой неразумны лёс!**
**Як згублены з вачэй няпэўны след уночы,**

**Ты светлым позіркам з тупых смяротных кпіш,**
**Ты, стодзе велічны, анёле, чые вочы –**
**З гагату, а чало – высакародны спіж!**

*Асенняя песня*

I

**Ад цемры й халадоў не знойдзем хутка схову.**
**Кароткае цяпло, бывай! Няспынны грук**
**Мне чуецца глухі: у панадворках дровы**
**З жалобным водгуллем зноў падаюць на брук.**

памылкова называецца стылем дэкадансу і лічаць мастацтвам, якое дасягнула такой ступені гранічнае сталасці, што знаходзіць сваё ўвасабленне ў касым промні захаду састарэлых цывілізацыяў: стыль вынаходлівы, складаны, штучны, поўны вышуканых адценняў; стыль, што пасоўвае межы мовы, карыстаецца разнастайнымі тэхнічнымі тэрмінамі, запазычае фарбы з усіх палітраў, гукі з усіх клавіятураў, імкнецца перадаць думку ў самых яе няўлоўных адценнях, а кшталты – у самых няўлоўных абрысах; ён чуйна слухае найтанчэйшыя адкрыцці неўрозу, прызнанні жарсці, якая старэе і вычвараецца, дзіўныя галюцынацыі неадчэпнай ідэі, што пераходзяць у вар’яцтва...

Перад простым пахам ружы альбо браткаў ён аддаваў перавагу бензою, амбры і нават мускусу, да якіх у наш час ставяцца з пагардаю, а таксама водару некаторых экзатычных красак, якія замоцны для нашых мерных краінаў...

Ён меў здольнасць да “адпаведнасцяў” (correspondance), г.зн. умеў адкрыць праз тайную інтуіцыю стасункі, нябачныя для іншых, і гэткім чынам зблізіць праз нечаканыя аналогіі, якія можа ўлавіць адно празорца, прадметы, на першы пагляд найаддаленыя і найпроцілеглыя..

*Тэафіль Гацье*
*(прадмова да пасмяротнага выдання “Красак Зла”)*

Бадлер быў хрысціянінам, і мараль ягоная – гэта мараль ба-

**аб‘ект ці сукупнасць аб‘ектаў, якія лірычны герой выдзяляе з навакольнага свету (напрыклад, вытанчаны водар валасоў каханае жанчыны ці гідкая падліна, якую заўважаюць на дарозе), другі кампанент – з‘ява, ці шэраг з‘яваў суб‘ектыўнага свету паэта: успаміны, уяўленні, мроі, страхі і г.д. (рамантычныя карціны карабля пад ветразямі, экзатычна-маляўнічыя паўднёвыя краявіды, разважанні пра немінучую смерць каханае жанчыны і фізічнага кахання ўвогуле). І нарэшце, трэці кампанент, які не мае ў творы вербальнае прэзентацыі. Гэта цалкам сугестыўная інфармацыя, прачытаць якую здольныя толькі падрыхтаваныя чуйныя да паэзіі чытачы. Апісаць гэтыя сугестыўныя вобразы можна толькі прыблізна, бо яны прынцыпова непазнавальныя, іх нельга перакласці на рацыяналізаваную мову паняткаў.**

**Тыповым прыкладам можа паслужыць верш “Асенняя песня”. Звычайныя гукі ад падзення дроваў, якія рыхтуюць на зіму і кідаюць на брук панадворкаў, выклікаюць у лірычнага героя, мякка кажучы, неадпаведныя асацыяцыі. Яму здаецца, што дзесьці будуюць шыбеніцу, што недзе забіваюць цвікамі труну. Свой дух ён уяўляе сабе вежай, якая неўзабаве ўпадзе пад ударамі тарана. Увесь гэты шэраг асацыяцыяў і ёсць другім кампанентам бадлераўскага вобраза. Рэальныя гукі дроваў і суб’ектыўныя візіі апавядальніка ўзаемадзеюць, каб выклікаць думку пра непазбежнасць смерці (трэці кампанент сімвалічнага вобраза).**

**Іншы, не менш характэрны прыклад – знаны верш “Чалавек і мора”. Першы і другі кампаненты вобраза – мора і ча-**

гасловаў. Не стану даводзіць, што ён быў добрым хрысціянінам, і згаджуся, што ён выяўляў заганы з такой выбачнасцю, якую наўрад ці можна знявініць праз патрабаванні павучальнасці; што ён над меру ўпіваўся прынадаю граху і з нейкай, бадай, д'ябальскай радасцю адкрываў надзвычайныя злачынствы і дзіўныя вады. Бадлера нельга залічыць да тых ясных, рахманых, празрыстых розумаў, якія нясуць з сабою супакой. У глыбінях ягоных ёсць нешта каламутнае; я зусім не сцвярджаю, што ён мае душу апостала. Я ахвотна прызнаю, што ў маралі ягонай ёсць нешта імаральнае. Але ж, на маю думку, у свеце і не было паэта маральнага; прынамсі, такім нельга назваць ані Вергілія, ані Шэкспіра, ані Расіна, ані ўвогуле кагосьці з тых, каго чалавецтва шануе як выразнікаў ягоных пачуццяў і тлумачальнікаў ягоных таямніцаў. Усе яны былі абыякавыя да маралі, як абыякавая да яе і прырода, што прамаўляе праз іхнія вусны... Паэзія Бадлера не больш імаральная за ўсялякую іншую. Але ж яна створаная не для юных, наіўных душаў, не для шырокай публікі, не для дзённага святла і вольнага паветра. Яна патаемная і патрабуе мудрых, тонкіх знаўцаў, якія будуць цешыцца ёю за зачыненымі дзвярыма.

*Анатоль Франс*
*(“Помнік Бадлеру”)*

Узімку, калі здранцвенне пазбаўляе мяне сілаў, я з асалодаю занураюся ва ўлюбёныя бачыны “Красак Зла”. Ледзь толькі мой Бадлер разгорнуты, я адразу ж залучаны ў фантастычны краявід,

**Зіма нам верне ўсё: нянавісць, беспрасветнай**
**І марнай працы ўціск, гнеў, зябасць і жуду.**
**Як сонцу між пакут палярнай апраметнай,**
**Зноў сэрцу будзе лёд перапынаць хаду.**

**З дрыготкай слухаю гул кожнага палена.**
**Мо шыбеніцу дзесь будуюць? Але дзе?**
**Як вежа, па якой тараны б'юць сумленна,**
**Хістаецца мой дух і зараз упадзе.**

**Здаецца, у труну цвікі ўбіваюць спехам,**
**І пахавальны гук мне чуецца ўвушшу,**
**Бо восень на двары і лета плача рэхам...**
**Хаўтурны чую стук, задушную імшу!**

II.

**Тваіх вачэй разрэз егіпецкі і фарбы**
**Шчэ ўчора я любіў – а сёння толькі жаль!**
**Каханне (нат тваё!), агмень і будуар бы**
**На сонца я змяніў, што грае ў бегу хваль.**

**Але ж ты, мілая, любі мяне й па страце**
**Кахання! І няхай няўдзячны я і злы, –**
**Пяшчотнай будзь сястрой альбо ласкавай маці,**
**Апошнім промнем дня сярод начной імглы!**

**Што ж можа быць лягчэй: пакласці на калені**
**Мне галаў, каб я мог аплакаць, што было,**
**Патроху смакаваць асенняе праменне**
**Й журботна ўспамінаць пра летняе святло!**

**лавек – узаемадзеюць і выклікаюць думку пра іх агульнае боскае паходжанне (адсюль з'яўленне апошняга радка – “Вы, *агульнага бацькі* няўмольныя дзеці” – лёгкая вольнасць перакладчыка, бо ў арыгінале казалася толькі пра “братоў”).**

**Якім бы арыгінальным ні быў паэт, ён так ці інакш карыстаецца здабыткамі культуры, з якой чэрпае вобразы, матывы, сюжэты, топасы. Бадлер свабодна тарнуе як знаходкі рамантызму, так і “агульныя месцы” літаратурнае традыцыі, якія вядуць сваю гісторыю з антычнасці ці сярэднявечча. Так, “донжуанскі” сюжэт – адзін з найбольш папулярных і распаўсюджаных сюжэтаў у еўрапейскім мастацтве. Цірсо дэ Маліна і Ж.Б. Мальер, Дж.Г. Байран і А. Пушкін, Э.Т.А. Гофман і Леся Украінка, М. Гумілёў і М. Фрыш... Спіс можна працягваць. А ёсць яшчэ жывапіс, музыка, кінематограф, нарэшце...**

**Бадлер малюе эпізод, які ідзе непасрэдна за заканчэннем зямнога існавання героя. Гэта апошняе падарожжа Дон Жуана, шпацыр у царства мёртвых на “ладдзі роспачы”. “Гэтая карціна, поўная трагічнае велічы, – піша Тэафіль Гацье, – намаляваная ў некалькі майстэрскіх мазкоў на змрочным полымі пякельнага скляпення. Пахавальны човен плыве па чорнай вадзе, адвозячы Дон Жуана і картэж ягоных ахвяраў. Жабрак, якога ён хацеў прымусіць выракчыся Бога, гэты басяк-атлет, гордзівы, як Антыстэн, нават пад сваімі лахманамі, вяслуе замест старога Харона. На карме каменны чалавек, бясколерны прывід, нерухавым жэстам стода трымае стырно. Стары Дон Люіс паказвае пальцам на сваю сівізну, абсмяяную здраднікам і**





# З кнігі “Маленькія паэмы прозай”

## *Чужаніца*

**– Загадкавы чалавек, скажы, каго ты любіш найбольш? Бацьку, маці, сястру ці, можа, брата?**

**– Я не маю ані бацькі, ані маці, ані сястры, ані брата.**

**– Можа, сяброў?**

**– Вы ўжываеце слова, сэнс якога дагэтуль застаецца для мяне незразумелым.**

**– Айчыну?**

**– Я не ведаю, пад якой шыратою яна знаходзіцца.**

**– Прыгажосць?**

**– Каб яна была несмяротнай багавіцаю, я ахвотна палюбіў бы яе.**

**– Золата?**

**– Я ненавіджу яго, як вы ненавідзіце Бога.**

**– Дык што ж ты любіш, дзіўны чужынец?**

**– Я люблю аблокі... аблокі, што праплываюць там... угары... цудоўныя аблокі!**

## *Кожнаму свая Хімера*

**Пад вялікім шэрым небам, на шырокай пыльнай раўніне, дзе не было ані дарог, ані травінкі, ані нават дзядоўніку з жыгучкаю, я спаткаў людзей, якія брылі сагнуўшыся.**

**Кожны з іх нёс на сабе вялізарную Хімеру, цяжкую, як мех з мукою ці вугалем, альбо як рыштунак рымскага ваяра.**

што паўстае перад вачыма з непераадольнасцю візіі, якую выклікае да жыцця бяздонны опіум. Там, угары, на гарызонце, змярцвела-бледнае ад тугі неба з блакітнымі разрывамі – слядамі пацераў выгнанніка. Адзіная расліннасць – рэдкія дрэвы, што пакутуюць пры дарозе: іхняя хваравітая кара – нібы суплёт аголеных жылаў; іхні *бачны воку* рост, нягледзячы на дзіўную нерухомасць паветра, суправаджаецца бясконцымі немымі стогнамі, падобнымі да стогнаў скрыпак; дасягнуўшы кончыкаў галінаў, стогны гэтыя музычна вібрыруюць у лістоце. Далей я бачу панурыя басейны, параскіданыя сям-там, быццам курціны ў нейкім вечным садзе: у чорным мармуры іхніх сценаў, аздобленых індыйскім каштоўным каменнем, вакол цяжкіх фантанаў, спіць мёртвая металічная вада, на якую журботна падае дзіўны прамень, поўны чароўнасці заняпаду. Навокал, на зямлі, ніводнае краскі – адно воддаль і ўверсе некалькі пёраў, што засталіся ад крылаў зрынутых душаў. Нябёсы, азораныя нарэшце першым промнем, а пасля і другімі, паступова губляюць сваю блякласць і струменяць долу блакіт пагодных кастрычніцкіх дзён; неўзабаве вада, эбенава-чорны мармур і каштоўнае каменне пачынаюць зіхацець, нібы шыбы гарадскіх вокнаў увечар: гэта захад. О цуд! Найрадчэйшы пурпур, вакол якога разліваецца п'янлівы водар распушчаных валасоў, каскадамі падае з неба, што робіцца ўсё цямнейшым! Ці гэта лавіна атрутных ружаў, іхняя заганная духмянасць?

**блюзнерам – ягоным сынам. Сганарэль просіць у свайго гаспадара грошай, які з гэтага часу не можа яму плаціць. Донья Эльвіра намагаецца выклікаць былую ўсмешку каханка на вуснах пагардлівага сужэнца, а бледныя каханкі, змучаныя, пакінутыя, здраджаныя, патаптаныя нагамі, як учорашнія кветкі, адкрываюць яму раны свайго сэрца, што вечна абліваецца крывёю. Дон Жуан застаецца нячулым да гэтага відовішча, слёзаў, стогнаў і праклёнаў; ён зрабіў тое, што жадаў; хай неба, пекла й зямля судзяць яго, як хочуць, ягоны гонар не ведае пакаяння; пярун можа яго забіць, але ж не прымусіць яго пакаяцца”.**

**Цікава, што тут відавочная адмоўнасць персанажа паводле хрысціянскай маралі сутыкнулася ў свядомасці паэты з не менш відавочнай прывабнасцю героя паводле канонаў рамантычнае літаратуры, на якой Бадлер усё ж такі быў выхаваны. Паэт знайшоў цікавае выйсце з гэтага становішча. Пекла, у якое трапляе герой-каханак, гэта не хрысціянская апраметная, а антычны Аід-Гадэс (магчыма, з элементамі Дантавага пекла). Герой жыў з паганскай марнатраўнасцю сілаў і энергіі, па-за хрысціянскай аксіялогіяй, і таму ён будзе асуджаны (ці не асуджаны ўвогуле?) па правілах яго ўласнай гульні – адсюль гэты звышмежны гонар і ўпэўненасць у сабе. Магчыма, толькі існаванне па-за труною будзе чымсьці цікавым для героя, які спазнаў зашмат на гэтым свеце. Ці не ў фінале “Дон-Жуана ў пекле” ў зародкавым стане ўжо знаходзяцца асноўныя ідэі і эмацыйны настрой падагульняльнага для Бадлера верша “Падарожжа”, які будзе напісаны пазней?**

Альбо румяны? Альбо кроў?.. Дзіўны заход! Ці, можа, гэтая плынь – рака слёзаў, пабарвёная бенгальскімі агнямі вандроўнага блазна Шатана, што рухаецца за заслонай. Прыслухайцеся, як пераліваецца гэты каскад, – юрліва, нібы пацалункі... Нарэшце, усё залівае чарнільная цемра, і толькі чуваць, як пырхае з краскі на краску злачынства, блукаюць згрызоты і лётае Смерць. Тады я хаваю твар, і ўздрыгі, вырваныя з маёй душы не столькі гэтым кашмарам, колькі горкім пачуваннем выгнання, працінаюць чорную цішу Дык чым жа ёсць айчына?

Я загарнуў кнігу і заплюшчыў вочы. Я шукаю айчыну. Перада мною паўстае прывід паэта-знаўцы, які паказвае мне яе ў гімне, містычна стройным, быццам лілея. Рытм гэтай песні нагадвае ружы старажытных храмаў: сярод дэкору з старога каменю, усміхаючыся ў серафічным ультрамарыне, які здаецца хутчэй пацерам, што бруіцца з іхніх блакітных вачэй, чым нашым вульгарным лазуркам, белыя, быццам аплаткі, анёлы пяюць свой экстаз, суправаджаючы гэта ігрою на арфах – падабенстве сваіх крылаў, на цымбалах з самароднага золата, на чыстым сонечным праменні, што звярнулася ў трубы, і на тамбурынах, у якіх гучыць цнатлівасць першых навальніц; святыя жанкі нясуць пальмавыя галіны, – і я не маю змогі падняць вачэй па-над багаслоўскімі цнотамі, настолькі невымоўнаю ёсць гэтая святасць; але ж я чую слова, у якім праменіцца вечнасць: *Алілуя!*

*Стэфан Малармэ*
*(“Літаратурная сімфонія”)*

**Але пачварная драпежніца не ляжала ў іх на плячах мёртвым цяжарам; наадварот, яна ашчапервала й сціскала чалавека сваімі пругкімі й моцнымі цяглiцамі; параю вялікіх кіпцюроў яна ўпівалася ў грудзі свайго нашэнніка, а фантастычная галава навісала над ягоным ілбом, нібы той жудасны шалом, якім старажытныя воі спадзяваліся нагнаць жаху на ворага.**

**Я загаварыў з адным з гэтых людзей і запытаўся ў яго, куды ж яны ідуць. Ён адказаў мне, што яны не ведаюць – ані ён, ані іншыя; але ж, відавочна, яны некуды ідуць, бо іх жане непераможная патрэба руху.**

**Што цікава: ніхто з падарожных не здаваўся раздражнёным на драпежніцу, што павісла ў яго на шыі і прытулілася да ягонае спіны; можна было падумаць, што яны лічаць гэтых пачвараў часткаю саміх сябе. На іхніх стомленых і сур'ёзных тварах не відаць было ніякае роспачы; пад тужлівым купалам неба, тонучы нагамі ў пыле, яны крочылі па зямлі, пустэльнай, як нябёсы, з пакорлівым выглядам асуджаных вечна спадзявацца.**

**І шэсце прайшло паўз мяне і знікла ў смузе далягляду, за той мяжою, дзе акругленая паверхня планеты хаваецца ад цікаўнага чалавечага вока.**

**І цягам некалькіх імгненняў я ўпарта намагаўся зразумець гэтую таямніцу; але неўзабаве неадольная Абыякавасць навалілася на мяне і прыгняла горш, чым тыя цяжкія Хімеры.**

## *Упівайцеся!*

**Трэба заўсёды быць п'яным. У гэтым усё, гэта адзіная праблема. Каб не адчуваць жудаснага цяжару Часу, які цісне вам на плечы і гняце вас да зямлі, трэба ўпівацца беспярэстанку!**

**Без вяртання да скарбніцы сусветнае культуры немагчыма ўявіць і бадлераўскага санета “Мой верш – табе...”. Бадлер ужывае гарацыянскі топас “помніка”, лірычны сюжэт трыццатага твора з трэцяй кнігі одаў Квінта Гарацыя Флака “Да Мельпамены”. Але верш Бадлера не стаў традыцыйнай апалогіяй паэта і паэзіі і – фактычна – гімнам сваёй дзяржавы з падрабязным пералічэннем геаграфічных пунктаў, дзе будуць шанаваць песняра. Гэта не ўрачыстая песня патрыёта, гэта ўсхваляваныя словы чалавека, які будуе “помнік” свайму пакутліваму каханню – каханню да Жанны Дзюваль. Творы, прысвечаныя гэтай жанчыне, складаюць найвялікшы цыкл вершаў у кнізе. Стасункі паміж паэтам і ягонай каханкаю не былі простымі, і Катулава архетыпавае становішча лірычнага героя – odi et amo (ненавіджу й кахаю) – абвастраецца ў Бадлера да апошняй ступені. На адным полюсе складанай гамы пачуццяў лірычнага героя – фізічная цяга да чароўнае жанчыны, клубок асацыяцыяў і вышуканыя адпаведнасці, якія выклікае і абуджае гераіня (напрыклад, пах валасоў, які дзіўным чынам нагадвае карабель, што раніцай ловіць ветры ўсімі лаштырамі і рыхтуецца да таямнічага падарожжа ў нябёсы – верш “Танец змяі”), на другім – сумныя развагі пра кароткі век фізічнага кахання і таго няпэўнага шчасця, якім яно адорвае. Няўмольны час не шкадуе нікога, і ўжо дзесьці блізка знаходзяцца Хвароба і яе сястра, Смерць. І толькі паэт, дзякуючы свайму таленту і здольнасці ператвараць мімалётнае і нетрывалае ў вечнае і незнішчальнае, мае шанц ўратаваць любае і каханае, пера-**





**Чым? Віном, паэзіяй, цнотаю, чым хочаце. Але ж упівайцеся!**

**І калі пэўнага дня, на сходах палаца, на зялёнай траве рова ці ў змрочнай самоце вашага пакоя, вы адчуеце, прачнуўшыся, што хмель ужо слабее альбо знік, спытайцеся ў ветру, у хвалі, у зоркі, у птушкі, у гадзінніка, ва ўсяго, што бегае, што енчыць, што коціцца, што пяе, што гаворыць, – запытайце, якая стаіць пара; і вецер, хваля, зорка, птушка, гадзіннік адкажуць вам: “Пара ўпівацца! Каб не быць рабамі й ахвярамі Часу, упівайцеся, упівайцеся бесперапынна! Віном, паэзіяй, цнотаю, чым хочаце!”**

## *Суп і аблокі*

**Мая любая, мая шалёная каханка падавала мне абед, а я праз расчыненае акно залі сачыў, як плыве ў небе цуднае Божае дойлідства, сатканае з няўлоўных павеваў, чароўныя эфемерныя збудаванні. І я сказаў сабе, сузіраючы: “Усе гэтыя дзіўныя відзежы прыгожыя, амаль як вялікія вочы мае каханае красуні, мае любае, шалёнае, зеленавокае пачвары”.**

**Але раптам я атрымаў моцны ўдар кулаком у спіну і пачуў сіпаты, чароўны голас, істэрычны й нібы ахрыплы ад акавіты – голас мае мілае, любае каханкі: “Будзеш ты есці нарэшце свой суп, чортаў гандляр аблокамі?!”**

***Пераклаў з французскай***
***Андрэй ХАДАНОВІЧ.***

Пэўнага часу мне давялося напісаць даслоўна наступнае: “Раней мастацтва паказвала сябе на найвышэйшых і недаступных падмостках – з таго боку рампы, якая выпраменьвала непераадольнае святло і строга аддзяляла мастацтва ад жыцця; мастацтва афарбоўвала свае відовішчы ў колеры, склад якіх невядомы на зямлі; яно прымала кшталты і абрысы, якія мелі прыблізна тое ж самае падабенства з прыроднымі кшталтамі і абрысамі жыцця, якое існуе ў календары паміж буднямі і святамі, у старажытных манархіях – паміж падданымі і каралём, а на птушыным двары – паміж курамі і паўлінам. Але ў XIX стагоддзі дасягнулі росквіту тры мастакі. Кожны з іх пасвойму прыкладаў намаганні, каб пагасіць гэтую рампу, наблізіць падмосткі мастацтва да тэатра жыцця, дазволіць падняцца на іх самім людзям, у іх штодзённым адзенні і без усялякага грыму, паказаць драмы і фарсы звычайнага жыцця. Гэтымі трыма мастакамі былі Бадлер – у паэзіі, К. Манэ – у жывапісе, і Бізэ – у музыцы. Зрэшты, яшчэ невядома дакладна, у чым заключалася задача іхняй творчасці: у тым, каб прыўнесці ў паэзію жыццё ці, наадварот, у жыццё – паэзію. Я застаюся пры другой думцы”.

У нашым выпадку спынюся адно на Бадлеру. Спынюся на асаблівасцях і значнасці ягонае паэзіі. Я не збіраюся высвятляць, быў Бадлер найвялікшым ці звычайным паэтам (уласна мне ён не здаецца такім ужо вялікім). Для мяне значна важней высветліць ролю Бадле-

**могшы само Небыццё. Так з'яўляецца цыкл санетаў “Здань”, якога не было ў першым выданні кнігі. У хворай жанчыны не засталося амаль нічога ад былой красуні, але паэт з пруструстаўскай настойлівасцю згодны зноў і зноў шукаць страчаны час, вяртаючы да жыцця мінулае. І мінуласць выплывае з глыбіняў памяці, надае сэнс цяперашчыне і дапамагае годна сустрэць будучыню. Можа, менавіта здольнасць надзейна зафіксаваць у сваёй творчасці раз назаўсёды страчанае ў канчатковым выніку забяспечвае трансляцыю ведаў з пакалення ў пакаленне і пераемнасць у культуры ўвогуле і вызначае значнасць паэта, яго месца ў гісторыі літаратуры.**

**Андрэй ХАДАНОВІЧ**

---

[1] Прыемным выключэннем з сумнага правіла ёсць таленавіты пераклад вядомага верша “Чалавек і мора”, які быў зроблены Уладзімірам Жылкам.

[2] У сваёй прадмове да пасмяротнага выдання “Красак Зла” Тэафіль Гацье адзначыў: “Бадлер адчуваў непераадольную жуду перад філантропамі, прагрэсістамі, утылітарыстамі, гуманістамі, утапістамі і ўсімі, хто імкнецца штосьці змяніць у нязменнай прыродзе і ў фатальнай будове грамадства. Ён не марыў пра скасаванне пекла ці гільяціны дзеля большай выгоды грэшнікаў альбо забойцаў”.

[3] “Ён адкрыў, – піша Т. Гацье, – не з гэтага, а з таго боку рамантызму недаследаваную зямлю, нешта накшталт дзікай і грубай Камчаткі, і на найкрайнейшым яе пункце пабудаваў сабе, як кажа Сент-Бёў, які прызнаваў яго, альтанку ці – хутчэй – юрту дзіўнай архітэктуры”.

ра ў "палітыцы паэзіі". Бо акурат яна, гэтая роля, вялізарная.

Размова тут не пра рэформу паэтычнага кшталту, а хутчэй пра абвяшчэнне новага стану паэзіі. Паэт ужо больш не ёсць натхнёная істота, задача якой зводзіцца выключна да рэтрансляцыі паэзіі, уласцівай хіба адно Пітыі; цяпер ён сам становіцца "творцам паэзіі". Паэт слухае ўжо не музу, а толькі голас уласнай душы. Бадлер – гэта Капернік паэзіі. Ён распачынае Капернікаву эру ў паэзіі, якая дагэтуль была беспаваротна пталамееўскай. Чаму ж гэтая настолькі значная перамена ў гісторыі паэзіі нікім не была заўважаная? Бо існуе глыбокая непрыязнасць адносна Бадлера, глыбокая, невылечная непрыязнасць. Днямі я сам быў сведкам таго, як адзін мой прыяцель, дарэчы, інтэлігентны чалавек, аж збялеў ад лютасці пры адной толькі згадцы пра Бадлера і зараз жа супрацьпаставіў яму Джавані Паскалі, – падобна так чорнаму супрацьпастаўляюць белае, ценю – святло; падобна так пры згадцы пра нячыстую сілу прымхлівыя людзі плююць цераз плячо. Гэты прыклад гаворыць не пра ненатуральнасць самога такога супастаўлення (нельга ж сур'ёзна параўноўваць яблык з пачкам запалак ды шчэ распачынаць з гэтае нагоды спрэчку), а пра тое, наколькі яшчэ жывучай і глыбокай ёсць непрыязнасць да Бадлера. Якая ж прычына гэтае непрыязнасці? Магчыма, яе выклікаў кшталт яго паэзіі? Альбо яе "амаральнасць", якую ад самага пачатку выдумалі адно дзеля таго, каб схаваць сапраўдную прычыну варожасці да паэзіі Бадлера і адвесці ўбок падазрэнні? Не. Уся рэч у тым, што Бадлер, таксама як Капернік і Чарльз Дарвін, *забіў божышча.*

Паколькі Бадлер вучыць, што паэт здольны ўсё рабіць сам, без настаўнікаў і пасрэднікаў, Апалон, праз Бадлера, цьмянее і памірае; вянуць музы і змаўкае іхні зладжаны хор, распускаецца двор Парнаса. Мімаволі задаешся пытаннем: якая такая сарамяжлівасць, якая стрыманасць, якая крывадушнасць і "святая жудасць" не дазваляюць выявіць прычынна-выніковыя сувязі паміж астраноміяй Каперніка, рэвалюцыяй 1793 года і паэзіяй ад Бадлера да нашых дзён? І чаму ўпарта не прызнаецца грандыёзны пераход вершаскладання ва ўсім свеце з Боскае далоні ў рукі чалавека? Да Бадлера паэзія перабывала ў стане нявіннасці і нятленнасці. (Таму не без падставы, не без выразнае "фізічнае" падставы паэзія лічылася несмяротнай.) Паэзія знаходзілася ў стане юнага Шак'ямуні да таго, як ён убачыў знакі старасці, хваробы і смерці. Наймацнейшыя, найузнёслыя адлюстраванні болю і смерці ў Гамера, Дантэ, Шэкспіра не неслі ў словах, што іх выражалі, спазнанасці болю, спазнанасці смерці. Паэзія захоўвала чыстымі рукі. Яна глядзела і не датыкалася. Усё адбывалася з таго боку нязванае рампы. І таму паэзія была захапленнем, таму яна была сном (шчаслівым сном, нават калі ён апяваў людскую трагедыю). І таму паэзія грала ў жыцці святарную, але ж пры гэтым

## *Запрашэнне ў падарожжа*

**Ёсць, кажуць, цудная краіна, краіна – поўная чаша, якую я прагну адведаць разам з даўняю сяброўкаю. Дзіўная краіна, занураная ў смугу нашае Поўначы, яе льга назваць Усходам Захаду, Кітаем Еўропы, так разнявольваецца там цёплая і капрызная фантазія, так цярпліва і ўпарта ўпрыгожыла яна той край сваімі далікатнымі выштукаванымі прарасткамі.**

**Сапраўды, краіна – поўная чаша, дзе ўсё гожа, багата, спакойна, сумленна; дзе раскоша цешыцца, люструючыся ў суладдзі; дзе жыццё сытнае і ім соладка дыхаць; адкуль выгнаныя нелады, замятня і неспадзяванкі; дзе шчасце заручана з цішаю; дзе паэтычная сама кухня, сытная і ўзрушальная разам; дзе ўсё падобна да Вас, мой мілы анёле.**

**Ты ведаеш гэтую ліхаманку, якая ахоплівае нас у холадзе нягод, гэтую тугу па нязнаным краі, гэтую трывогу цікаўнасці! Ёсць край, падобны да цябе, дзе ўсё прыгожа, багата, спакойна і сумленна, дзе фантазія збудавала і аздобіла заходні Кітай, дзе жыццём соладка дыхаць, дзе шчасце заручана з цішаю. Туды – каб жыць, туды – каб паміраць!**

**О так, туды – каб дыхаць, марыць і падаўжаць гадзіны бязмежжам уражанняў. Адзін музыка напісаў "Запрашэнне на вальс", але хто створыць "Запрашэнне ў падарожжа", якое льга будзе падараваць каханай жанчыне, што стала сястрою паводле абрання?**

**Так, якраз у такім паветры добра было б жыць, – там, дзе гадзіны плывуць павальней і ўмяшчаюць больш думак, дзе гадзіннік адбівае шчасце з глыбейшай і значнейшай урачыстасцю.**

**На зіхоткіх панелях ці на пазалочанай змрочна прыўкраснай скуры стрымана жывуць шчасныя абразы, спакойныя і глыбокія, як душы мастакоў, што іх стварылі. Сонца захаду, якое расфарбоўвае ў багатыя колеры сталовую або залю, прыглушана прыгожымі тканінамі альбо высокімі выштукаванымі вокнамі, якія свінец падзяляе на мноства вузніцаў. Мэбля прасторная, забаўная і мудрагелістая, з замкамі і сакрэтамі, як у тонкай душы. Люстры, металы, тканіны, золата і фаянс граюць вачам нямую і загадкавую сімфонію, і адусюль, з усіх куткоў, з шчылінаў у шуфлядах і складак тканінаў, ліецца незвычайны водар, нейкая *прага вяртання* на Суматру, якая ёсць душой гэтай гасподы.**

**Сапраўды, краіна – поўная чаша, кажу табе, дзе ўсё багата, ахайна і зіхотка, як прыгожае сумленне, як бліскучы кухонны посуд, як шыкоўныя залатыя аздобы, як калярованае каштоўнае каменне! Там грувасцяцца скарбы ўсяго свету, як у доме працавітага чалавека, які перад цэлым светам заслужыў пашану. Дзівосная краіна, гэтаксама вышэйшая над іншымі, як Мастацтва вышэйшае над Прыродай, краіна, дзе мары перамяняюць Прыроду, дзе Прырода стаецца папраўленаю, упрыгожанаю, пераўвасобленаю.**

**Хай жа шукаюць, хай яшчэ шукаюць, хай пашыраюць няспынна межы свайго шчасця, гэтыя алхімікі садоўніцтва! Няхай прызначаюць узнагароды ў шэсцьдзесят ці ў сто тысяч фларынаў таму, хто развяжа іхныя амбітныя задачы! Што ж да мяне, дык я ўжо знайшоў свой *чорны цюльпан* і сваю *блакітную вяргіню!***

**Дзівосная кветка, вынайдзены цюльпан, алегарычная вяргіня, туды, ці ж не так, у гэтую прыгожую краіну, такую спакойную і такую летуценную, туды трэба падацца, каб жыць і квітнець? Або ты не ўвабралася б там у рамку сваёй аналогіі, і не адбілася б, як кажуць містыкі, у сваёй уласнай *адпаведнасці?***

**Мроі! усцяж мроі! і чым душа амбітнейшая і далікатнейшая, тым далейшыя яны ад магчымага. Кожны чалавек носіць у сабе сваю дозу натуральнага опію, што няспынна выдзяляецца і абнаўляецца; і колькі мы налічым ад нараджэння да смерці гадзінаў, поўных станоўчае асалоды, удалых і рашучых учынкаў? Ці**

# ГЭТАЕ ЗАБАРОНЕНАЕ ІМЯ – БАДЛЕР

**У пару нашага юнацтва нават напамін пра імя французскага паэта, аўтара знакамітых "Красак Зла", эпатаваў публіку. Да гэтага, уласна, імкнуўся і сам аўтар (адна назва "Краскі Зла" чаго вартая), кідаючы выклік грамадству, натуральна, буржуазнаму, але грамадству сацыялістычнаму ён таксама быў не па густу, дакладней – не па зубах. Хаця, бадай, тут я трохі перабольшваю – лепшыя пераклады Бадлера на рускую мову былі зробленыя ўсё-такі пры савецкай уладзе.**

**Ва ўсякім разе, добра памятаю, як, сустрэўшы ў рукапісе майго першага зборніка верш пад назвай "З Бадлера", крытык-рэцэнзент проста скакаў "на костках", даводзячы, што ўсё мною напісанае – кніжнае і чужое. І па-свойму, зразумела, меў рацыю.**

**Адважыцца паспрабаваць перакласці што-кольвек са спадчыны вялікага французскага паэта ўгаварыў мяне Іван Карабутэнка, выкладчык літаратурнага інстытута, дзе я на тую пару вучылася: у яго была падрыхтаваная дысертацыя па творчасці Шарля Бадлера, ён быў знаўца паэта і ягоны фанатык, нешта ў маіх вершах Карабутэнку падказвала – можа атрымацца. Ён сам і зрабіў для мяне выдатныя падрадкоўнікі з варыянтамі тых вершаў, вядомыя пераклады якіх – яны ўвайшлі ў выданне серыі "Литературные памятники" (Москва, "Наука", 1970 г.), – яго не задавальнялі. Некаторыя з падрадкоўнікаў на той час падаліся мне настолькі непрытоена-эратычнымі, што я іх адразу адклала ўбок. Напэўна, і цяпер тая ўнутраная забарона застаецца ўва мне.**

**Непараўнальная блізкасць да паэта, якога перакладаеш, раўнуючы з тым, каго проста чытаеш. Пераклад увогуле падобны да пераўтварэння, гэта спроба хоць трохі быць тым, каго перакладаеш. Мера пакутаў Бадлера – вось што стала мне зразумелым пасля працы над падрадкоўнікамі, дарэчы, і назву яго выніковага зборніка я б пераклала хутчэй як "Краскі болю".**

**Умоўна кажучы, мне ўяўляецца, што ёсць два тыпы паэтаў – тут прыклад з рускай паэзіі падаецца мне больш відавочным: Пушкін і Лермантаў. Дык вось, Бадлер, безумоўна, паэт лермантаўскага тыпу – тая ж Богапакінутасць, згубленасць у свеце, дзе "звуков небес заменить не смогли ей (душы. – *Рэд.*) скудные звуки земли". Гэта пракаветная веда аб тым, што ў зямной прыгажосці ўтоена парахня смерці...**

**Той, колішні, занятак перакладамі працягваўся нядоўга: любыя стасункі "вакол Бадлера" вельмі хутка набываюць амбівалентны характар: моцнае ўзаемнае прыцягненне паміж мной і К-ка хутка перамянілася на не менш напружанае непрыняцце – раптоўна і хваравіта.**

актыўную ролю (найзапаветныя, найтаямнічыя думкі маглі быць выказаныя толькі праз вершы). З прыходам Бадлера ранейшая паэзія губляе ў народзе гэтую сваю запаветную святарную ролю, і народ траціць да яе цікавасць, забываецца на яе, бо яна ўжо здольная адасабляцца ад драмы жыцця.

У паэзіі Бадлера непасрэдная спазнанасць болю і смерці; у ёй адсутнічае метафізічная тайніца; над ёй не апякуюцца багі; яна неадасобленая ад людзей, чые надзеі і ілюзіі блякнуць у сонечным святле, выяўляючы грым, які выглядае недарэчна, але ж ажыўляе чалавека; цяпер людзі жывуць пад небам, пазбаўленым божышча, – ці гэта не прычына называць паэзію Бадлера дэкадэнцкай? Зрэшты, і гэтага шчэ замала. Да таго, што казалася, варта было б дадаць: у Бадлера "смяротная паэзія", у адрозненне ад той – несмяротнай. Але ж у чым больш велічы: у несмяротнасці альбо ў смяротнасці? У маёй галаве даўно ўжо круціцца думка пра аднаго грэцкага бога (Гермеса), які стаміўся ад несмяротнасці, ад сваёй "бескарыснай" несмяротнасці, і хоча стаць чалавекам, *каб змагчы памерці.* Гэтак і паэзія: у пэўны дзень яна адчула, што стамілася ад несмяротнасці, і зрабіла ласку паэзіі Бадлера, *каб змагчы памерці.*

*Альбэрта Савінія*
*("Бадлер")*

<u>**Помнік Бадлеру...**</u>

Помнік Бадлеру – адно з найпрыгажэйшых парыжскіх надмагілляў, сапраўднае катэдральнае надмагілле. Скульптар узяў кам-

**жыцьмем мы калі, ці пяройдзем калі ў гэты абраз, што намаляваў мой дух, гэты абраз, падобны да цябе?**

**Гэтыя скарбы, гэтая мэбля, гэтая раскоша, гэтая суладнасць, гэтыя парфумы, гэтыя цудоўныя кветкі, – гэта ты. І ты – гэтыя вялікія рэкі і спакойныя каналы. А тыя вялізныя караблі, што яны нясуць на сабе, перапоўненыя дабром, і адкуль даносяцца манатонныя працоўныя спевы, – гэта мае думкі, якія ці то спяць, ці то блукаюць па тваім улонні. Ты ціхутка вядзеш іх да мора, якое ёсць Бязмежнасць, уся адбітак глыбіняў неба ў яснасці тваёй прыгожай душы, – і калі, стомленыя хваляваннем і абцяжараныя вытварамі Усходу, яны вяртаюцца ў родную гавань, дык і гэтак мае думкі, якія вяртаюцца, узбагаціўшыся, з Бязмежнасці да цябе.**

## ГАВАНЬ

**Гавань – чароўны прытулак для душы, змучанай жыццёвым змаганнем. Шыр нябёсаў, рухавая архітэктура аблокаў, зменлівыя фарбы мора, мігценне маякоў – вось прызма, што цудным чынам цешыць вока, ніколі яго не стамляючы. Зграбныя абрысы караблёў са складаным рыштункам, што суладна гойдаюцца на хвалях, падмацоўваюць у душы густ да рытму і хараства. А яшчэ, што галоўнае, – для таго, хто пазбыўся і цікаўнасці, і амбітнасці, ёсць род таемнай і арыстакратычнай асалоды: пазіраць, лежачы на бельведэры ці аблегшыся на мол, на рухі тых, хто адплывае альбо вяртаецца, хто мае яшчэ сілы жадаць, прагу вандраваць ці ўзбагачацца.**

***Пераклаў з французскай***
***Мікола РАМАНОЎСКІ.***

**Небяспечнымі бываюць некаторыя пагружэнні. Засталося некалькі перакладаў, якія я зрабіла па тых падрадкоўніках, што тады мне былі найбольш блізкімі: "Гармонія вечара", "Танец змяі"; гэта тыя, што не перасталі мне самой падабацца, калі я іх прачытала амаль праз дваццаць гадоў, а гэта не так ужо і мала.**

**Я вярнулася да перакладаў, калі часопіс "Всемирная литература" прапанаваў зрабіць яшчэ колькі перакладаў да паўнавартаснай падборкі, – ужо на ўласны выбар: толькі замест эротыкі цяпер сталі трапляць спрэс адныя "Спліны". Тады кідалася ў вочы эпатажнасць, пачуццёвасць, эстэтызм, цяпер – глыбіня пакутаў і болю. Бадлер – так мне сёння ўяўляецца, – адыграў ролю Пандоры, якая адчыніла куфар з забароненымі тэмамі, – і яны разляцеліся па ўсім свеце. Уся паэзія XX стагоддзя – гэта распрацоўка і вар'іраванне адкрытых ім тэмаў. Калі трэба назваць тры прозвішчы з дзевятнаццатага стагоддзя, што зрабілі найбольшы ўплыў на літаратуру, на светабачанне дваццатага стагоддзя, то гэта будуць прозвішчы Дастаеўскага, Ніцшэ, Бадлера, а ўжо каго з іх мы вызначым як філосафа, як пісьменніка, як паэта – не мае значэння.**

**Туга па прыгажосці, як па пакінутай радзіме – гэта мара пра вяртанне ў страчаны рай? Але і там паэт, які пакутуе, не знаходзіць сабе месца! ("А он, мятежный, просит бури"!)**

*C'est là que j'ai vécu dans les*
*voluptés calmes,*
*Au milieu de l'azur, des vagues,*
*des splendeurs*
*Et des esclaves nus, tout imprégnés*
*d'odeurs.*
*Qui me rafraîchissaient le front avec*





*des palmes,*
*Et dont l'unique soin était d'approfondir*
*Le secret douloureux qui me faisait languir.*

***

*Менавіта тут я правёў жыццё*
*ў спакойнай разняволенасці*
*Пасярод блакіту, хваляў, чароўнасці*
*І голых рабоў, наскрозь прапітаных*
*пахамі*
*Якія пальмавымі лістамі халадзілі*
*мне Лоб*
*І адзіным клопатам якіх было*
*зрабіць яшчэ глыбейшай*
*Тую хваравітую тайніцу, якая змушала*
*мяне нудзіцца.*
(Падрадкоўнік)

**А вось мой пераклад гэтых радкоў на рускую мову:**

*Да, здесь я обитал в одной*
*из прежних жизней:*
*Среди лазури волн, великолепья скал,*
*Под мерное качанье опахал.*
*И смуглыя рабы, без тени укоризны,*
*старались воплотить вокруг подобье рая,*
*Лишь тайную тоску мою усугубляя...*

**Любоў ТУРБІНА**

# BAUDELAIRE ET HORACE, альбо ОДА ДА ЖАННЫ ДЗЮВАЛЬ

*Нататкі заўзятага рэстаўратара "Помнікаў"*

### Частка першая: СТОДЗІК – МЕДНЫ ЛОБІК

**Санет Шарля Бадлера "Мой верш – табе..." ("Je te donne ces vers...") ва ўсіх трох выданнях зборніка "Краскі Зла" ("Les Fleurs du Mal") заканчвае найвялікшы ў кнізе цыкл вершаў, прысвечаных Жанне Дзюваль, і ёсць своеасаблівым "помнікам" кахання паэта да яе. У некаторых каментарах да выдання кнігі адзначаецца прыналежнасць твора "да вялікай гарацыянскай традыцыі"[1], падкрэсліваецца выкарыстанне Бадлерам матываў оды "Да Мельпамены" Гарацыя. Але чытаючы большасць рускіх альбо польскіх перакладаў французскага санета, цяжка заўважыць ягоную сувязь са знакамітым "Помнікам". Так ужо склалася, што гарацыянскі топас у "Бадлеры перакладзеным" часцей за ўсё неадчувальны, а нават калі і адчуваецца, то адно за кошт агульнай узнёсласці лірычнага апавядання, якую можна было б тут назваць "гарацыянскім пафасам". Паэт піша пра чытачоў далёкай будучыні і спадзяецца, што ягоны верш "панурацьме іх у мроі" ("Et fait rêver un soir les cervelles humaines"[2]). Паказальным ёсць працэс працы Бадлера над сваім творам. У першапачатковым варыянце апавядальнік сцвярджае, што ягоныя радкі некалі "прымусяць працаваць думку чытачоў" ("Fair travailler un soir les cervelles humaines"[3]). Радок выглядае не надта паэтычным, але (магчыма, дзякуючы сваёй будзённасці) ён яскрава люструе творчыя прынцыпы аўтара, якія той часткова запазычыў у Э.А. По. Перш за ўсё гэта ідэя "сугестыўнасці". Большасць паэтычнай інфармацыі не павінна мець у тэксце вербальнай прэзентацыі, наадварот – яна мусіць быць закадаваная ва ўсёй архітэктоніцы верша. Раскадаваць, дэшыфраваць усё гэта павінен чытач, аналітычна ўзіраючыся ў той ці іншы мастацкі прыём. Вышэйпададзены часопісны варыянт радка не трапіў у канчатковую рэдакцыю**

лыгу, разгарнуў яе з канцоў і высек марскі компас. Ён і трымае помнік – гэты марскі компас. Самалёт, адно крыло якога цягнецца па зямлі – такое яно вялікае, – ёсць сімвалічнае падабенства альбатроса. Другое крыло ромба прастастаўнае таму, што распасцёртае на зямлі. Верхавіна ягоная ўяўляе сабою велічэзнага кажана, які растуліў крылы. Над гэтым стварэннем, што жыве і лунае, насцярожана й ваяўніча навісае рына, і цурок не даецца ў рукі.

Другі б выразьбіў геральдычнага ката, апяянага паэтам і залапанага крытыкамі. А гэты пранік углыбкі і абраў вампіра – увасабленне падвойнасці ў жывёльным свеце: і птушка, і звер; увасабленне этычнай падвойнасці: і анёл, і зрынуты анёл. А якім чынам інакш увасобіць дух Бадлера? Бо ў песняру "Красак Зла" не было д'ябальскай асновы ў каталіцкім сэнсе слова. Усё д'ябальскае ў ім – свецкае; гэта натуральная папраўка на бунтоўнасць і святую прастасць. Паўстаюць адно дзеці і анёлы. Нячысты не здольны на паўстанне. Старыя адно журбуюць ды ўпадаюць у роспач. Такі Вальтэр. Паўстанне – плён чыстае душы. У ката кіпцюры і тыя праменяць ліхадзейства. Іншая рэч кажан – крылаты сутарэнны пац, пячорнае стварэнне, спароддзе дзвюх сілаў: імкнення ўгору і парывання ў цемру. Ён нараджэнец цёмнага свету, але ж лунае пад скляпеннем. Падвойная прырода – лёт і цемра – абдаравала яго мудрасцю ўпоцемку і здольнасцю герояў – падаць угору.

*Сэсар Вальеха*

З Бадлерам французская паэзія выйшла нарэшце за межы нацыі. Яна прымусіла свет чытаць сябе; яна стала паэзіяй сучаснасці; яна выклікае наследаванні; яна апладняе шматлікія розумы... Гэта дае мне права сказаць, што нават калі сярод нашых паэтаў і ёсць большыя і мацней адораныя за Бадлера, то няма *значнейшых...*

Ён мусіў сваім душэўным станам і сваімі здольнасцямі ўсё выразней супрацьпастаўляць сябе той сістэме ці той адсутнасці сістэмы, якая завецца рамантызмам...

У найлепшых вершах Бадлера ёсць спалучэнне плоці і духу, сумесь урачыстасці, жарсці і гаркоты, веч-

насці і патаемнасці, надзвычайнае злучэнне волі з гармоніяй...

*Поль Валеры*
*("Становішча Бадлера")*

Рамантык паводле выхавання, парнасец паводле стылю, рэаліст паводле прыхватаў творчасці, ён першы паэт сучаснасці. Бадлер наважыўся ўвасобіць у паэзіі, у вершах, усю складанасць, усю супярэчлівасць душы сучаснага чалавека. Ён зазірнуў у цёмныя справы душы, знайшоў прыгажосць і паэзію там, дзе да яго бачылі адно брыдасць: у зле, у загане, у злачынстве. У той жа час Бадлер адным з першых стварыў паэзію сучаснага горада, паэзію сучаснага жыцця, яго жудасці, яго тайніцы. Бадлер апяваў тую праўду, якую прынеслі з сабою пісьменнікі-рэалісты, але ж ягоны востры позірк заўсёды глядзеў праз рэчаіснасць, у надзеі ўбачыць нешта большае. Таму вобразы Бадлеравы часцяком ператвараюцца ў сімвалы.

*Валерый Брусаў*

Нам, іншым, дастаткова бачыць дрэва ці дом. Цалкам захопленыя іх сузіраннем, мы забываемся на саміх сябе. Бадлер – чалавек, які ніколі на сябе не забываецца. Ён глядзіць на тое, як ён бачыць, ён глядзіць дзеля таго, каб убачыць, як ён глядзіць, – ён сузірае сваё ўспрыманне дрэва, дома, і адно праз шкло гэтага ўспрымання паўстаюць перад ім рэчы...

*Жан-Поль Сартр*
*("Бадлер")*

Бадлер, які выйшаў з рамантызму, быў не толькі бацькам дэкадэнцтва, але ж і папярэднікам сацыяльна афарбаванага урбанізму. Зло метафізічнае і зло сацыяльнае (якое супрацьстаіць ідэалу) сумясціліся ў ягонай паэзіі...

Бадлер зрабіў з эстэтычнай і экзатычнай прадметнасці асаблівыя высновы... Прыгожая рэч сустракаецца з *жахлівай рэччу* – вось паэтычны свет Бадлера. Жахлівая рэч – гіпертрафіраваны празаізм, урбаністычны, які часам мае выразную сацыяльную афарбоўку.

*Лідзія Гінзбург*
*("Пра лірыку")*

**Падрыхтаваў і пераклаў з французскай Андрэй ХАДАНОВІЧ.**

**"Красак Зла", але надзвычай важны для нас: менавіта такім чынам мы павінны падыходзіць да бадлераўскага (і не толькі) тэксту, спрабуючы адчытаць значна больш за тое, што было непасрэдна вербалізавана ў творы.**

**У даным тэксце ёсць наўпроставыя адсылкі да Гарацыя, а таксама паравербальныя сродкі паэтычнай камунікацыі, што павінны сугестыўна выклікаць у чытачоў асацыяцыі з "Помнікам". Што да адсылак, то іх трапна адзначаюць рускія каментатары М. Балашоў і І. Паступальскі. Па-першае, гэта "як бы мімаходзь выказанае акрэсленае "mes rimes hautaines" ("мае гордзівыя рыфмы (ці вершы)"[4]). Па-другое – відавочная фразеалагічная рэмінісцэнцыя з "Помніка": "grand aquilon" (хутчэй "магутны", чым "вялікі" аквілон). Аўтаматычна згадваецца гарацыянскі "Aquil(o) impotens" ("неўтаймоўны Аквілон"[5]). Але ў гэтых каментарах ігнаруецца апошні радок "Statue aux yeux de jais, grand ange au front d'airain" ("Статуя з гагатавымі вачыма, вялікі анёл з медным ілбом"). Не зусім зразумелае, а калі перакладаць літаральна і зыходзіць з нашых фразеалагічных прэсупазіцыяў – нават смешнае словаўжыванне. Так, пры даслоўным калькаванні гэтага словазлучэння на польскую мову атрымліваецца, што гераіня мае "miedziane czoło", але так звычайна кажуць пра чалавека, які мае замала сумлення й зашмат нахабства. Менавіта ў такую пастку трапілі некаторыя польскія перакладчыкі Бадлера[6]. Пры перакладзе санета і гэтага вобраза на расійскую ці беларускую мову існуе небяспека ўзнікнення асацыяцыяў з глупствам, недахопам інтэлектуальных здольнасцяў. Таму "медны лоб" заканамерна ўспрымаецца як абраза. Акрамя таго, лёгка згадваецца назва казкі "Каток – залаты лабок" (sic!), што надае ўзнёсла-паэтычнай мове аўтэнтыка ў лепшым выпадку фальклорна-баечнае адценне.**

**Праблема захавання высокага пафасу ніяк не вырашаецца без звароту да Гарацыевага тэксту, прычым непасрэднага аналізу лацінскамоўнага твора недастаткова. Безумоўна, як Бадлер, так і большасць ягоных перакладчыкаў добра ведалі оду "Да Мельпамены" ў арыгінале. Але дзеля таго, каб стварыць у чытача ілюзію прысутнасці Гарацыя ў санеце, трэба, прынамсі, ведаць, як выглядае рымскі паэт у перакладзе на даную мову. Таму нам здаецца мэтазгодным спачатку звярнуцца да аўтэнтыкі, высветліць, якія элементы гэтага тэксту маглі быць істотнымі для Бадлера. І галоўнае: трэба вырашыць праблему перакладу "Помніка" на беларускую мову, бо адно такі пераклад – пэўны падмурак для перакладання французскага твора. Акрамя таго, варта прагледзець, прынамсі, некаторыя французскамоўныя варыянты оды "Да Мельпамены", якія маглі быць знаёмыя Бадлеру.**

### Частка другая: СІМЕТРЫЯ І БЯССМЕРЦЕ

**Трыццаты твор з трэцяй кнігі одаў Гарацыя, які называецца "Да Мельпамены", а філолагам-някласікам больш вядомы як "Помнік", напісаны першай Асклепіядавай страфой, якая, у сваю чаргу, складаецца з чатырох Асклепіядавых вершаў. Вось схема ягонай рытмічнай пабудовы:**

–́ – –́ ∪ ∪ –́ // –́ ∪ ∪ –́ ∪ –̀

**З пункту гледжання метра перакладаць такі верш можна па-рознаму. Ёсць пераклады вершаваныя і невершаваныя, эквілінеарныя і нээквілінеарныя, эквірытмічныя і нээквірытмічныя, нарэшце – рыфмаваныя і нерыфмаваныя. Трэба яшчэ адмежаваць адносна карэктныя пераклады ад вольных паэтычных наследаванняў (напр., А. Пушкіна ці А. Міцкевіча). Для мяне несумненна, што "беларуская" ода Гарацыя павінна захоўваць колькасць радкоў і страфічную пабудову аўтэнтыка, не быць рыфмаванай (барбарства ўсё ж такі!), супадаць з арыгіналам па колькасці сілабаў у радку і месцы цэзуры, якая, дарэчы, таксама павінна педантычна захоўвацца. Наколькі гэта магчыма, націскі таксама павінны стаяць належным чынам, каб ствараць сілаба-танічную адпаведнасць квантытатыўнаму антычнаму метру. Самае складанае пытанне датычыцца характару клаўзулаў. Французская мова не дае перакладчыку шырокіх магчымасцяў: мужчынскі (ці жаночы, калі актуалізаваць т.зв. "нямы галосны") канчатак. Тое ж самае становішча ў польскай мове, толькі дамінаваць тут будуць жаночыя клаўзулы, а мужчынскія будуць выглядаць альбо як плён надзвычайнага паэтычнага майстэрства, альбо як недарэчнасць, што толькі зацямняе сэнс[7]. У рускамоўным перакладзе, дзе значна больш свабоды выбару, склалася традыцыя ўжывання дактылічных канчаткаў[8]. Трывалай беларускай традыцыі перакладу "Помніка" яшчэ не існуе (хаця ёсць вельмі нядрэнны пераклад оды, што быў выкананы яшчэ Максімам Багдановічам). Маючы развязаныя рукі, я, тым не менш, спыніўся на рытмічным варыянце, які скарыстаў і Багдановіч; варыянце, які з усіх бакоў здаецца мэтазгодным, а найперш з гледзішча ўжывання мужчынскіх клаўзулаў.**

**Рэч у тым, што дактылічны кантачак парушае адзін істотны прынцып рытмічнай арганізацыі твора. Натуральна, нельга быць да канца пэўным, наколькі свядома Гарацый ўжывае гэты прынцып, але пры перанясенні верша на глебу сілаба-тонікі відавочна, што ягоная метрычная пабудова нагадвае люстра. Я маю на ўвазе люстраную сіметрыю. Першае і другое паўрадкоўе кожнага радка, сапраўды, уяўляе сабой люстрана-сіметрычную канструкцыю, а функцыі люстра, ці восі сіметрыі, выконвае цэзура. Перастаноўка націску з апошняга склада на які-небудзь іншы разбурае гэтае рытмічнае адзінства. Менавіта таму ў нашым паэтычным перакладзе паслядоўна ўжываецца мужчынскі канчатак.**

**Да Мельпамены**

*Помнік я збудаваў трывалейшы за спіж;*
*Царскіх ён пірамід веліч перасягнуў.*
*Ні навалы залеў, ні Аквілона моц*
*Не зруйнуюць яго, ані бясконцы бег*

*Незлічоных гадоў, хуткага часу плынь!*
*Бо не цалкам памру! Лепшае, што ўва мне*
*Ёсць, пазбегне труны: слынным і маладым*
*Застануся паміж спадчыннікаў, пакуль*

*Наш пантыфік вядзе дзеву на Капітоль.*
*Дзе грукоча вадой неўтаймоўны Аўфід,*
*Дзе, амаль без вады, стэпавым людам Даўн*
*Уладарыў – з нізоў выйшаў, скажуць, і вось*

*Першы прыстасаваў ён залійскі верш*
*Да лацінскіх ладоў. Славу я заслужыў.*
*Дык ганарыся мной і валасы мае*
*Ты зычліва вянком, Мельпамена, спаві!*

**Менавіта праз люстраную сіметрыю можна растлумачыць некаторыя з'явы, якія, амаль несвядома для перакладчыка, адбыліся ў ягоным тэксце. У двух выпадках тут сустракаецца "люстрана-сіметрычныя рыфмы": сіметрычныя паводле цэзуры склады рыфмуюцца паміж сабой:**

**Наш пантыфік вя*дзе//дзе*ву на Капітоль...**
***Перш*ы прыстасаваў//ён залійскі *верш*...**

**Такое даволі рэдкае рытмічнае вырашэнне ўжываецца ў іранічным наследаванні Гарацыю, травесційным вершы Адама Міцкевіча. Плён пераадолення істотных цяжкасцяў, якія звязаныя з прыродай польскага націску, – гэты твор у значнай ступені ёсць рытмічным адпаведнікам прататыпа ў дынамічным акцэнце. Здаецца, люстраная сіметрыя рытму займае істотнае месца ў пабудове абодвух твораў. Нават калі ёй карысталіся несвядома, яна выконвае пэўныя мастацкія функцыі, бо ёсць моцным сродкам сугестыўнай трансляцыі інфармацыі. Такая камунікацыя немагчымая без апоры на іншыя ўзроўні пабудовы твора, яна не можа не абапірацца на вербалізаваную яго "частку".**

**Магчыма, уяўленні пра сіметрыю (у адным шэрагу з уяўленнямі пра "залатое сячэнне") звязаныя ў нашай свядомасці з пэўнымі паняткамі пра прыгажосць, лад, гармонію, а калі казаць выключна пра сіметрыю – з паняткамі пра красу ў яе статычным разуменні. Сіметрыя – гэта застылая краса, якая сустракаецца пераважна ў архітэктуры. Менавіта стварэнне ў сваім творы ілюзіі архітэктурнай пабудовы, думаецца, і меў на мэце аўтар оды "Да Мельпамены". Самастойна стварыць такі сэнс не можа ніякая сіметрыя, але ў спалучэнні з пастуляванай праз Гарацыя "архітэктурнасцю", ці "скульптурнасцю" твора гэтая метрычная пабудова бліскуча выконвае свае функцыі.**

**Тое ж самае датычыцца і Міцкевіча, для якога яшчэ больш істотны гэты "архітэктурны" элемент у гучанні твора. Паэт кажа пра свайго роду "крэпасць". "Exegi munimentum", – сцвярджае Міцкевіч. Наўрад ці аўтар пайшоў бы на пераадольванне такіх значных рытмічных цяжкасцяў адно дзеля стылізацыі. Хутчэй за ўсё, запазычаная ў Гарацыя люстрана-сіметрычная рытмічная пабудова нават у большай ступені, чым у песняра "залатой сярэдзіны", актуалізуе ў патэнцыяльнага чытача асацыятыўнае поле пабудовы архітэктурнай. І нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо сапраўды размова тут пра "крэпасць".**

**Такім чынам, рытміка Гарацыевага тэксту аказваецца надзвычай важнай і патрабуе не *пэўнага*, але *поўнага* захавання ў іншых версіфікацыйных умовах. Спрабуючы яе захаваць, я раблю галоўнымі паказальнікамі рытму першы склад радка, апошні склад перад цэзурай, першы склад пасля цэзуры і, нарэшце, – апошні склад. Менш рэгулярна выглядаюць другі і перадапошні націск у радку. У двух выпадках гэтыя націскі перасунутыя на адзін склад управа (у першым**

радку) ці ўлева (у перадапошнім вершы).

Пры надзвычай пільнай увазе да т.зв. "паэтычнага кшталту" (дазволю сабе ўжыць гэты старамодны тэрмін) непазбежна ўзнікаюць праблемы з захаваннем зместу арыгінала. Так, і ў нашым тэксце ёсць некалькі "вольнасцяў перакладчыка". Згубленай, напрыклад, аказалася "маўклівасць" дзевы, што ідзе на Капітоль разам з пантыфікам ("cum tacita virgine"). Таксама знікае ў перакладзе і звестка пра тое, што лаўр, якім Мельпамена мае спавіць голаў паэты, – менавіта "дэльфійскі" ("Delphica lauro"). Але кантэкст дае зразумець, што тут гаворка пра "Апалонаў лаўр", а не "Дыянісаў плюшч". І галоўнае: самая цікавая сэнсавая змена мела месца пры перакладзе фрагмента:

*...usque ego postera*
*Crescam laude recens...*

Замест заканамерных *"нашчадкаў"* у перакладзе чытаем *"спадчыннікі"*, а гэтыя словы не зусім сінонімы. Такі варыянт перакладу, здаецца, мае ў сабе элемент інтэрпрэтацыі (ці звышінтэрпрэтацыі?). Паміж радком Гарацыя і беларускім не зусім адлаведным адпаведнікам стаяць вядомыя вершы Пушкіна і Купалы. Менавіта думка пра неабходнасць працягу літаратурнай традыцыі, лініі Гарацыевай творчасці ў наступных пакаленнях і выклікала да жыцця вобраз "спадкаемцаў" замест "нашчадкаў".

### Частка трэцяя: "СПІЖ" З ЛЕКСІЧНАЕ СПІЖАРНІ

Як казалася вышэй, некаторыя вобразы бадлераўскага твора застаюцца не да канца зразумелымі і нават успрымаюцца з іроніяй, калі не браць пад увагу прэцэдэнтнасць Гарацыевага тэксту для Бадлера. У той жа час, пры поглядзе на санет праз прызму "Помніка" ўсе "недарэчнасці" аказваюцца прыхаванымі алюзіямі на оду "Да Мельпамены". Паза некаторымі вобразамі, якія разглядаліся ў першай частцы, Гарацый прысутнічае ў бадлераўскім тэксце і на ўзроўні самой версіфікацыі, якая, як і ў лацінскага паэта, часткова ўдзельнічае ў працэсе фармавання сугестыўнай ідэі красы і яе трываласці.

Ужыванне санетнай формы звычайна звязана не з люстранай сіметрыяй, а з "залатым сячэннем", але ж перадумовы для сіметрыі ў некаторай ступені стварае і санет. Так, Бадлер дзеля гэтага карыстаецца наступнымі "ярусамі" пабудовы свайго тэксту:

(a) кампазіцыяй;
(b) клаўзуламі;
(c) александрынай.

(a) У класічных санетах з апразанай рыфмоўкай можна разглядаць у якасці сіметрычных самі радкі ўнутры катрэнаў (першы і другі радок сіметрычныя, адпаведна, чацвёртаму і трэцяму), але ў Бадлера крыжаваны рыфмовы малюнак. Затое свайго роду сіметрычнасць назіраецца паміж першым і другім катрэнам, а таксама першым і другім тэрцэтам (не толькі паводле іх графічнага кшталту, але і паводле зместу). Так, у першым катрэне ідзе гаворка пра "гарацыянскую" славу паэта, якую яму забяспечаць ягоныя вершы. У другой страфе, у сваю чаргу, гаворыцца пра пасмяротную славу гераіні, якая гэтаксама наўпрост вынікае з твораў паэта. Паміж інфармацыяй, што выражаная ў першым катрэне і паведамленнем другога – стварающца калі не антытэтычныя, то менавіта люстрана-сіметрычныя стасункі. Мае месца своеасаблівая "роўнасць па модулю" пры палярнасці знакаў "плюса" і "мінуса". Тыя ж адносіны стварающца і паміж тэрцэтамі. У першым гераіня характарызуецца ледзь не адмоўна, а ў другім паэт зноў вяртаецца да апалогіі спакмення сваіх пачуццяў.

(b) Бадлер, думаецца, наўмысна інструментуе клаўзулы, ужываючы ў пераважнай большасці з іх назальныя галосныя (на пісьме – насавыя зычныя ў спалучэнні з галоснымі), прычым клаўзулы з пярэднімі галоснымі чаргуюцца з канчаткамі, дзе ўжытыя галосныя задняга ўтварэння: *nom* – *loin*-*taines* – *hum*aines – aquil*on* – *in*certaines – tymp*an*on – chaî*non* – hautaines – profo*n*d – ré*pon*d – serei*n* – airai*n*. Такі версіфікацыйны прыём выконвае, здаецца, сваю сугестыўную функцыю. Чаргаванне пярэдніх і задніх назальных павінна выклікаць у чытачоў асацыяцыі са званамі. Самастойна клаўзулы, як ужо казалася, перадаць такую інфармацыю не ў стане, але варта звярнуць увагу на апошні бадлераўскі радок з "анёлам з медным чалом". Бадлер ужывае тое самае слова "airain", якім перакладалася Гарацыева "aere" ў некаторых французскіх перакладах "Помніка" пачатку XIX стагоддзя, хутчэй за ўсё, вядомых паэту. Таму толькі ў "помнікавым" кантэксце "меднаголы анёл" у поўнай ступені набывае сваю мастацкую вартасць.

(c) Люстрана-сіметрычныя стасункі стварающца і на рытмічным узроўні. Александрыйскі верш аказваецца адзіным карэктным адпаведнікам пershага Асклепіядавага верша. Маючы дванаццаць складоў і абавязковую цэзуру пасля шостага, пры сілабічнай вольнасці ў чаргаванні націскных і ненаціскных складоў, александрына цалкам эквірытмічная памеру оды "Да Мельпамены". У гэтым стасунку можна заўважыць, што сіметрыя на пісьме і сіметрыя пры чытанні верша не зусім супадаюць. Так, у Гарацыя некалькі флексіяў перад галоснымі не чытаюцца і не парушаюць рытму, але ўсё ж такі прысутнічаюць у пісаным тэксце: monument*(um)*, pyramid*(um)*, Aquil*(o)*, diruer*(e)*, Libitin*(am)*, populor*(um)*. Парушаючы сіметрыю пісьмова, Гарацый захоўвае яе ў правільнай дэкламацыі верша. Адваротная з'ява назіраецца ў александрынах (нас, безумоўна, цікавяць александрыны бадлераўскага санета). Традыцыйнае правіла альтэрнансу, сутнасць якога заключаецца ў пазабяганні суседства дзвюх мужчынскіх ці дзвюх жаночых клаўзулаў, калі яны не рыфмуюцца паміж сабою, патрабуе актуалізацыі "нямых" [e]. Пры дэкламацыі яны гучаць і ствараюць жаночую рыфму. Жаночыя рыфмы (13-ты склад у радку) парушаюць сіметрыю паводле цэзуры. Але фактычна, асабліва на пісьме, адчуваецца штучнасць гэтага склада; ён не ў поўнай ступені такі, як усе астатнія, таму парушае "люстранасць" рытмічнае канструкцыі адно ўмоўна.

Абагульняючы ўсё вышэйпералічанае, можна сказаць, што захаванне "гарацыянскага гучання" ў тэксце Бадлера ў перакладзе на іншую (у даным выпадку – на беларускую) мову, акрамя ўзнёслага гарацыянскага пафасу, патрабуе педантычнае перадачы:

1) вобраза "grand aquilon", прычым так, каб ён выклікаў згадкі пра "Aquilo impotens" Гарацыя;

2) словазлучэння "mes rimes hautaines", прычым так, каб яно стасавалася з "mes vers harmonieux" з французскага перакладу "Помніка" 1812 г., напэўна вядомага Бадлеру;

3) фанетычнай аднароднасці клаўзулаў; захавання, прынамсі, у абодвух рыфмаваных канчатках катрэнаў назальных зычных; а пры тым, што назальныя галосныя па-беларуску немагчымыя, – выкарыстання адной націскной галоснай ва ўсіх клаўзулах;

4) і нарэшце, фінальнага вобраза "ange au front d'airain".

Апошняе аказваецца найбольш складаным. Гэты вобраз, як сведчаць сучасныя Бадлеру пераклады з Гарацыя[9], – выразная адсылка да рымскага паэта. Але ў сувязі з тым, што праз гэтае словаспалучэнне характарызуецца жанчына, што яно ўжываецца ў зусім іншым паэтычным асяроддзі, – згубіць яго ў перакладзе лягчэй за ўсё (як гэта, напрыклад, робіць расійскі перакладчык Эліс[10]). Іншая небяспека пагражае перакладчыку, калі ён, абапіраючыся на ўжытае Бадлерам слова "анёл", будзе ўзмацняць хрысціянскую вобразнасць. Такі падыход таксама зацямняе алюзію на Гарацыя, як гэта атрымалася ў Левіка[11]. Але ж найвялікшая небяспека чакае перакладчыка, калі ён пойдзе за "медным" значэннем слова "airain". У гэтым выпадку, як адзначалася, вельмі цяжка пазбегчы асацыяцыяў з нахабствам – у польскай мове, з глупствам – ва ўсходнеславянскіх мовах, а таксама баечнае фальклорнасці "стодзіка – меднага лобіка".

Як пераадолець гэтую істотную цяжкасць? "Медны" шлях вырашэння праблемы адпадае адразу. "Бронзавы" таксама натхняе не вельмі, бо "бранзавачолай" называецца ўсё ж такі жанчына, а не статуя. Тут яшчэ трэба дадаць, што пафас, заканамерны ў сярэдзіне XIX стагоддзя, цяжка стварэецца напрыканцы XX-га.

Істотным сродкам выклікання ў беларускага чытача пачуцця ўрачыстасці ёсць, думаецца, ужыванне лексікі, якая вядомая яму толькі пасіўна. Не ўваходзячы ў склад агульнавядомых фразеалагічных спалучэнняў, яна не выклікае ніякай камічнай рэакцыі. Такім патрабаваннням адпавядае слова "спіж". Распаўсюджанае ў беларускай мове значна менш, чым у польскай, яно нават адсутнічае ў сучасных нарматыўных слоўніках. Але ж у слоўніках, якія цяпер успрымаюцца як "слоўнікі моўнага пашырэння", – у слоўніках В. Ластоўскага і М. Байкова – С. Некрашэвіча – гэтае слова ёсць. Такім чынам, у мяне атрымаўся санет:

*Мой верш – табе! Калі майго натхнення плён*
*У будучых часах чытацьме хтось натхнёна,*
*Калі маё імя уздыме на рамёны*
*І ў далеч панясе магутны аквілон;*

*Хай памяць пра цябе, нібыта перазвоны,*
*Чаруе чытача, бярэ яго ў палон –*
*Ля вершаў гордзівых, нібыта ля калон,*
*Братэрскіх ланцугоў яе трымаюць звёны!*

*Праклятая, каму ад пекла да нябёс*
*Адпавядаў адно мой неразумны лёс!*
*Як згублены з вачэй няпэўны след уночы,*

*Ты светлым позіркам з тупых смяротных кпіш,*
*Ты, стодзе, велічны, анёле, чые вочы –*
*З гагату, а чало – высакародны спіж!*

**Андрэй ХАДАНОВІЧ**

**Заўвагі**

[1] Балашов Н.И., Поступальский И.С. Примечания//Бодлер Ш. Цветы Зла. Москва, 1970. С.340.

[2] Baudelaire C. Les Fleurs du Mal. Lausanne, 1967. P.81.

[3] Балашов Н.И., Поступальский И.С. Op. cit. C. 341.

[4] Ibid.

[5] Ibid.

[6] Так, у перакладзе Чэслава Ястшэмбец-Казлоўскага чытаем: "Posągu czarnooki o czole miedzianem!" (Charles Baudelaire. Kwiaty grzechu. W-wa-Kraków, 1920. S.66). У перакладзе Богдана Выджгі: "Posągu z smolnym wzrokiem o miedzianem czole!" (Karol Baudelaire. Kwiaty Zła. W-wa-Kraków-Lublin-Łódź-Paryż-Poznań-Wilno-Zakopane, 1927. S.64.

[7] Глядзі, напрыклад, пераклад Гарацыевага "Помніка", выкананы Тадэвушам Феліксам Ганам (Hahn), у выданні: Quintus Horatius Flaccus. Pieśni ksiąg czworo. Lublin, 1936. S. 111 – 112.

[8] Напрыклад, пераклад Шатэрнікава: "Создал памятник я//меди нетленнее..."

[9] Глядзі пераклады М. дэ*** (Баленвіе) і П. Дару: Traduction des odes et de l'Art poètique d'Horace, en vers français. Paris, 1812. P. 255—257; Oeuvres complétes d'Horace, traduites en vers par P. Daru, de l'Académie française. Tome premier. Paris, 1823. P. 269.

[10] Глядзі пераклад Эліса ў выданні: Бодлер Ш. Цветы Зла. Москва, 1970. С. 66, альбо ў іншых выданнях.

[11] Ibid., C. 341. Глядзі таксама пераклад Вадзіма Аляксеева: Алексеев В. Album romanum. Коллекция переводов. Москва, 1989. С. 24.

ЯНО

# АНКЕТА

## “Адзін дзень майго жыцця: 14 траўня”

Дзень, як вядома, пачынаецца апоўначы. Я прачнуўся а палове першай і зразумеў, што “стрэлкі гадзінніка зварухнуліся ўлева”: балела галава, у ёй яшчэ не астыла прыснёнае. Тлумная зала, вялізнае, на ўсю сцяну, люстэрка, а ў ім спяваюць Някляеў з Лучанком... Значыць, паўторна “пабываў” на пісьменніцкім з’ездзе? Ну, з Някляевым усё зразумела: старшыня саюза, мой новы шэф. А Лучанок адкуль? Мусіць, з таго, што не паспеў сказаць яму з трыбуны (калі выступаў, яго не было ў прэзідыуме) “камплімент”: “Дзякуй, шаноўны беларускі кампазітар, за беларускую мову: думалася, што вы зусім адвыклі ад яе за часы антыбеларускіх перамен...” Як бы гэта ўспрынялося? Як нетактоўнасць? Тады, на з’ездзе, да яго падышоў Сыс і без какецтва заявіў: “Ігар, напішы песню на мой верш, а то пішаш на...” Але ж то – Сыс...

Урэшце, з’езд як з’езд, газеты не надта хвалілі, аднак такія пісьменніцкія сустрэчы (лепей меншыя, але часцейшыя) шмат для каго карысныя. Ведаю ад сяброў, ведаю па сабе. Якая б неаднародная сябрына ні была, а падахвочвае, мо акурат – спрэчкамі.

Спаць не хацелася. Падняўся і пайшоў на кухню, у свой рабочы кабінет (колькі, між іншым, такіх “кабінетаў” у 40—50-гадовых!). Згадаў, што ўчора добрыя людзі вярнулі мне мой верш. Забыў ці згубіў падчас гасціны. Ужо не першы раз. Як губляў Рудкоўскі, як Купрэеў – гэты дык і рукапісы аповесцяў... А мне было шкада нават накіду верша. Не часта ж апошнім часам пішацца. Мне наогул не часта пісалася, а цяпер абыякавасці і ляноты – адбаўляй. З-за ўзросту, бязладдзя, вэрхалу?.. Выняў з тэчкі аркушык, скрэмзаны алоўкам, мала што расчытаў на ім, хоць што да чаго – цень верша – памятаў. Памкнуўся ўзнавіць – не пайшло. Выкурыў цыгарэту і лёг на канапу з думкаю, што выпіваць трэба менш...

Уранку верш з’явіўся. Па сутнасці, новы. Так бывае: пачынаеш дапрацоўваць адзін, а нараджаецца іншы. Ды дзе яго вытак? Справа, пэўна, у тым, што па гарачым следзе нічога людскага не атрымліваецца: спачатку перажытае ці перадуманае павінна адстаяцца, перабрадзіць, каб некалі праявіцца як бы само па сабе, як бы з ніадкуль. Таму і не ўцямваецца, губляецца ў глыбінях памяці вытак.

*Старое грае, сам стары,*
*з усхліпам, зболена, мінорна.*
*Не чуюць...*

Падышла да стала 11-гадовая дачка – збіралася ў музычную школу: “Вершы складаеш?” – “Ага”. – “А нашто табе вершы?” – “А табе музыка?” – “Падабаецца”. – “І мне”. Памаўчалі. “Твой “Кірмаш” задалі чытаць”, – паведаміла. “Ну, вось бачыш. І як, спадабаўся?” – “М-м... так сабе!”

Логіка крытыка праяўляецца ў яе нярэдка. Калі была яшчэ меншаю, стварыла жывы анекдот. Сядзела ў мяне на каленях, сваволіла. Я насварыўся. Спаўзла з каленяў, пакрыўджаная, і села да маці. “Мама, мяне ты нарадзіла?” – “Я, дачушка”. – “І брата?” – “І брата”, – “І бацьку?” – “Не, не я”. – “Ну і правільна!” Адпомсціла...

На “службу” ў аддзяленне СП не паехаў. Праз дзень, у суботу і нядзелю, у Брэсце сустрэчы са студэнтамі Берлінскага вольнага універсітэта. Яны штогод спыняюцца тут па дарозе ў Мінск. Трэба было падрыхтавацца. Дзякуючы знаёмству з імі, а найперш з іхнім кіраўніком прафесарам Шлётцам, амаль рэгулярна чытаю часопіс “Deutschland”, яго рускі варыянт. Захоўваю нумар з артыкулам пра сучасную нямецкую літаратуру, у якім, у прыватнасці, канстатуецца: пісьменнікі Германіі атрымліваюць да трохсот прэмій у год (а не 60, як пісаў “ЛіМ”, і не 80, як пісала “Свабода”). І гэта – толькі дзяржаўных. І без уліку разнастайных дапамогаў і стыпендый. Крытык, аўтар артыкула, папракае: закармілі, нічога значнага апошнім часам не выйшла. Апроч “Парфумы” Зюскінда. Дык і малайцамі Васіль Сёмуха і “Крыніца”, што аператыўна пераклалі і надрукавалі раман па-беларуску.

Не паехаў у аддзяленне яшчэ і з-за таго, што і дома хапае працы па службе. Набралася пяць-шэсць рукапісаў, якія трэба прачытаць і “прыстроіць” да друку: Курылёвай, Мацяш, Жмінько, Жытко... Цяпер я болей рэдактар, чым сакратар. На жаль, мае абавязкі статутам СП не акрэслены. Вось і круціся. З рэдактарствам яшчэ куды ні йшло, а з “прыстройваннем” рукапісаў – значна горш. Сам дасюль вінен выдаўцам за кніжыцу вершаў, датаваную 1996-м годам (не зусім меў рацыю Галубовіч, напісаўшы ў “ЛіМе”, што яе мне падарылі сябры, – яны толькі ўцягнулі мяне ў гэтую авантуру). Аднак жа нешта і зрабіў – дапамог выдацца Станкевічу, Паплаўскаму ды іншым землякам, а найбольш ганаруся зборнічкам вершаў школьнікаў Брэстчыны, у якім больш за 70 аўтараў. Ды ўсё ж хочацца не проста памочнікаў, а ініцыятараў выдавецкай справы сярод сяброў-калегаў. Яны толькі-толькі з’яўляюцца. Скантактаваўся з “фірмачамі” Мікола Пракаповіч і падрыхтаваў да друку ажно двухтомнік сучаснай паэзіі берасцейцаў, загаварыла пра сваё выдавецтва Зіна Дудзюк, узяліся стварыць часопіс Ігар Сідарук з выдаўцом Лаўровым. Ігар тэлефанаваў акурат 14-га траўня, прыспешваў з творамі для часопіса.

Быў і другі тэлефонны званок дахаты – з Баранавіч, ад маладога “генія”: пішу, маўляў, пра ўваскрэсенне Заратустры – паводле Ніцшэ, але – лепш... Вось так: нашых не “закармліваюць”, і таму яны бяруцца за звышшэдэўры!

Што яшчэ было са мною 14-га? Чытаў творчы партрэт Шніпа ў “Крыніцы” (цікава – аб’ёмна, шчыра), там жа – новыя вершы Хейдаравай (на гэты раз не запомніліся, хоць аўтарку паважаю) ды публіцыстычную брашуру Станіслава і Эдуарда Дубянецкіх “Цяжкі шлях да адраджэння” (выпушчана ў Брэсце ў таго ж Лаўрова). Апошняй не дачытаў – трэба было брацца за рукапіс рамана (па службе), ды яго не дачытаў таксама – зноў забалела галава... Адвячоркам пабываў на дачным участку, але садоўнік-агароднік з мяне яшчэ горшы, чым літаратар, дык проста падыхаў вольным паветрам. І ноччу ў аніякім люстэрку Някляеў з Лучанком ужо не спявалі...

**Алесь КАСКО**

Калі ўжо быць вернай стылю “плыні свядомасці”, дык перадрукоўваю я гэта пад завыванні “Ляпіса Трубяцкога”, у якога сваё меркаванне пра травень: паркі, уздыхі ды цюльпаны. Цікава, калі цытаваць Ільфа і Пятрова літаральна, то “Ляпіс-Трубяцкі” трэба пісаць праз рысачку, як падвойнае прозвішча... “Ляпіс” трохі нагадвае мне сваім стылем піцерскіх Міцькоў, але часам іх сцёб занадта блізкі да натуры... Дыстанцыя між вобразам і сутнасцю не перавышае рысачкі між Ляпісам і Трубяцкім...

Чаму менавіта 14 траўня? Напэўна, проста каб не 13-га. Урэшце, чатырнаццаць – гэта двойчы сем. Але, баюся, мой дзень прайшоў **паміж** дзвюх шчаслівых сямёрак...

Чакаеце згаданай “плыні свядомасці”... Не атрымаецца. Толькі эпізадычна хіба? Прызнаюся шчыра, што сённяшні дзень трэба занатоўваць, прыпомніла толькі пад вечар, і тое, калі нагадалі... Што магу аднавіць? Як перад працай чытала апошні (пяты) нумар “Нового мира”. Астаф’еў. “Вясёлы салдат”. Перанасычанасць гідасцямі, нецэнзуршчынай... Ваенны шпіталь, дзе салдат жыўцом з’ядаюць чарвякі... Нейтральная паласа на Заходняй Украіне, на думку аўтара, “есть та самая нейтральная полоска, что так опасно и ненадёжно разделяет два женских хода”... Прыемнае чытанне для сняданку, ці не так? Цікава, пастфактум, што муж, Віктар, прачытаўшы, нічога “такога” не заўважыў...

Раней была савецкая цэнзура, так. Здавалася, што ўсё, што яна забараняе, – гэта менавіта тое, што збядняе літаратуру, перашкаджае мастацкаму самавыяўленню... Усё, цэнзуры няма... Пішы, як хочаш. І старыя майстры дадаюць у свае творы таго “перчыку”, якога раней **нібыта** не маглі дадаць. Выграбаюць **усё** са сваёй падсвядомасці і свядомасці. У выніку аказваецца, што гэта чамусьці – **лішняе**. Ёсць дастаткова прадстаўнікоў маладзейшай літаратарскай генерацыі, якія натуральна пачынаюць з гэтага, пазалітаратурнага. А так... Самавіты дзядзька з “фенечкамі”... Глядзіце, я таксама магу “блінкаць” у сваёй майстроўскай прозе! Так і хочацца сказаць яму, што мастацтва рускага мата не такое эксклюзіўнае ўменне, каб яго дэманстрацыя дадала некаму прэстыжу. Жывёлы і тыя ўжываюць свой варыянт мацяршчыны – калі нехта не дагадзіў важаку статка, той ставіць вінаватага ў позу падстаўкі – гатоўнасці самкі для палавога спарвання, і сімвалічна дэманструе над пакараным гэтае дзеянне...

У тым жа нумары “Нового мира” – жудасныя псеўдадакументальныя аповеды Тучкова “Смерць прыходзіць па Інтэрнету”. Гаворачы “жудасныя”, я маю на ўвазе сюжэты. Закулiссе расійскага банкірска-палітычнага бамонду. Бязмерны цынізм, садызм і падобныя “ізмы”. Калі пэўная колькасць грошай кандэнсуецца ў адной асобы, даходзіць да нейкай “крытычнай масы”, ва ўладальніка пачынаецца дэструктуралізацыя асобы. Там, наверсе грамадства, не дзейнічаюць чалавечыя прынцыпы. Там – джунглі... Усведамляеш, што фантасмагорыя. Аднак – **праўдападобная** фантасмагорыя. Дакладна, што нешта такое – і горшае – рабілася, робіцца і будзе рабіцца. Таму ўключаць тэлевізар пакуль не хочацца. А то пакажуць Бары Алібасава, – а раптам гэта сапраўды не ён, а “падменка”? А сапраўдны Бары Алібасаў, пакараны ўсёмагутным банкірам за сувязь з яго жонкаю, сядзіць у псіхушцы, з устаўнымі жалезнымі зубамі і дыягназам “манія вялікасці”?

У транспарце перажыла чарговы востры прыступ мізантропіі. Хаця мяне чамусьці не чапаюць... Ці я ўвагі не звяртаю, не “заядаюся”? Складваюцца сказы апавядання. Кандэнсуюцца, як кроплі.

На працы дзяжурыла па нумару. Пакуль дачакалася палосаў з тэкстамі, дадумвала, **перажывала** апавяданне. Напэўна, выгляд у мяне ў гэты час быў дзіўнаваты – рэальнасць успрымалася, як праз вату, бо Галубовіч сказаў, што выгляд у мяне пагрозны, як у сапраўднага крытыка... Як быццам бы нехта ведае, якім павінен быць сапраўдны крытык... Бялінскім, Бурэніным ці Валеры...

Дадому ішла з Віктарам. Адна сяброўка сказала мне, што працаваць з мужам на адной працы – вычварэнства. З парку Янкі Купалы даносілася музыка – адбывалася рок-акцыя за нешта адраджэнскае. Хацелася прайсці, хоць, як сказаў Віктар, наўзбоч, зірнуць, што там і як, але пакуль ваганіся, прамінулі дарогу наўпрост, вяртацца не хацелася, і музыка далятала да нас праз рэчку ўсё цішэй, цішэй, пакуль не растала недзе там, у дрэвах і тумане...

У краме накупляла тварожных сыркоў. **Ежа.** Дэвід Коўпленд у заходнім бестселеры “Пакаленне Ікс” называе супермаркеты найбольш частым **ментальным эпіцэнтрам** – месцам, дзе чалавек уяўляе сябе падчас атамнай бамбардзіроўкі. Усё патроху рушыцца, а людзі хапаюць з прылаўкаў ежу ў запас... Дарэчы, наша схільнасць утвараць запасы прадуктаў з пункту гледжання эталогіі тлумачыцца пражываннем у кліматычным поясе, дзе змяняюцца поры года. Жывёлам, якія жывуць там, дзе прырода ўвесь час буяе і пладаносіць, запаслівасць не ўласцівая.

Пачала занатоўваць апавяданне. А не пісалася ўжо даўно. Абавязковыя артыкулы не ўлічваю. Хатнія справы не вербалізую. І без таго яны займаюць большасць часу. Калі іх яшчэ абдумваць, не застанецца часу на тое, каб **жыць**, – у тым сэнсе, як **я** гэта разумею.

Дачцэ ў школе далі заданне на камп'ютэрным лісточку – прыдумаць сабе на лета праект па экалагічнай адукацыі. Нічога сабе для другога класа! Прычым праект шматпунктны і разнастайны – з перспектыўнай мэтай, спісам літаратуры, якую трэба прачытаць, і г.д. Вырашылі, што дачцын праект будзе пад назвай "Чароўнае пустазелле". Будзем вывучаць траўкі.

Перад сном, каб супакоіцца, ці, дакладней, прымірыцца з гэтым днём і пажадаць дня наступнага, у чарговы раз пераглядзела апошнія фотаздымкі. Навагодні карнавал, я ў выглядзе разбойніцы; мы з Веранікай у Маскве, дзіўная аўра над магілай Васіля Блажэннага; дасланыя Мірай Лукша з Беластока фотаздымкі з апошняга з'езда пісьменнікаў – як сур'ёзна мы да яго ставіліся...

"Вось дзень прайшоў, як мноства іншых дзён. І ўсё было, як і было здавён". Гэта я напісала гадоў пятнаццаць таму... Божа, мне было васемнаццаць! Пісалася кожны вечар – запой вершамі, абавязковая юначая графаманія, якая павінна скончыцца гадоў да дваццаці пяці... А шкада.

Шумела лісце дрэў. За зіму стамляюся без гэтага шуму, адвыкаю ад яго. Лісце адрасла – і зашапацела. Набыло голас.

Як доўга некалі працягвалася вясна!

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

Крык, як горны абвал,
вырастае з маўчання,
з цішыні, што нацятай ірвецца струной,
выспявае ў крыві і бунтуе адчайна –
так рака цёмны лёд узрывае вясной.

Мітуслівец-падзёншчык змаўкае
раптоўна.
Ах, як гукі растуць,
як дужэюць яны,
абдымаючы далеч
на ўскрайку прадоння
і нявер'я нямога, і ялейнай маны...

Акрамя гэтага верша, які напісаў 14-га мая, прачытаў дзве пары аглядных лекцый выпускнікам-завочнікам, настойліва раячы ( у які ўжо раз!) выпісваць літаратурную перыёдыку – часопісы "Полымя", "Маладосць", "Крыніцу", "Беларусь", "Неман", штотыднёвік "ЛіМ", газеты "Звязда" і "Народная Воля". У гэтых выданнях (у адных рэгулярна, у іншых хоць зрэдку) змяшчаюцца не толькі вершы і паэмы, апавяданні і аповесці, але і рэцэнзіі, водгукі на новыя кнігі, думкі чытачоў пра сучаснае жыццё – у тым ліку і літаратурна-мастацкае.

Выстаяў ці не больш за гадзіну ў магазіннай чарзе за падабенствам нейкай каўбасы коштам амаль 100 тысяч за кілаграм. Шкадую, што ўбіў час і змарнаваў грошы. З чаго толькі створаны гэты слізка-рыхлаваты "шэдэўр"?

Яшчэ быў дождж – не па-майску непрыветны, са сцюдзёным ветрам. Апошняя квецень развітвалася з веццем, пялёсткі на траве і асфальце маўкліва сведчылі: пара веснавых узбуджэнняў на зыходзе. Будзённыя клопаты не абмінуць пад хмурным і сонечным небам ні дрэва, ні чалавека. Ці не пра гэта хацела сказаць і завязь на яблынях і каштанах гарадской ускраіны?

**Віктар ЯРАЦ**

Прачнуўся без дваццаці восем, на сорак хвілінаў пазней ад запланаванага. Упікнуў сябе, – зрэшты без асаблівага імпэту.

Дзень звычайна пачынаецца з кавы, а калі кавы няма, то з моцнай гарбаты. Кавы не было.

Гарбату (між іншым – дрэнную) піў, як зазвычай, ужо за пісьмовым сталом, каб дарам не губляць часу. Пакуль гарбата раскатурхвае ўяўленне, гартаю, каб хутчэй раскруціць мазгі, якую-небудзь "разумную кнігу". На гэты раз пад руку патрапіў Людвіг Вітгенштайн. Чытаў на выпадковай старонцы філасофскія доследы хвілінаў пятнаццаць, а затым падсунуў пад руку скрэмзаныя аркушы паперы ўжо са сваімі "філасофскімі доследамі". Да дваццаць восьмага мая трэба падрыхтаваць публічную лекцыю, якую мушу прачытаць у Беларускім Калегіуме. Лекцыя будзе называцца "Метафізіка. Сітуацыя росквіту і сітуацыя заняпаду". Праца ідзе марудна і не ў смак. Даўно кінуў бы, але паабяцаўся.

Каб "увайсці ў плынь", стаў чытаць ад пачатку: "Калі я быў падлеткам і толькі прызвычаіўся ўслухоўвацца ў таямніцу самога сябе і ўглядацца ў зорнае неба над хатай, мяне пачала пакутліва вярэдзіць адна і тая самая думка: як можна кахаць дзяўчыну, маліцца Богу, будаваць дамы, дарогі і камунізм, калі невядома навошта, дзеля чаго ўсё гэта: зямля, неба, чалавек?

– Чаму, – думаў я тады, – людзі не адкладуць на нейкі час свае пільныя справы, каб неяк высіліцца разам і знайсці адказ на гэтыя першыя запытанні, бо без адказу на іх і камунізм, і Бог, і чалавек губляюць хоць які сэнс"

Дачытаў усю абкрэмзаную паперу да чыстага аркуша і пачаў паліць цыгарэту за цыгарэтай без хоць якога плёну... Відавочна метафізіка сёння мяне не хацела. Можа з таго, што я піў дрэнную гарбату, а можа таму, што цыгарэтаў у пачку мала заставалася і я нaпэрад нерваваўся: давядзецца перапыняць працу і бегчы ў краму. А для мяне лепей і не раскручваць махавік думання, калі я не ўпэўнены, што ў яго не будзе часу выкруціць сваю энергію дарэшты.

Як зазвычай, калі інтэлектуальная праца не рухаецца, у галаву палезлі рэальныя праблемы рэальнага жыцця. Заўтра аднаму з маіх самых блізкіх сяброў, інжынеру Мінскага маторнага завода Віктару Лукічу Шылянкову, – 60 гадоў. Калі я не памыляюся, то нашае сяброўства пачалося недзе ў сямідзесятым годзе з сумеснага побыту ў інтэрнацкім пакойчыку маторнага завода. Віктар Лукіч быў нашмат старэйшым за мяне, але гэта не замінала сяброўству тады, у маладосці, тым болей не замінае цяпер – у сталасці... Калі б я быў празаікам, то Віктар Лукіч (мы яго і ў маладосці называлі – "дзед") неаднойчы станавіўся б "героем" маіх опусаў, бо гэта надзвычай каларытны мужчына з пакручастым лёсам і такім заблытаным лабірынтам унутраных матывацыяў вонкавых паводзінаў, што разблытваць іх можна бясконца.

Кожны юбілей – гэта найперш праблема падарунка. Вырашыць гэтую праблему падахвоціўся яшчэ адзін з маіх найблізкіх сяброў (пэўна найблізкі) Жэка Якаўцаў, галоўны бухгалтар "Беларускага ўпраўлення дарогаў" (хаця, здаецца, гэта не зусім дакладная назва той арганізацыі, дзе ён працуе). З Жэкам мы пазнаёміліся яшчэ раней, чым з "дзедам", аднак таксама ў інтэрнацкім пакойчыку маторнага завода. Некалькі дзесяцігоддзяў мы хадзілі разам у горы і разам, у адной звязцы, ледзьве не патанулі (ужо амаль патанулі) пры пераправе праз бурапенны Кантэгір на Алтаі. Зрэшты, у якім толькі бязлюддзі мы з ім не сёрбалі ліха, але калі ты малады і дужы, то смак ліха найсаладзейшы...

Дык вось. Жэка запрапанаваў "скінуцца" хаўрусам некалькіх блізкіх сяброў і купіць Дзеду скураную куртку (Жэка меў магчымасць набыць яе трохі танней, чым яна каштавала ў краме). Трэба было даведацца, ці атрымалася ў яго з падарункам, і я пакінуў паперу ў яе цнатлівай белізне. Вытэлефанаваў сябра досыць хутка (такое рэдка здараецца). З курткай пытанне было амаль вырашанае, але ў мяне заставалася яшчэ праблема грошай на падарунак, бо аванс будзе толькі дваццатага...

– Без праблемаў, – сказаў Жэка.

Цяпер трэба было набыць цыгарэты, але з таго, што наскроб па кішэнях, хапала толькі на "Беламор".

Пераапрануўся, купіў пачак "Беламору", зноў пераапрануўся і сеў за стол. За "метафізіку" ўжо не мела сэнсу брацца, і я нейкі час вагаўся: ці то скончыць рэдагаваць для "Крыніцы" аповесць Жоржэ Амаду "Мёртвае мора" (пераклаў з партугальскай Валеры Буйвал), ці то трохі папрацаваць над артыкулам для "ЛіМа". Аддаў перавагу апошняму і падобна не памыліўся, бо, здаецца, атрымалася сфармуляваць сутнаснае ядро гэтага тэксту: "Уласна (у звязку з праблемай нацыяналізму) ёсць толькі адно пытанне: наколькі **нацыяналізм тэхналагічны?** Гэта значыць, наколькі ён можа быць вартасным, каштоўнасным не як **ідэалогія** адбывання быцця, а як **тэхналогія** адбывання быцця.

Ці тэхналагічны (у гэтым сэнсе) нацыяналізм і ці ёсць у яго патэнцыяльныя магчымасці быць тэхналагічным сёння (тым болей, застацца тэхналагічным заўтра)? Гэта канцэптуальнае пытанне, калі заўгодна – лёсавырашальнае для ідэі беларускай Беларусі. Бо калі – не, не тэхналагічны нацыяналізм, то колькі б мы з вамі ні лямантавалі пра страту мовы, гісторыі, культуры, колькі б ні хадзілі на мітынгі, пікеты, шэсці, колькі б ні ганілі (па чарзе) кожную наступную ўладу за яе няздольнасць адрадзіць і заканстытуяваць на Беларусі беларускасць, усё гэта будзе марна ў сэнсе рэальнага пазітыўнага выніку. Сучасная цывілізацыя не бярэ пад увагу **не**тэхналагічныя ідэі, а тым болей не прымае іх да рэалізацыі..."

"Беламор" курыўся ў смак, думкі пакрысе груваціліся на паперы, але тут патэлефанаваў Сяржук Мінскевіч (паэт, бард, перакладчык) і запытаўся пра Адама Міцкевіча. Рэч у тым, што Сяржук цалкам пераклаў "Дзяды" Міцкевіча і "выціснуў" з мяне згоду, каб я ўзяўся за рэдагаванне. (Неяк падумалася: амаль усё, што я раблю як літаратар, я раблю пад прымусам – ці то абставінаў, ці то больш энергічных за мяне людзей, ідэй, падзей.)

Сяржук скончыў выпраўляць мае заўвагі ў чацвёртай частцы "Дзядоў" і чакаў наступную "порцыю". Я кінуў "лімаўскі нацыяналізм" і ўзяўся даводзіць (там няшмат заставалася) да ладу другую частку "Дзядоў", каб аддаць яе Сяржуку, калі прыйдзе сёння на працу.

Здаецца, паспеў, управіўся. І нават знайшлася хвілінка, каб патэлефанаваць паэту і эсэісту Міхасю Баярыну, які ў "Эўрофоруме" рыхтуе да друку мой суплёт эсэ – кнігу "Мяне няма". Трэба было папрасіць, каб ён замяніў назву эсэ "Піраміда Хеопса ў мурах Мірскага замка" на "Вайна культураў"

Нешта перакусіў спехам і пабег на тралейбус. На працы, у рэдакцыі "Крыніцы", ужо быў мой калега, Леанід Галубовіч. Пакуль мы з ім абмяркоўвалі апошнія гульні чэмпіянату свету па хакею, прыйшоў яшчэ адзін калега, Алесь Разанаў (нешта рана) і нагадаў, што сённяшні дзень мы вызначылі для анкетавання. Гэта значыць, зранку да ночы абраны для анкетавання пісьменніцкі люд мусіць запамінаць і занатоўваць, што з ім адбывалася на працягу дня, што думалася і пра што мроілася, каб пасля мы надрукавалі ўсё гэта на старонках "Крыніцы".

Натуральна, я ведаў пра гэтую прыдумку Алеся Разанава, але забыўся на яе, бо асабіста мяне яна ніяк не цікавіла. Пра што я яшчэ раз сказаў яму, калі ён зноў папытаўся, ці буду я таксама пісаць.

Сказаць сказаў, ды раптам падумаў: а можа паспрабаваць? А то я ўсё рэфлексую над нечым адцягненым ад рэальнасці і за гэтым абстрактным рэфлексаваннем ужо забыўся, як выглядае маё штодзённае жыццё. А тут ёсць магчымасць агледзецца вакол і зафіксаваць хоць адзін дзень з уласнага бытавання.

Гэтая акцыя ў той момант падалася асабіста мне дарэчнай яшчэ і таму, што я – чалавек без мінулага. Былое са мной не застаецца; гэта не значыць, што яно знікае дазвання і я жыву ў татальным бяспамяцтве. Не, сёе-тое з праміналага я памятаю (кагадзе згадаў жа і маторны завод і Кантэгір), але не вельмі шмат, бо ўсё, што са мною адбылося, як бы адсланяецца ад мяне, робіцца не маім, амаль адразу, на другі-трэці дзень звальваецца ў нейкую глыбокую студню, дзе і ляжыць на дне покатам: усё разам ляжыць – і сонечная хвіліна з дзяцінства, і ўчарашняя хмарная гадзіна. Калі мне вельмі закарціць, то я магу схіліцца над студняй.і нешта разгледзець там, на дне. Але карціць мне вельмі рэдка і таму я звычайна абыходжуся без мінулага: яно там, збэрсанае, у прадонні студні, а я тут, на падворку, вольны ад усёй сваёй мінуўшчыны, кожны дзень нанова народжаны, толькі не немаўлём, а адразу з усімі сваімі гадамі.

Дык вось, прыдумка Алеся Разанава давала мне магчымасць хоць адзін дзень з усяго свайго мінулага пакінуць пры сабе, не даць яму адсланіцца ў чужыннасць, зафіксавацца рэальнасцю майго няма...

Усё гэта было добра, але я не ведаў, скуль вызваліць хоць трохі часу, каб маё 14 траўня перанесці на паперу, і таму вырашыў наступным чынам: не знікне заўтра хэнць і выблісне вольная хвіліна – занатую, не – дык не...

А сёння трэба было вырашаць сённяшнія праблемы. Абмеркавалі з Разанавым і Галубовічам таксама паэта Іосіфа Бродскага. Рэч у тым, што паэт Алесь Чобат пераклаў нізку яго вершаў і паўстала пытанне: будзем рабіць "постаць" Бродскага ці не? Пагадзіліся, што будзем. Потым я пажаліўся на ўласны "рэдактарскі крызіс": перакладчыкаў не хапае, ёсць праблемы і з іх кваліфікацыяй. А часопіс, як той малох, жарэ і жарэ. Здаецца, ужо колькі замежных пісьменнікаў, культуролагаў, філосафаў кінуў у пашчу, а яму ўсё мала: давай і давай. Вось зраблю яшчэ Бадлера, Кундэру, Калакоўскага, Эка, Бродскага, а што потым? Дзе шукаць яшчэ перакладчыкаў, дзе набываць хаця б прафесійна зробленыя тэксты, дзе самому знаходзіць сілы, каб не спыняцца, не спыняцца...

Зрэшты, жаліцца доўга не выпадала, бо ў рэдакцыю пацягнуўся "люд". Першым, "забраць" Адама Міцкевіча, прыйшоў Сяржук Мінскевіч. Паглядзелі мае праўкі,

пагаварылі пра пераклад "Дзядоў", які паралельна робіць Кастусь Цвірка.

Неўзабаве Леанід Галубовіч пачаў збірацца ў рэдакцыю "ЛіМа". Не развіталіся, бо меркавалі сустрэцца на шэсці, якое арганізоўваў БНФ а пятай гадзіне з плошчы Якуба Коласа. Шэсце і мітынг былі ў абарону палітвязняў, а абраная дата 14 траўня адсылала да майскага рэферэндуму 1995 года.

Прыйшоў перакладчык, культуролаг і паэт Валерка Булгакаў, прынёс кнігу "Panorama Polskiej Myśli Filozoficznei", каб я прачытаў артыкул пра Лешака Калакоўскага (бадай адзінага любага мне польскага філосафа) і вырашыў, у якім аб'ёме яго перакладаць: цалкам ці са скарачэннямі?

Не паспелі з Валеркам разгаварыцца, як у пакой літаральна ўскочыў філосаф і паэт, дырэктар Беларускага Калегіума Алесь Анціпенка – яму нешта трэба было ад (ці да?) Алеся Разанава. Выказаў абурэнне з нагоды ўсёй беларускай вяскова-адраджэнскай паэзіі. Лакальнай падставай для татальнага абурэння была апошняя з выдадзеных нядаўна на Беларусі кніг Ларысы Геніюш, якую ён толькі што чытаў па дарозе ў рэдакцыю. Там жа, па дарозе, ён з гэтай нагоды пачаў складаць антыадраджэнскі вершык і некалькі строфаў з яго нам тут жа і прадэкламаваў.

Але доўга гаманіць ні ў кога не было часу. Алесю да публічнай лекцыі ў Беларускім Калегіуме (яна распачыналася а шостай гадзіне і дырэктар мусіў там быць) трэба было яшчэ заскочыць у Скарынаўскі цэнтр, а я спяшаўся на плошчу Якуба Коласа, каб прайсці з калонай дэманстрантаў да плошчы Перамогі, а потым сесці на метро і паехаць да філіі музея Максіма Багдановіча, дзе мелася адбыцца вышэй згаданая публічная лекцыя.

На плошчу мы паехалі з Сержуком Мінскевічам. Народу было зусім мала і амаль нікога са знаёмых, хаця знаёмых твараў было даволі, бо за дзесяцігоддзе мітынгаў вочы прыглядзеліся да ветэранаў вулічных акцыяў.

Пэўна, на мітынг людзі ўвогуле хутка перастануць хадзіць. Надакучыла з году ў год рабіць адно і тое самае. Ніякага выніковага эфекту ў большасці з гэтых шэсцяў ужо даўно няма, а таму няма з іх і радасці... Ідзеш туды як пад прымусам, хаця ніхто і не прымушае... **Нешта** прымушае, але і ў гэтага **нешта** відавочна слабне энергія. Бадай, арганізатарам мітынгаў і шэсцяў трэба перастаць імі злоўжываць. Пакінуць на год адно-два шэсці, каб людзям у ахвоту было, – і даволі. Інакш гэтая форма супраціву хутка будзе дыскрэдытаваная ўшчэнт, калі ўжо не дыскрэдытаваная...

Пакуль шэсце не пачалося, стаялі з Сержуком ля афішнай тумбы, гарталі дыхтоўную кніжку "Дзядоў" на польскай мове, разважалі пра Міцкевіча, які першым распрацаваў многія з тых тэмаў, што потым без меры будуць эксплуатавацца ў беларускай паэзіі, ды падпісвалі розныя паперы: за вызваленне палітвязняў, за грамадзянства ў БНР, яшчэ за нешта... У падзяку за нашу актыўнасць дзяўчаты, што збіралі подпісы, падарылі нам бел-чырвона-белых папяровых буслікаў (мой і цяпер вісіць над пісьмовым сталом).

Неўзабаве невялічкая калона рушыла па ходніку паўз праспект. Мы з Сержуком прыладкаваліся ў самым яе канцы і там нечакана сустрэлі Зміцера Вішнёва, Віктара Жыбуля, Іллю Сіна. Атрымалася цэлая бумбамлітаўская філія зборнай калоны "змагароў за волю".

На плошчы Перамогі я апошні раз зірнуў на бел-чырвона-белыя сцягі (можа, дзеля асалоды, якую адчуваю заўсёды, калі бачу іх лунанне, я яшчэ і хаджу на мітынгі?) і развітаўся з хлопцамі, каб праз хвілінаў дваццаць быць ужо на публічнай лекцыі пра сучаснае мастацтва, якую чытаў Міхал Баразна.

Я не аматар публічнага інтэлектуалізму, мне куды больш утульна з кнігай, чым з лектарам. Але Беларускі Калегіум толькі распачынае сваю дзейнасць і трэба было падтрымаць гэты распачын хаця б сваёй прысутнасцю (зноў **трэба:** на мітынг **трэба,** на лекцыю **трэба**). Гэта па-першае. А па-другое: хацелася азнаёміцца, дзе і як усё гэта адбываецца, бо праз пару тыдняў самому давядзецца тут выступаць.

Зрэшты, час не быў патрачаны марна, бо хаця я трохі і "адукаваны" ў праблемах сучаснага мастацтва (як-ніяк шэсць з паловай гадоў працаваў у газеце "Культура"), але некалькі момантаў з прамовы Міхала зацікавілі. Праўда, мне падалося, што калі Міхал дзеліць усё мастацтва на таталітарнае і, так бы мовіць, дэмакратычнае, то ён а priori адмаўляе таталітарнаму мастацтву ў эстэтычнай каштоўнасці. А між іншым мастацтва папярэдніх стагоддзяў было пераважна "таталітарным". Дарэчы, калі казаць пра ўласна хрысціянскае мастацтва (абразы і да т.п.), то тут мера "таталітарызму" была і застаецца абсалютнай, бо дагмат (асабліва яго "праваслаўная версія") вызначае наперад нават колеры, якія мусяць выкарыстоўвацца пры маляванні твару, апраткі, фону і ўсяго астатняга. Што ніяк не замінае нам высока ацэньваць эстэтычную каштоўнасць многіх твораў дагматычных мастацтваў.

Алесь Анціпенка ў сваім каментары да лекцыі назваў Мінск **другаснай** сталіцай Расійскай імперыі з адпаведнай архітэктурай. На гэта культуролаг Юрась Барысевіч заўважыў, што ў такім разе Мінску не хапае маўзалея. Публіка пачала з імпэтам абмяркоўваць, каго туды можна было б пакласці?

Дарэчы, публікі было не вельмі шмат, але ў адрозненне ад мітынгу, тут гэты факт не засмучаў.

Разыходзіліся хто куды. Мы з Юрасём Барысевічам і Міхасём Баярыным вырашылі папіць кавы. Пакуль абмяркоўвалі, куды скіравацца, на вочы патрапіла кавярня "Воля". Натуральна, кавярню з такой назвай мы не маглі прамінуць і спусціліся ў скляпенне. Месцы там былі, але каву гатавалі распушчальную (як зазвычай, там, дзе ёсць воля, – там нічога вартага болей няма). Мы з Міхасём ужо былі памкнуліся шукаць іншы прытулак, але тут Юрась, пагартаўшы каталог меню, запрапанаваў замовіць па чарцы гарэлкі. Прапанова была неблагая, аднак мы з Міхасём не змаглі на яе пагадзіцца, бо не мелі грошай. Толькі тут высветлілася, што Юрась у сваёй прапанове і не разлічваў на нашыя грошы, бо атрымаў сёння ў газеце "Навіны" ("Свабода") ганарар. Зразумела, мы засталіся ў (на) "Волі". Селі за чорны столік у чорныя крэслы. Попельніца, дарэчы, таксама была чорная (падумалася, што "воля", пэўна, сапраўды чорнага колеру, невыпадкова ж гэта любімы колер анархістаў).

Гамонка была прыязнай. Гаварылі пра палярныя эстэтыкі: Маларме – Заля, Бабкоў – Галубовіч, Баярын – Вішнёў. І ў гэтым звязку пра светапоглядныя дэкларацыі, якія ў творцаў досыць часта знаходзяцца ў адкрытай ці латэнтнай апазіцыі адносна іх уласных паэтыкаў... Зрэшты, пераказваць падобныя гаворкі не мае сэнсу, бо яны, як бліны, смачныя, адно пакуль гарачыя...

Юрась замовіў яшчэ па чарцы (мне і сабе, а Міхась папрасіў "колы"). Мы па кроплі смакавалі гарэлку і абмяркоўвалі магчымую назву кнігі Юрася, якую ў "Эўрофоруме" таксама рыхтаваў да друку Міхась Баярын. З усіх магчымых варыянтаў у той момант нам з Міхасём найбольш падабалася назва "Вочы на далоні". Класічная постмадэрновая гульня з цытатай ("Сэрца на далоні", Іван Шамякін), але за гэтай гульнёй бачылася яшчэ нешта, хаця, верагодна, гэтае нешта можна было ўбачыць адно праз алкагольную кроплю.

Сядзелі не доўга, развіталіся каля метро. На развітанне Юрась зноў папытаўся (гаворка ўжо была), ці змагу я напісаць прадмову да яго кнігі.

"Прадмовы" – не мой жанр, я ўжо адмаўляўся ад падобных прапановаў шмат разоў, але Юрась – гэта іншае... Дамовіліся, што паспрабую, калі знойдзецца хоць трохі часу.

Вярнуўся дахаты, уключыў тэлевізар, на чэмпіянаце свету па хакею чэхі з фінамі гулялі сярэдзіну другога перыяду. Дагледзеў да канца. Выдатная атрымалася гульня, магчыма, адна з лепшых на гэтым чэмпіянаце. Да таго ж фіны (я быў "за" фінаў) перамаглі і выйшлі ў фінал.

Калі клаўся спаць, падумаў, што трэба "паставіць" будзільнік на сем гадзінаў, а то зноў устану пазней, чым пажадана, каб паспець напрацавацца да працы ў рэдакцыі. Але – не "паставіў", хаця ніколі не забываюся на японскую прымаўку: "Сакэ і доўгі сон – найпрасты шлях да жабрацтва".

Ужо ў ложку ўспомніў, што калі заўтра з'явіцца хэнць, то трэба будзе перапісаць чарнавік гэтага дня на белы аркуш паперы. Дакладней, не ўвесь дзень, а толькі некаторыя абзацы адной з яго версій, бо цалкам ён не тое што ў занатоўку – у раман не ўціснецца. Пачаў перабіраць, што заўтра можна будзе занатаваць, але, яшчэ не паспеўшы перасунуцца з ранку ў дзень, заснуў...

Спаць я люблю. Спаць я люблю больш, чым жыць. Можа таму, што ў сне я ёсць як няма і наадварот, мяне ў сне няма як ёсць?..

Але **што** мяне будзіць на раніцу прачынацца?

**Валянцін АКУДОВІЧ**

У гэты дзень мяне запрасілі папрысутнічаць на вечарыне, прысвечанай двухсотым угодкам Адама Міцкевіча.

Маленькая і ўтульная зала з піяніна ў цэнтры, вакол якога паўкругам пастаўлены крэслы, каля сцяны – стэнды з кніжкамі і партрэтамі слыннага паэта. У зале – пераважна жанчыны, якіх прыводзіць на такія сустрэчы няўтольная цікаўнасць і памкненне да прыгажосці.

Вядучая ціха загаварыла ў мікрафон, што быў падключаны да тэлекамеры, мяне адразу зачапілі за жывое яе першыя словы: "Вялікі польскі паэт..." і апусцілі ў роздум пра ролю зямлі і народа, да якіх належыць творца.

Усялякі народ здатны нараджаць выдатных людзей, але далёка не заўсёды гатовы паклапаціцца пра іх, даць ім адпаведную нацыянальную адукацыю, адкрыць скарбы сваёй культуры, плыні гісторыі, перспектыву будучыні, таму што ў гэтай справе шмат што залежыць ад дзяржавы, якая быццам бы ствараецца народам, але, тым не менш, існуе самастойна і пагрозліва набывае рысы характараў тых людзей, што прыйшлі да ўлады.

Між тым, стаўленне дзяржавы да мовы прадвызначае наступнае духоўнае жыццё народа, яго развіццё ці заняпад. Калі мова народа выпадае з ужытку інтэлектуальнай эліты, яна застойваецца, як вада ў калодзежы, якім доўга не карысталіся. Працэс тварэння мовы няспынны, з ёю і ў ёй пражывае народ сваю гісторыю, набывае вопыт, сталасць, захоўвае мінулае, будуе існае, а тым самым забяспечвае сабе будучыню.

Сваёй радзімай Міцкевіч лічыў Вялікае княства Літоўскае, якое ён называў Літвой, высока цаніў мову, на якой гаварыў просты люд, але сам паэт з маленства быў далучаны да польскай культуры і мовы, польскія і паланізаваныя настаўнікі адчынялі перад ім свет ведаў. Хоць пазней у сваёй творчасці ён выкарыстоўваў легенды і паданні сваіх мясцін, уводзіў у паэзію характэрныя ліцвінскія словы, так званыя правінцыялізмы, якія дазвалялі ствараць самабытныя, яркія вобразы.

Народ сам выбірае сабе зямлю, перамяшчаецца па планеце, уцякае ад ледавіка ці патопу, засяляе тую ці іншую мясцовасць, абжывае яе, прыстасоўваецца, пільна назірае за рознымі прыроднымі з'явамі, складае песні, казкі, загадкі. І гэты бясцэнны скарб перадаецца пасля з вуснаў у вусны. З маленства помню словы з песні:

*"Усе дзеўкі маму маюць, я адна не маю,*
*Сем раз ваду прыносіла з сіняга Дунаю.*
*Сем раз ваду прыносіла, восьмы – напілася.*
*Каб я мела родну маму, я й не журылася б".*

"Пры чым тут Дунай?" – думалася мне тады. Толькі з узростам зразумела, што ў гэтай песні пазначаны гістарычны шлях народа. Хоць не захаваліся ніякія пісьмовыя звесткі і летапісы, а песня выжыла, каб далучыць нашчадкаў да старажытнасці, схаванай у далёкім мінулым.

Потым былі іншыя маленькія адкрыцці. Аднойчы, перабіраючы вішні на варэнне, задумалася, чаму гэтыя ягады так называюцца. І раптам мне адкрылася, што вішня і Вішну – словы аднакарэнныя, бо азначаюць яны ягаду, якая расце высока, і найвышэйшага Бога. А Буда, гэта той, хто будзіць. Звярнулася да санскрыту і знайшла там мноства словаў з роднымі каранямі, не ўтрымаюся, каб не назваць тыя, што звязаныя з чалавекам, яго духам і душой: ківа – рух чалавечага цела (успомнім беларускае "ківаць"), ан-націка – рух думкі (цікавы, цікаваць, цікавіць), хаяванійя – высокая душа (выхаванасць), руханійя – рух духоўнай сілы...

Тады па-іншаму загучалі для мяне звыклыя словы. **Прамова,** здалося мне, мае такі **ж** сэнс, як **прамаці.** За **прамоваю** асобы стаіць ягоны род, прашчуры, ад якіх пераняў чалавек сваю мудрасць, дасведчанасць ці нейкія другія якасці.

У слове **прадзіва** пачулася спрадвечнае дзіва, калі з кудзелі прадуцца ніткі, пасля тчэцца палатно, шыюцца і вышываюцца дзівосныя сарочкі, урэшце, будзённая праца ператвараецца ў творчасць. А як хораша раптам раскрылася слова "зразумець"! Гэта азначае зразу і мець.

Тысячагоддзямі ткалася палатно сучаснай беларускай мовы, глыбокай і яснай, тонкай і шматзначнай, дакладнай і прыгожай. Пра сілу слова ведалі нашы продкі, бо проста мова магла стаць **замовай,** набыць нечаканыя якасці, стаць па той бок разумення, ды пры гэтым супрацьстаяць хваробе, чужому злому дзеянню ці думцы.

Вяршыня мовы – **верш,** ён з даверу і патрабуе веры, ліецца ручаінкаю, песенна і ўзнёсла. Менавіта такія лірычныя вершы Адама Міцкевіча. Іх шмат гучала на вечарыне па-польску і па-руску. Падумалася з сумам: "Чаму сапраўдная паэзія нараджаецца з пакуты, з нераздзеленага кахання, з неспазнанага шчасця, з няздзейсненай мары? Няўжо ўсе паэты свету асуджаны пісаць свае прачулыя вершы крывёю і слязамі? І навошта людзям ведаць гэты боль? Для

ачышчэння ці перамогі над самім сабою і сваімі парываннямі?"

Вершы чыталі спачатку студэнты, падглядваючы ў паперкі, не мелі часу вывучыць на памяць, якраз пачалася сесія, хапала турбот сваіх, а потым выйшла дзяўчынка гадоў васьмі з тварыкам анёла, у бела-ружовай сукенцы. Тонкія ручкі яе выразна памагалі ёй у чытанні вершаў па-польску, надавалі яшчэ большай пачуццёвасці твару і ўсёй яе паставе, праўда, вершы ёй падабралі занадта дарослыя.

Слухала яе, і згадаўся мне хлопчык, амаль яе равеснік. Выпадкова я трапіла на рэпетыцыю, дзе ён развучваў са сваёй настаўніцай беларускую песню. Галасок быў цудоўны, а словы не прамаўляліся, выходзілі яны нейкія пажаваныя, немагчыма было нават змест песні злавіць. Я папыталася ў хлопчыка, ці разумее ён тое, пра што спявае? Хлопчык шчыра прызнаўся, што не ведае беларускай мовы. Патлумачыла яму сэнс кожнага слова, перапытала, ці зразумеў, падаравала беларускую казку, каб пачытаў дома.

Зразуметая песня загучала, праявіліся словы, ажылі, набылі глыбіню, інтанацыйную афарбоўку. Колькі ж іх, юных беларусаў, падрастае ў нашых гарадах, не ведаючы на вуснах смаку роднага слова, не разумеючы яго адкрытага і прыхаванага сэнсу. Няўжо так і пражывуць на бедным скарбе культуры, пазычанай у суседа, а сваё багацце закапаюць, затопчуць у бруд?

Далей рэй павяла выкладчыца з Брэсцкага універсітэта, казённаю моваю распавядала яна пра Міцкевіча і яго радзіму: "Все было перепутано на этой земле: православие, католичество, униатство..."

І захацелася ўстаць і запярэчыць шаноўнай выкладчыцы, што нічога не было пераблытана, а наадварот, рэзка акрэслена. Праваслаўе і каталіцызм - канфесіі дзяржаўныя ў Расіі і Польшчы. І бяда нашай Радзімы ў тым, што яна гатова была зразумець і прыняць усіх, але гэта аказалася немагчымым, як немагчыма не апячыся, калі апынешся між двух вогнішчаў. Колькі разоў святары праваслаўнай Расіі і святары каталіцкай Польшчы блаславілялі сваіх вояў на вайну супраць нашага народа? Колькі разоў цэрквы перарабляліся ў касцёлы і наадварот? І ўсё гэта рабілася пад лозунгамі, якія абяцалі вызваленне. Ад каго ж нас вызвалялі? Ці не ад нас саміх, ці не ад нашай уласнай мовы, гісторыі і культуры? Ды такога вызвалення нават ворагу не пажадаеш! Страшна! Раптам праклён назад вернецца! А нас да гэтага часу прымушаюць розныя недалёкія ці падсадныя ідэолагі дзякаваць вызваліцелям за вялікую ласку.

Апошнім часам шмат патрыётаў завялося на Беларусі, часта слухаю іх па радыё, чытаю пра іх у перыядычных выданнях і дзіву даюся: што за патрыёты такія? Усе, як адзін, гавораць па-руску, дбаюць пра нейкі саюз, свае офісы ды аклады? Так і хочацца кожны раз спытаць: а вы патрыёты чаго? Упэўнена, што на маё пытанне адказ падрыхтаваны: мы патрыёты радзімы. Вось толькі Радзіму мы разумеем па-рознаму. Хто думае пра Беларусь, хто пра былы Савецкі Саюз, а хто пра карыта, з якога можна чэрпаць поўнай лыжкай дзяржаўныя грошы.

Ці не з такога ж патрыятызму на вечарыне ўвесь час гучала назва твора Адама Міцкевіча "Дзяды" з націскам на першым складзе, як быццам хоць гэтае слова нельга было вымавіць па-беларуску, думаю, аўтар не пакрыўдзіўся б.

Завяршылася вечарына песняю на словы Адама Міцкевіча самадзейнага кампазітара, маладой жанчыны, даўняй маёй знаёмай. Мелодыя атрымалася празрыстая і светлая, пэўна, словы добра леглі на душу:

*Ля ног маіх - багацяў край, красы - сляды,*
*Сінь ясная ўгары, тут шмат прыгожых траў;*
*Чаму ж адсюль імкнецца сэрца ў абшары*
*Далёкія і ў больш яшчэ далёкія гады?*

*Літва! Твой шумны лес мне пеў мілей тады,*
*Чымся дзяўчаты тут, чым салаўі ў Байдарах;*
*Я весялей таптаў дрыгву тваіх імшараў,*
*Чым ананасаў і шаўкоўніцаў сады.*

*Далёкія спакусы вабяць пастаянна;*
*Чаму ж няўважлівы ўздыхаю ўсё па той,*
*Якую я кахаў у дні вясны маёй?*

*Яна ў краі, які ў мяне ўжо адабраны,*
*Дзе ўсё нагадвае аб любым, верным ёй,*
*Ступіўшы на мой след, ці ўспомніць аб каханым?*

Міцкевіч сумняваўся ў сваёй каханай, але Радзіма, нават і адабраная, заставалася разам з ім. Вось што важна!

Пасля заканчэння мерапрыемства кампазітар спыталася ў мяне, ці атрымалася песня, я пахваліла жанчыну, адзначыла, што і спявала яна пранікнёна і душэўна, як ніколі. Яна сумна пасміхнулася:

- Апошняе маё выступленне.
- Чаму? - здзівілася я.
- Зацяжарала, чакаю чацвёртае дзіця.

Я пастаралася супакоіць і суцешыць жанчыну, як магла, а сама з жалем падумала: "Нешта дрэннае творыцца ў нашай дзяржаве, калі маладая жанчына перад нараджэннем новага жыцця смуткуе"

Азірнулася на Міцкевіча, ён сумна паглядзеў на мяне з партрэта.

Развіталася з ім моўчкі, ведала: ненадоўга. Дома мяне чакала кніжка, выпушчаная выдавецтвам "Беларускі кнігазбор" "Філаматы і філарэты", у якой сотня старонак аддадзена творчасці Міцкевіча, а побач стаяць вершы тых, каго ён ведаў і любіў.

**Зінаіда ДУДЗЮК**



1

Час нам прынёс і скрут і шал.
І гэты дзень, ужо ўчарашні,
І жыць даваў, і жыць мяшаў,
Калі з каханнем блытаў шашні...
Вясна вярэдзіла душу.
Душа патрабавала росквіт.
Травінкі, што на ўзмежках росных,
І тыя ўзбеглі на шашу;
Каб на праезджых паглядзець,
Самім, вядома, паказацца;
Ласіха подскакам няўклюдным зайцам
З аўтобусам спаборнічае ўдзень...
Як адбівацца мужыку
Навале веснавое страсці?
Лепш да віны віно прыкласці
І выкупацца ў новым шчасці,
Што не адно - на языку.
Урэшце спішацца на сон
Дрымотна-прывідны і гэта:
Паэтам і не прайдзісветам
Быць - ганьба з даўніх дзён.
На кончыку яго клінка
Не толькі ж варушыцца слову.
Жыві і цела гарт здаровы
Аж да апошняга званка!
Калега, ты даўно, як мел.
Кінь п'янку творчую на потым,
Усю жаночую пяшчоту
Запі грудзямі, стогнам, ротам -
Найлепшы гэта апахмел.

2

Прырода - памагаты мой,
Сумленны самы памагаты!
Я толькі ёю і багаты,
Чым ганаруся прад сабой.
За мной жа сочыць вечны страх,
Каб не згубіць кавалак хлеба,
Хоць на плячах яшчэ не зрэб'е,
Абутак сынаў на нагах.
Папёр хлапец мой угару!
З чаго ён вырас - я ўрастаю,
Мадняцкі выгляд нават маю
Не ў модную жыцця пару...
А ранак вабны быў такі
Пасля кароткага сутоння -
У шыбе чатырнаццаць промняў
(Хоць не лічыў, а добра помню)
Не разляцеліся ўбакі.
Яны ўсе ўперліся ў сцяну
Зіхотна... А не так, як людзі
На грудзі выпінаюць грудзі,
Не аб'яўляючы вайну.
Нервовасць патурае ім
Акопвацца ў любой прасторы,
Знайсці ў бязважкасці апору
І з воблака саткаць кілім.
І траўную хочацца змякчыць
Людскія сэрцы кожнай кветкай.
Хто гэта бачыць - талент рэдкі.
Для большасці - і ён айчым.
Калі на гузакі стократ
Прыкладваеш сабе прымочкі,
Крыкліва, хоць каму, ці моўчкі
Так хочацца супрацьстаяць...

3

Сінічка плішчыцца ў акно.
Паціенькала - выкладвай крошкі,
Яна адвучана даўно
Ганяцца ў горадзе за мошкай.
За спевы ёй давай навар
Абавязкова стопрацэнтны!
Вось і народ... Ён так фацэтна
Кідаецца ад кар да мар.
Як птушачка да хлебных рук,
Да абяцанак лёгка скача.
І я ў натоўпе, смешны мячык,
Што коціцца сам пад каблук...
З натоўпу злепім змагара,
Адну на ўсіх прыставім галаў
І ўкоцімся ў вароты голам
Самім сабе... пад крык "ура!"
На ўсю дзяржаву бамбардзір
У розных гульнях адмысловы -
Факт у гісторыі не новы,
Хто з ёй па свеце пахадзіў.

4

Званок так нечакана дзынкнуў,
Нібыта шыбіна акна,
Працягам гораснага цыкла -
Бяда прыходзіць не адна...
Абрабавалі ў вёсцы хату,
Прытулак муз былых і дум,
Жыла адна... І вінавата,
Што ад сябе не гнала сум
Па шчасці некалі сямейным
Са скваркай, смехам, *першачом.*
Не келля, але дух келейны
З наборам баб і смаркачоў,
Што вечна камар'ём таўкліся
З пытаннем, з плачам, з барацьбой,
Бо гэты ўпаў, той не скарыся -
Перад рабом не стаў рабом.
Калі паназіраць у хаце
Учынкі, вочы, жаўлакі -
І ў ёй, як у далёкай Спарце,
Растуць для веку Спартакі.
Сям'я, дзе душ ажно дванаццаць,
(Урэшце, чым не міні-рацы?)
Заўсёды стане хтось скарацца,
А нехта будзе паўставаць.
Дык што казаць нам тут пра ўлады
Законныя... Бунтоўны дух
На прывязі заўсёды ў звады,
Каб непакоры спеліць рух,
Так часта неабгрунтаванай
Ніякім пошукам свабод,
А толькі прагай апантанай:
Не мы - каб нам глядзелі ў рот...
Чаго палез я ва ўспаміны
З прымешваннем да іх развагі?
Я ж бегчы на вакзал павінен!
Старая хата не пасаг
Па сённяшнім па тлумным часе,
Не будучага дня святло
Для той, што толькі ў пятым класе...
З дачкой падгрэбці вокан шкло
Ніколі ўжо не будзе позна,
Цана ўсяму - не больш чым грош.
І мне не роспачна, не слёзна.
І гэта, можа, сама горш.
Відаць, майго старога дрэва
Штосьць падмывае карані,
Ужо не страшныя залевы
І маладога лесу пні.
Ды ўпэўнены, што сёння хаты
Я ў сне пераступлю парог,
З яе праз дождж, нібы праз краты,
Мне з'явіцца без німба Бог.

5

Прынеслі пенсію... Паэце, раскашуй!
Як сонца, можаш німбіцца ад шчасця:
Ты на сягоння ўжо не круглы нуль,
У дыпламат, падобны на хатуль,

Не толькі лісцікі ты можаш скласці.
Шчыруй над словам,
выдумляй штодня,
Якія ў вершыкі пакласці спецы,
Каб бомж
і Бог былі табе раўня,
І радуйся,
што злодзееў гайня
Згібела,
бо ў цябе няма, што сперці.
Між творцаў перавёўся плагіят:
Ніякай з іхняй творчасці навару,
За вершы даражэй папера-тара...
Парадуйся, паэт, што ты вар'ят.
Займайся самаспальваннем, паэт,
Калі ўжо лёсам так наканавана.
Пакуль гарыш у слове – ты сакрэт,
У попеле тваім іскрынак свет
І зорачка твая не закапана.

6
Сцягоў адбіткі ў шыбіне тралейбуса
І помніка вядомага крысо
Глядзяцца прывідна... Нібыта рэбусы
З дагэтуль неразгаданых часоў...
Тралейбус захістаўся вагамі,
Прыняўшы у сваё нутро
Мяне з дачкою... Побач з ёй адвагаю
Грымлю, нібы калодзежа вядро.
Усё далей дзіця сваё адводжу я
Ад таўстазадых з плямамі хлапцоў,
Бо ведаю, што кара іх не божая,
Падносяць не царкоўнае віно.
Я вершамі адно і прычашчаюся.
На вусны іх бярэ маё дзіця.
Ды тое, чым жыву і ў чым я каюся,
Ёй многае пакуль яшчэ няўцям.
– Чаму ж мы да Купалы помніка
Не падышлі? – пытаецца ў мяне.
І я сабе здаюся дробным гномікам,
Што век жыве ў прыдуманай вайне...
Я за "Пагоню..." Ды я не з пагоннікаў,
Раз побач мой дапытлівы анёл,
Якому рана станавіцца коннікам
І быць на скрыжаванні двух агнёў.
А, можа, душы так вось і нявечацца,
І сам сябе аднойчы пракляну,
Што рана так паспеў адчалавечыцца,
У страх упёрся, быццам у сцяну.
І не туды дзіця сваё скіроўваю –
Паразумення колы аж рыпяць.
Не, не заўжды дарога тая роўная,
Што перашкоды звыкла абмінаць.

7
І я ледзь не забыў зусім,
Што ў гэты дзень быў рэферэндум,
З народам вёў А.Л. гавэнду,
Дзень многіх коліс падкасіў...
Пішчом палез у рыфму Бэндэ.

8
Час, што праўдаю магутны,
Паздзіраў з нас маскі,
А праўдзівасці нячутна
І нябачна ласкі.
Звоніць жонка з канца свету,
Плача жонка ў трубку,
Што памрэ яшчэ да лета
Цётачка-галубка.
Працавала дні і ночы
На рай эсэсэрны,
Ды прагледзела ўсе вочы
І рай эфемерны.
– Што рабіць? – пытае голас
Роспачна і слёзна,
Б'е пытанне гэта ў голаў,
З ім заўжды завозна...
У Айчыне як у млыне –
Не мука, а мукі.
Голас жонкі ў трубцы стыне,
Крывіць дочка губкі:
На паўслове абарвалі
І сягоння мамку,
На сукеначцы з паркалю
Салёныя плямкі...
Дзень сягоння з перападам –
Сонечны і хмарны,
Толькі слоўнаю спагадай,
Як усе, цяжарны.
Мне сляза майго дзіцяці
Ямку ў сэрцы выесць!
А яшчэ ж і слёзы маці...
Сам сабакам вью.
О Айчына-балбатуха
З верай і з нявер'ем
У шчаслівую жытуху,
Ляціць з цябе пер'е...
І ў канцы твой век няпэўны,
Хоць не самы горкі.
Каршуны з цябе і пеўні
Выдзіраюць пёркі.
Марафет жыцця наводзім,
Белім лёс і камень,
Як у лазню, у век зойдзем
Нанаў галякамі.
Нам без душ дэзактывацый
Не пазбыцца гора.
Людзям хочацца авацый –
Іх улады створаць!
Дамінічка, што ты плачаш,
Што душу вярэдзіш...
Зноў на двор? Накінь хоць плашчык,
Дзень святло як цэдзіць...

9
Ідзе па свеце травень-май,
Наплакаўся, адтранспаранціў,
За чаркай пасядзеў у хаце,
Прайшоўся громам з краю ў край.
Дзень чатырнаццаты яго
Быў на падзеі з пераборам –
Не з найвялікшым, але з горам,
Як з крыўдай на мяне багоў...
Няйнакш, я многіх угнявіў
І зоркі мне не патуралі –
Сурова-хмарна ў небе ззялі
Ды з нечаканасцю навін.
Ды ўсё гэта не сама горш,
Бо дні, што крочылі ўжо следам,
Ішлі разважліва, без бедаў,
Дождж сек упоперак і ўдоўж.
Я экзекуцыю дажджу
Прыняў, нібыта ачышчэнне,
Бо ў ім быў і агонь свяшчэнны.
Так што свянцоны я хаджу.
На травня дзень той заказны
Аглядваюся філасофскі:
Ёсць і шматкроп'і ў ім, і коскі,
І на ўвесь травень праязны
На ўсе да сэрцаў цягнікі,
Аўтобусы і электрычкі,
Як пастарацца – і да знічкі
Магу паспець я нацянькі...
Перамігнуцца тэт-а-тэт
І давідна прад ёй уклянчыць.
Любоў да знічак нервы лечыць,
Паўсвет ператварае ў свет.

10
Хто назірае сонца ўсход,
Сваё ў ім бачыць нараджэнне,
У ім адным – усіх гарэнне,
Кругаварот людскі і род.

**Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ**



Паднялася з галаўным болем, чаго даўнавата не было. Відаць, упаў ціск: на двары значна пахаладала. Некалі, гадоў трыццаць таму, Алесь Разанаў цікавіўся, як на мяне ўплывае поўня, і не даваў веры, што – ніяк. А цяпер вельмі адчуваю змену надвор'я.

У сне была на ўроку беларускай мовы, усе пісалі нейкае сачыненне на зададзеную тэму; аднакласніца Л.Ж. (дарэчы, яна цяпер выкладае – ці не матэматыку? – не, здаецца, рускую мову – у Кабаках) падала мне сшытак з ужо быццам бы напісаным ёю – за мяне – сачыненнем. Калі ж я стала гартаць той сшытак, дык ніякай працы там не аказалася, аднакласніца хацела, як кажуць, падвесці мяне пад дурнога хату, "зарабіць" мне двойку... Яскравы напамін: не спакушайся лёгкім заробкам, сваё жыццёвае "сачыненне" тут кожны абавязаны напісаць сам!

Бачыла яшчэ і ўласную кватэру з прыгожымі, прыгажэйшымі, як наяве, серабрыста-белымі шпалерамі і зялёнымі павойкамі на сценах.

"Кветкавы" сон мне заўсёды да нейкай прыемнасці. Гэта спраўдзілася ўжо апоўдні. Патэлефанаваў спадар Калоша, запрасіў на ўрачысты канцэрт і вячэру з нагоды 40-годдзя кіраванай ім будаўнічай управы. Свята прымеркавана на 22 травеня, на святога Міколу. Мне б сядзець сабе ціхутка ў сваім кутку ў кампаніі з меланхалічным Андрэ Жыдам, чые вершы чакаюць майго перастварэння... Але запрашэнне прыняла. З удзячнасці, што белаазёрскія сябры-прыяцелі, дапамагаючы мне ў жыццёвых патрэбах, хочуць бачыць мяне і на ўласных святах.

Самотніцы, магчыма, больш "да твару" недаступная вежа са слановай косці. Але гэта – вязніца таксама. Я выбіраю пакой з белымі сценамі і жывымі кветкамі-павойкамі на іх...

Прыходзілі "гаспадынькі" – дзяўчаты з вучылішча, памылі вокны на балконе. Адна так непасрэдна паведаміла, што сёння ў яе дзень нараджэння – 18 гадоў! Высокая, зграбненькая, сімпатычная, ужо ведае і сама, якая яна прывабная і мілая, але яшчэ кранальна бянтэжлівая, хоць і стараецца трымацца паважна, з годнасцю. Дай Бог табе, дзяўчыначка, як мага даўжэй захаваць гэтую цноту душы, каб ішла ты жыццёвай сцяжынаю ды не раніла сваіх ножак аб бітае шкло ды вострае каменне, каб удосталь хапала добраму сэрцайку твайму жаданае ласкі, святла і цяпла... Ажно сама ўзрадавалася, калі выявіла ў шуфлядзе некалькі некарыстаных аўтаручак і юбілярцы ў падарунак, і ейнай сяброўцы на памятку. Ах, як мала трэба ўсім нам, каб вочы нашыя засвяціліся радасцю: толькі які-небудзь знак, значочак увагі, прыязнасці, саўдзелу...

Прынесла паштарка пенсію. Аддам пазычаныя грошы сяброўцы, заплачу за кватэру, за газ, электраэнергію, тэлефон; дзяўчыне, якая штодня памагае мне ў маім зямным побыце; выпішу пару газет, калі яшчэ будзе за што. Потым зноў пазычу – да чарговага чатырнаццатага...

На пошце, сказалі, ляжыць мне нейкі заказны ліст, прынясуць заўтра. Цікава, скуль ён. Можа, ад Жанін Бод? Даўно яна не адгукалася. Ці хоць атрымала мой пакет з "ЛіМам", дзе апублікаваны яе вершы? Калі атрымала, напэўна, узрадавалася сваёй першай публікацыі ў абсалютна невядомай ёй мове і краіне. Дасць Бог, шчыраваннем Жанін і беларускія творы загучаць па-французску. Уладзя Арлоў казаў, што ў Парыжы ўжо выйшаў томік беларускай паэзіі. Не ведаю, хто парупіўся. Чым шырэйшай будзе падобная "капілярная сетка" ўзаемаперакладаў, тым здаравейшымі будуць і нацыянальныя, рэгіянальныя літаратуры свету, і агульначалавечая культура ў цэлым.Шкада, прапусціла па БТ маналог Дранько-Майсюка, запозна глянула ў праграму. Ад паэзіі Лёні вее "духами и туманами". У цяперашнім перакуленым свеце жаночая душа згаладала па мужчынскім рыцарстве. Лёневы вершы – хай сабе ілюзорна – сведчаць, што ўсё ж такі: "ёсць рыцары і ў нашым краі, ёсць!"

Зайшоў малы сусед, чацвёртакласнік Сашка. Далажыў, як амаль штодня пад вечар: кусцікаў пад вокнамі ніхто не ламаў, трэба паліць. Так стараецца размаўляць са мной па-беларуску! Ён з таго, ужо адзінага ў Белаазёрску беларускамоўнага класа, які захаваўся заўдзячна прынцыповай пазіцыі адзінага, бадай, чалавека – настаўніцы Сцяпуркі Валянціны Сцяпанаўны. Прычым ёй дастаткова было правесці гутарку з бацькамі сваіх вучняў, знайсці належных аргументы на карысць асветы ў роднай мове, і клас уцалеў. І зараз ніхто з гэтых дзетак не скажа: я не люблю беларускай мовы. Наадварот, яны відочна ганарацца, што ўмеюць размаўляць на ёй. І думаецца: а каб гэта ж яшчэ дый дзяржава хоць трошкі паспрыяла, падахвоціла, – як бы акрыяла, паздаравела наша нацыя цягам ужо аднаго пакалення!.. Але пакуль усё наша духоўнае жыццё будзе падвяргацца злаякаснаму апраменьванню русіфікацыі, пра нацыянальнае здароўе беларускага грамадства і марыць цяжка. Шмат што можна было б выбачыць, дараваць нашым дзяржаўнікам на чале з самім прэзідэнтам. Але свядомае, на згубу, на звод падсяканне духоўных каранёў уласнага народа, вераломны, пад маскай рэферэндумаў, замах на спаконвечныя дзяржаўныя сімвалы, мову, традыцыі продкаў, – гэткае злачынства недаравальнае. Рана ці позна, а давядзецца трымаць адказ, і ўжо за ўсё разам, і за сацыяльную, і за духоўную галечу. Бо зло заўсёды вяртаецца да ўчыніўшых зло.

Здаецца, упакорыла-такі "Парк" Жыда. Чытаеш французскі тэкст – такая прастата думак, натуральнасць сказу, раўніня інтанацыі. Анiякага вобразнага штукавання. А ў плынь роднай мовы ўсё гэта ўкладвацца не хоча – каб так, адразу. Каб захавалася і задуменнасць аповеду, і пазатэкставы абрыс прамоўленага.

*ПАРК*

*Калі мы ўбачылі, што брамка на замку,*
*Мы доўга, стоячы пад ёю, плакалі;*
*Калі мы зразумелі, што ўсе слёзы нашы марныя,*
*Мы зноў памалу рушылі далей.*

*Дзень цэлы йшлі мы ўздоўж сцяны каменнай саду,*
*Адкуль раз-пораз далятаці гоман, смех;*
*Мы думалі, што там вясёлыя гулянні, мабыць;*
*І нам рабілася яшчэ маркотней.*

*Пад вечар сонца выбарвіла сцены парку;*
*Што адбывалася там, мы не ведалі, бо не было відно*
*Нічога, апроч голля, якое гойдалася па-над агароджай,*
*І з якога*
*час-часам ападала лісце.*

Перакладала, паднаўляючы свае старыя сукенкі, пашытыя сёстрамі. Божа мілы, Ані ўжо тры гады, як няма, а Марыі – цэлых пяць гадоў... Ні сем'яў, ні дзяцей уласных тут не пакінулі. Застаўся толькі ўсіхны спачувальны смутак, што не далося гаротніцам ні кроплі шчасця. Ды ўдзяка ўсяго людскога ваколля за іх штодзённае, з ранку да вечара, шчыраванне за машынкаю ды з голкаю ў пальцах. І за пакорлівую цярплівасць, светлую спагаду да ўсіх, за чулае сэрца і ясны розум. Нават бацька з мамай раіліся з імі і па жыццёвых, і па чыста гаспадарчых пытаннях, бо сёстры ж і начытаныя былі, і крытычна мысліць умелі. Так цяжка памірала Маня ў той бярозаўскай рэанімацыі, у болі, у самоце-адзіноце. Гаварыць не магла, а ў блакноціку напісала: "Я хачу памерці"... Аня адчувала, што памірае, сама казала мне пра гэта, "бо ўжо ўсё цела шуміць, бы цеста дражджавое ходзіць унутры, варушыцца, бы забрадзіла. Мабыць, душа ўжо на адлёце". І на ранку не прачнулася... Не магу без слязы згадваць ні пра іх, ні пра галубку-цярплівіцу маму...

Сёння прапусціла і НТБ, і "Вести" з навінамі. А па ГРТ – адныя смуткі: крамлёўскія звадкі, выбух каля сінагогі ў Марьиной Роще, раптоўнае правалле зямлі на Большой Дмитровке, замах на генпракурора Чачні, трагічныя падзеі ў Джакарце... Жыццё чалавечае нішто не толькі ў барацьбе за ўладу. Калі бяруць верх эмоцыі, звярэе і апалітычны жабрак. А калі такіх жабракоў натоўпы?.. У Джакарце растапталі, прырэзвалі, спальвалі кітайцаў толькі за тое, што яны – маёмныя, багатыя. Дзікунна нішчачы, трушчачы, руйнуючы заадно і плён уласных рук: машыны, вітрыны, будынкі. Не забываючы пры гэтым прыхапіць што-небудзь пад паху. Хлеба ў руках не бачыла, а камп'ютэры валаклі... Жахліва глядзець на ўсё гэта. Вусцішна, жахліва ад маштабаў асатанення роду людскога. Бо праявы таго – паскрозь...

Ужо не хочацца і газетаў разгортваць. Бо і там ледзь не на кожнай старонцы – "душа шчэ з дерева нэ злізла"... Праз тое, мабыць, апошнім часам слухала б і слухала б сняванне іераманаха Рамана. "Господи, ты видишь, я скорблю, Господи, услыши голос мой..." Многія песні яго выконвае і Жанна Бічэўская, але ў яе больш вакалу, а ў яго сама душа прамаўляе, зболена спавядаецца. "А если ты болен, прикован к постели, то пусть тебе снится Целебный Родник..."

Хай прысніцца.

**Ніна МАЦЯШ**

Дзякаваць Богу – прачнуўся здаровым, больш-менш свабодным і ў аблічы чалавека, не шызам, не ...шыстам, праўда, шкада, што ўсё яшчэ ва ўчарашняй ці нават пазаўчарашняй Беларусі. Але гэта мне, відаць, за грахі мае былыя ў мінулых жыццях. Пару гадоў таму назад вось так расплюшчыў вочы я пасля начнога сну ў свабоднай і культурнай Чэхіі, у Празе. У грудзях было адчуванне незвычайнай лёгкасці і радасці. Але ж вольнай Чэхію і Прагу здзейснілі самі чэхі і еўрапейскія абставіны, якім заходнія браты-славяне не ўпарціліся. Памятаю, прыехаўшы дадому, тыдзень не выходзіў з кватэры. Не хацелася нікога ні чуць, ні бачыць. Горка асэнсоўваў наша рабства і шляхі пазбаўлення ад яго, прынамсі, для сябе, хаця рабом па свядомасці я ніколі не быў, бо вырас у сацыяльна-палітычным сэнсе ў атэістычнай сям'і. Адным словам, быў я з кляймом, але не рабом. Дык калі гэта ўсё скончыцца ў нас і як? Праз калектывізм? Хаця б не так! Ён у нас ужо існаваў і ўсё яшчэ існуе ў абшчынна-калгаснай злоснай форме. Праз агульную беларускую ідэю? Але ж дзе яе носьбіты? Іх амаль няма. Хто дбае толькі пра сябе – гэта чалавек з рабскай псіхалогіяй і філасофіяй (я ёсць лепшы за іншых сваіх суграмадзян і сучаснікаў...) – сюды не падыходзіць. Тут патрэбен час. А пакуль працуй, душа, на асабовым узроўні – пазбаўляйся заган. Рабі, што можна, дома. І памятай, што ніякі свет, якім бы вольным ён ні быў, – не паратунак. Наадварот, наша прысутнасць у тым свабодным свеце, наша пасяленне ў чужой свабодзе нікому не на карысць; больш таго – яно небяспечна для ўсіх і ўсяго і для нас. Мы яшчэ не асобы. Сябе, сваю Радзіму і свабодны свет можна ратаваць толькі дома і толькі работай душы. Вядома, з выхадам якаснай прадукцыяй на практычнае жыццё і, безумоўна, у знешні – замежны свет. На аб'яднанне са светлымі сіламі. У імя Бога і перад Богам.

Сёння такія думкі ідуць, верагодна, з прычыны, што ў гэты дзень тры гады таму назад на Беларусі была зроблена чарговая вераломная спроба нагамі беларусаў вытаптаць новыя пасевы і маладыя ўсходы адраджэння нацыянальнай свядомасці. Большасць насельніцтва краіны як тады, так і цяпер, і не заўважыла, і не зразумела, што яна страціла. Упэўнены, гэта пацвердзіць і ход сённяшняга дня ў нашай краіне.

Мой Божа! Гасподзь мой! – Вечны жыцця падацель, злітуйся нада мной, нашым народам і ўсім чалавецтвам.

А што там сёння на "Свабодзе"? Нічога лёсавызначальнага і сэнсаўтваральнага. Чалавецтва праз сваіх палітычных і іншых "прадстаўнікоў" у асноўным займаецца перадзелам маёмасці, ды так званыя вялікія народы працягваюць вісець над малалікімі этнасамі.

Пасцельная хвілінкавая чытанка. Ну як там "Філаматы і філарэты"? О! Ім вельмі і вельмі далёка да сучасных





філаматчыкаў і філарэтчыкаў – жыцця растратчыкаў і фальшывамане тчыкаў! Але ж ёсць на Беларусі і такая моладзь, што заслугоўвае найвышэйшай адзнакі ў сваім служэнні Асобе, Свабодзе і Радзіме. Беражы іх, Божа! Спрыяй ім у іх высакародных справах.

Заслугоўвае асаблівай увагі думка Адама Міцкевіча ў лісце да Яна Чачота ад 6 лістапада 1819 г.: "Чым больш дэспатычны ўрад, тым болей тайнымі павінны быць усякія тайныя таварыствы".

Пацягванне, расцягванне, вада, абціранне, яда... Без гэтага, шкада, – аніяк.

Завяршыў чарнавы накід цыкла трохрадкоўяў пра страўнік. Вось адна з мініяцюр адтуль:

***

– Дзе крылы твае, чалавек?
– Страўнік сабой
Павялічылі.

А цяпер пара на працу. Бывай мая бетонная трусіная нара. Па ўсіх паверхах у пад'ездзе гарыць святло, над пад'ездам на вонкавай панелі – таксама. Ужо даўно відно, а вось каму патушыць – няма... Праходзяць жыхары – якая ім справа да ўсяго да гэтага... Усё – як у агульных нашых справах. Тушу. Раней, бывала, толькі ўставаў – адразу імчаў са свайго пятага на першы паверх і выключаў электрычнасць. Цяпер – не. Панаразводзілі сабак... Жыўнасці гэтай поўныя двары і пад'езды. Не хочацца лішні раз сустракацца з імі на лесвіцы. Тым больш, што за дзень і людзей сумніцельнай якасці па завязку хопіць.

На вуліцы вельмі холадна... Не менш, чым у нашых палітычным, сацыяльным, культурным і іншых жыццях. Адкрытае неба і зіхоткае сонца гэты холад робяць шчэ больш успрымальным. Але самазаспакаенне і суцяшэнне іншых жабрацка-чакальным енкам: "Загляне сонца і ў наша ваконца" – абсалютна безнадзейнае. Вось менавіта тут да месца сказаць сабе і іншым: "Працаваць (варушыцца), вядомая справа – разумна, трэба! Чужое сонца не прыйдзе. Чужое сонца, калі і свеціць, дык не грэе".

Метро. Станцыі аб'яўляюць (у запісе) па-беларуску. Усе маўчаць. Ніхто не кідаецца на рэпрадуктар. А пачні гаварыць ты на роднай мове, як усё гэтае бескалярове, безаблічнае напаўненне вагона глядзіць на цябе па-чужацку, варожа. Не выключана, што хутка і вязацца пачнуць. Бяда тут у тым, што гэтае напаўненне складаюць чужыя адзін аднаму, Радзіме і Богу людзі. Дарэчы, заўсёды яны смелыя ў сваім шаленстве толькі да першага выпадку.

На станцыі "Фрунзенская" заходзіць многа міліцаяў. Ніколі не глядзяць людзям у вочы, іх позіркі і погляды дзесьці ўбаку ці на падлозе, нібыта яны да ўсяго жыцця і да цябе – нейтральныя. А на самай справе пры выпадку, асабліва ў сябе ў пастарунку, яны без усялякай прычыны, нахабна свідруючы сваімі, учора нібыта цнатлівымі, сарамяжлівымі вочкамі, так цябе аддубасяць, так знявечаць, што сумневу, што ты – найбезабароннейшая істотка, у цябе не будзе. Яны заўсёды выклікаюць у мяне спецыфічныя пачуцці. Памятаю, як, выкручваючы рукі, яны валаклі мяне ў восеньскія дзяды 30 кастрычніка 1988 года ў машыну, а пасля ў пастарунак. Хочацца зацытаваць Зінаіду Гіпіус: "О, петля Николая чище, чем пальцы..." Дарэчы, за тыдзень майго знаходжання ў Чэхіі бачыў я толькі трох паліцэйскіх. А тут кожны дзень за гадзіну не менш як сотня міліцаяў трапляецца.

А вось і мая "Народная асвета" – маё пуэбла і мая галера. Больш чым за чвэрць стагоддзя мае душа і галава зведалі тут самыя розныя пачуцці і думкі ад незлічоных кантактаў з самымі рознымі людзьмі і працоўнымі справамі. О, пра ўсё гэта варта будзе расказаць. Але, вядома, іншым разам і не хуткагаворкай. А пакуль амаль цэлымі днямі займаешся прывядзеннем да стану чытабельнасці ва ўсіх сэнсах часта малапісьменнага, благаслаўлёнага міністэрскімі і цэнтраўскімі начальнікамі на жыццё ў галовах вучняў і настаўнікаў, аўтарскага тэксту-месіва.

У працяг учарашняга на маім стале – "Вывучэнне геаграфіі Беларусі ў 9 класе", метадыка (мутодыка). Аўтарам з'яўляецца дзіўным чынам падабраны калектыў. Першая трэць рукапісу напісана аўтарам школьнага падручніка "Геаграфія Беларусі" – нармальны для рэдактарскай работы матэрыял. Ёсць яшчэ крыху ўдзячнага матэрыялу. Усё астатняе – "Маці родная! Маці краіна!" – такая бессістэмнасць, бессталёвасць, элементарная непісьменнасць, адным словам – дзікунства, ад чаго лёгка ашалець-звар'яцець.

Чаму ж не бракуем, чаму бяром у выдавецтва такія рукапісы? А лепшых няма. Які адукацыйны цэнз грамадства – такія ў яго і аўтары. Ды яшчэ і палітыка ўладаў усіх узроўняў і гэтай парафіі цвердзіць: "Не падабаецца – звальняйся! Прыйдуць іншыя". Правільна калісь казалі: "Цяжка свой хлеб здабываў чалавек" Але самае страшнае ў тым, што такое здабыванне пайкі, такое інтэлектуальнае асенізатарства займае больш чым нармаваны рабочы дзень; часам яно доўжыцца амаль 24 гадзіны ў суткі. А для мяне, на вялікі жаль, яшчэ і за кошт маёй уласнай паэтычнай творчасці.

Выйшаў на вуліцу папіць мінералкі. Трапілася напаўп'яная чародка-зграйка дробных літаратурных вертухаяў, якіх развялося ў нас відзьма-нявідзьма. І ўсе яны, выгінастыя і звонку і знутры, вядома, маюць свае і амбіцыі, і прэтэнзіі. Сутнасць жа іх заключана ў простай фразе: "П'юць, як класікі, а пішуць г...о".

А вунь рухаецца абцяжараны розных калібраў прэміямі і званнямі вертухай-буйняк. Вочы ў яго заўсёды бегаюць, плечы пацепваюцца, галава, бы на шарнірах, пакручваецца, пакручваецца вычэквальна. Заўжды адным нагаворвае на іншых, а іншым – на тых адных... і да бясконцасці. Сёння ён – нібыта змагар супраць рэжыму, хаця не так даўно на прыўзнятай дыяфрагме, вядома, спекулятыўна, лавачна-карытна пяяў гэтаму ж, яшчэ не перафарбаванаму, рэжыму.

Ах, Божа мой! Калі я ўжо даб'ю гэты рукапіс. Седзячы над такім тварэннем, міжволі пераконваешся ў справядлівасці саркастычнай максімы: "Хто сам нічога не ведае, бярэцца вучыць іншых, а хто не ўмее па-сапраўднаму чытаць, піша сам" Цярпенне! Галоўнае, каб ён, рукапіс, не дабіў мяне. А колькі падобных да яго яшчэ наперадзе, колькі іх у стале і пад сталом і, можа, дзе ў якім кошыку. Як бы да пенсіі дацягнуць!

Абед. Некаторыя з наведвальнікаў харчэўні пільна ўглядаюцца ў меню. З недаверам і адчужэннем глядзяць на

касіра, калі тая называе ім значныя (адносна зместу іх кішэні) цэны на не такія ўжо і значныя абеды. Астатнія ўсе – бы на канвееры – ціха-моўчкі, цёпла-холадна, кожны ўтаропіўшыся ў свае талеркі, спажываюць...

І сёння хацеў набыць колькі долараў і не купіў. Усюды ў абменных пунктах чэргі, а валюты на продаж няма. Рынкавы сацыялізм у дзеянні.

Праглядаю беларускі друк. Успамінаецца Уладзімір Салаўёў: "В печати скука и застой и новостями бедно..." А цвятаеўскае пра чытачоў такой прэсы гучыць і цяпер актуальна:

"Читатели газет – глотатели пустот...".

16 мая едзем на экскурсію па мясцінах Адама Міцкевіча. А сёння ў нас у гасцях з аповедам пра выдатнага паэта, нашага земляка, – паэт, перакладчык і навуковец Уладзімір Мархель. Запланавана гэта было за паўтара месяца назад і таму, на жаль, не траплю на пачатак імпрэзы моладзі ў абарону Паўла Севярынца.

Сустрэча з Уладзімірам Восіпавічам Мархелем атрымалася цікавай. Пра феномен Адама Міцкевіча ён гаварыў як пра з'яву касмічную, планетарную і памежную і прыналежную да земляў Літвы (Беларусі) і Польшчы і ўсё ж больш – зямлі наваградскай. Добра кладліся на душы ўдзячных слухачоў і яго пераклады санетаў геніяльнага паэта. Вельмі спадабаўся ўласны верш (трыялет) нашага госця.

Іду на імпрэзу моладзі. І сёння гляджу на сабор (побач са станцыяй метро "Няміга") і бачу не хрысціянскі храм, а блок-пост маскоўскага праваслаўя і бязбожжа. У самы пагромны "Чарнобыльскі шлях" з-за сцен гэтага сабора, нібы з-пад спадніцы галоўнакамандуючага асноўных рэлігійных сіл на Беларусі, бясконца на ўдзельнікаў шэсця выбягалі спецназаўцы і амапаўцы са шчытамі і дубінкамі ў руках і ўсмешкамі яшчараў эры мезазою на тварах. Агульнавядома, яны смелыя, калі іх многа, і калі перад імі безабаронныя дзеці, жанчыны, старыя, і калі за іх спінай таталітарны рэжым. Дай Божа зразумець ім, што нішто не праходзіць без следу.

Моладзі ў скверы Янкі Купалы – шмат. І ўся яна – жывая, экспрэсіўная і нават, у лепшым сэнсе, экспансіўная. Яна хоча, каб яе было больш. А гэта ідзе пад бел-чырвона-белымі сцягамі і пад партрэтамі Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца асноўная група-калона ў паўтары – дзве тысячы чалавек. З плошчы Якуба Коласа. І вось яны зліліся ў адно. У іх – радасць.

Міліцыі, падміліцыі, надміліцыі і інш. з іх транспартнымі і іншымі сродкамі побач і ў падваротнях і дварах прылягаючых кварталаў – процьма. А ў іх – нянавісць і страх.

Моладзь іграе і танчыць і, галоўнае, скандзіруе-патрабуе: "Свабоду Паўлу Севярынцу!", "Свабоду Аляксею Шыдлоўскаму!", "Жыве Беларусь!" і інш.

Органы выбіраюць, шукаюць намечаных ахвяр. І яны, безумоўна, будуць. Але гэта пасля.

Прагляд інфармацыйных перадач расійскіх тэлеканалаў: "ГРТ, РТР, НТБ. Адкрытасць ёсць, але з кожнага цягне імперскім скразняком. Вячэра.

Беларускі (мінскі) тэле-і радыёэфір не прымаю, бо не ўспрымаю з прычыны, што ён прафесійна прымітыўны, на ўзроўні плінтуса ды і бязмерна хлуслівы. А хацелася б і ў сябе дома мець крыніцу інфармацыі, крыніцу чыстую, высокапрафесійную.

Закончыў падрыхтоўку экземпляра мікрасімфоніі "Перакрыжаванне Зямлі і Неба" ў пасольства Індыі на конкурс па тэме "Індыя: краіна і людзі". Вось пару трохрадкоўяў адтуль:

***

Так, Індыя – Азія,
Так, Індыя – частка Зямлі,
Але ж яна – й нешта Большае.

***

Нямнога краінаў, што мора маюць,
А вось у Індыі –
Акіян.

Глядзеў польскія, бязглянцавыя тэксты пра Адама Міцкевіча Ванды Гродзенскай. Падабаецца мне такое заўсёды; і на душы – лягчэй.

А цяпер я на хвалях беларускага радыё "Свабода". Хвалі гэтыя часта знаходзяцца пад уплывам рускай "Свабоды", уплывам, вядома, не прамым і не адразу бачным, і ў фарватэры палітыкі амерыканскага кангрэса, які іх жывіць і фінансава. А руская "Свабода", як і ўся Расія, апроч, можа, гісторыка Юрыя Афанасьева, спавядае імперскую цэласнасць і недатыкальнасць нават на вербальным узроўні. Ну а Салжаніцын? Аляксандр Ісаевіч – імперац вышэйшай пробы. Толькі яму вось не ўдалося, праехаўшы з Далёкага Усходу праз усю Расію, сесці на маскоўскі трон. Аятала Хамейні з яго не атрымаўся. І дзякаваць Богу! А задумка такая ва ўладальніка "Нобеля", можна не сумнявацца, была.

І ўсё ж слухаю. Ужо каторы год амаль без перарываў я на хвалях беларускага радыё "Свабода".

Сёння, як і кожнага дня, мяне, як і многіх маіх прыяцеляў і знаёмых, раздражняе і адварочвае ад сябе і тая, здавалася б, драбяза, акалічнасць на "Liberte", як няўчаснае і часам не да месца вымаўленне некаторых слоў і назваў. Калі ласка, прыклады: ахвіцэр, блёк, гойстра, клюб, місыя, партнэрства, французы, у вайсках, у вярхох, у рукох, Сырыя, Чачэнія (Чэчня), Чэшчына (Чэхія), Дэнкташ, Касова і г.д. і д.п. і да бясконцасці. Калі ўжо трымацца пэўных правіл і прынцыпаў вымаўлення, то трэба быць паслядоўнымі і выдаваць не "Лукашэнка", а "Люкашэнка". Смела можна сказаць, што гэта не еўрапеізацыя нашай мовы. На гэта ў свой час звяртаў сваю ўвагу і чэх Міласлаў Зіма. Каб не страчваць прыхільнікаў беларушчыны, відаць, усё ж такі трэба карыстацца пакуль што сённяшнім унармаваннем і ўсталяваннем у мове. А можа, рабяты са "Свабоды" так сваволяць не па сваёй волі? Мо яны працуюць на разброд. Бо яшчэ, як паказваюць назіранні, часам адно і тое слова ляціць ад іх праз эфір сюды ў розных вымаўленчых апратах. Гэтым "свабоднікі" міжволі ў пэўным сэнсе прыпадабняюцца да тутэйшых чэсных да наадварот. Энергію названых пасажаў лепш было б пераадрасаваць на больш паглыбленае даследаванне прычын паняволенага становішча нашага духу і пошукі нашага ж вызвалення.

Выклікаюць усмешку і змешаныя пачуцці (пакуль скажам так) вешчуны з "Вострай брамы". Іх разумовыя пабудовы на "почве болотной и зыбкой" (А. Блок) у канчатковым выніку – ёсць не што іншае, як проста лухта, бздура. А прычына адна: ім няма чаго сказаць. І Вострая брама ператвараецца ў тупую падваротню.

Здымаю свой капялюш перад Сяргеем Абламейкам. Яго перадачы заўсёды змястоўныя, цікавыя, узважаныя і збалансаваныя ў сэнсе аб'ектыўнасці. Пачуццямі ўдзячнасці заўсёды адклікаешся ў душы на матэрыялы Валянціны Арловай (яна ж – Валянціна Аксак), Алега Груздзіловіча, Максіма Лабжанца (ён жа – Алесь Мікалайчанка), Віталя Цыганкова, Уладзіміра Кулажанкі, Уладзіміра Глода, Сяргея Астраўцова.

Не ўпрыгожвае станцыю, калі яна вуснамі вядучай развітваецца са слухачамі выпендрлівым: "Прывіта-а-ньне!". Радыёстанцыя, і ў гэтым выпадку таксама, – гэта не які-небудзь местачковы, падлеткавы міжсабойчык, а справа сур'ёзная. І з гэтым, якім бы ты геніяльным ці кангеніяльным ні быў, лічыцца ўсё ж трэба.

Аб грамадзянстве БНР Нядрэнна было б, каб перад заходнімі дэмакратыямі (калі яны сапраўды дэмакратыі) паставіць пытанне, выказаць просьбу аб узяцці пад юрысдыкцыю (толькі ў сферы абароны правоў чалавека) тых на Беларусі, хто прыняў грамадзянства БНР. Трэба і пашпарты бэнээраўскія выдаваць. Будзіраваць гэта пытанне можа і Рада БНР, і кіраўніцтва БНФ і іншыя беларускія партыі, арганізацыі і рухі. Тады, можна не сумнявацца, з'явіцца больш жадаючых адмовіцца-атрэсціся ад бэсэсэраўшчыны. Адначасова такая акцыя будзе працаваць і на далейшае развіццё дэмакратыі ў свеце.

Калі ты чалавек, перамажы мяне словам, добрай справай, прыгажосцю ўчынку.

Прыходзяць думкі аб смерці, смерці ціхай, светлай, як аб плаўным, безбалесным пераходзе ў іншае жыццё... Але гэта трэба заслужыць. Але за гэта, як за шчасце і спакой, трэба кожны дзень на бой ісці.

Ну вось і дзень мінуў. Сёння ён атрымаўся больш мінорным. Але што паробіш – час такі. Спаць. А заўтра зноў туды ж...

Мой Божа! Гасподзь мой! – Вечны жыцця падацель, злітуйся нада мной, нашым народам і ўсім чалавецтвам.

**Яўген ГУЧОК**



Перад тым, як сесці пісаць (успамінаць) пра свой дзень 14 мая гэтага года, я ўзяўся пагартаць свае дзённікі: "А што было раней у гэты дзень?". Відаць, калі што і было цікавае і значнае, то не было часу ці нават жадання пісаць, бо на працягу 20 гадоў (дзённікі мае пачынаюцца з 1978 года) на гэты дзень ніякіх запісаў няма, калі не лічыць запісам вось гэтую памятку, і то зробленую па-руску:

"а) личное заявление

б) анкету (по установленному образцу)

в) автобиографию

г) рекомендацию и развернутую характеристику писательской организации

д) подстрочный перевод (радкоў 700)

е) три фотокарточки

ж) медицинскую справку (форма 286)

з) справку для бухгалтерии о семейном положении (с 1 апреля по 1 июня 85 г.)

стыпендыя 100 руб.

14.V.85".

Так што ў гэтым годзе 14 мая споўнілася 13 гадоў, калі я ўжо дакладна вырашыў ехаць у Маскву вучыцца на Вышэйшыя літаратурныя курсы. Той дзень у маім жыцці стаў пераломным, бо Шніп з чалавека, які з 1978 года бадзяўся без дакументаў і жыў у Мінску без працы і прапіскі, стаў ператварацца ў Шніпа, які на сённяшні дзень мае цэлую груду дакументаў з пячаткамі і здымкамі і без. Аднак гэты год не быў юбілейным, а ўсяго 13-м, і сёлета 14 мая я ў сваім дзённіку нічога не напісаў. Ды і на вершы не натхніўся. Хаця і бачыў на вуліцы прыгожых дзяўчат.

Дзень быў амаль звычайны, шараговы. Прачнуўся ў 7 гадзін. Памыўся, пачысціў зубы. Паставіў на пліту чайнік. Апрануўся, разбудзіў дачку і жонку. Вераніка, як заўсёды, доўга збіралася ў свой мастацкі ліцэй. Люда дапамагала, але ўсё роўна неяк марудна. Я хоць у войску не служыў, але збіраюся, як салдат. Раз-два – і гатоў! Папілі гарбаты з сухарыкамі. Я павёў Вераніку, а Люда стала будзіць Максіма, каб весці ў садок. Малы, апошнім часам, адчуўшы, што хутка лета і ён будзе дома, разгультаіўся ўставаць, але ў садок ідзе без слёз. Я ж ніколі не хадзіў у садок, хаця ў маёй вёсцы ён быў, і мой малодшы брат звездаў, што такое сядзець за плотам і глядзець на сваіх аднагодкаў, якія ў метрах дзесяці на вуліцы корпаюцца ў лужыне і ніхто на іх за гэта не крычыць.

З дому з Веранікай выйшлі ў 7.40. Стаялі на прыпынку нядоўга. Прыйшоў 57-мы аўтобус. Поўна. Ледзь залезлі. Так амаль кожны дзень. Ніхто месца дзіцяці не саступіў. І, здаецца, за два гады нашай язды такога і не было. Нягледзячы на цудоўную раніцу і на тое, што пасля сну людзі павінны быць, на маю думку, больш-менш яшчэ нармальнымі, усе нейкія злыя і нервовыя.

Прыехалі ў ліцэй у 8.10. Дзяцей ужо многа. Прыслухоўваюся да іх гутаркі. Гавораць па-руску, хоць ліцэй з беларускім навучаннем. Адно радуе, што настаўнікі на калідоры паміж сабой гавораць па-беларуску. Значыць, яшчэ не ўсё страчана. Будзем жыць.

Як звычайна, даў Вераніцы 5 тысяч на "што-небудзь". Мог бы і не даваць, бо дзяцей нядрэнна кормяць. Праўда, не дарма – трэба даваць амаль па 100 тысяч на тыдзень. Не ўсе бацькі могуць, але...

Дамоў ад ліцэя дабіраўся лягчэй – у транспарце крыху вальней. Выйшаў каля магазіна. Купіў хлеба, малака, смятаны, 300 грам сыру і паўтаралітровую пляшку мінералкі. Аддаў амаль 100 тысяч.

Прыйшоў дамоў. Люда ўжо адвяла ў садок Максіма, які не бачыў мяне і Вераніку раніцай, бо спаў, і ўжо сёння ўбачыць мяне толькі ў 8 гадзін вечара.

Пакуль Люда разлівала па талерках макароны і забельвала іх малаком, я вынес два вядры смецця. Адкуль яно бярэцца? Здаецца нават, што меней прыносіцца з магазінаў, чым выкідаецца.

Пахлёбалі макаронаў. Пажавалі катлет. Папілі гарбаты з сырам. Люда зноў у час яды чытала. На гэты раз "Новый мир". Выказвала сваю незадаволенасць Віктарам Астаф'евым. Я не згадзіўся з ёй і не згадзіўся цытатамі, што Люда зачытала. Не паспеў аглядзецца – палова адзінаццатай. Схадзіў за поштай. Няма. Позна носяць. Хадзіў разоў пяць, пакуль не дачакаўся газеты. Сёння адна

"Звязда". Асабліва няма чаго чытаць. Афіцыёз. Хаця бываюць цікавыя нумары.

У пачатку дванаццатай гадзіны паехаў на працу. Люда прыедзе пазней. Сёння яна якраз дзяжурная па нумару.

Ехаў на 40-м тралейбусе да "Камуністычнай". Ішоў па скверы ля Свіслачы. Люблю гэтую дарогу. Ісці да "ЛіМа" нейкіх хвілін 10. За гэты час можна палюбавацца ракой, паглядзець на дзяўчат і ўспомніць Цвярскі бульвар у Маскве, па якім, яшчэ не будучы знаёмы са сваёй Людмілай, хадзіў з адным аспірантам і прыставаў да дзяўчат, якія сядзелі на лаўках...

На працу прыйшоў першы. Алеся Марціновіча не лічу, бо ён амаль кожны дзень прыходзіць раней за ўсіх і бывае ў "ЛіМе" часам і ў 8 гадзін раніцы.

Што было на працы? А ўсяго! Як амаль і кожны дзень. І калі пра ўсё пісаць, то можна напісаць цэлую п'есу. А я не драматург! У кабінеце Барыса Пятровіча паміж працай зноў збіралася наша цудоўная кампанія. А ў ёй – харошыя і разумныя, таленавітыя і хваравітыя, незадаволеныя і прызнаныя, непрызнаныя і друкаваныя, недрукаваныя і незразумелыя, смелыя і геніяльныя, вялікія і г.д. хлопцы. І няхай сёння не ўсе заходзілі ў "ЛіМ", але ўсе адсутныя прысутнічалі сваім духам. Зноў гаварылі пра літаратуру, палітыку, дзяўчат, спрачаліся, гулялі ў шахматы, пілі гарбату, чыталі газеты, зачытвалі, крытыкавалі, хвалілі і планавалі, жартавалі, крыўдавалі – словам, жылі ў гэтым дні, адчувалі гэты дзень... І рабілі газету.

Люда дзяжурыла. Засядзеліся дапазна, бо на гэты раз у "лімаўскіх" палосах было нешта шмат памылак. З рэдакцыі выйшлі разам з Барысам Пятровічам. Спачатку хацелі схадзіць у сквер Янкі Купалы, дзе праходзіла адна з адраджэнскіх імпрэз, але мы былі без парасонаў (збіраўся дождж), вельмі стомленыя і галодныя, таму правялі Барыса да метро, а самі пайшлі паўз Свіслач на прыпынак тралейбуса. Па дарозе меркавалі, што будзем рабіць на выхадныя.

Дамоў прыехалі амаль у 8 гадзін. Дзеці зачакаліся нас, а найбольш – бабуля, якая праз якую хвіліну пасля нашага прыходу пабегла да сябе дахаты.

Добра паелі. Бабуля згатавала. Люда пайшла дапамагаць Вераніцы разабрацца з урокамі. А я ўсеўся перад тэлевізарам. Паглядзеў навіны па НТБ. Нічога вясёлага.

Нармальна!

Вось так і пражылі 14 мая 1998 года.

**Віктар ШНІП**

Той дзень, 14 траўня 1998 года, пачаўся для мяне з таго, што я расплюшчыў вочы і пазяхнуў. Ды так шырока, што мне ў рот заляцела муха. А за мухай – верабей. А за вераб'ём – котка. А за коткай – сабака, а за сабакам – два хлапчукі, а за хлапчукамі – натоўп міліцыянтаў, а за міліцыянтамі – і сам прэзідэнт краіны. Я зразумеў, што са мной адбываецца нешта не тое, і прачнуўся яшчэ раз. Ды зноў не зусім. Карацей, давялося мне прачынацца на працягу ўсяго дня.

Я паснедаў (чым – не памятаю), пачаў збірацца ва універсітэт – і ніяк не мог адшукаць свае шкарпэткі: у пакоі маім такі вэрхал! Урэшце адну з іх выцягнуў з падручніка па логіцы, дзе яна ўтульна ўладкавалася замест закладкі. Другая шкарпэтка валялася на дне пустога слоіка з-пад памідораў. Затым я залез у шафу, дзе заняўся пошукамі асадкі, сшыткаў і спартыўных штаноў, у якіх мне трэба было адпрацаваць прапушчаны занятак па фізкультуры. Гэтая навукова-доследная экспедыцыя заняла ў мяне амаль паўгадзіны, таму я, як і звычайна, спазніўся. Зрэшты, нічога страшнага з гэтага не атрымалася, бо спазнілася ажно палова нашай групы. Другая палова ўвогуле не прыйшла. Вось і давялося нам "адрывацца" за ўсіх.

На фізкультуры я залез на турнік, хацеў падцягнуцца, а шведская сценка, да якой яна была прымацавана, як затрашчыць! "Ага! – зразумеў я, хутчэй саскочыўшы з гэтага небяспечнага месца. – Замах на мяне зрабіць вырашылі! Ворагі беларушчыны! Хочаце гэтак вынішчыць творчую інтэлігенцыю? Не атрымаецца!" І болей на турнік не палез.

На перапынку я зайшоў у краму "Каўбасы". Ці "Кілбасы". А дакладней – "Колбасы" (на рагу вуліц Леніна і Карла Маркса). Купіў там пачак печыва "Кракет" за 5200 рублёў. Спажываў яго на наступнай лекцыі, выцягваючы з абгорткі па адной штучцы і ўтвараючы пры гэтым даволі апетытнае шалпаценне, ужо не кажучы пра смачнае зубное храбусценне. Так што дзяўчаты з нашай групы нават і не ведалі, каго ім слухаць: выкладчыка ці мяне. Калі ж пачак скончыўся, мяне пачало хіліць у сон. Рука выводзіла нейкія пачварныя, незразумелыя мне самому літары, якія вельмі нагадвалі постаці хворых на рахіт, скаліёз ці энцэфаліт.

Пасля заняткаў я накіраваўся ў Дом літаратара. Першы літаратар, які мне там патрапіўся, быў З.В. Апошнім часам ён захапляецца ёгай, любіць спаць на кактусах у тыгравых трусах пад партрэтам Леніна. Кактусаў яму тады ўсё не хапала, тым больш што харчаваўся ён таксама выключна імі. Мы прайшлі ў кафэ, спадзеючыся, што там будзе што-небудзь з кактусаў, але там, на жаль, такіх страваў не аказалася, таму мы (асабліва З.В.) сышлі адтуль галоднымі. На выхадзе вахцёрка паведаміла нам вельмі карысную інфармацыю аб тым, што дзверы патрэбныя для таго, каб іх зачынялі. Мы падзякавалі ёй за гэтае сапраўды важнае паведамленне і пакрочылі на плошчу Якуба Коласа, сустрэўшы па дарозе шмат каго з пісьменнікаў. Потым пабачылі і сваіх (ББЛ).

Ад Якуба Коласа пайшлі да Янкі Купалы. З.В. распавядаў нам пра сваю новую калекцыю насякомых, куды сабраў сініх калматых клапоў, вусатых лысатых прусакоў, розных там фтырусаў і, што галоўнае, – тоўстых афрыканскіх мух. Вакол тоўпіліся "людзі ў штацкім" з відэакамерамі, здымаючы кожны наш рух. Уяўляю, з якімі спахмурнелымі тварамі нехта разглядае зараз на гэтых стужках нашыя кукішы.

У скверы мяне чакала В.М. – муза беларускай авангарднай паэзіі. Але ў той раз яна прыйшла вельмі самотная. Дый я таксама выглядаў не лепш. А сумаваць разам – гэта не заўсёды цікава. Вось мы неўзабаве і развіталіся. І яна сышла. Загадкавая князёўна паганскіх вужоў.

Мне ж ад гэтага, зразумела, лепей не зрабілася. А тут яшчэ да мяне падышоў нейкі хлопец дый кажа:

– Ох, і не падабаецца мне ваш "Бум-Бам-Літ"!

– Дык і не дзіўна, – адказваю я, – ён для таго і створаны, каб нехта ад нас быў у захапленні, а нехта – у стане эстэтычнага шоку.

Усё гэта адбывалася падчас канцэрта-акцыі "Вольныя танцы-IV". Шапацелі сцягі, плакаты, партрэты палітзняволеных П.С. і А.Ш. Гучала шмат музыкі. Люблю музыку. Але тады найбольш мяне ўразіла хвіліна маўчання: памінālі ж людзей, якія, дзякуй Богу, яшчэ жывыя, але па волі лёсу і ўрада трапілі за краты. Шкада, што я не памятаю, хто падкінуў ідэйку зрабіць гэта, а то б штовечар ушаноўваў гэтага знаходлівага чалавека таксама хвілінай маўчання, ды шчэ са свечачкай...

Прыйшоўшы дахаты, я паеў, хацеў яшчэ трошкі адпачыць, ды раптам пляснуў сам сябе кулаком па лбе. "Вой! – падумаў я, – гэта ж заўтра мне трэба абараняць курсавую працу!" Яна была, па сутнасці, ужо напісанай, засталося толькі павыпраўляць некаторыя памаркі і апіскі. Апісак жа аказалася столькі, што я праседзеў над імі аж да ночы, старанна працуючы лязом. Пры гэтым раздаваліся такія гукі, што бацька ў суседнім пакоі прачнуўся і, не зразумеўшы, што ж гэта я такое раблю, спытаў:

– Можа табе даць нажоўку па металу? Тады б адразу распілаваў!

– Ды не, дзякуй, не трэба, – адказаў я.

Скончыўся мой дзень на паэтычнай ноце, бо падчас адшкрэбвання памылак да мяне раптам завітала натхненне, і я тут жа напісаў верш. Прыводжу яго цалкам:

*ТУДЫ ДЗЕ НАОГУЛ*

*Здаецца мне што я не я*  
*што ўсё ўва мне не ўсё дарэшты*  
*што не ўва мне твая мая*  
*а недзе там таму што нешта*

*Таму што мне туды дзе што*  
*адкуль дагэтуль не заўсёды*  
*бо там і тут не абы-што*  
*бо тут і там не тое-сёе*

*А там і тут сюды-туды*  
*таго-сяго чаго ніколі*  
*не назаўжды сяды-тады*  
*ні там ні сям калі міжволі*

*Маё тваё і ё маё*  
*і ё тваё і ё чужое*  
*у кожнага яно сваё*  
*таму што ўсе яго з сабою*  
*Няхай знянацку ніадкуль*  
*сяго-таго чаго наогул*  
*але ўсё тое што пакуль*  
*таксама быццам бы нічога*

**Віктар ЖЫБУЛЬ**

Настрой, як ніколі, быў добры. Мабыць, у гэты дзень я прачнуўся пад магічнай лямпачкай. Першую палову дня я пісаў графічныя вершы, піў у вялікай колькасці каву, еў салёныя гуркі і плаўленыя сыркі. У 2 гадзіны дня я спаліў паэму "Шханпунш" і пашпацыраваў да Акадэміі Мастацтваў на спатканне з Ганкай Шханавай.

Ганка сустрэла мяне, як залатая рыбінка, – падплыла, усміхнулася і падміргнула. Плаўнікамі сваёй сукенкі бліскала. І кнігу маю новую "Штабкавы тамтам" выхапіла з рук і сказала: "Мак тарак". Пасля чаго з цемрачы выйшаў спадар Шунейка, ён сказаў: "У гэты дзень рымляне захапілі Грэцыю". Я пагадзіўся. Мы палову гадзіны распавядалі адзін аднаму аб транслагізмах, якія ўжо трыццаць гадоў як апанавалі абшары беларускай літаратуры. І я паскардзіўся, што знік стары добры сацрэалізм. Цяпер Вішнёвы і Барысевічы на плошчах усталёўваюць свае каменныя і эбанітавыя паэмы ды артыкулы. Галубовіч ужо як некалькі гадоў выдае падпольны часопіс "Маяк" ды цішком сустракаецца з братамі літаратарамі ў нейкім скляпенні, дзе "рэжацца" з імі ў шашкі. Акудовіч, нарэшце, на ўсё плюнуў, махнуў як плывунец (плывец) рукамі ды выправіўся ў вандроўку да гаротнага Ерусаліма. Бо, па словах паэта Сіна, у адным з тамтэйшых храмаў пасяліўся спадар Дыяген.

Шунейка раптам пабачыў карціну мастака Іосіфа Бродскага, вельмі здзівіўся і развітаўся. А я пайшоў на мітынг Там мяне ўжо чакалі Шханава, Разанаў ды Мінскевіч. Яны кідалі жоўтых васьміногаў у натоўп міліцыянтаў. Апошнія злаваліся і запускалі ў подлых літаратараў чырвоных крабаў. У цэлым усё было ціха і мірна. Над горадам Менскам ветраў чырвоны сцяг і дзеці гуляліся ў рэвалюцыю.

**Зміцер ВІШНЁЎ**

Раніца 14 траўня. Польшча. Невялічкі гарадок Казімеж-Дольны, што стаіць на беразе яшчэ чыстай тут Віслы кіламетрах у 20 ад Пулаваў. На адным з высокіх, стромкіх пагоркаў, паміж якімі ўціснуты гэты невялічкі старажытны гарадок, знаходзіцца Дом журналістаў – былая кузня падрыхтоўкі кадраў для польскай камуністычнай прэсы. Тут з прыязнай дапамогай фонду Стэфана Баторыя на працягу трох дзён адбываўся семінар для кіраўнікоў культуралагічных выданняў з Беларусі – як дзяржаўных, так і прыватных, як рускамоўных, так і тых, якія выдаюцца на мове беларускай. Двое прафесіяналаў выдавецкай справы з Кракава вучылі нас таму, чаго ў Беларусі яшчэ няма, але да чаго мы павінны быць падрыхтаваныя.

Сняданак і апошняя выправа ўніз, экскурсія па горадзе, які, не спяшаючыся, можна абысці літаральна за гадзіну. Казімеж-Дольны – нават па нашых мерках меншы за які раённы цэнтр. Але розніца літаральна ва ўсім. Хлапчанё, якое праслізгвае праз нашу групку і ледзь кранае цябе рукою, імгненна вымаўляе: "Прэпрашам!". На кожным кроку – рэстаранчыкі, піўныя пад адкрытым небам. Да трох мільёнаў турыстаў бывае ў маляўнічым Казімежы штогод! Вось чаму тут амаль у кожным трэцім будынку, многія з якіх зберaглі архітэктурнае аблічча яшчэ з XVI стагоддзя, сустракаецца мастацкая галерэя. Я, прынамсі, дзеля цікавасці налічыў іх паўтара дзесятка! Нішто сабе – раённы цэнтр! І разам з тым за тры дні толькі двойчы сустрэў пару паліцэйскіх, якія, мусіць, знаходзіліся тут нават не па службовых справах, а з чыста экскурсійных прычын.

Абед у адным з рэстаранчыкаў. Вясковыя лавы пад адкрытым небам побач з вогнішчам, на якім на нашых вачах смажаць рабрынкі ды кілбасы. З зяляніны можна браць што хочаш і колькі ў цябе ўлезе. Піва – за ўласны кошт Пасля ўчарашняга каштавання "цвіка" сезона ў Польшчы – гарэлкі "Сівуха" (выдатнай якасці фабрычны самагон у стылізаваных бутэльках пад сургучом) і з прычыны гарачага надвор'я выбіраю ўсё ж халаднаватае піва. Не абед – смаката! У такія хвіліны міжволі задумваешся, што не толькі тэорыя – лекцыі ды практычныя заняткі, але й

такія вось святы стала актыўна спрыяюць станаўленню беларускай культуральнай прэсы.

Дарога ў Варшаву ў зручным мікрааўтобусе з кандыцыянерам. Кіроўца расказвае, што неаднойчы бываў у Беларусі, якая яму вельмі падабаецца. Толькі вось палітычнае жыццё выклікае ў яго шматлікія пытанні. Яно і зразумела: дзесяць гадоў таму ў Польшчы таксама назіралася шмат з таго, што мы ў сябе бачым штодня. Але тое ўсё канчаткова засталося ў палякаў у мінулым. Здавалася б, усяго толькі дзесяць гадоў – а некаторыя рэчы здаюцца ў Польшчы проста незразумелымі...

Развітальная гутарка ў офісе фонду імя Стэфана Баторыя. Нас распытваюць, што яшчэ трэба зрабіць у будучыні для вырашэння прафесійных праблем беларускай прэсы, якія семінары і на якія тэмы могуць быць нам карысныя. Даводзіцца толькі здзіўляцца: у сябе на радзіме нават простыя сустрэчы кіраўнікоў рэдакцыі з начальствам, якое ў стане вырашыць хоць бы адно-два надзённыя пытанні, – надзвычайная рэдкасць. А тут, у Варшаве, падрабязна распытваюць, што яшчэ можна зрабіць, чым дапамагчы. І не таму, што ў фонду грошай няма куды падзець. Проста тут, такое ўражанне, пражылі ўжо на дзесяць гадоў больш. Цалкам магчыма, што і ў нас праз гэтыя гады таксама пачнуць думаць, што мы ўсе, усё наша грамадства, трацім, калі тыражы культуралагічных выданняў падаюць да ўзроўню, за які не сорамна нікому, за выключэннем бадай што саміх выдаўцоў.

На вакзале абмяняў білет, адклаўшы ад'езд на суткі: трэба было вырашыць тут колькі прыватных спраў. Таму скіраваўся да даўняга свайго сябра і калегі Яцэка Лютомскага, які працуе ў рэдакцыі сапраўды салiднай газеты "Жэчпаспаліта".

З Яцэкам мы пазнаёміліся летам 1988 года ў Віцебску падчас першага Усесаюзнага фестывалю польскай песні. Тады давялося шмат чаму навучыцца ў польскіх калегаў. І перш за ўсё, як ні дзіўна, – адсутнасці палахлівасці ў дачыненні да ўсялякага роду начальнікаў: свае пытанні, рэзкія часам і абсалютна канкрэтныя, польскія калегі задавалі, не зважаючы на тое, хто быў перад імі – спявак-канкурсант або кіраўнік міністэрства. Тады Яцэк працаваў у сваёй газеце намеснікам загадчыка аддзела культуры. Газета была амаль рупарам урада, але праз пару гадоў становішча змянілася карэнным чынам. "Жэчпаспаліта" ўвайшла ў склад акцыянернага таварыства, у якім, апрача ўласна газеты, былі выдавецтва (кніжкі масавага попыту) і страхавое таварыства. 49% акцый належала французскай фірме, якая за ўласныя грошы выкупіла побач з Цэнтральным вакзалам Варшавы будынак, у якім да гэтага знаходзілася рэдакцыя газеты "Трыбуна люду". Гады праз два, калі я ў чарговы раз трапіў у рэдакцыю "Жэчыпаспалітай", будынак не пазнаў. Ён больш нагадваў палац культуры: ціха, чыста, густоўны інтэр'ер. Умовы працы, безумоўна, надзвычай адрозніваліся ад тых, у якіх працуюць большасць рэдакцый у нас. Прынамсі, будынак Дома прэсы на Хмяльніцкага, – гэта нейкая архітэктурная пачвара, прыгодная для чаго заўгодна, акрамя рэдакцыйнай працы. Бо калі ў Варшаве – палац культуры, дык у Мінску – амаль гатовая для напаўнення будыніна турмы для "нячэсных" журналістаў.

Яцэк сёння – фігура ў рэдакцыі прыкметная, за дзесяць гадоў ён зрабіў сапраўдную кар'еру. Сёння ён – галоўны рэдактар адразу двух штотыднёвых дадаткаў да газеты. Адзін з іх – гэта газета на 24 палосах з праграмамі каналаў тэлебачання і радыё. Другі – каляровы "Magazyn" на 40 палосах, нешта накшталт маскоўскага "Собеседника", толькі што непараўнальна лепшай друкарскай якасці. І той, і другі штотыднёвікі бясплатна дадаюцца да асноўнай газеты па чацвяргах і пятніцах. Сама ж "Жэчпаспаліта" выходзіць штодня трыма выданнямі на 36 – 48 старонках накладам каля 240 тысяч экземпляраў кожнае. Зарплаты ў газеце адносна невысокія. Асноўны заробак – гэта ганарары, і ў суме журналісты зарабляюць шмат нават для Польшчы. Але ж і працуюць у рэдакцыі так, як у нас і блізка нідзе не пабачыш. Той жа Яцэк, калі я 14 траўня з'явіўся да яго ў рэдакцыю, здолеў выдзеліць мне якіх 10 хвілін у рэдакцыйнай кавяраньцы, пасля чаго папрасіў прабачэння і развітаўся да вечара: ён мусіў працаваць.

У Польшчы сярод журналістаў існуе канкурэнцыя, ёсць шмат тых, хто шукае працу. Кожная рэдакцыя трымаецца на імёнах тых журналістаў, якія ў ёй працуюць. За імя плацяць гэтак жа сама, як і за талент Ніхто не перашкаджае зарабляць як мага больш: той, у каго ганарары невялікія, рызыкуе патрапіць на гнеўныя вочы галоўнага. Як вынік можа стаць скасаванне працоўнага дагавора, які шараговы журналіст падпісвае кожныя тры месяцы. Добрая ж праца ўсяляк заахвочваецца. Напрыклад, у той жа "Жэчыпаспалітай" журналісты мелі магчымасць атрымаць дадому персанальныя камп'ютэры з выплатай грошай на працягу трох гадоў. Сёння кожны са штатных супрацоўнікаў рэдакцыі мае выдзелены яму сотавы тэлефон, а чалавек 20 з ліку лепшых журналістаў атрымалі магчымасць набыць новенькія "Опелі-астры" са скідкай 10%.

Менавіта на гэтым "Опелі" з Яцэкам і ягонай жонкай чароўнай Уляй (а хто з полек – не чароўная!?), якая працуе менеджэрам на польскім тэлебачанні, мы паехалі ў адзін з варшаўскіх гіпермаркетаў. Гіпермаркет – гэта нешта накшталт супермаркета, толькі што значна большы. Там можна купіць усё – ад іголкі да аўтамабіля. Сям'я Лютомскіх ездзіць у гіпермаркет раз на тыдзень, купляючы ўсё, што спатрэбіцца ў бліжэйшыя сем дзён.

Мы ўязджаем у падземны гараж-стаянку. Бясплатную, між іншым. Манетка ў два злотыя – залог за вялікую цялежку на колках. На эскалатары падымаемся непасрэдна ў магазін, але да гандлёвай залы трэба яшчэ ісці ды ісці, мінаючы мноства буцікаў – дарагіх крамак з размаітымі таварамі. Пра маштабы гандлёвай залы гаворыць хоць бы тое, што адны касы, дзе разлічваюцца грашыма або з дапамогай крэдытных картак, доўжацца метраў на сто, не менш. Уразіла і тое, што многія прадаўшчыцы (хутчэй – кансультанты) лётаюць па зале на ролікавых каньках: пехам з канца ў канец ісці вельмі далёка. З тае прычыны, што тут можна купіць усё, цэны ў цэлым больш нізкія, чым у іншых крамах горада. Прынамсі, пачак разрэкламаванай у нас кавы "Tchibo" ў гэтым гіпермаркеце каштуе ў пераліку працэнтаў на 30 менш, чым у нас нават на Камароўцы! Не нашмат даражэйшыя мясныя вырабы, затое якасць ды смак – непараўнальныя! Чорнага мяса там, зразумела, не бывае. Як і набораў для супу. І прадаўцы ўсе – усміхаюцца...

Дарэчы, як расказалі нам на семінары ў Казімежы-Дольным, сёння ў Польшчы ў такіх гіпермаркетах прадаецца амаль трэцяя частка ўсіх выдадзеных кніг, і не толькі літаратуры "для кухні". Тут жа вельмі добра ідуць літаратурныя часопісы, выданні па мастацтву і іншая культуралагічная прэса. Гэта пры тым, што ў класічныя кнігарні Варшавы і дагэтуль заходзіць боязна – столькі там усяго і такога шыкоўнага...

Пасля наведвання гіпермаркета мы сядзелі ў Яцэка дома. Ён распачаў рамонт кватэры і дужа шкадаваў, што я мушу ехаць: яму вельмі карцела паказаць мне свой загарадны дом, які ён пачаў будаваць два гады назад. На Каляды Яцэк, Ула і дзве іхнія дачкі на два тыдні ездзілі ў Нью-Йорк. Я глядзеў фотаздымкі, зробленыя маім калегам у Амерыцы, і неаднойчы лавіў сябе на думцы: мо, праз якія дзесяць гадоў і я здолею разам з сям'ёй тыдні на два дазволіць сабе злётаць у Нью-Йорк? І ў тое ж імгненне разумеў: не, на тое мне жыцця, бадай, не хопіць. Тады, у 80-я, мы з палякамі жылі практычна аднолькава. Кватэрнае пытанне ў іх было нават больш вострае, чым у нас. Пра талоны на асноўныя прадукты не згадваю: палякі прайшлі тое раней чым мы. У нас талонны прывід зноў, здаецца, шапаціць крыламі блізка-блізка. Прайшло якіх 10 – 15 гадоў, а мы жывём ужо ў розных эпохах. Такое ўражанне, што час у маёй роднай Беларусі проста знерухомеў: нездарма ў рэдакцыі "Жэчыпаспалітай" мне аднойчы давялося пачуць: "Беларусь – гэта краіна, у якой нічога не адбываецца"

Так яно або не – сказаць няпроста. Але ў мяне было чамусьці такое ўражанне, што цягнік "Варшава—Мінск" быў не проста цягнікам, але своеасаблівай машынай часу, на якой я вяртаўся дадому. Таму што вяртаўся я гадоў на дзесяць назад: з той краіны, якой магла быць Беларусь, у тую краіну, якой Беларусь зрабілася...

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ**



Дзіўна, але ў той дзень я прачнуўся ад уласнаротавага пазяхання. Я пазяхаў моцна, глыбока, на ўсю моц сківіцаў, быццам нябачны "вуха-горла-нос" настойліва шаптаў: "скажыце а-а-а", – і соваў мне пад маленькі пухірок над глоткай жалезную пляскатую лыжку. Я раз за разам, от зараза!, старанна выварочваў наспод чырвоны туліп сваёй гартані. У момант шостага ці сёмага зяху мая пятка знянацку выпаўзла з-пад коўдры і, быццам нос дзіцяці, што раніцай адчувае водар кампоту, які варыць на пліце бабуля, – адчула ўсю ядранасць беларускага клімату. Вокны ў маім пакоі былі шчыльна "зашораны" фіранкамі, каб ноччу, у час майго сну, не паскакалі, вольныя і шалёныя, у розныя бакі, але ж пятку не падманеш! – надвор'е на двары змянілася. Акула халадэчы разам з пяткай заглынула маё калена і папаўзла лысай лускай далей пад панцыр ватнай коўдры. Другой пяткай я хутка накаўтаваў агідную рыбіну, выпхнуў яе і зноў шчыльна захінуўся ў панцыр.

9-00. Я – мігатлівы кокан...

9-30. Для творчага чалавека, да якога я сябе ўсё ж залічваю, – гэта проста рана душы.

І проста рана яшчэ.

Але ж і справаў я напланаваў багата, таму набраў поўныя грудзі паветра і перанырнуў з коўдры ў прастору застылага пакоя...

Я крочыў па ходніку і спяваў "Спыніся, тралейбус". Лупатыя тралейбусы не спыняліся, і я йшоў далей. Травень аб'еўся снезевам і марозна дыхаў мне ў патыліцу. Я крочыў хутчэй і хутчэй. Вялікі пачак кішэнных грошай прыемна калаціў па назе. Хаця прыемнасць ад калачэння непрыемна перацякала ў засмучэнне, бо шыльда "Сберкасса" павялічвалася з хуткасцю наезду відэакамеры "Самсунг электронікс". Спяваць расхацелася...

Мой разлік быў вельмі просты – раніцай у ашчаднай касе людзей будзе няшмат і я спакойна, без чаргі выкладу свае грошыкі за кватэру. Дзверы з надтрэснутым фальцэтам адчыніліся, і я заўважыў дзве гіганцкія вужакі – надась выдалі пенсію пенсіянерам! Працавалі 2 акенцы з 8, бо адтуль хімзавіўныя галовы крычалі:

– Падпісвайце жыроўкі! Не затрымлівайце чаргі *(пераклад мой)*.

Я ўступіў у хвост анаконды і з жахам заўважыў, што таксама не падпісаў "жыроўку" (альбо "жэроўку", альбо "ЖРЭОўку"). Асадкі, прывязаныя лёскай да акенцаў, таксама стварылі свае змейкі. І тут я заўважыў кіслы твар жанчыны, якая прытулілася да яшчэ аднаго адчыненага акенца.

– Я... тут ужо два тыдні дзяжуру... – апраўдваючы свой цытрынавы настрой, сказала мне жанчына, – дзесяць даляраў дакупіць трэба...

За дзесяць даляраў я асадку купляць не стаў, але з-пад галавы, якая рашала крыжаванкі ў акенцы з налепкай "валюты нет", вырасла рука і пазычыла на пару слоў мне асадку.

Калі праз паўгадзіны я зрабіўся галавой кобры і нахіліўся да патрэбнага мне акенца, я вельмі і вельмі раззлаваўся. Аказалася, што з траўня падаражэлі энергаталоны, а зарплату нам выплацілі з затрымкай і талоны з'ядуць болей грошай, чым я меркаваў. Аднак касірка мяне супакоіла і прадала адзін стары талон па старым кошце, які ў яе, мабыць, заваляўся за касавым апаратам.

Адной з самых вялікіх асалодаў за апошнія паўгода для мяне сталася адчуванне, якое можна назваць як "мінус пятнаццаць хвілін" Менавіта настолькі з адкрыццём метрапрыстанку "Аўтазаводская" скараціўся мой шлях да "Культуры". Цяпер кожная мінус хвіліна, эфемерная, пазапрасторавая, пазачасавая пранікае ў мае артэрыі і купаецца ў іх губатымі ўсмешкамі-лодачкамі.

Чацвер у газеце "Культура" гэта апакаліпсіс, гэта кульмінацыя і апагей, гэта подзвіг і перамога, гэта нервы, якія аплятаюць калідоры рэдакцыі, і радасць, што, як цыгарэтны дым, лунае пад столлю. Чацвер – дзень здачы нумара ў друк. Страшны, нібыта цмок, друк чакае сабе свежанькую, чысцюткую электронную газету-нявесту, каб яе... самі разумееце... і затым выпусціць шэрай ці пажоўклай, замазанай ці размазанай, панурай. Але ж гераіню-газету чакаюць, нясуць на руках людзі, якія шчыра радуюцца, што яна жывая! Але ж прыйдзе новы чацвер і жменька людзей з планеты па адрасе Цыцэрона, 1, будзе везці да цмока новую даніну-ахвяру.

У той чацвер я не зачапіўся за ніводны нерв, што як карані, слаліся па падлозе рэдакцыі, ды тады ды-ваны насценныя і падлогавыя яны не стваралі і не былі такія агрэсіўныя. Белая сукенка нявесты была ёй амаль па памеры. І я з 4 да 5 гадзін накіраваў свае топы ў двор свайго дзяцінства, туды, дзе стаіць школа, дзе я быў вучаняткам, вучнем і невукам. Хаця ў самую школу не йшоў, гэта так – "радыё настальжы" я йшоў туды, дзе колькі гадоў таму прабіла ці прабілі ў кары ці падкоркі эгрэгара Беларусі артэзіянскую ад-ту-ліну філасофіі (+ культуралогіі + літаратуры + літаратуразнаўства). Дзякуй Богу, "Крыніца" струменіцца.

Барада, акуляры... Валянцін Акудовіч сядзеў за сваім сталом і чытаў "Дзяды" Міцкевіча ў маёй артыкуляцыі. Нашы рукі, як два цёплыя і блізкія сябры-павукі, абняліся.

– Першая частка нічога... А вершы, з вершамі трэба разабрацца. Паглядзіце.

– Дзе, пакажыце... Камлыгі бурунаў...

– А могуць быць камлыгі бурунаў?

– Ну а глыбы?

– Хмары.

– У А.М. брылы замеці *(алітэр. мая)*, цвёрдыя.

– Паглядзіце, там яшчэ шмат спрэчных месцаў...

– Прывітанне!

– Прывітанне!

– Прывітанне, – гэта завітаў Валерка Булгакаў, які любіць разумным вокам station паназіраць...

– Добры дзень.

– Добры дзень.

– Добры дзень.

– Добры дзень, – гэта павітаўся з намі Алесь Анціпенка. – Пачытаў нашую слаўную паэтку Генiюш. Зямля – ралля. Камусь гэта й да душы... Сумнавата... А ў вас ёсць "Тазік беларускі"?

– Так, так, – ветлівы Акудовіч выцягнуў з шафы асобнік "Тазіка..."

– Эх, гэты "Тазік..." – правінцыя.

Вочы Валеркі Булгакава разумна зафіксавалі рэпліку.

Не ведаю, ці пра афармленне кніжкі казаў Алесь Анціпенка, ці пра сымболь Бум-Бам-Літу. Калі пра афармленне, то я сказаў бы, то я паведаў бы, то я выдаў бы гейзер ідэі: як гэта файна, што "Тазік..." надрукаваны ў Маладзечне, гэта атрымаўся гістарычны адбітак узроўню нашай айчыннай паліграфіі на гэты, сучасны, момант, і тое, што здымкі "паплылі", і тое, што падзагаловак "Зборнік вершаў" падставілі (бо ў мястэчковым уяўленні што не напішуць гэтыя пісьменнікі ў Мінску – усё адно – вершы) і нават беспрэцэдэнтны выпадак, які здарыўся падчас здачы ў друк "Тазіка..." – усё гэта бясцэнна для беларускага, як кажуць, літаратурнага працэсу. А выпадак такі, работнікі друкарні (!) (не выдавецтва, якое бярэ на сябе адказнасць за змест кнігі, а друкары) папрасілі прыбраць з кнігі "Ленініяну" Севы Гарачкі. А тое што Сева, скажам, сатырычна ставіцца не толькі да правадыра пралетарыяту, але да самога пралетарыяту, то гэта пралетарыяту ўсё роўна. Святое не кранай!

Але ж, хіба было б лепей, каб першы зборнік літаратурна-мастацкага руху, што нарадзіўся ў нетрах беларускай абсурдна-перакошанай рэчаіснасці, выдаўся дзесь на эміграцыі, глянцавы, рафінаваны, з выразным друкам на шыкоўнай паперы. Вось гэта быў бы нонсенс і страта кантэксту, поля, тое самае, як прымусіць усіх бум-бам-літаўцаў заўсёды чытаць свае вершы ў чысцюткіх, адпрасаваных фраках.

А калі Алесь казаў пра сымболь Бум-Бам-Літу, то густы бываюць рознымі...

Мы ў чатырох крочылі да "пераможнага" метро. Перад спускам у андэргравнд я і Валянцін Акудовіч развіталіся з Валеркам Булгакавым і Алесем Анціпенкам, якія спяшаліся па сваіх справах, а мы адправіліся "на мэтра да мэтра", да дзядзькі Якуба. На гэты раз Колас паказваў шлях у падтрымку палітвязняў. Калісьці, яшчэ пры царскім рэжыме, ён, малады паэта і настаўнік, быў такім вязнем турмы на Валадарцы. Мінула больш за 80 гадоў. А помнікам у той коласаўскай каморы выступаюць жывыя хлопцы-палітвязні, якія спяваюць песні на словы самога Коласа.

Там жа, каля помніка Коласу, да мяне падышла дзяўчына. Яна пазнала мяне як беларускага барда і прапанавала прыняць (маральна) грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Я падпісаў заяву. Так што 14 мая для мяне памятны дзень.

У калоне, што рушыла па ходніку праспекта Скарыны, мы з Валянцінам Акудовічам напаткалі прыяцеляў бум-бам-літаўцаў Іллю Сіна, Зміцера Вішнёва, Віктара Жыбуля. Вішнёў і тут не абышоўся без перфомансу – дэманстраваў усім знаёмым і незнаёмым сваю нававыданую кніжку "Штабкавы тамтам". Ён, як заўжды, прымусіў мяне прачытаць пару вершаў, якія я яшчэ не ведаў, і, чытаўшы іх, я ледзь не раз'юшыў... свой нос аб жалезны люк. І яшчэ не заўважыў, куды падзеўся Ілля Сін.

Трэба паведаміць, што Валянцін Акудовіч вельмі і вельмі любіць андэграўнд і на тым самым месцы, дзе мы з ім паўгадзіны таму развіталіся з Алесем Анціпенкам і Валеркам Булгакавым, ён зноў нырнуў у падзямелле, сказаўшы, што ад Коласа праз станцыю метро "Перамогі" імкнецца патрапіць да Максіма Багдановіча. Ідэя была філасофскай, і мы сказалі: "Да стрэчы", – бо самі йшлі за калонай мітынгоўцаў да Янкі Купалы. Не, насамрэч, што б ні рабілася – пісьменнікі паўсюль!

У сквэрыку Янкі Купалы мы сустрэлі бум-бам-літаўскі самародак Вальжыну Морт і пайшлі сквапна слухаць беларускі рок, які прадстаўлялі нашыя сябры Кася Камоцкая, Слава Корань, Лявон Вольскі. Малады народ танчыў і падпяваў. Прадзюсерскі праект "Вольныя танцы" вышчаў на брук Мінска, чым вельмі парадаваў гараджанаў і гасцей нашай сталіцы. Там жа я загітаваў Зміцера таксама прыняць (маральна) грамадзянства БНР.

Пасля мы з Вішнёвым прагуляліся да палаца Белсаўпрофа, дзе ў яго была прызначана стрэча па справе з Ганнай NX. У Белсаўпрофе ішоў паказ гішпанскага кіно, таму, натуральна, не ўбачыць знаёмых мы проста не маглі. Спачатку з намі павітаўся намеснік галоўнага рэдактара газеты "Культура", цікавы журналіст і сейбіт БОБа (гл. "Культуру") Ігар Клокаў, пасля тое самае зрабіў саркастычны Сяргей Вераціла, пасля гэтае дзеянне паўтарыла маладая жвавая журналістка Юля Ваніна, пасля – яе муж стары наш знаёмца і куратар выдання "Тазіка беларускага" Кастусь Елісееў, а вось Ганны NX не было. А калі яна ўсё ж прыйшла і мы спусціліся з Цэнтральнай плошчы да сквера Янкі Купалы, там ужо не было Віктара Жыбуля і Вальжыны Морт. Неўзабаве з прычыны пільных справаў Зміцер і Ганна мяне таксама пакінулі, але самотным я заставаўся нядоўга. Варта мне было наблізіцца да сцэны, як мяне прыкмеціў наступны бум-бам-літавец Альгерд Бахарэвіч. З ім мы і дачакаліся канца рок-канцэрта, пахвалілі НРМ, за тое што іх тэксты выдатныя, лёгка запамінаюцца, і нават на беларускай мове гарадская моладзь з задавальненнем падпявае гурту.

Сказаўшы Альгерду: "Ну ўсяго", я накіраваўся да тэлефона-аўтамата і пазваніў да суддзі, дарадцы, жалезнага й няломнага крытыка майго перакладу "Дзядоў" Міцкевіча Інэсе Кур'ян – трэба было залізваць шнары, якія нанесла рэдактарскае пяро Акудовіча. Іна пачаставала мяне сырнікамі, і некаторыя раны памазала смятанай, а некаторыя пасыпала соллю. На развітанне валошкавыя з павуцінкай вочы Іны супакойвалі: "Нічога, ты справішся". А мой мазжачок крычаў: О, Божа, колькі можна выпраўляць, крэмзаць, падбіраць, перабіраць, цerабіць словы – ловы – о, вы! – вы – ы- ь- і...

На прыпынку "Чэрвеньскі рынак" я сеў у "тройку", тралейбус быў амаль пусты, і я спадзяваўся без прыгод дакаціць дадому. Але ж на наступным прыпынку "Аранская" я пачуў за сваёй спінай буркотны гук харкання і пачуў, што мяне ахінае корсткі цыгарэтны дым. Я азірнуўся – адразу за мной сядзела каларытная парачка: чырванаскурая з разводамі на шчоках і носе жанчына неакрэсленага веку і сухі з галавой-грушай, вачамі – белымі гарбузнымі семкамі – мужык. Амаль бяззубы рот, жвакаючы "прыміну", выдыхнуў перагарам:





– Ты ж, то ж мужык... Я пакуру *(не пераклад)*.

– Выйдзіце і пакурыце. І не плюй тут.

– Да ты, да я, да слышыш... – зашыпеў ён, але цыгарэту затушыў.

Рукі яго былі ў наколках, адну ён адразу засунуў у штаны, штосьці адтуль дастаў і імгненна схаваў тое, што дастаў, пад кашулю да свайго ўпалага бруха.

– Ты мяне аскарбіў пры маёй бабе!

Баба завішчала: "Супакойся".

– А мне по... Я магу і восем яшчэ... Мне по... – не спыняў свой сухі шоргат былы зэк, ці хто ён там.

На "Камунарцы" зайшло даволі шмат народу. Жанчына і зэк перайшлі на шэпт, яна яўна яго стрымлівала. Мне непрыемна было сядзець, калі за спінай была такая парачка, але ж і перасесці – струхнуць – я не мог. Інстынктыўна я трохі адсунуўся ад спінкі крэсла. Зэк не сціхаў ажно да вул. Енісейскай (гл. карту тралейбусных маршрутаў г. Мінска). І калі тралейбус пачаў тармазіць перад прыпынкам, зэк ускочыў, я рэзка азірнуўся, зэк працягваў мне сваю, гнілога колеру, правую руку – "браў на понт" – я трошкі адхіліўся.

– Ты мяне аскарбіў пры маёй бабе. Не за сябе, за яе з цябе тут... пападзёшся... – Пры гэтым левай рукой ён нешта яшчэ трымаў пад кашуляй. Гэтае нешта, як я мог ужо заўважыць, па форме нагадвала дзяржальна фінкі.

– Запомні... поняў, – ён, распіхваючы пасажыраў, вываліўся з тралейбуса.

У тую хвілю, калі я зразумеў, што ўсё ж такі зэк трымаў пад кашуляй, мае ныркі, як вочы Крамарава да пераносся, скасіліся пад скурай да пазваночніка і тут жа ўсталі на свае месца:

– Фу, – адлегла на сэрцы, – хаця вялізная порцыя адрэналіну яшчэ хвілін пяць віравала ў маёй крыві, пакуль я не заўважыў, што тралейбус караскаецца па маёй, здавалася, вельмі дарагой вуліцы Ангарскай.

– Усё ў парадку? *(пераклад мой)* – ужо дома спытаў мяне Валянцін Саўранчук, аранжыроўшчык нашага рок-гурта "ЖАХ"

– Ага.

– Пайшлі піць гарбату *(пераклад мой)*.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

*О, досыць мне, досыць мне, даволі ўжо... Што я пішу? Людзі смяяцца будуць. Усе будуць смяяцца з пісання майго... Думы мае, адкуля вы?*

**Максім ГАРЭЦКІ**

Цудоўны, цудоўны быў дзень. З прахалодным і шоўкавым ветрам новенькай вясны, лёгкі і рухавы, сонечна-скразны – і выстаяў да позняга вечара. Грэх было жадаць лепшага... Дзе ён цяпер?.. І ўвесь гэты дзень я не выходзіў нават у двор, толькі што на балкон.

Увесь гэты дзень я прасядзеў за пісьмовым сталом, углядаючыся то ў свае белыя і скрэмзаныя аркушы паперы, то ў блакітную бясконцасць неба за акном, пільнуючы ў ім якісьці невядомы мне знак, чакаючы, калі блісне там нейкія нябескія мігдалкі.

Цяпер я разумею, што рабіў у гэты дзень на самай справе: такі вось разумнік, я ўсё строіў свае хітрыкі, каб падмануць час, затрымаць яго ў нейкіх імгненнях – і наблізіць да сябе, вярнуць хоць з большага той дзень, які быў на тры тыдні раней, у канцы красавіка – дзень таксама сонечны, нейкі наіўна-адкрыты і рэзкаватым яшчэ паветраным хвалям, і гучнаму рэху горада, і зеляніне травы і дрэў, што не проста пырснула, а ўжо добра, густа і шчыльна ўзялася скрозь, куды ні кінь вокам.

Так, седзячы за сталом, я бачыў сябе ў тым дні, тры тыдні таму – і бачыў сам той дзень, а праз яго – шмат іншых з такой выразнасцю, што нават не верыў сабе. І як расказаць пра гэта?

Як расказаць пра тое дзіўнае, што раптам прымусіла мяне ў той красавіцкі дзень збочыць з галоўнай алеі дзіцячага парку па-над Свіслаччу і зайсці на пляцоўку за жалезнай агароджай, пустую, куды сёлета так і не завезлі дзіцячыя атракцыёны, якія прывозілі дзве апошнія вясны?

Не, сапраўды, што мяне падштурхнула? Можа, тое, што пляцоўка была зноў пустая, як некалі, і ейная прастора – прастора былога футбольнага поля былога стадыёна "Харчавік" – магнітам свайго нябачнага існавання пацягнула мяне да сябе? Далібог, я быццам фізічна адчуў гэтае прыцягненне, таму што нават скасавурыўся на прахожых, – ці не заўважылі яны гэты мой нечаканы манеўр.

Паклаўшы на вялікі камень газеты, я сеў на ўскрайку гэтай пляцоўкі, яшчэ ні пра што не думаючы, нічога не жадаючы – і ні пра што не шкадуючы.

Далей пачалося нешта незразумелае – а я і тады не намагаўся і цяпер асабліва не імкнуся разумець, мне даволі ўжо і таго, што я раптам тады ўбачыў і што потым разглядаў увесь той дзень за сталом праз тры тыдні – чатырнаццатага траўня, у чацвер.

Перада мною была такая нібы велізарная ўпадзіна светла-блакітнага, чыстага неба, якое зніжалася тут, непрыкметна пераходзячы ў сонечнае святло, і рассейвалася ім над роўнай шэрай пляцоўкай, збудаваннямі ў канцы яе і вуліцай з трамвайнымі правадамі. Неба падала з усяе сваёй бясконцай вышыні сюды, у агромністую лагчыну, левым стромкім берагам якой былі высокія і густыя, старыя таполі паркавай алеі, уся суцэльная зеляніна за ёю, а правым – ліпы і таполі, што ідуць да Свіслачы і потым схіляюцца да яе з высокага берага, з вуліцы Янкі Купалы.

Так, быццам увачавідкі, раптам паўстала перад вачамі незямная, без пачатку і канца, нябесная плынь вечнасці. Недасяжная і неспасціжная, яна нячутна і нябачна нясецца над зямлёю, падумалася мне, – і ў ейнай неверагоднай вышыні, вунь там, злева, над густою зелянінай, нешта адбываецца, а можа і не, але блакітная плынь зніжаецца, запаўняе гэты зямны лог усё роўна як упадае ў яго. І тут з гэтай адвечнай плыні, з небыцця з'яўляешся ты, – яна пакідае цябе на нейкі час ва ўтульнай, цёплай бухце жыцця сярод пустэльнага зорнага холаду, – а сама зноў узнімаецца некуды туды, ужо за правы зялёны бераг, ляціць вышэй, далей, дзе зноўку будзе тваё небыццё пасля жыцця.

Так, вось яна – лагчына майго жыцця, падумалася мне. І – бацькавага. Ён нарадзіўся недзе ў гэтых месцах, крыху далей, за паркам, дзе цяпер вуліца Пуліхава. Апошняя ж яго зямная гавань – над маім сталом, у рамцы, з надпісам, зробленым яго рукой: "Тып нашага жытла". Там – снежная пустэльня Варкуты, амаль з вокнамі заваленыя гурбамі барачныя будынкі, смуга за гэтай беллю з жэрдкамі мётэаслужбаў...

Не памятаю, пра што думалася далей.

А потым я ўбачыў, што сяджу якраз у той кропцы

пляцоўкі, якая метры на чатыры ззаду былой лініі некалі, здавалася, навечна ўкапаных тут футбольных варотаў. І дакладна на метры чатыры ад таго месца ў іх, дзе я столькі летніх гадзін пратупаў, прашэрхаў і пратанцаваў у чорным світэры, у азартнай ліхаманцы і мандражы, пакрыкваючы на сваіх разгубленых або занадта самаўпэўненых абаронцаў.

Тут я сціскаўся ў камяк перад пенальці. Тут упіраўся шыпамі буцаў у слізкую, што лёд, зямлю пад лужынаю, якая не высыхала ў дажджлівае лета ў паглыбленні, вытаптаным усімі варатарамі Мінска. Тут падчас корнера бывала цяжка, таму што ў такі момант нярэдка адзін з чужых нападаючых блакіруе спераду, а другі таўчэ ў спіну і ў плечы, карыстаючыся тым, што суддзя не бачыць гэтага ў таўханіне ў варатарскай пляцоўцы – як ён наогул нічога не бачыць нават у сябе пад носам, у цэнтральным крузе, дзе, нібыта ў падкаце, проста ўжо касою косяць і ўстаўляюць так у косці, што не дай Бог

І нечакана я зноў убачыў і пачуў вакол сябе ўсю тую гульню – гульню тае пары, таго ўзросту.

Так, не цяперашнюю, даўным-даўно немаладую, стомленую гульню ў вымушанае маўчанне, а калі дык і міжвольнае падтакванне, каб толькі стрымацца і не скасіць прыдурка адным слоўкам у адказ, – ад чаго ж табе самому і будзе горш.

Не тую гульню з сабою, калі быццам выпадкова, не заўважаючы, ухіляешся ад позірку кінутага сабакі, ад яго вачэй, поўных невыноснай надзеі спатрэбіцца табе і ўвабраўшых у сябе, як і вочы коней, пракаветную тугу і цярплівы, бездакорны боль адзіноты ўсяго жывога ў свеце.

І не тую гульню з высілкамі неяк суцішыць трывогу, страх і жаль, горыч крыўды і здрады, не існуючай віны і немагчымасці апраўдання, – хаця б суцішыць, калі ўжо нельга адолець, перайграць гэтага ні ўспамінам і спадзяваннем, ні праўдай і верай, ні працай і павагай людзей.

Нарэшце, не тую гульню, калі нібы даеш нырца ў нешта, маўляў, галоўнае, сваё, хаваючыся ад таго навокал, чаго ўсё роўна не абмінуць кожны дзень, ад чаго не схавацца ні на вуліцы, ні ў хаце, што навісла, відаць, надоўга, хоць і не назаўсёды, і ад чаго робіцца так сорамна, быццам ты ж сам у гэтым і вінаваты.

Не, не гэтыя свае гульні ўжо безнадзейна сталых людзей бачыў я тады, сонечным красавіцкім днём, седзячы на ўскраі былога футбольнага поля, па-за сваімі, некалі сапраўднымі, а цяпер уяўнымі варотамі. Не пра такія гульні думаў я і чатырнаццатага траўня за сталом над папераю.

З выразнасцю і блізкасцю, ад якіх рабілася нават ужо неяк не па сабе, бачыў я **тую**, адзіна не сорамную цяпер для мяне гульню з усіх вядомых (гульня акторская, тэатр – таксама ў гэтым ліку і, можа, нават на адным з першых месцаў)... Я бачыў, што нашы нападаючыя пачынаюць ужо агрызацца адзін на аднаго, бо ў іх нічога не атрымліваецца. Я разумеў, што і нашых маўклівых, цягавітых паўабаронцаў, і ўвішных інсайдаў вось-вось канчаткова выматаюць гэтыя крэпкія, стрыжаныя пад нуль-нуль бычкі-баравічкі, салдацікі ўнутраных войскаў з "Белпалка" Яны працавалі як вымуштраваны ўзвод, не збаўляючы тэмпу, без мітусні і засяроджана, зрэдку перакідваючыся гуллівымі рэплікамі людзей, якія ўжо ўхапілі свой шанец і не выпусцяць яго нізашто.

Я зноў, нібы гэта было ўчора, чуў, як іхні капітан, "дзесятка", паблісквючы залатою фіксаю ў паблажлівай усмешцы, разліччаным на гледачоў пявучым рускім тэнаркам ці то загадваў, ці то прасіў: "Ладненько, Игорек, простреливай!" Або: "Он же замучил нас, сажай его на жопу!"

Ішоў другі тайм, наша абарона ўсё часцей правальвалася, яны ўпарта, моўчкі ціснулі, і падступала ўжо нейкая самота – у іх было не выйграць нам, мы адчувалі, нават не выратавацца ў нічыёй. Тут вырашаў не спрыт і не ўменне. У іх была ад самага пачатку жалезная ўпэўненасць у сваёй перавазе – як у праваце. Яны быццам і не звярталі на нас асаблівай увагі, як на не вартых гэтага. Адно рабілі сваю справу сярод нас – і ўсё.

Здаецца, толькі аднойчы іх капітан кінуў ледзь раздражнёна ў мой бок свайму чарняваму "крайку", калі той біў штрафны: "Ашотик, пусти низом этой каланче. Надо кончать их". Ашоцік, падла, ляснуў як з гарматы. Пачулася тугое "Тбупп", а мяча бачна не было – спакойны каўказец расстрэльваў "сценку" нашых хлопцаў, разлічваючы на шчыліну ў ёй, калі хто спалохаецца, ці на рыкашэт. І тут я ўбачыў, што Міша Кандыш курчыцца на зямлі, падцягваючы калені да падбародка. Мы кінуліся да яго.

– У яйцы, Міша?..

– Вышэй, у дыхала, – сказаў суддзя Грыша Більдзюг, гледзячы на секундамер. – Уставайце і не сімуліруйце. А вы займіце свае месца ў варотах.

Праз колькі хвілін я знарок пачаў марудзіць, цягнуць гуму, уводзячы ў гульню мяч ад варотаў ударам з зямлі. Але Більдзюг абурана заверашчаў у свой, падобны на міліцыянтавы, свісток, халуявата паглядаючы на капітана "Белпалка". Усё стала ясна. Гульня была іхняя. Але мы плявацъ хацелі. І яшчэ хацелася, каб мяч, які яны рана ці позна заб'юць, быў не маёй "пенкаю", а такі, што і трактарам не выцягнуць, і каб Жанна пабачыла мой адчайны кідок у ніжні кут.

Вечарэла. Гледачы неяк аціхлі, моўчкі лушчылі семкі на лаўках ў фіялетавай смузе папяроснага дыму. Ад ракі патыхала вільготнай сырызнаю, там заходзіліся ў сваім крэкце жабы. З-за насыпу былога велатрэка пачулася музыка танцверанды. Напярэдзе, па-за чужымі варотамі і вышэй іх, на Першамайскай вуліцы, спыняліся чырвоныя трамваі, сыпаліся павольныя тлустыя іскры з дугі, а пад ёю, на рэкламе цырка было: "Львы Ирина Бугримова Львы" Нашы перайшлі на адбойную гульню ў глухой абароне, прыціскаючыся да сваіх варотаў. Я не ведаў яшчэ, што мы, юнацкі "Спартачок", камандачка сяброў, што нарадзіліся і выраслі ў Мінску, упромся тут, як рогам у зямлю, і гэтыя вайскоўцы, прымусіўшы служку Більдзюга прысудзіць ім пенальці на апошняй хвіліне, не верачы сабе, лупянуць у бэльку – і здабытая нічыя стане нашай перамогай. Я не ведаў яшчэ гэтага, і калі нехта з хрыплай злоснай лаянкай выбіў мяч ажно ў алею, за гледачоў, у бок ракі, – я ўбачыў, што Жанна ідзе там з Барысам пад дрэвамі да выхаду, уважліва слухаючы яго, з чорнай вузенькай сумачкай у руках, і не глядзіць увогуле сюды, на поле, не тое што на мяне. Ну дык пра што тут яшчэ гаварыць?..

Хіба пра тое, куды яны тады маглі пайсці? Толькі не на веранду – мы не любілі гэтых месцаў, ні тут, у парку, за "Харчавіком", ні на "Дынама". Там, нават калі ты ведаў самога Вальта, ці піў з Толяй Хаценчыкам, баксёрам-цяжкавагавікам, – там можна было, у прынцыпе, усё ж такі нарвацца, напароцца на што-небудзь – і асабліва калі ты з дзяўчынаю. Бо па дзяўчынак, ледзь паспеўшы пераапрануцца, сюды і беглі пасля сваіх тэрмінаў у зоне ці амністыі схуднелыя і лёгкія ваўкі з галодным металічным бляскам у прагных і бязлітасных вачах. Тут іх чакалі баявыя сяброўкі, быццам бы безуважныя, з апушчанымі, у чорнай фарбе, вейкамі. Але паветра ўжо было наэлектрызавана. Тут быў свой свет: свае законы, подласць, рэўнасць, помста і адданасць. Ён быў адчынены для тых, хто ў ім жыве.

Таму, думаю я амаль праз сорак гадоў, чатырнаццатага траўня, – таму яны, Барыс і Жанна, хутчэй за ўсё, пайшлі ці на праспект, "брадвей", ці на які сеанс у клубе на Камсамольскай вуліцы, які цяпер завецца клубам імя Дзяржынскага, а ў тым нашым жыцці быў проста клубам "эм-гэ-бэ" – і хоць бы раз хто з нас задумаўся тады пра тую назву, пра нейкую дзяржаўную бяспеку!.. Нічога дзіўнага: пра пахаванне Сталіна мы перасталі гаварыць ужо назаўтра, бо, дзякуй Богу, тэлевізараў яшчэ не было. Быў толькі сум, што ўсюды забаранілі вечары з танцулькамі на колькі дзён.

Таму спакойненька шпацыравалі па сваім "брадвеі" – ад Валадарскага да Энгельса, уздоўж мастацкага салона, цырульні, аптэкі, гастранома з вежай і гадзіннікам на ёй, уздоўж кафэ "Вясна" і хлебнай крамы, – а побач быў тады славуты ў Мінску вінны магазін, цудоўны, у розных хрусталях, люстэрках, са зззяючымі люстрамі пад столлю; туды на першым, пачатковым крузе, мы кожны вечар зарульвалі на запраўку.

Так, мы шпацыравалі па сваім мінскім брадвеі, прыгожыя і юныя, у звыклай сваёй, асаблівай, улюбёнай атмасферы дзяцей асфальту, курылі цыгарэты "Яву" і "Дукат", – у доўгіх, спачатку сініх, потым ужо белых плашчах, зімой у шэрых кепачках з кароткім гумавым брылькам, а як толькі праблісне сонца ў сакавіку – ужо без шапак, каб не пакамячыць старанна ўзбіты кок ці не парушыць бездакорны прабор. Ад Жанны і Аліны салодка, мякка і адначасова неяк вострa-трывожна, аж да дрыжыкаў, пахла духамі "Кармэн", віном, цукеркамі. І калі мы аднойчы ішлі пад вежай гастранома з гадзіннікам на ёй, дык хтосьці паказаў на вежу гмаху дзяржбяспекі насупраць і, смеючыся, аб'явіў:

– А вось адтуль ужо бачны ваш Магадан.

Аліна, старэйшая з сясцёр, сярэдняга росту, і абсалютна не падобная на яе, танклявая Жанна, былі дочкамі геадэзістаў-картографаў, нарадзіліся і жылі раней у Магаданскай вобласці, у пасёлку Ларуковае. Калі яны бывалі ў настрої ці, як яны казалі, у по-о-оўным парадку, дык пасля нашых сіпячых пласцінак, спявалі, абняўшыся:

*Будь проклята ты, Колыма,*
*Что названа райской планетой,*
*Сойдешь поневоле с ума –*
*Отсюда возврата уж нету...*

Яны былі добрымі дзяўчынамі. Я ведаю, што кажу. І з імі было лёгка. Потым ужо не было такіх, а шкада. Калі ім бывала добра, яны маглі прыгадаць ці прыдумаць – якая розніца! – што-небудзь пра канцэртна-лагернае жыццё вялікіх людзей той райскай планеты – Вадзіма Козіна, Лідзіі Русланавай або Эдзі Рознера. Эдзі неўзабаве і сам прыехаў у Мінск на правах старога знаёмца, як заслужаны артыст БССР, са сваім, нейкім цудам зноў сабраным джаз-аркестрам варшаўскіх і берлінскіх яўрэяў, з якіх ніхто амаль не размаўляў па-руску, не тое што па-нашаму: "Ціха вода бжэгі рве..." Балкон тэатральнай залы Дома афіцэраў ледзь не абрынуўся ўніз, такі натоўп там сабраўся, а на подступах да ўвахода была такая калатнеча, што, казалі, хтосьці пагражаў ужо страляць...

Аднак мы ўжо сёе-тое ведалі і пра іншую музыку, што далятала-такі з-за Жалезнай заслоны, праз трэск і віск магутных глушыльняў імперыі. З дынамікаў завезеных сюды з Германіі трафейных "Тэлефункінаў", "Блаў-пунктаў" гучаў густы, што мёд, з тэмбрам амаль нечалавечай прыгажосці і самавітасці, выштукаваны голас Уіліса Кановера, хрыпла роў і цягуча мяўкаў, нібы вялікі чорны кот, негр Луіс Армстронг; пяшчотна раздзірала душу Элачка Фіцджэральд; і заўсёды бездакорна, як адладжаная, добра змазаная машына, шчыравалі рупліўцы Глена Мілера. Нешта проста перашкаджала дыхаць, калі яны як апантаныя заводзіліся ў сваёй геніяльнай на ўсе часы "Дарозе на Чатанугу". І так дзіўна было пасля даведацца, што ўвесь змест сольнага тэксту ў гэтай рэчы можна звесці да таго, што нехта пытаецца: "Паслухайце, хлопцы, дык гэта тут праходзіць дарога на Чатанугу-чучу?"

Але вось чамусьці ні Жанна, ні Аліна, ні хто-небудзь з іншых дзяўчат не маглі стаць і не сталі такою пэўнай і выразнай кропкай – тварам, вачамі, голасам – якія б асвятлілі тую пару як хвалюючы сэнс, карысны і патрэбны на далейшае жыццё, сэнс, што жыве ў табе, з табою і цяпер, звязваючы розныя ніткі пражытога і сённяшняга ў нешта адно, цэлае і цэльнае.

Ніхто з нас, тагачасных сяброў і знаёмцаў, крытыкаваных у фельетонах стылягаў, выгнаных са школы за самадзейны ўдзел у рэстаранных убогіх аркестрыках, – ніхто з нас, фарсістых і фанабэрыстых людзей сталічнага цэнтра, так і не знайшоў тады Тую, якую падсвядома шукаў для сябе назаўсёды.

Так, мы не знайшлі Яе ні на танцверандах, ні на стадыёнах, ні ў дварах, ні ў культавых для нас тады кіназале і фае "Победы". Яе, як потым высветлілася, не было і ў адзіным на Мінск басейне Дома афіцэраў – хоць іншы раз, папраўдзе, і ныла ў грудзях, ёкала пад лыжачкаю, калі дзяўчыны там у мокрых, гладка-блішчастых купальніках выбіраліся з зеленаватай, з пахам хлоркі, вады і можна было разглядаць іх як прыгожых марскіх коцікаў, ад мокрых ільсняных валасоў на галаве да ружовых вузкіх пятак. Не, мы не змаглі знайсці Яе для сябе ў тым часе, калі, здавалася, шукалі так нецярпліва і патрабавальна.

І чатырнаццатага траўня – Божа, ужо 1998 год! – я зноў падумаў, што, можа, нешта збываецца нарэшце ў жыцці тады, калі перастаеш гэтага прагнуць. Калі вызваляешся з палону занадта вострага, нясцерпнага жадання.

...І вось ужо быў іншы час, іншы ўзрост. За вокнамі ішлі шасцідзесятыя, іхні пачатак. Само жыццё было ўжо іншым – і яшчэ тым самым. Быў іншым і я сам – і ў той жа час ранейшым. Аднак шмат пазмянялася наўкол.

Даўно ўжо не было чуваць у Мінску рознераўскай залатой трубы. І нават у сне яшчэ ніхто не бачыў, што да нас прыедуць некалі сам герцаг джаза Дзюк Элінгтон і ягоныя сівыя хлопцы. Мінскае "Дынама" пасля "Спартака" называлася цяпер "Беларусь", і ў варотах там даўно не было Хоміча. На студэнцкіх вечарах танцавалі піжоны ў "атамных" пінжаках, лабалі мелодыі з песень Фрэнка Сінатры, усё тую ж адвечную "Чатанугу" ("чучу"), а то і матыў з таксама ўжо міфалагічнага сёння фільма "Лёс салдата ў Амерыцы"·

*Засынай, засні, мой сумны бэбі,*
*Адлятай, журботы след...*

І вось аднойчы, у красавіку, пад вечар у суботу, нешта ўсё роўна як падкінула мяне, сарвала з месца, кінуўшы ад стала з дыпломам на вуліцу, у мокры снег з дажджом. Куды я паімчаўся – і чаму, навошта? Ёсць дні ў жыцці, калі такіх пытанняў не павінна быць. Тады я гэта адчуваў, а цяпер разумею.

Мяне панесла ў наш універсітэцкі гарадок. Вечар у корпусе хімфака пачынаўся сумна, млява. Мяне адтуль нешта сарвала і панесла некуды яшчэ. Калі выбег, пачалася веснавая завіруха, і я ўбачыў скрозь яе каля медінстытута дзяўчыну ў вялікай дзіўнай шапцы, якую прыкмячаў на вуліцах ужо не раз. Можа было ў ёй нештачка, а можа – не. Хто яе ведае. І, як раней, я праляцеў, забыўся.

Далей неяк з праваламі... Але пасля зноў усё сышлося: штосьці тузанула, кінула назад, на той самы хімфак, у даваенную яшчэ будыніну. У тупічку доўгага калідора, у аўдыторыі, вокны якой глядзелі на вакзал і ў якой я потым чытаў лекцыі студэнтам (вось табе зноўку лёс, хоць не салдата, не ў Амерыцы), былі танцулькі з радыёлай і дынамікам. А ў першым радзе, у нейкім сціплым цёмным касцюмчыку, сядзела дзяўчына, якую я без намагання, адразу ж ідэнтыфікаваў як тую, у завірусе, у падобнай на казахскую, вялікай шапцы. Цяпер, без гэтай шапкі, яна была настолькі маладзейшай, прыгажэйшай, што я нават абрадаваўся нечаму... І калі я падышоў, калі яна паднялася насустрач, усміхнулася, калі пачуўся ейны голас, нейкі школьна-даверлівы, вясёлы, – дык ва ўсім гэтым мне ўбачылася простая і ясная пагатоўнасць да гэтай вось сустрэчы, нават спакойная ўпэўненасць, што гэтага было не абмінуць, разам са слабым і паблажлівым здзіўленнем, чаму я не спыніў яе раней.

Вось так у рэшце рэшт звязалася нібы пад знакам Той дзяўчыны – усё ў адно. Юнацтва, яго запал і неспакой, сляпая прага задавальненняў, юнацкая адрывістасць, уражлівасць, рэзкасць і рызыка, хаджэнне па вастрыі ляза – і першыя, няўцямныя яшчэ штуршкі слова і думкі, першыя разбурэнні нематы і прадзіранне да таго, на што нестае слоў і сёння, што думкай і цяпер не ахапіць.

І ляцеў час, а мы былі ўпэўнены, што ён стаіць на месцы. Аднаго разу, калі на шыбах растала лісце марознай папараці, мы з адным прыяцелем, маладыя журналісты, стаялі перад маім акном і ён наліваў у шклянкі густы, цёмна-чырвоны, залацісты каньяк з белаю шапкай Арарата на наклейцы. Насупраць былі вялікія аркавыя вокны клуба Дзяржынскага – грамада той установы амаль не прапускала сонца ў кватэру ўсе шаснаццаць гадоў, што я там жыў. Мы дзынкнулі шклянкамі – стала так сонечна і цёпла, як у Арарацкай лагчыне. І ў гэты самы час праз вуліцу, у высокім акне клуба, на ўзроўні нашага трэцяга паверха, на фоне ўрачыста-белых, ружаватых пад багатымі люстрамі калонаў з'явілася Тая, ужо мая, дзяўчына – высокая, чорнавалосая, у белай сукенцы з адкрытымі крыху вышэй локцяў рукамі, – убачыла нас і стала паказваць, што мы павінны ісці туды, да яе, хутчэй.

І да гэтай пары я, калі захачу, магу лёгка прайсці гэты шлях з тым маім прыяцелем: скаціцца мячом па лесвіцы ў двор, потым – у вышэзную арку (вецер і снег у твар), потым – управа, уздоўж Цэнтральнай кніжнай крамы, з праспекта – на Камсамольскую... А шапкі яшчэ не надзетыя, а паліто, кашнэ і касцюмацыя наросхрыст – так саграваe нас далёкі Арарат. І вось пад'езд, прыступкі, дзверы з цьмяна-бліскучымі, як з медзі, поручнямі. Пахі духоў, цыгарэтнага дыму, зімы – і галасы...

І вось што дзіўна: на хвіліну здалося, быццам усё – як і тады, у адышоўшую ўжо юнацкую эпоху пяцідзесятых. Здалося, зараз тут не гарадскі маладзёжны баль, а зноў сеанс чорна-белага кіно з субцітрамі перакладу – "Пазнаёмцеся з Джонам Доу", "Восьмы раунд", а можа, і сам "Лёс салдата ў Амерыцы". Здалося, мы не журналісты, а яшчэ тыя агальцы з вуліцы, што зайздросцяць свабодзе ўпэўненай у сабе, з нейкім замежным каларытам, прыгажуні Эвеліне і ейнаму нязменнаму спадарожніку Барысу Шчарбакову, баксёрскаму трэнеру, які адзін у Мінску ходзіць зімой з непакрытай галавой. Здалося, мы яшчэ тыя, з двароў-пячораў, што збіраліся вечарамі ў гэтай багацейшай у Мінску зале "эм-гэ-бэ" з аксамітнымі крэсламі і парцьерамі ў белых круглых ложах, з дзівоснай лепкай на высачэзнай столі, са складанымі беласнежнымі барэльефамі, матавымі плафонамі і прыгожымі карнізамі. І здалося, зноў тут будуць Нэля, Рэма Свінкіна, а на сцэне – рынг, а рэферы на рынгу – зразумела ж, Шчарбакоў, а на ім белыя штаны і чорны гальштук-матылёк, якіх больш нідзе ў Мінску не пабачыш, але хто-хто, а ўжо Шчарбакоў этыкет і законы вялікага баксёрскага свету ведае. І, паказаўшы абедзвюма рукамі на цэнтр рынга, ён гучна і рэзка загадвае, нібы ў "Восьмым раундзе":

– Бокс!

А Феля Каштанаў у перапынку падтрымлівае гэтыя, аднекуль ім ужо вядомыя традыцыі як дыктар-каментатар:

– У левым сінім куце – бронзавы прызёр чэмпіянату Мінскай вобласці (шматзначная паўза) Жарэс Літаў!..

І Рэма Свінкіна, Жоркіна сяброўка, ажно ўсхліпвае...

Але не – ужо ідуць шасцідзесятыя. Ужо лётаюць касманаўты, а я лётаю па горадзе за Той дзяўчынаю, і яна зусім не супраць. Ужо ёсць упэўненасць, што ўхопіш за хвост жар-птушку, але няма хваравітай і дурной ліхаманкі, а з футболам завязана.

Ужо мы вядзём бясконцыя гутаркі з маім суседам і сябрам, філосафам. Яго імя такое далёкае ад усяго шэрага і сумнага ў гэтай нашай лепшай у свеце краіне, што здаецца мне прыгожым, а галоўнае – свабодным, як і замежнае кіно і джаз. І доўгімі зімовымі начамі мы з ім – назавём яго тут Анры – курым на лесвіцы, грэючы рукі на батарэі, і гаворым пра ўсё, што цікава толькі нам. З ім жа мы бачым першы старт у Мінску міжнародных аўтаралі. Анры адкрывае, што наш, здавалася, мала каму вядомы Мінск прысутнічае на адной старонцы суперінтэлектуальнага рамана Томаса Мана "Чароўная гара", а ў Конан-Дойля, апроч Шэрлака Холмса, ёсць яшчэ і нейкая "Засада ў Мінску". Толькі з Анры вядзём мы самыя галоўныя сімпозіумы на тэмы жанчын. З ім жа абмяркоўваем Фрэйда і Ніцшэ, камянеючы на марозе, пакуль нашы хакеісты пад электрычнымі лямпамі сярод начнога горада б'юцца з рыжскай "Даўгаваю".

Мы слупамі стаім у сваім цёмным двары, глядзім на жоўтыя квадраты акон, зорнае неба, і Анры кажа:

– Я ведаю чалавека, які ўсе гэтыя рэвалюцыі, войны вазіў і насіў з сабою том Гамсуна, нават калі ў яго нічога болей не заставалася...

Ён кажа:

– А Дастаеўскі – ён усё жыццё баяўся толькі аднаго, – што не паспее выказацца, разумееш?..

І я разумеў, бо потым зрабіў гэтыя словы першай фразаю сваёй кніжкі.





Мы стаім з Анры ля аркі нашай даміны на сваім заўсёдным месцы, паміж кандытарскай і кніжнай крамамі, глядзім на маладых жанчын у людскім патоку перад футболам. Мы толькі што прачыталі "Асабняк" Фолкнера і, падрабляючы інтанацыю яго героя, практыкуемся, маючы на ўвазе адну дзяўчыну:

– Але ж яна як быццам бы замужняя.

– Яна даўно ўжо замужняя.

– Яна замужняя ўжо ад самага пачатку, як напісаў бы гэты Фолкнер, – кажа Анры. – Ну, я б праставіў яму кропкі, дзе патрэбна...

Мы ўключаем магнітафон, пласцінку Грыга, нешта з "Пер Гюнта", я прымушаю Анры чытаць апавяданне Брэдберы "Вельд" і клянуся, што запішацца нешта яшчэ нечуванае – такі ў яго бас... А аднойчы мы даведаемся, што застрэліўся Хемінгуэй, і цэлы дзень прасядзім і прабадзяемся ў двары. І Анры будзе паўтараць:

– Стары не вытрымаў... Не вытрымаў.

Але перад наступнай вясною мы неяк у сярэдзіне мутнага працоўнага дня з адлігаю пойдзем праз праспект у магазін гароднiны і возьмем шампанскае – во што такое сапраўдная свабода: гэта маладосць – і толькі... Мы прыйдзем да мяне, пачнём, і ён, здаецца, скажа нешта пра тое, што любіць у жыцці. Бо я раптам дадам:

– А я люблю... – і назаву імя, якое ён ужо добра ведае. І ён ціха і цвёрда скажа:

– Малайчына.

А вечарам мы зноў сядзім ля тэлевізара і, як заўсёды, міжволі жадаем у душы перамогі канадцам, і тым мацней, чым гучней заходзіцца ў сваёй патэтыцы Озераў.

...Так, усё вось гэтае – і яшчэ шмат, шмат іншага бачыў я ў той дзень, 14 траўня. Бачыў і жыў сярод гэтага, не выходзячы з кватэры, утаропіўшыся ў аркушы паперы, дзе пішу гэтую сваю Мінскую сагу з эпохі чорна-белага кіно. Усё мне здаецца, што і далёкае і блізкае, мінулае і сённяшняе звязаны, злучаны ў адно – і гэтае адно пакуль яшчэ доўжыцца. Усё здаецца мне, што нешта, а можа нехта дапамагае гэта асвятляць, збліжаць.

Толькі чаму ўсё часцей, бліжэй падступае такі востры жаль да ўсяго, што было і што ёсць? Чаму так шкада робіцца і тых людзей мінулага, хто жыў галечай-калатнечай, іх і душэўнага, і ўбогага, і жорсткага жыцця, – і людзей сённяшніх наўкол, сябе самога, сваіх бацькоў і блізкіх, ды і далёкіх яшчэ, невядомых – будучых? Чаму? Упала нечакана зорка ў небе? Запалыхала грозная, трывожная зарніца? Пайшоў за воблака апошні недасяжны журавель, пакінуўшы табе даступную сініцу?

Цёмна ўжо за акном. Я бачу мяккую густую сіняву і сярпок месяца – той самы, што бачылі нейкія невядомыя мне людзі, яшчэ будуючы егіпецкія піраміды. І я зноў бачу Тую дзяўчыну ў бальнай сукенцы – яна стаіць у высокім акне-арцы, у белай бальнай зале, бачыць мяне ў маім акне, робіць мне знакі рукою. Мне здаецца, я нават чую яе голас – яна кліча мяне.

Не, мне гэта не здаецца. Бо я мушу ўстаць з-за стала і пайсці ў другі пакой, дзе паспяваю пачуць ужо зусім соннае:

– Выключы... спаць...

І гэты голас – той жа самы, што і некалі, ён не змяняецца. У пакоі мігціць святло тэлеэкрана, чутна ціхая музыка і галасы. Я гляджу не на экран, а праз акно ў неба. Там павольна сунецца маленькі крыжык агеньчыкаў, гэта самалёт, у якім адлятаюць адсюль назаўсёды сябры майго юнацтва з Мінскага брадвея.

Я слухаю тэлеэкран, не гледзячы на яго, і думаю, што не было б нічога дзіўнага, калі б зараз пачуўся які-небудзь голас з тых даўніх фільмаў з надпісамі перакладу ў нізе кадраў. Тая дзяўчына, пры якой для мяне злучылася так шмат мінулага з усім сённяшнім, – спіць. Я побач.

У рэшце рэшт, трэба, відаць, каб хто-небудзь заставаўся на сваіх даўніх, звыклых месцах. І тут я сапраўды чую матыў адтуль, з таго далёкага ўжо – і яшчэ блізкага жыцця. Матыў, які пазнаў бы з тысячы, усюды і заўсёды. Ён гучыць так, як і гучаў.

Тады я націскаю на выключальнік.

**Аляксандар СТАНЮТА**

Алесь КАСКО, Людміла РУБЛЕЎСКАЯ, Віктар ЯРАЦ, Валянцін АКУДОВІЧ, Зінаіда ДУДЗЮК, Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ, Ніна МАЦЯШ, Яўген ГУЧОК, Віктар ШНІП, Віктар ЖЫБУЛЬ, Зміцер ВІШНЁЎ, Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ, Серж МІНСКЕВІЧ, Аляксандар СТАНЮТА

**"Адзін дзень майго жыцця: 14 траўня"**

